УДК 821.161.3.09+929Караткевіч
ББК 83.3(4Беи)
М 21

Друкуецца па кнізе: Мальдзіс, А. І.
Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча:
Партрэт пісьменніка і чалавека / Адам Мальдзіс. —
Мінск : Мастацкая літаратура, 1990.

*У афармленні вокладкі кнігі выкарыстаны фрагмент графічнага твора Я. С. Куліка*

**Мальдзіс, А. І.**
М 21 Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека : літаратуразнаўчае эсэ / Адам Мальдзіс. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. — 208 с.
ISBN 978-985-6941-86-6.

Уладзімір Караткевіч, легендарны беларускі рамантык, апярэджваў свой час, узняўся над канфармізмам, над паўсядзённасцю і бездухоўнасцю да вышыняў, з якіх добра відаць шляхі, што лучаць мінулае з будучыняй, чалавека з людзьмі і народамі. Пісьменнік незвычайнага, рэнесанснага таленту, ён стаў зоркай першай велічыні на нацыянальным літаратурным небасхіле. І задача гэтай кнігі — растлумачыць, хаця б часткова, той феномен, імя якому Караткевіч. Аўтар спрабуе разгадаць многія загадкі геніяльнай празорлівасці паэта і празаіка, гісторыка і мысляра.

**УДК 821.161.3.09+929Караткевіч**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-6941-86-6**

Перш чым пачаць непасрэднае апавяданне, я павінен зрабіць некалькі тлумачэнняў. Найперш пра назву кнігі. Сяму-таму яна можа здацца прэтэнцыёзнай і нават містычнай. Але слова «ўзнясенне» трэба трактаваць «матэрыялістычна» — як узнясенне над сваім часам, узнясенне да вяршынь айчыннай і сусветнай літаратуры. Апрача таго, тут ёсць прамая «рэмінісцэнцыя», звязаная з Караткевічам. Калі на кінастудыі «Беларусьфільм» пачалі здымаць фільм па яго сцэнарыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», камусьці гэта назва здалася крамольнай, і фільм выйшаў (дакладней, не выйшаў, а надоўга лёг на паліцу) як «Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка». Новую назву Караткевіч успрыняў спакойна, з гумарам. Яна стала для яго нават сімвалам чагосьці асабістага. І калі ў 1980 годзе, пасля першага грознага прыступу хваробы, ён крыху акрыяў, я пажартаваў: «Ну вось, цяпер можна будзе пісаць кнігу «Жыцце і ўваскрэсенне Уладзіміра Караткевіча», ён разрагатаўся: «Ну — давай, давай! Няхай яно спраўдзіцца!»

Наступная засцярога. Тое, што прапануецца тут чытачу, безумоўна ж, будзе вельмі суб'ектыўным. Я далёкі ад таго, каб прэтэндаваць на нейкія ісціны ў апошняй інстанцыі, бо абапіраюся пераважна на тое, што асабіста бачыў і чуў, што было занатавана (прызнаюся ў гэтым) адразу ж, вечарам ці на наступны дзень, а то і непасрэдна ў час выступленняў Караткевіча ў самых розных аўдыторыях. Праўда, мушу пакаяцца: на пачатку нашага знаёмства, у гады шасцідзясятыя,

яшчэ не ўсведамляючы ўсёй значнасці таго, што адбывалася на маіх вачах, усёй адказнасці перад гісторыяй, такія занатоўкі я рабіў рэдка і бегла. Адсюль — і значныя прагалы.

Хачу таксама падкрэсліць, што падрабязны аналіз творчасці Уладзіміра Караткевіча не ўваходзіць у мае задачы. Часткова ён зроблены ў кнізе Анатоля Вераб'я «Жывая повязь часоў» (1985), у артыкулах іншых калег. На фундаментальную ж манаграфію яшчэ зарана. Таму, гаворачы пра творчасць, буду — каб пазбегнуць пазнейшай «мадэрнізацыі» — абапірацца пераважна на тагачасныя сведчанні, у тым ліку і на ўласныя рэцэнзіі і артыкулы. Апошнія прыводзяцца тут цалкам, без купюр. Безумоўна, у іх адбілася агульная атмасфера застойных часоў, калі пра многае нельга было пісаць або даводзілася пісаць намёкамі, калі апрача рэдактара і работніка Галоўліта затоена дзейнічаў яшчэ і «ўнутраны» цэнзар, які імкнуўся не столькі не нашкодзіць сабе, колькі дапамагчы самому Караткевічу — у імя выхаду яго чарговай кнігі, зрабіць яе аўтара больш «правільным», чым ён уяўляўся на самай справе. У гэтых рэцэнзіях і артыкулах сёння хацелася б нешта скараціць, нешта дадаць. Але гісторыю нельга падпраўляць. Таму няхай у гэтай кнізе тэксты іх ідуць так, як былі апублікаваны калісьці. А ўжо чытачу меркаваць, ці ёсць мне падстава саромецца тагачасных выказванняў, ці такой прычыны няма.

Уласна кажучы, з рэцэнзіі на раман «Нельга забыць» і пачалося наша асабістае знаёмства. Неяк так здарылася, што, заняты напісаннем кандыдацкай дысертацыі пра XIX стагоддзе, я стаў прапускаць міма ўвагі вартыя літаратурныя навінкі і не прыкмеціў першага паэтычнага зборніка Уладзіміра Караткевіча «Матчына душа» (1958). Другі ж, «Вячэрнія ветразі» (1960), прачытаў з вялікім спазненнем. А пра кнігу прозы «Блакіт і золата дня» (1961) найперш даведаўся ад супрацоўніцы Інстытута літаратуры Валянціны Ігнатаўны Гапавай. Яна была ў захапленні ад зборніка, напісала на яго ўзнёслую рэцэнзію, якая прымусіла і мяне прачытаць кнігу. Зборнік зачараваў мяне нязвычным тады абвостраным адчуваннем гісторыі нашага народа, светлым і

цнатлівым успрыняццем навакольнага жыцця. І калі ў часопісе «Полымя» (1962. № 5, 6) з'явіўся раман таго ж аўтара «Нельга забыць», я ўжо без «падказкі» прачытаў яго і, захапіўшыся яго аўтарам яшчэ больш, тут жа напісаў рэцэнзію, якая была апублікавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 17 ліпеня 1962 года пад назвай «Права мастака»:

«Прызнаюся: амаль тыдзень прымушаў я сябе ўзяцца за раман Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць». Адштурхоўваў загаловак. Ён здаваўся банальным, выцвілым. У той жа час прываблівала прозвішча аўтара, які паспеў палюбіцца за кнігі «Блакіт і золата дня» і «Вячэрнія ветразі».

І вось — першая фраза: «Дарогу на поўнач ад горада кантралявалі інсургенты, ездзіць па ёй было небяспечна». Інсургенты? Так у Расіі звалі польскіх паўстанцаў. Значыць — доўгачаканы раман пра паўстанне 1863 года, стагоддзе якога мы будзем адзначаць праз некалькі месяцаў? Магчыма, пра Каліноўскага?

Аднак гэта раман не пра паўстанне 1863 года. Уладзімір Караткевіч не павёў чытача ў паўстанцкі лагер, не паказаў там Кастуся Каліноўскага. У рамане дзейнічае (і то «паза сцэнай») толькі яго баявы сябар — Усяслаў Грынкевіч. З першых жа радкоў даведваемся, што ён трапіў у палон да царскіх войск і чакае пакарання смерцю на магілёўскай гаўптвахце. Аўтар засяроджвае сваю ўвагу на тых, хто знаходзіцца, так сказаць, на іншым баку барыкад. Гэта — афіцэры рускай арміі Пора-Леановіч і Юрый Гораў, якія ўзначальваюць ахову на пераправе праз Днепр. Яны вельмі розныя людзі. Жорсткі і самазадаволены цынік Пора-Леановіч прытрымліваецца правіла: «Галоўнае — стаць на той бок, які выйграе». Яму, мясцоваму ўраджэнцу, магіляўчаніну, не вельмі давярала камандаванне арміі. І таму «ў дапамогу» Пора-Леановічу быў прысланы паранены пад Ракавам масквіч Юрый Гораў. У Гораве быццам сабраны ўсе лепшыя рысы, якія былі ўласцівы перадавым прадстаўнікам рускага дваранства. Уразлівы і ўдумлівы Гораў нечым няўлоўным

нагадвае талстоўскага Андрэя Балконскага, перанесенага ў іншы час і пастаўленага ў іншыя ўмовы.

І вось наступіла навальнічная вераб'іная ноч. Разліўся Дняпро. У такую буру наўрад ці наважыцца хто пераплыць цераз рэчку. І таму, на першы погляд, здаецца, што Пора-Леановіч мае слушнасць, калі адмаўляецца пераправіць на той бераг жонку паўстанца Грынкевіча. Яна вязе загад графа Мураўёва аб замене расстрэлу пажыццёвай катаргай? Ну што ж, няхай пачакае да раніцы, ад гэтага нічога не зменіцца. Але Пора-Леановічам кіруюць далёка не гуманныя матывы. Ён ведае, што яшчэ надвячоркам памчаўся ў Магілёў (вядома, не з памілаваннем) спецыяльны кур'ер Мураўёва-вешальніка. Ён атрымаў загад затрымаць жонку Грынкевіча на такі час, каб на тым беразе паспелі скончыць з яе мужам.

Дарэмна Гораў спрабуе апеліраваць да сумлення свайго начальніка. Той застаецца няўмольным. Але Гораў не можа не дапамагчы высакароднай, безабароннай цяпер жанчыне. Гэта азначала б, што ўвесь ягоны свет, ягоныя перакананні, усё тое, аб чым гаварылі прафесары ва ўніверсітэце, аб чым піша Тургенеў, любімы пісьменнік Надзенькі, яго Надзенькі, — усё гэта мана і мiраж. І тады Гораў прымае рашэнне. Парушаючы загад Пора-Леановіча, рызыкуючы ўласным жыццём, ён перавозіць жанчыну на той бераг у чаўне-душагубцы. Але дарэмна: жонка Грынкевіча спазнілася. Спазнілася на нейкіх дзесяць мінут. Даведаўшыся аб гэтым, Юрый Гораў выразна адчаканіў свайму начальніку: «Капітан Пора-Леановіч, вы нягоднік». У выніку — дуэль. На здзіўленне самому сабе, Юрый Гораў смяртэльна параніў праціўніка, які трыма выстраламі мог з віновага туза зрабіць жалудовы.

Аб усім гэтым расказана ў пралогу рамана. Пралог завяршаецца сцэнай апошняга спаткання Юрыя Горава і апранутай у жалобу жонкі Грынкевіча. Герой зразумеў, што тая вераб'іная ноч была водападзелам яго жыцця. Пасля яе засталася туга. Туга па ўзвышаным і прыгожым, па няздзейсненых спадзяваннях. З горыччу думае ён аб нетрываласці

чалавечага жыцця і чалавечага шчасця, гледзячы на зеленаваты зорны дождж Леанідаў, якія «тысячамі зялёных ніцей праляталі над зямлёю і знікалі ў цемры».

А потым аўтар пераносіць дзеянне рамана ў наш, савецкі час, расказвае пра нашчадка таго Грынкевіча, які так і не пабачыў дажджу Леанідаў, — пра студэнта, паэта і сцэнарыста Андрэя Грынкевіча. «Пачакайце, — можа сказаць тут чытач, — а я ведаю, што будзе далей: Андрэй абавязкова сустрэнецца з унучкай ці праўнучкай таго Горава і паміж імі ўзнікне каханне. Нашчадкі здзейсняць мары і спадзяванні сваіх продкаў. Так было ў «Паўночнай аповесці» Паўстоўскага, так было...» Што ж, у гэтым выпадку прадчуванні чытача спраўджваюцца. У Маскве Андрэй сапраўды пазнаёміўся з выкладчыцай гісторыі мастацтваў Ірынай Горавай і пакахаў яе тым пачуццём, якое, як кажа другі герой рамана Яніс Вайвадс, «раз у стагоддзе бывае на зямлі». І на нейкі момант у чытача з'яўляецца незадавальненне. Твор здаецца зададзеным, сюжэт — запазычаным. Тут праводзіш паралелі з Тургеневым, там — з «нагнятаннем сказаў» Талстога. Літаратурныя рэмінісцэнцыі разбураюць непасрэднасць уражання.

Але адначасова ловіш сябе на думцы: вось так, відаць, гучала б беларуская проза, калі б у нас быў свой Тургенеў і Талстой. Ды і чаму мы павінны адмаўляць права мастака ісці, так сказаць, адметным шляхам: не ад жыцця да літаратуры, а ад літаратуры да жыцця? Права напаўняць старую сюжэтную схему новым жыццёвым зместам? Адштурхоўваючыся ад чужога, як робіць Караткевіч, ствараць уласнае? У сталай літаратуры павінны быць і такія творы.

Што ж новае ўносіць раман «Нельга забыць» у сучасную беларускую прозу? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ўлічыць наступную акалічнасць. У мінулым беларуская нацыя была амаль выключна «сялянскай» нацыяй, і таму беларуская літаратура ўзрастала пераважна на сялянскай тэматыцы. Асноўным героем на доўгі час стаў селянін. Адсюль ідзе і пэўная абмежаванасць, адметнасць нашай літаратуры, скажам, ад рускай ці польскай. А калі ў беларускую

прозу прыйшоў рабочы ці інтэлігент, то гэта быў пераважна ўчарашні селянін або селянін па паходжанні. Коласаўскі Лабановіч ці нават героі шамякінаўскіх «Крыніц» не маглі яшчэ перастуквацца паміж сабой тактамі пятай сімфоніі Бетховена і вешаць на сценах рэпрадукцыі з карцін Паўля Клее, як гэта робіць Андрэй Грынкевіч. Іншая справа — галоўны герой рамана «Нельга забыць». Вобраз яго мы па праву можам назваць першым у беларускай літаратуры паўнакроўным вобразам патомнага інтэлігента, інтэлігента ад дзеда і прадзеда. А гэта — яшчэ адно сведчанне сталасці беларускай літаратуры.

Андрэй Грынкевіч падабаецца чытачу многімі сваімі рысамі. Ён чалавек складанага інтэлекту, багатага ўнутранага свету. Ён увесь — у імкненні да прыгожага і дасканалага, у прадчуванні нязвычнага. Ён самакрытычны, аналізуе кожны свой крок і, калі трэба, можа сурова асудзіць сябе (дастаткова прыгадаць узаемаадносіны з Марыяй Крат). У Андрэя выпрацавана такая культура пачуццяў, такая ўражлівасць, што ён улоўлівае ледзь улоўнае, адчувае не толькі свядома, але і падсвядома. Так: падсвядома. Вось герой спяшаецца да Ірыны, сэрцам адчуваючы, што з ёю нешта непапраўнае, хаця аб гэтым яму ніхто і не паведаміў. Вось ён, седзячы ля ложка хворай Горавай, прачынаецца заўсёды тады, «калі яна толькі мелася прачнуцца». Нейкім унутраным чуццём Андрэй угадвае, калі Ірына ёсць у горадзе і калі яе няма. Што гэта? Містыка? Даніна модным на Захадзе Джойсу і Прусту, у якіх героі жывуць на мяжы рэальнага і ірэальнага? Не, гэта тая вытанчанасць светаўспрымання, якая паяўляецца ў людзей, багатых інтэлектуальна. У аснове такой «перадачы думак на адлегласці» ў Караткевіча заўсёды ляжыць рэальны, часам вонкава непрыкметны факт (напрыклад, тэлефонныя званкі перад прыступам у Ірыны, на якія Андрэй не адказваў).

Расказваючы пра ўзвышанае і пакутлівае каханне сваіх герояў, аўтар быццам палемізуе з тымі, хто адмаўляе такое пачуццё, спрачаецца са Стаўровым і стаўровымі, якія цынічна заяўляюць: «Каханне, соплі лірычныя распусцілі.

У нас, брат, атамны век. Людзям няма часу ні на чытанне доўгіх кніг, ні на шпацыр пад ліпамі, у вашага цнатлівага кахання белая сукня. А час не той. Вакол не ліпы. Вакол машыны і мазут». Караткевіч сцвярджае, што такое ўзвышанае і светлае пачуццё, такое каханне ў «белай сукні» існуе, яно нараджае «кнігі, музыку, гераізм». Яно патрэбна чалавеку як паветра і вада: без яго чалавек становіцца збедненым, спустошаным. Вялікае і непаўторнае, яно не знікае бясследна. Яго нельга забыць.

Магчыма, некаторыя крытыкі папракнуць аўтара за празмерна песімістычны канец: пасля смерці Ірыны Андрэй адчувае, што без яе на яго жыццёвым шляху ўжо не будзе радасці, што для яго засталіся толькі «праца і самота». А што ж, загадаеце, каб у такім выпадку герой станавіўся ў позу і выступаў з бадзёрымі сентэнцыямі?! Чалавек і тыя пачуцці, якія ён выклікае, — гэта не Леаніды. Яны не забываюцца — і ў гэтым сэнсе загаловак рамана аказваецца вельмі дакладным. Смерць ёсць смерць. І, сцвярджаючы, што без Ірыны жыццё Андрэя не будзе па-сапраўднаму поўным і радасным, пісьменнік выказвае вельмі чалавечную, вельмі гуманную думку, палемічна накіраваную супроць легкадумнага аптымізму. Апошнія радкі рамана нібы пераклікаюцца са словамі старадаўняга англійскага паэта Джона Дона, словамі, якія Хемінгуэй узяў эпіграфам для свайго рамана «Па кім звоніць звон»: «Ні адзін чалавек не ўяўляе сабой самастойны востраў, кожны з'яўляецца часткай кантынента, часткай сушы. Калі мора змые хаця б грудку зямлі, меншай стане Еўропа, як і ў тым выпадку, калі яно паглыне паўвостраў, зямлю тваіх сяброў ці тваю ўласную. Смерць кожнага чалавека памяншае мяне, бо я звязаны з чалавецтвам. Таму ніколі не пытай, па кім звоніць звон: ён звоніць па табе».

І ўсё ж вобраз Андрэя не можа поўнасцю задаволіць чытача. Сфера яго пісьменніцкіх інтарэсаў здаецца штучна звужанай, зведзенай да аднаго кахання. Хтосьці слушна заўважыў, што ў творы яно не павінна больш займаць месца, чым у жыцці. У Караткевіча ж атрымліваецца наадварот.

Хацеў гэтага аўтар ці не, але выйшла так, што амаль адзінай крыніцай паэтычнага натхнення для Андрэя стала Ірына. З навакольнага свету ён успрымае пераважна тое, што так ці інакш звязана з яе асобай. Грамадскі ж кругагляд героя выглядае збедненым. Гэта не значыць, што Андрэй мусіць рвацца ў космас ці разважаць аб выніках культу асобы (такія вонкавыя прыкметы часу ў рамане якраз ёсць). Герою не стае іншага. У яго няма глыбокага філасофскага роздуму аб тым, што адбываецца ў нашай краіне і ва ўсім свеце, аб сэнсе існавання сучаснага чалавека і яго месцы ў грамадстве. Часам здаецца, што Грынкевіч празмерна любуецца сабой, любуецца тым, што ён, як «сапраўдны малады варвар», п'е рыжскі бальзам і «Белавежскую», можа падпісваць аўтографы і чытаць Дантэ, лежачы на кіліме. Часам вытанчанасць Андрэевых пачуццяў пераходзіць у расслабленасць. У свой час герой быў смелым і рашучым: хадзіў у партызанскую разведку, двойчы ўцякаў з дзіцячага дома на фронт, узначальваў аддзяленне ў камсамольскім «атрадзе садзеяння», страляў у ворага. І таму не верыцца, што, стаўшы дарослым, Андрэй настолькі не можа саўладаць са сваімі пачуццямі, што раз-пораз усё навокал «плыве, бы ў тумане», «патанае ў тумане» і нават можа выключыцца са свядомасці на некалькі дзён. Міжволі думаеш: а можа, аўтар хацеў паказаць, што бывае, калі герой «аддае ўсяго сябе жанчыне», хацеў асудзіць яго абмежаванасць? Ды не, на гэта не выглядае. Хаця апавяданне вядзецца не ад першай асобы і вобраз Андрэя «аб'ектывізаваны», тым не менш аўтар настолькі апрабіруе кожны крок героя, настолькі зліваецца з ім, што Андрэевы словы ўспрымаеш як лірычную споведзь самога пісьменніка.

На такую думку наштурхоўвае, напрыклад, наступная акалічнасць. Ва ўсіх у нас у памяці добрыя вершы Караткевіча, навеяныя творамі мастацтва: «Дзіва на Нерлі», «Прарок Геранім Босх», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Архангельскае», у памяці і тое, што яны мелі канкрэтнае прысвячэнне. З рамана ж мы даведваемся, як ствараліся гэтыя вершы. Міжволі ўзнікаюць паралелі, і

пачынаеш атаясамляць героя і аўтара (такая ўжо псіхіка чытача...). Магчыма, не трэба было аўтару гэтага рабіць, тым больш што адпаведныя думкі ў вершах выказаны і вобразней, і глыбей. Магчыма, не трэба было паўтарацца і адначасова прыадчыняць сваю творчую кухню. А то чытач адчувае сябе, як госць, якога пасля далікатнага абеду запрасілі на кухню і сталі тлумачыць, з чаго і як прыгатаваны стравы.

Паколькі ўжо гутарка зайшла аб недахопах, трэба сказаць некалькі слоў і аб мове. Вельмі прыкра, што пісьменнік, які так тонка адчувае прыгажосць роднага слова, часам, гонячыся за ўяўнай прыгажосцю, не сочыць за стылем. Гераіня неяк кажа Андрэю: «Вы такі, што вам трэба пісаць аб тым, што вось-вось зашчымела і павярнулася ў душы, не дбаючы пра стыль, а дбаючы аб тым, каб слова найбольш дакладна выяўляла тое, што адчуваеш». І, відаць, па гэтым рэцэпце былі пабудаваны фразы, пазбаўленыя якраз гэтай дакладнасці, а то і сэнсу, накшталт: «Дзень вось-вось павінен быў перамагчы світанне», «Дрозд, які вось тут, перад вачыма, у захапленні цалуе куст каліны...», «Яму было балюча ў горле, так ён яе кахаў». У адным месцы аўтар піша, што ў творах Андрэя, нягледзячы на паспешлівасць, «слова было на месцы — абцугамі не выцягнеш». На жаль, гэтага не скажаш пра мову рамана. Адно і тое ж слова няшчадна эксплуатуецца па некалькі разоў на старонцы: «сляпуча блішчаць купалы», «сляпучы снег», «сляпуча-срэбныя аблокі», «сляпуча-белы пакой», «сляпучае святло бліскавіц», «сляпучы агеньчык свечкі». І гэта, відаць, не неахайнасць, а свядомая манера пісьма. Аўтар захапляецца новым «сляпучым» словам, іграе ім, як дзіця бліскучай забаўкай, а потым, калі яно згубіць прывабнасць навізны, кідае яго. Тады на змену яму з'яўляецца іншае слова-пястунчык — «сяйва», «воі». Іншы ж раз такімі настырнымі здаюцца асобныя метафары, вобразы, нават думкі. Асабліва калі яны не першай літаратурнай свежасці: «Масква спала неспакойным сном вялікага, стомленага працай чалавека», «Сабака паклаў яму на калена галаву — і гэта была таксама радасць, бо гэтага сабаку магла лашчыць яна».

Можна было б гаварыць і пра іншыя мастацкія хібы. Але не яны вызначаюць аблічча рамана. У цэлым свежая, асацыятыўная проза Караткевіча чытаецца з сапраўдным эстэтычным задавальненнем. Аўтар і тут застаецца паэтам. Ён умее ў звычайным убачыць незвычайнае, у будзённым — узнёслае, прыкмеціць на ботах Юрыя Горава, які ідзе на дуэль, пялёсткі пераспелых кветак.

Я далёкі ад думкі, што раман «Нельга забыць» спадабаецца ўсім. Ён разлічаны на пэўнага, адпаведна падрыхтаванага чытача. Калі мы сцвярджаем, што нашы пісьменнікі павінны быць рознымі, то чаму, будучы лагічнымі, не дапускаем, што рознымі павінны быць і чытачы? Чаму мы апеліруем да нейкага ўніфікаванага, стандартызаванага чытача? Ды ён жа на самай справе розны! Адны сур'ёзна ставяцца да мастацкага слова, другія адносяцца да кнігі як да забавы пасля работы, чытаюць толькі аблегчаныя дэтэктывы. І нават сярод тых, хто глядзіць на мастацкі твор як на крыніцу прыгожага, існуе падзел, прадыктаваны асаблівасцямі чалавечай натуры. У аднаго бярэ верх пачуццёвы пачатак, у другога — разумовы, у трэцяга ўсё гэта спалучаецца ў адпаведнай прапорцыі. І кожны шукае ў неабсяжным кніжным моры тое, што яму найбольш адпавядае. Апрача таго, трэба ўлічваць і тое, што чытачы розныя і па адукацыйным ўзроўні. І прыходзіцца паўтарыць банальную ісціну: мастак не мае права арыентавацца на тых, хто ўтылітарна ставіцца да літаратуры, спускацца да іх узроўню. Мастак павінен заўсёды апераджаць час, разлічваць не толькі на сённяшняга, але і на заўтрашняга чытача. Вось чаму трэба пагадзіцца з думкай Максіма Рыльскага, які ў артыкуле «Музы і моды» адстойваў на старонках «Литературной газеты» права пісьменніка тварыць для акрэсленага кола чытачоў (для акрэсленага, а не для «выбраных»). Такім пісьменнікам і з'яўляецца, на маю думку, Уладзімір Караткевіч.

Раман «Нельга забыць» прынясе карысць чытачу, таму што ён абуджае багатыя думкі і пачуцці. Не, ён не «мабілізуе» на выкананне нейкай канкрэтнай, вузкай задачы.

Раман робіць большае: выхоўвае культуру пачуццяў, абуджае роздум аб сэнсе жыцця. Так, нельга забыць пра тое, што ў жыцці ўсё ўзаемазвязана, што мінулае цесна пераплятаецца з сучасным і будучым. Нельга забыць ні Усяслава Грынкевіча, які аддаў жыццё «за вашу і нашу свабоду», ні таго асколка ў калясэрцавай сумцы Ірыны Горавай, які застаўся з часу вайны. У жыцці кожнага з нас можа быць такая вераб'іная ноч, кожнаму з нас, магчыма, прыйдзецца дапамагчы некаму, каб той не спазніўся на жахлівыя дзесяць мінут.

Уражанні, якія ўзнікаюць, калі дачытваеш апошнюю старонку рамана, хочацца выказаць словамі самога ж Караткевіча: «Вось, здаецца, і нічога не здарылася, а адразу неяк лягчэй стала жыць на зямлі».

Хаця ў гэтай, першай рэцэнзіі на раман з празмернай сур'ёзнасцю даказвалася відочнае, хаця некаторыя папрокі сёння выглядаюць дробязнымі, але ўсё ж Уладзімір Караткевіч, відаць, застаўся задаволены ёю. Бо на пленуме (ці нейкім іншым сходзе) у Саюзе пісьменнікаў БССР (месціўся ён у будынку насупраць цяперашняга кінатэатра «Піянер») ён спытаў у Янкі Брыля:

— А хто ды хто той рэцэнзент? Пазнаём мяне з ім.

Янка Брыль паклікаў мяне і прадставіў высокаму і плячыстаму мужчыну, амаль яшчэ юнаку. Ён прымружана і дапытліва глядзеў рознакаляровымі (адно шэраватае, а другое сіняватае) вачыма і шырока, крыху іранічна ўсміхаўся. Мы неяк збянтэжана паціснулі ўзаемна рукі. І Караткевіч тут жа, неяк вельмі натуральна перайшоўшы на «ты», запрапанаваў:

— То пасля ўсяго пойдзем да мяне, паседзімо. Згодзен?

І мы пайшлі ў кватэру, якую ён толькі што атрымаў у блочным, «хрушчоўскім», доме па вуліцы Чарнышэўскага пад нумарам 7. У доме жылі і іншыя пісьменнікі (на пятым паверсе, помніцца, Валодзя паказаў мне кватэру Адамчыкаў). Халасцяцкае жытло Караткевіча было на «Парнасе» — на пятым паверсе і складалася з аднаго пакоя і цеснай кухні.

Пра адзін пакой згадваю спецыяльна, бо нядаўна ў цікавых успамінах Арсена Ліса напаткаў сцвярджэнне, нібы тая кватэра была двухпакаёвая. Аўтара ўспамінаў, відаць, падвяло тое, што потым, пасля пераезду з Оршы маці Валодзі, Надзеі Васільеўны, «хата» была перагароджана шафай з прыбітай да яе шырмай: злева, ля акна, месціўся «габінэт» з раскладным крэслам, справа, ад увахода — мікраскапічная спаленка з тахтой... Але тады, у нашу першую сустрэчу, пакой быў яшчэ не разгароджаны, не застаўлены кніжнымі паліцамі.

— Кнігі яшчэ засталіся ў Оршы, — тлумачыў гаспадар, паказваючы сціплую «хату». — Цеснавата тут.

Але я стаў супакойваць яго, параўноўваючы свой прыватны пакойчык на Сельгаспасёлку з ягоным «цывілізаваным» жыллём. Зрэшты, потым Валодзя не раз казаў, што нідзе яму не пісалася так хораша, як на Чарнышэўскага. Ды яшчэ ў Оршы.

У той вечар, аднак, мы не спыніліся ў пакоі, а пайшлі на кухню, «самае ўтульнае і зручнае месцейка», дзе Валодзя запарыў у «турцы» каву (гэта ён умеў рабіць як ніхто), выцягнуў з «затыркі» бутэльку сухога віна. І прасядзелі мы разам аж да трох гадзін ночы. Натуральна, я распытваў пра раман «Нельга забыць». Караткевіч прызнаў, што ён сапраўды вельмі аўтабіяграфічны. Ды і ў іншых герояў ёсць рэальныя прататыпы. Яніс — гэта, да прыкладу, цудоўны латышскі паэт Еранім Стулпан. Няўхвальна, з унутраным болем Валодзя гаварыў толькі пра М., маскоўскую даследчыцу гісторыі мастацтваў, выведзеную ў рамане пад прозвішчам Горавай, — здалося, з ёю былі звязаны сур'ёзныя пачуцці і няздзейсненыя надзеі... Без непатрэбнай сціпласці аўтар лічыў раман сваёй удачай і спадзяваўся хутка пабачыць яго ў выглядзе асобнай кніжкі.

Потым мы сталі ўзаемна расказваць, што было «да таго». Валодзя згадваў Оршу, дзе прайшлі яго дзяцінства і школьныя гады, ваеннае ліхалецце, калі ён апынуўся ў Арэнбургу (урэзаліся ў памяць вярблюды, якія, раззлаваўшыся, дужа пляваліся), разбураны пасляваенны Кіеў, дзе

ён жыў у цёткі, вучобу ў Кіеўскім універсітэце, адкуль яго ледзь не выключылі за нацыяналізм... украінскі. Гэтаму ўніверсітэту Караткевіч быў асабліва ўдзячны: там ён сустрэў верных сяброў, мудрых настаўнікаў накшталт прафесара Бялецкага, там, удалечыні ад Беларусі, зразумеў, што такое Радзіма.

— Калі б гэта ад мяне залежала, то кожнага вучня, дзесьці ў класе дзявятым, пасылаў бы на які час у іншую рэспубліку, каб адчуў тугу па сваім. Рос патрыётам.

Потым гаворка пайшла пра першыя крокі ў літаратуры. «Непісьменным» Валодзя сябе не памятаў. Рыфмаваць, дзеля забавы, пачаў яшчэ ў дзяцінстве. Першы верш напісаў дзесьці год у чатырнаццаць («але гэта было яшчэ дзеля смеху»). Сур'ёзна заняўся паэзіяй пасля ўніверсітэта, калі працаваў настаўнікам у Таращы на Украіне, а потым у Оршы. З Оршы паслаў некалькі вершаў сябру (здаецца, Валянціну Краўцу, потым выкладчыку політэхнічнага інстытута) у Мінск, а той, без ведама аўтара, аднёс іх у «Полымя». Такім чынам у 1955 годзе пабачыў свет караткевічаўскі «Машэка». Амаль адначасна ў зборніку пра Янку Купалу былі апублікаваны ўражанні з паездкі ў Вязынку (Валодзя лічыў іх «сапраўдным дэбютам»).

— Некалькі вершаў, — працягваў Караткевіч, — я неабачна аддаў у аршанскі «Ленінскі прызыў». Неабачна, бо не падумаў, як іх успрымуць дамарошчаныя «знаўцы». А яны, аказалася, дыхалі яшчэ сталінскім духам. Вядома, былі там і слабаватыя вершы. Але мне папала за іншае — за безнадзейнасць, чорную меланхолію, захапленне гісторыяй. Адным словам — за безыдэйнасць. Супрацоўнік рэдакцыі Высоцкі напісаў (мусіць, яму «падказалі») супраць мяне разносны артыкул «Не ў нагу з жыццём». Гэта ён — у нагу, заўсёды ў нагу, паводле загада, як былы вайсковец, а я — не... Найбольш лаяў ён верш «Вадарод» — нібы я прадракаю там пагібель нашай краіны. А я ж толькі хацеў папярэдзіць: атам — магутная, карысная, але і небяспечная сіла. Дураксы, а дураксаў на свеце многа, могуць знішчыць зямлю... Што пасля таго артыкула пачалося! Арганізаваныя

лісты ў рэдакцыю, спецыяльная канферэнцыя «абураных» чытачоў на льнозаводзе. Нават дайшло да таго, што аршанская газета пачала вучыць розуму самога Броўку: замест таго, каб прызнаць крытыку «знізу» і паўшчуваць мяне за памылкі, ён сказаў на адным сходзе, што я падаю цікавы голас... У школе працаваць стала ну проста немагчыма. І тады я рашыў падацца ў Маскву — на Вышэйшыя літаратурныя курсы. А потым — сцэнарныя. Многа там спазнаў новага... Так што цяпер, выходзіць, я павінен нават дзякаваць таму салдафону Высоцкаму. Ворагаў мне ён прыдбаў, але — і сяброў. Пасыпаліся абураныя лісты ў Мінск, Глебка з Казекам выступілі ў маю абарону ў «Звяздзе». У Саюз мяне прынялі.

Праўда, па словах Караткевіча, і ў Мінску не ўсім яго вершы прыйшліся даспадобы. Палохала смеласць думкі, нязвычная форма. Некаторыя старэйшыя паэты ўвогуле адмаўлялі яго здольнасці.

— К. сказаў, — крыўдаваў Валодзя, — што з маім талентам толькі каменне на бруку біць...

У адказ я расказаў Караткевічу пра некалькі падобных выпадкаў з мінскага літаратурнага жыцця, з уласнага, няхай і небагатага аспіранцкага вопыту. Мы пагадзіліся, што тыя змены, якія пачаліся пасля смерці Сталіна і асабліва пасля XX партыйнага з'езда, ідуць са скрыпам. Занадта многа людзей, не зацікаўленых у іх. А іншыя баяцца, не ведаючы, чыя возьме. Таму адседжваюцца, чакаюць.

Перад развітаннем Валодзя, нібы спахапіўшыся, пачаў распытваць пра мае «аўтабія». Даведаўшыся, што я з заходняй, «каталіцкай», часткі Беларусі, з беларуска-літоўскага памежжа, ён усклікнуў:

— Ты глядзі! Я з Оршы, з самага ўсходу, а ты — з-пад Вільні — і нішто не перашкаджае нам у гамонцы. А некаторым жа хочацца падзяліць беларусаў на «ўсходнікаў» і «заходнікаў», на праваслаўных і католікаў. Сіл жа і так мала... А тут гэтая праклятая, наканаваная лёсам раз'яднанасць. Хіба хто з католікаў не можа быць беларусам?! Памятаю, была ў мяне нянька-каталічка. Гаварыла чысцютка па-бе-

ларуску. Пасля яды вучыла складваць ручкі і дзякаваць: «Ацю, божанька».

— Ацю — гэта ад літоўскага ачу, дзякуй.

— Бач ты, куды трапіла літоўскае слоўца. А я і не ведаў.

Вярнуўшыся дамоў, я, нягледзячы на позні час, занатаваў на гаспадаровай кухні найбольш істотнае з таго, што пачуў у той дзень. І даў сабе слова завесці дзеля гэтага асобны сшытак. На жаль, стрымаў яго не адразу. І таму пра нашы наступныя сустрэчы — на нашай прыватнай кватэры (Валодзя выклікаў фурор сярод суседзяў, стаўшы пасярод вуліцы на калені перад маёй Марыяй за нязначнае спазненне), у Юльяна Пшыркова, дзе яго жонка, Нона Іванаўна, частавала нас самаробнымі стравамі і напоямі, у Алега Лойкі, якому Караткевіч быў вельмі ўдзячны за рэцэнзію ў «Маладосці» на «Вячэрнія ветразі», — не магу сёння сказаць нічога пэўнага. Памятаецца толькі, што Валодзя спяваў старыя беларускія і ўкраінскія песні, з гумарам расказваў пра свайго гаспадара ў Таращчы, гэтакага народнага філосафа («калі свінню не есці, то яна стане есці людзей»), каларытна падносіў забаўныя эпізоды з аршанскіх, кіеўскіх і маскоўскіх часоў.

Пра тое, як складвалася жыццё Уладзіміра Караткевіча ў першыя трыццаць год, даволі падрабязна і вельмі эмацыянальна расказаў ён сам у аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў», напісанай у 1964 годзе і апублікаванай у 1966 годзе ў зборніку «Пра час і пра сябе». Таму я не буду тут падрабязна апісваць часы, калі мы яшчэ не былі знаёмы. Таго, хто цікавіцца імі, адсылаю да ўказанай кнігі. Тут жа, каб потым не вяртацца назад, зраблю толькі некалькі ўдакладненняў і дапаўненняў. Некаторыя з іх унесены самім Караткевічам у мой экземпляр зборніка «Пра час і пра сябе». Іншыя ж узяты з нашых пазнейшых размоў, з успамінаў і лістоў яго ных сяброў.

Радавод. Караткевіч не раз падкрэсліваў, што яго бацька, Сямён Цімафеевіч, паходзіў са старадаўняга, але збяднелага шляхецкага роду, якому належаў засценак Караткевічы.

У зборніку «Пра час і пра сябе» ў адпаведным месцы дапісана чорным чарнілам: «Род падстарасты Бабруйскага і Пінскага, захудалы да ўсёру».

Пра даўнасць Караткевічаў сведчыць і выпіска з кнігі В. Манковіча «Беласток і ваколіцы» (1986), нядаўна прысланая з Кракава сябрам пісьменніка Здзіславам Нядзеляй. «У перыяд шведскага патопу (восенню 1655 г.), — гаворыцца там, — у Беластоку знаходзіліся літоўскія харугві, падпарадкаваныя Радзівілам. Узнялі яны, аднак, бунт супраць шведаў, пасля чаго пад кіраўніцтвам Караткевіча далучыліся да войскаў, якімі камандаваў Павел Сапега». Відаць, таго ж Караткевіча, робіць заключэнне Нядзеля, згадваў у сваім дзённіку князь Багуслаў Радзівіл.

Ганарыўся Караткевіч і сваімі «пращчурамі па кудзелі» — з боку маці, Надзеі Васільеўны. У тым жа зборніку, у фразе «Дзед, бацька маёй маці (ён памёр у вайну), даслужыўся да павятовага казначэя, і прытым быў атэіст і спачуваў марксістам», Валодзевай рукою ўпісана: пасля слова «павятовага» — «а затым губернскага», а перад словам «марксістам» — «легальным». Апрача таго, канкрэтызавана мясціна, дзе гаворыцца пра «сваяка з боку маці і яе радні», які ў паўстанні 1863 года камандаваў атрадам і быў расстраляны па загаду Мураўёва. Караткевіч тут удакладніў: «прадзед». Праўда, зрабіў гэта толькі пасля таго, як у Вільнюсе, у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР, Генадзь Кісялёў знайшоў і паказаў яму дакументы пра гэтага прадзеда — Тамаша Грыневіча.

А як узрадаваўся Караткевіч, калі потым, у час камандзіроўкі ў Польшчу, я знайшоў у Варшаве рукапісныя «Нататкі паўстанца 1863 года ў Магілёўскай турме». Сярод іншых прозвішчаў там упамінаўся і той жа Тамаш Грыневіч. Больш таго, прыводзіўся напісаны ім верш «Песня прыгаворанага да смерці...», дзе выказана цвёрдая ўпэўненасць у тым, што справа свабоды не загіне, «пакуль жыве славянскае племя». Дзеля вызвалення, гаворыцца ў вершы, трэба паказаць народу прыклады гераізму і самаахвярнасці. Перамога не прыйдзе сама сабой: «Полымя раптам не ўспыхвае —

яно пачынаецца з іскры». А далей у запісной кніжцы ішоў верш, прысвечаны ўдаве Грыневіча, якая, падобна гераіні рамана «Нельга забыць», спазнілася на некалькі трагічных мінут з весткай аб «памілаванні». Невядомы аўтар верша захапляецца яе мужнасцю, якая будзе па-сапраўднаму ацэнена і ўзнагароджана, калі «краіна вызваліцца з няволі».

Такім чынам, крыху нечакана для самога Караткевіча было дакументальна пацверджана тое, што дагэтуль цьмяна жыло ў сямейным паданні, што ўзнёсла было апісана ў пралогу да рамана «Нельга забыць» (паралелі паміж Тамашом Грыневічам і Усяславам Грынкевічам відочныя). Гэта дало аўтару дадатковыя аргументы супраць тых, хто бачыў у рамане адну «выдумку».

А яшчэ Уладзімір Караткевіч неяк сказаў, што ўсе з яго роду, з яго сям'і годна трымаліся ў 1937 годзе. Даносчыкаў сярод іх, на шчасце, не аказалася.

Ваенныя гады. Яны балюча ўвайшлі ў свядомасць Караткевіча. Бачачы сытую закусь, ён не раз успамінаў, як галадаў у час эвакуацыі, калі разлучыўся з бацькамі. Вайна не палохала яго: наадварот, некалькі разоў з інтэрната ўцякаў на фронт. А калі знаходзіўся ў Маскве і пачыналася бамбёжка, то не бег, разам з іншымі, у сховішча, а зганяў ката са скрыні, дзе ляжалі старыя часопісы, усядаўся на ёй і чытаў «Вокруг света» — прывязанасць да гэтага выдання засталася на ўсё жыццё.

Кіеўскі перыяд. Пра яго мне двойчы расказваў Фларыян Няўважны, вядомы польскі літаратуразнавец і перакладчык. Ён вучыўся ў Кіеўскім універсітэце разам з Караткевічам, сябраваў з ім. Некалькі разоў яны разам прыязджалі на канікулы ў Оршу.

— Мяне, наіўнага шчанюка, — згадваў Няўважны, прыехаўшы ў Мінск у 1974 годзе, — Валодзя здзіўляў тады яўным антысталінізмам. У дзень смерці Сталіна ўстроіў у інтэрнаце дэманстрацыйнае застолле. Потым, калі сталі прыпіраць да сцяны не толькі яго, але і сяброў, баронячы іх, выкручваўся: з гора... Караткевіча вельмі любіў і заўсёды бараніў акадэмік Бялецкі. Ён хацеў узяць Валодзю ў аспі-

рантуру, нават тэму падабралі — пра паўстанне 1863 года ў славянскіх літаратурах. Але будучы «клясык» зрэзаўся па экзаменах — на пытанні пра Берыю. Праўда, выпіскі для дысертацыі працягваў рабіць. Потым яны прыдаліся для «Каласоў...».

Па словах Фларыяна Няўважнага, у Кіеўскім універсітэце Караткевіч быў душой курса, яго сумленнем. Адны яго вельмі паважалі, іншыя ненавідзелі, пабойваліся, бо маглі атрымаць здачу. Пра сілу, мужнасць і прынцыповасць Валодзі хадзілі ва ўніверсітэце легенды (напрыклад, як уратаваў ад хуліганаў Бялецкага).

Аднак вернемся да падзей 1962 года. На жаль, мая першая рэцэнзія на раман «Нельга забыць» аказалася тады і адзінай. Ацэнкі, дадзеныя ў ёй, не знайшлі падтрымкі ў друку. А можа, нават выклікалі адваротную рэакцыю. Бо праз колькі месяцаў у газеце «Советская Белоруссия» быў надрукаваны артыкул Я. Герцовіча «Пошукі, знаходкі, страты», дзе аўтару рамана былі прад'яўлены сур'ёзныя абвінавачванні. Тагачасны «афіцыйны» крытык папракаў Караткевіча ў кніжнасці, другаснасці, у тым, што яго галоўны герой «Андрэй Грынкевіч і яго таварышы — адарваныя ад жыцця фармалісты, якіх мала цікавіць змест нашага мастацтва, яго ідэйная накіраванасць. Форма для іх ператвараецца ў самамэту і набывае «самастойнасць» і «незалежнасць» ад зместу, ад ідэйна-эстэтычных функцый». Галоўны герой рамана здаўся крытыку абмежаваным і глухім на ўсё «цецеруком»... У няўдалым выбары галоўнага героя, у няправільным паказе жыцця Літаратурнага інстытута абвінаваціў Караткевіча маскоўскі рэцэнзент В. Чалмаеў. Выказваліся таксама сумненні ў верагоднасці ўсяго таго, што адбывалася ў пралогу рамана.

Артыкулы Я. Герцовіча і В. Чалмаева былі ўспрыняты не як выражэнне прыватнай думкі іх аўтараў, а як дырэктыўнае ўказанне. Справа ў тым, што ў краіне тады, у канцы 1962 года, узнялася хваля барацьбы з «фармалізмам». Пачалося ўсё з таго, што М. С. Хрушчоў наведаў маскоўскіх

мастакоў і рэзка раскрытыкаваў іх (сёння мы ведаем, што «добразычліўцы» спецыяльна «падзавялі» яго), а скончылася тым, што «ведзьмаў» пачалі шукаць ва ўсіх творчых калектывах, у тым ліку і ў Саюзе пісьменнікаў БССР, Інстытуце літаратуры АН БССР (ох і дасталося мне тады за «шчанюкоўскі», як сказаў Валодзя, артыкул «Каб з пер'я выраслі галубы...»). Караткевіч быў у курсе ўсіх яўных і закулісных падзей, бо меў інфармацыю, як кажуць, з першых вуснаў (М. з'яўлялася жонкай аднаго з галоўных маскоўскіх «абстракцыяністаў»). Вярнуўшыся з паездкі ў Маскву, Караткевіч падрабязна расказваў, як усё адбылося. 17 снежня 1962 года, зайшоўшы ў выдавецтва «Беларусь», я застаў там яго ў акружэнні сяброў і знаёмых, сярод якіх вылучаўся Янка Брыль.

— Цкаванне абстракцыяністаў пачалося па ініцыятыве Герасімава, — Валодзя дужа нерваваўся, прыкурваў адну «беламорыну» ад другой. — У выяўленчым жа мастацтве няма ў нас такой моцнай і талковай асобы, як Шастаковіч у музыцы... На іхняй выстаўцы Мікіта Сяргеевіч вельмі злаваў і нават крычаў. Аднаму з фармалістаў — ды якія яны ўсе фармалісты, глядзеў іх выстаўку ў Літаратурным інстытуце... Дык вось, аднаму з фармалістаў ён сказаў: «Руку дай! О, моцная рука! Такой — лапату або сякеру трымаць, а не мазню разводзіць! У Брацк, у Сібір! Вон з Масквы!» Тут у гаворку ўмяшаўся Неізвесны, пачаў бараніць сяброў. «Вы — іншая справа, — нейтралізаваў яго Хрушчоў. — Вы талент. Дарэчы, дзе вы берыцё бронзу для скульптур?» «Крадзем. У металаломшчыкаў часам, на заводзе. Дарэмна вы, Мікіта Сяргеевіч, паўсталі супраць бронзавых помнікаў». «Магчыма...» Ну і гэтак далей... — абарваў расказ Караткевіч, пабачыўшы, што зайшоў нехта непажаданы.

Размова пераключылася на беларускі тэатр. Караткевіч пахваліўся, што яму прапанавалі напісаць п'есу для купалаўцаў. Янка Брыль стаў яго пераконваць, што гэта вельмі важна. Бо хутка, «калі ўсе майстры пойдуць на пенсію», не будзе чаго ставіць. Затым, па просьбе Караткевіча, Брыль расказаў пра сваю нядаўнюю паездку ў Польшчу, дзе ён быў

разам з С. Кірсанавым. Савецкіх гасцей прымаў Уладзіслаў Бранеўскі. Стомлены «траскучай» паэзіяй, ён папрасіў кагосьці з блізкіх прынесці яго кнігу і прачытаў з яе ўсяго адно чатырохрадкоўе — пра тое, як чалавек едзе цягніком і бачыць за акном верасы...

— Так і ў жывапісе, — вярнуўся да праціўнікаў маскоўскіх «фармалістаў» Караткевіч. — Трашчаць, пафасначаюць, фатаграфуюць... І Рэпін, і Ярашэнка — не фатаграфія. І Матэйка з яго «Грунвальдам» таксама... А гэтыя...

— Што ты, Валодзя, сёння нейкі змрочны, — стараўся разрадзіць атмасферу Брыль. — Махні рукой на ўсіх і пішы свае раманы. Пра Багушэвіча хаця б. Пра яго акружэнне.

— Баюся, стары, што гэта пачатак канца. Знак, што мы зноў вяртаемся да ранейшага. Таго самага... А пра Багушэвіча я падумаю... Дайце перш з Каліноўскім разабрацца!

Караткевіч тады нібы ў ваду глядзеў. Сапраўды, у наступным, 1963 годзе «адліга», што пачалася з сярэдзіны пяцідзесятых, імкліва стала змяняцца новымі «замаразкамі». У наступ пайшлі кансерватыўныя сілы, якім па нутру былі сталінскія парадкі. Як праявы фармалізму ці абстракцыянізму сталі асуджацца творчыя пошукі ў змесце і форме, усё наватарскае і неардынарнае. У беларускай літаратуры адной з першых ахвяр «пахаладання» стаў Уладзімір Караткевіч. Крытычныя выказванні Я. Герцовіча і В. Чалмаева рашуча паўплывалі на далейшы лёс яго рамана «Нельга забыць». Яго кніжны варыянт, набраны да друку, у нейкай там інстанцыі (аўтару не казалі, у якой) «не быў рэкамендаваны» да друку. Караткевіч адчайна ўхапіў у выдавецтве карэктурны адбітак і прыхаваў яго да «лепшых часоў».

Нанава раман «Нельга забыць» быў набраны і, на гэты раз, аддрукаваны толькі праз дваццаць год. І аказалася, што ён не састарэў, вытрымаў выпрабаванне часам. Рэцэнзія Міхася Тычыны на кніжнае выданне рамана так і называлася: «Выпрабаванне часам» (Полымя. 1983. № 11). Тое, што раней лічылася скажэннем рэчаіснасці, цяпер называлася яе рамантызацыяй, якая адпавядае спрадвечнай і заў-

сёды актуальнай патрэбе «ў ідэальным, высокім, вечным». Падкрэслівалася, што раману ўласцівы «высокі грамадзянскі і гуманістычны пафас, бязмежная вера ў магчымасці ўдасканалення чалавека, у магутнасць яго розуму». Андрэй Грынкевіч, ахарактарызаваны Я. Герцовічам як адарваны ад жыцця фармаліст, цяпер называўся «беларускім чалавекам на рандэву», які паказаў сябе «вартым кахання», сцвердзіў у сабе чалавечы, духоўны пачатак.

Час, гэты мудры і справядлівы суддзя, усё паставіў на сваё месца. Раман «Нельга забыць» быў нарэшце ацэнены як буйное мастацкае дасягненне, удастоены ў 1983 годзе Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Адказваючы на пытанні карэспандэнта газеты «Літаратура і мастацтва» Уладзіміра Ягоўдзіка, Уладзімір Караткевіч растлумачыў тады, у чым была прычына ранейшага непрыняцця рамана і сакрэт яго шчаслівага вяртання: «Твор гэты — шматпланавы, у пэўнай меры эксперыментальны. Гісторыя тут суседнічае з сучаснасцю, проза — з паэзіяй, лірыка — з жыццёвым сухім рэалізмам. Такое спалучэнне было тады навіной у нашай літаратуры, дый цяпер яшчэ рэдка сустракаецца. Мабыць, у гэтым адна з прычын, што раман чытаецца... Адна з прычын — але не галоўная, бо, акрамя чыста літаратурных прыёмаў і формаў, чалавек у творы заўсёды знаходзіць яшчэ штосьці сваё, глыбока асабістае...»

Аднак зноў вернемся ў першую палову шасцідзясятых. Прыкладна праз два гады пасля з'яўлення палымянскага варыянта рамана «Нельга забыць» у часопісе «Маладосць» была апублікавана гістарычна-дэтэктыўная аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха», якая і да сённяшняга часу цешыцца вялікай папулярнасцю. Напісана ж яна была нават раней першага рамана — яшчэ да вучобы аўтара ў Маскве.

У аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзімір Караткевіч упершыню паказаў сябе як майстар напружанага, «закручанага» сюжэта. Упершыню тут з'яўляецца яе вялікасць Таямніца. І не адна, а некалькі. Што гэта за «дзікае

паляванне», якое, гойсаючы па наваколлі, наводзіць жах на гаспадыню Балотных Ялін Надзею Яноўскую, забівае сумленных людзей, здзекуецца з бедных сялян? І хто ж той Малы Чалавек, які ноччу з'яўляецца ў самых нечаканых мясцінах старога палаца? Хто хаваецца пад воблікам Блакітнай Жанчыны, так падобнай да той, што намалявана на старым партрэце? І якое такое праклянцце вісіць над Балотнымі Ялінамі? На гэтыя і многія іншыя пытанні трэба даць адказ Андрэю Беларэцкаму, маладому вучонаму-фалькларысту, які дзесьці на пачатку васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя выпадкова трапіў у закінуты старашляхецкі палац. Не раз абставіны ставілі яго, галоўнага героя, у складанае, здавалася б, безвыходнае становішча. Але ён, мужны і кемлівы, заўсёды знаходзіў выхад.

Як і належыць прыгодніцка-дэтэктыўнай аповесці, «Дзікае паляванне...» ўвесь час трымае чытача ў напружанні. Тут ёсць абавязковыя для твораў такога жанру жахлівыя забойствы, небяспечныя пагоні, старыя рукапісы і нават прывіды. Сапраўдны злачынца ў пачатку дзеяння не выклікае асаблівых падазрэнняў, больш таго, нават здаецца сімпатычным, і чытач амаль да канца застаецца ў няведанні, хто ж гэта і дзеля чаго наладжвае «дзікае паляванне».

Аднак «Дзікае паляванне...» ўспрымаецца не толькі як прыгодніцка-дэтэктыўны твор, што, звычайна, не выклікае асаблівых эмоцый ці разважанняў: прачытаў, разблытаў разам з аўтарам таямнічую гісторыю — і забыў, выкінуў усё з памяці. Аповесць Караткевіча абуджае роздум аб прызначэнні чалавека, лёсе беларускага народа, узаемасувязі розных гістарычных эпох. Многія разважанні Андрэя Беларэцкага, крыштальнага гуманіста і нарадалюбца, які пакутліва шукае адказы на пытанні, хто ж ён і якім «багам» павінен «маліцца», здаюцца мне вельмі сучаснымі, актуальнымі і для сённяшняга чалавека. Такім чынам, «Дзікае паляванне караля Стаха» — не толькі дэтэктыў у традыцыйным сэнсе гэтага слова. Дакладней — больш чым дэтэктыў. Многімі сваімі рысамі аповесць набліжаецца да твораў сацыяльна-філасофскіх. Яна не

толькі забаўляе сваёй складанай інтрыгай, але і павучае, выхоўвае.

На жаль, як і ў выпадку з раманам «Нельга забыць», аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» не адразу была належным чынам ацэнена тагачаснай крытыкай. Той жа Я. Герцовіч убачыў у ёй і прыхарошванне, ідэалізацыю гісторыі, і элементарнае эпігонства — маўляў, аналагічная сюжэтная схема ўжо выкарыстана ў вядомай аповесці А. Конан Дойла «Сабака Баскервіляў». Аднак ідэалізацыяй лічылася звычайная вернасць напаўлегендарнага караля Стаха Горскага сваёй айчыне і свайму народу, яго непрыняцце ўлады польскага караля. Што ж датычыцца эпігонства, то тут Я. Герцовіч міжвольна ці свядома не прыкмеціў галоўнага — таго, што Караткевіч напоўніў распаўсюджаную сюжэтную схему новым, арыгінальным зместам. Такое выкарыстанне сюжэтаў ці фармальных прыёмаў — звычайная з'ява ў творчым працэсе. Для доказу спашлюся тут на выказванне класіка польскай літаратуры Юльяна Тувіма: «Нечы чужы рытм, мелодыя, вобраз або склад слова па невядомых прычынах пранікае ў памяць паэта, засынае там, спіць доўга, пакуль раптам, невядома чаму, без удзелу волі і творчай свядомасці, прачынаецца, як нешта быццам бы сваё. Толькі той, што ніколі не падпарадкоўваўся складаным працэсам мастацкай творчасці, можа сказаць, што сходнасць, нават здзіўляючая, двух паэтычных твораў або іх фрагментаў заўсёды «спісана», што гэта плагіят або свядомае перайманне». Словы Юльяна Тувіма пераканальна тлумачаць тую падобнасць, якая несумненна існуе паміж аповесцю Конан Дойла і аповесцю Караткевіча.

Нягледзячы, аднак, на рэцэнзію Я. Герцовіча, а то і наперакор ёй, «Дзікае паляванне...» карысталася вялікай папулярнасцю сярод чытачоў, якім прыелася прэсная «вытворчая» проза. Асабліва палюбілі аповесць падлеткі. Расказвалі пра выпадкі, калі, схаваўшы пад коўдру ліхтарык, хлапчук адолеў яе за адну ноч, калі за яе браліся школьнікі, вызваленыя ад вывучэння беларускай мовы (тады гэта ра-

білася модным), зусім не абазнаныя з ёю. Аповесць рабіла справу сваю куды лепш, чым заклікі.

Поспех «Дзікага палявання караля Стаха» крыху акрыліў Уладзіміра Караткевіча, «спляжанага» забаронай рамана «Нельга забыць», і ён, адкінуўшы ўсё іншае, стаў рыхтаваць да друку раман «Каласы пад сярпом тваім» (пачатак рамана, занатаваў Валодзя ў сваёй запісной кніжцы, прыйшоў у галаву 7 жніўня 1959 года ў Азярышчы над Дняпром, дзе ўзвышалася над кручай пахілая груша). Абвінавачванні Герцовіча і яго аднадумцаў у адрыве ад рэальнасці, у скажэнні гістарычнай праўды прымусілі пісьменніка нанава перагледзець некаторыя дакументы, выкарыстаць дадатковыя архіўныя крыніцы. І Караткевіч стаў угаворваць мяне, каб мы разам паехалі ў Вільнюс, дзе я ўжо не раз працаваў над рукапісамі.

— У выпадку чаго, калі не будзе гатэлю, у мяне там ёсць аднакашнікі па Маскве — Бронюс Мацкявічус, Юозас Мацявічус, Юдзіта Вайчунайце, яшчэ колькі паэтаў. Бронюса я нават выратаваў аднойчы ад смерці — затрымаў за крысо на вышыні дванаццатага паверха... У цябе ж, казаў, там таксама ёсць сваякі. Кісялевічуса знойдзем, — Караткевіч любіў «перарабляць» прозвішчы: я ў яго часта бываў Мальдзісевічам або Адасевічам, літаратуразнавец Мікола Прашковіч — «слаўным сынам літоўскага народа Мікалоюсам Прашкявічусам», а Мікола Грынчык — «містэрам Грынчыгзам». Звычайная скумбрыя ў яго ўрачыста менавалася скумбрыевічам, а густы грыбны суп — супешнікам. І словы пры гэтай гульні набывалі незвычайны, ледзь не магічны сэнс.

Аргументы здаліся мне пераканальнымі, і мы двойчы, у 1964 і 1966 гадах, папрацавалі разам у вільнюскіх архівах. У першую паездку сышлі па дарозе на маёй станцыі Гудагай, зайшлі да сваякоў. Вечарам была сустрэча з чытачамі ў Астравецкай раённай бібліятэцы. А назаўтра, чакаючы цягніка на Вільнюс, сядзелі мы ў паўпустым станцыйным буфеце і ля распаленай печкі пацягвалі піва (яго потым Валодзя ўспомніў у вершы, прысвечаным 500-годдзю

Астраўца). Гледзячы на групку калгаснікаў, якія прывезлі на станцыю з-пад Свіра здаваць ільновалакно, разгаварыліся пра вёску, пра тое, чаму з яе ўцякае моладзь, чаму знікае любоў да зямлі. Пагадзіліся: таму што чалавек не адчувае сябе яе гаспадаром.

— Дай вось ім усім зямлі столькі, колькі яны могуць абрабляць, і ўсё будзе ў парадку, — гарачыўся Валодзя. — Не прадаваць, а перадаваць на які час. А не справіцца — адбяры назад. — Караткевічу мроілася нешта накшталт сённяшняга замацавання зямлі на доўгае карыстанне.

У Вільнюс мы дабраліся вечарам і амаль без надзеі, на ўсякі выпадак, сунуліся ў новую тады гасцініцу «Нерынга». На наша здзіўленне, адміністратарка прапанавала нам ажно двухпакаёвы нумар (было перад святам). Цана ў шэсць рублёў за суткі кусалася, але Караткевіч не мог не паказаць гонар і рашуча сказаў: — Вядома ж, бярэм!

Ноччу, вярнуўшыся ад Бронюса Мацкявічуса, ён ціха ўлёгся. Але праз колькі часу разбудзіў мяне гучным трызненнем:

— Вясёлку мне! Хоць кавалачак вясёлкі! Ну, калі ласачка... А то ўсё загіне.

Назаўтра аказалася, што яму снілася, нібы свет складваецца ў «столкі». І каб выратаваць яго, для распоркі, патрэбен быў кавалак вясёлкі. Праз пару дзён выявілася, што «Нерынга» нам яўна не па кішэні, і мы перасяліліся спачатку ў халодны «Наруціс», вокны якога ўпіраліся ў змрочныя Святаянскія муры, потым, з дапамогай Юозаса Мацявічуса, у гасцінічныя пакоі пры Саюзе пісьменнікаў Літвы — у былыя людскія, здаецца, Агінскіх. На новым месцы Валодзя адразу знайшоў аднадумца ў асобе празаіка Вітаўтаса Пяткявічуса, які прыехаў у Вільнюс са сваёй «глыбінкі». Абодва яны з запалам даказвалі ўзаемна, што чалавек сам сабе найгоршы вораг, бо знішчае тое, адкуль выйшаў, — прыроду. Розныя там лысенкі думаюць, што яны ўхапілі за бараду самога пана бога. Але ў адказ атрымліваюць вялізную хвігу.

Ў Вільнюсе мы найперш пайшлі да Генадзя Кісялёва, які жыў тады з маці ў старым, ледзь не рэнесансным дворыку па вуліцы Гедрыса. Амаль насупраць было кафэ «Бочу», якое Валодзя тут жа зарыфмаваў:

Па дарозе ў «Бочу»
Нікуды не збочу.

А чуць далей — Дамініканскія муры, дзе Каліноўскі сядзеў у вязніцы, і Святаянскія муры, дзе яго арыштавалі.

Аднапакаёвая кватэра Кісялёвых, вялікая, але цемнаватая і халаднаватая, таксама нагадвала не то турэмную камеру, не то манастырскую келлю. Казалі, што раней тут жыла самая вучоная віленская манашка, а ўсе сцены пакоя былі абстаўлены кнігамі. Кніг хапала і цяпер, асабліва пра паўстанне 1863 года. І Караткевіч, ледзь увайшоўшы і павітаўшыся, ужо ўхапіў нешта — ажно не адарваць, нават у час вячэры.

Назаўтра Кісялёў і яго сябар, гісторык Бікуліч, павялі нас у Святаянскія муры шукаць той дом і тыя сходы, на якіх здраджаны Кастусь Каліноўскі спакойна сустрэў са свечкаю ў руцэ царскіх жандараў, кажучы ім, што ён Вітажэнец. Апісанні сучаснікаў доўга не сходзіліся з рэальнасцю, бо прайшоў не адзін капітальны рамонт. Але нарэшце ў «дворыку Міцкевіча» канчаткова і цвёрда ўстанавілі: гэта было тут, у двухпавярховым флігелі справа. Усцешаны Караткевіч прапанаваў усім пайсці ў «Дайнаву», вялікі і мадэрновы рэстаран, упрыгожаны паганскімі ідаламі, пляцёнкай і свяцільнікамі-«павукамі». Валодзя жартам прасіў абмяняць яму ну хоць куточак з «Дайнавы» на які літоўскі па назве горад — Ашмяны ці Ліду.

Яшчэ праз дзень мы пайшлі ў Карцінную галерэю, якая знаходзілася ў кафедральным саборы на плошчы Гедымінаса, каб знайсці яе вартаўніка, колішняга рэдактара віленскіх беларускіх выданняў Янку Шутовіча. Але ў адміністрацыі сказалі, што ён прыходзіць дзяжурыць толькі на ноч, і мы рашылі, карыстаючыся выпадкам, паглядзець экспазіцыю. Валодзя доўга стаяў ля партрэта Уладзіслава Сыракомлі, усё вызначаючы, якія ж у яго вочы.

— Мусіць, колеру табакі, — зрабіў заключэнне.

Асабліва Караткевічу спадабаліся падзямелле, дзе пахаваны польскія каралі і вялікія літоўскія князі, багата аздобленая капліца з металічнай труной святога Казіміра, звезеныя з прыдарожжаў драўляныя скульптуры-«смуткялісы» і часовая выстаўка, прысвечаная гадавіне вызваленчага паўстання 1863–1864 гадоў. Экспанаваныя там творы прываблівалі смеласцю, наватарствам пошукаў у нацыянальным рэчышчы.

— Не дай бог, каб гэта пабачыў Мікіта Сяргеевіч, — уздыхнуў Валодзя. — Разнёс бы ўшчэнт — як аднаўленне Тракайскага замка...

Шукаючы Шутовіча, мы зайшлі да яго на кватэру па вуліцы Антакальнё, дзе нас сустрэла яго жонка, літоўская паэтэса і перакладчыца Она Міцюце (яна дзесяць год чакала з турмы рэпрэсіраванага мужа, хоць ёй і прапаноўвалі адмовіцца ад яго). Гаспадара дома не аказалася — паехаў на нейкі засценак. Але затое гаспадыня расказала нам многа цікавага — пра сумесныя даваенныя беларуска-літоўскія вечары, пра свае пераклады вершаў Максіма Танка.

— Пад уплывам Янкі я і сама спрабавала пісаць па-беларуску, — прызналася Она Міцюце. — У акадэмічнай бібліятэцы вы можаце знайсці маю рукапісную п'еску «Чароўная скрыначка», прызначаную для беларускага школьнага тэатра.

У тым жа двухпавярховым доме, што і Шутовіч, жыў таленавіты беларускі мастак Пятро Сергіевіч. Мы не праміналі аказіі зайсці да яго ў майстэрню. Дзядзька Пятро, як яго называў Караткевіч, аказаўся нездаровы, але, даведаўшыся, што прыйшлі госці з Мінска, хутка падняўся, выйшаў у прадпакой, сардэчна павітаўся і павёў далей. У майстэрні якраз вісела ў рабоце карціна пра Паўлюка Багрыма. Юны паэт стаяў перад высокім начальствам са сшыткам у руках, а на ўсё са страхам пазіралі маці і сястра. У вачах, усёй паставе галоўнага героя былі выклік, дзёрзкасць.

— Якраз такім я ўяўляў яго, калі пісаў свайго «Паўлюка Багрыма», — пахваліў карціну Караткевіч.

Потым Сергіевіч паказаў нам увесь свой запаснік. А таксама дзівосныя карціны Язэпа Драздовіча, амаль невядомага яшчэ ў Мінску. Асабліва ўразіла фантастычнае «Вітанне вясны на Сатурне»: сотні зусім аднолькавых незямных істот стаялі ў строгіх шарэнгах і чагосьці чакалі.

— Глядзі ты, прадбачыў! — адрэагаваў Валодзя, думаючы пра нешта сваё.

Ну і вядома ж, мы многа сядзелі ў гістарычным архіве на Добрай Радзе. Кісялёў прыносіў Караткевічу, здаецца, нават без належнага афармлення, дакументы пра паўстанне 1863 года, Кастуся Каліноўскага. Валодзю было цікава ўсё: і папера, і подпісы, і паўстанцкія пячаткі. Здавалася, што ён бачыць тых, хто іх ставіў, і нават размаўляе з імі, варушачы засмяглымі ад курэння губамі.

У тую паездку Караткевіч здзівіў мяне сваёй здольнасцю быць натуральным, цікавым і не паўтарацца ў самых розных кампаніях — пісьменнікаў, вучоных, з абслугай у гасцініцах і прадаўшчыцамі ў кніжных магазінах (куплены аднатомнік япопца Руноске Акутагава на нейкі час стаў яго настольнай кнігай). Мы хадзілі па старых вулках, узбіраліся на вежу Гедымінаса. Доўга стаялі каля Вострай брамы, Святадухаўскай царквы, у Базыльянскіх мурах («во дзе была талеранцыя: зусім побач мірна сужылі каталіцкая, праваслаўная і ўніяцкая святыні»). Зайшлі «пад галю» — на калгасны рынак, які, мабыць, памятаў Багушэвіча, каб купіць там кветак і ўскласці іх на пліту, устаноўленую на месцы пакарання смерцю Каліноўскага (каля касцёла святога Якуба па Лукішках). Нанеслі колькі візітаў маім сваякам (цётка Жукоўская цярпліва вучыла нас, як з мёду, спірту і спецый варыць стары беларуска-літоўскі крупнік). Хадзілі ў кіно на фільмы «з дрыжыкамі».

Наша прабыванне закончылася даволі камічна. Грошы неяк нечакана зніклі, а пазычаць не дазваляў гонар. І тады праз Мацявічуса Караткевіч дамовіўся, што намададуць мінут дваццаць у літаратурным тэлечасопісе. Ледзь не на апошні рубель паабедалі. Валодзя апрануў свой эфектны,

блакітны з белым, світэр. Галантна цалаваў ручкі рэжысёркам і дыктарцы. Узнёсла гаварыў, як шукаў у Вільнюсе сляды Каліноўскага. Я ж расказваў пра дружбу нашых літаратур... Вярнуліся мы ў былыя людскія па вуліцы Рашытою, папілі чаю і ўляглiся спаць з ціхай надзеяй, што нашы фінансавыя справы заўтра палепшацца.

— Званіць у бухгалтэрыю будзеш ты, хоць паздароўкаешся па-літоўску.

— Але «лабас рытас» нас не ўратавала. На маё пытанне, ці нельга было б атрымаць ганарар за ўчарашняе тэлевыступлепне, у трубцы пачулася:

— А вы — савецкія грамадзяне?

— Безумоўна! — узрадаваўся я.

— Тады атрымаеце пераводы ў канцы месяца ва ўстаноўленым парадку. Адразу мы плацім толькі замежным грамадзянам...

Давялося паступіцца сваім гонарам і звярнуцца за субсідыяй да сваякоў.

У наступны свой прыезд у Вільнюс, у канцы лютага і пачатку сакавіка 1966 года, мы былі больш абачлівымі: загадзя дагаварыліся пра пакой у больш дэмакратычнай гасцініцы «Гінтарас», а потым перабраліся на кватэру да майго школьнага сябра Часлава Мекіна на вуліцы Дзуку («у краіне Дзукіі», «у дзукаў», як паўтараў Валодзя).

У Літоўскім драмтэатры якраз паставілі гістарычную драму Вінцаса Крэве «Скіргайла». Яна выклікала вострыя спрэчкі: аўтар памёр у эміграцыі, доўгі час быў ледзь не пад забаронай, ды і на гістарычную праблематыку тады накладвалася табу... Таму Мацкявічусы рашылі звадзіць нас на гэтую пастаноўку. Білеты ім удалося здабыць з цяжкасцю, бо ўсе былі раскуплены загадзя. Аднак для «беларускага Сянкевіча і яго сяброў» усё ж знайшлася бронь. Караткевіч быў у захапленні ад маналогаў Скіргайлы пра тое, якім багам яму пакланяцца, ад «несіметрычнасці» драмы: крыжак аказваецца героем, а літовец — здраднікам. Разам з усімі Валодзя доўга апладзіраваў стоячы, а потым, у гардэробе, узрушана сказаў:

— Трэба перакласці для купалаўцаў! — Ды тут жа аціх: — Хто ў нас цяпер такое паставіць?!

На наступны дзень вядомая літоўская фальклярыстка Ванда Ёнаўна павезла нас у Каўнас. Валодзя быў не ў гуморы: напярэдадні, адыходзячы ў тэатр, жонка Мацкявічуса прыпудрыла яму рассечанае пры рэзкім тармажэнні аўтобуса брыво, і сёння ў невялікай ранцы пачалася злая інфекцыя. І таму на карціны Чурлёніса ў Каўнасе глядзеў ён неяк адным вокам, прымружана. Асабліва ўразіла Валодзю нарастанне змроку, беспрасветнасці ў цыкле «Хаўтуры». Ён доўга стаяў перад карцінамі, нешта шаптаў (пасля з усяго гэтага нарадзіўся верш «Чурлёніс»). Дужа шкадаваў, што лепшыя творы літоўскага генія знаходзяцца ў цёмным запасніку: пісаныя дрэннымі фарбамі, на святле яны хутка губляюць колер. Затым нам паказалі скульптуры Даўгвілене, прысвечаныя паўстанцам 1863 года (у тым ліку дзеду мастачкі). Кавалкі кары (здаецца, дубовай), наклееныя на нацягнутае палатно, стваралі незвычайны эфект.

— Якое адзінства формы і зместу! — захапляўся Караткевіч. — І кім зроблена: не прафесіяналам, а швачкай.

А яшчэ спадабаліся яму скульптуры Рымшы, асабліва праект помніка лётчыкам Дарусу і Гірэнасу, якія перад вайной пераляцелі Атлантыку, але загінулі ў аварыі над прускім ці літоўскім лесам. Таму ўся скульптурная група нібы вырастала з лясной гушчэчы.

Паколькі музей вітража (музея чарцей тады, здаецца, яшчэ не было) аказаўся на рамонце, Караткевіч запрасіўся ехаць назад, аднак абачлівая Ванда Ёнаўна прымусіла, каб ён зайшоў у паліклініку і даўся зрабіць «самую маленькую ў свеце аперацыю». Хірургічнае ўмяшанне пайшло на карысць, і па дарозе назад Валодзя ўжо сыпаў анекдотамі і нават пахваліў (а з раніцы лаяў) сучасную архітэктуру Электрэнай.

У абодва прыезды Караткевіч любіў хадзіць у маленькую кавярню па вуліцы Татору (цяпер Палецкіса), дзе за буфетам стаяла («пры ўсіх уладах») магутная жанчына родам з-пад Мсціслава. Калі яна злавалася, вока ў яе мружылася ў

нервовым ціку. Казалі, што ў выпадку чаго яна не выклікала міліцыю, а сама хапала дэбашыра за шкірку і выкідвала за дзверы. Валодзю, які галантна цалаваў ёй ручкі і па-зямляцку называў «мамусяй», яна паважала і магла нават даць «на борт крупніку». У доўг, да зарплаты ці ганарару, бралі і іншыя — пісьменнікі, акцёры. Потым, па неасцярожнасці Караткевіча, кавярню прыкрылі: ён, захапіўшыся нейкім сюжэтам, расказаў пра норавы, якія там пануюць, аднаму высокапастаўленаму літоўцу, а той рашыў: хопіць!

Праз два дзесяцігоддзі рысы вільнюскай «мамусі» я пабачыў у шынкарцы з караткевічаўскай драмы «Маці ўрагану».

Ці не апошні раз мы пабывалі разам з Караткевічам у Вільнюсе ў жніўні таго ж 1966 года. Рэжысёр Юрый Цвяткоў тады здымаў па яго сцэнарыю дакументальны фільм «Памяць» — пра помнікі архітэктуры. У Гудагай, дзе я тады адпачываў, уся кінагрупа прыехала «рафікам». Спачатку я павёз яе ў Варняны, паказаў ансамбль XVIII стагоддзя. Валодзю захапіла вежа, узведзеная невядома дзеля чаго на востраве пасярод ставоў. Яна здалася яму маленькім паўтарэннем Камянецкага стаўпа. І сцэнарыст запатрабаваў, каб вежу дадаткова ўвесці ў фільм, ганяў галінай буслоў, каб яны трапілі ў кадр і «прыўкрасілі» яго. Потым быў касцёл аўгустынаў у Міхалішках, упрыгожаны скульптурамі знакамітага італьянца Перці — таго самага, што абяссмерціў сабор святых Пятра і Паўла ў Вільнюсе. Уражаны Караткевіч, перафразаваўшы назву аповесці Івана Шамякіна, раз-пораз усклікаў:

— Ах, Міхалішкі, Міхалішкі!

Заехалі мы і да дубовага крыжа, што стаяў на старым гасцінцы ля былога маёнтачка Анелін. Мясцовая легенда (расказваў яе стары «баечнік» з Палушаў Грыва) сведчыла, што сюды, да сваёй Марылькі, няшлюбнай дачкі сялянкі і паніча, прыязджаў «правадыр» паўстанцаў 1863 года. І крыж быў асвечаны ў яго прысутнасці. Паглядзеўшы на прыступкі, што засталіся ад анялінскага дома і ўжо нікуды не вялі, на старое гумно, высокія дрэвы над берагам Лошы

і густы шыпшыннік («здзічэлыя ружы»), Караткевіч узважыў усе акалічнасці і прыйшоў да вываду:

— Ну, вядома, тут быў ён, Каліноўскі! Бо хто ж яшчэ? — і папрасіў Цвяткова дадаткова зняць крыж для фільма (не памятаю, ці засталіся гэтыя кадры ў стужцы).

Па дарозе з Аняліна ў Гудагай Валодзя стаў пераконваць мяне:

— Давай пра ўсё гэта напішам па аповесці. Паглядзім, што выйдзе.

— Але ж я не пішу прозу. Толькі навуковае, крытыку. Не атрымаецца!

— Атрымаецца! І ведаеш, чаму? Ты любіш разыгрываць людзей. Бывае, і не вельмі дасціпна... Памятаеш, як званіў Барадуліну ад імя польскага перакладчыка Антоняга Ольхі, як Рыгор бегаў па гасцініцах, шукаючы яго?! А ведаеш, чаму? Таму, што не зганяеш ахвоту, разыгрываючы сваіх герояў. Даказана гісторыяй...

— Не ведаю. Няма часу: планавая тэма, свае і чужыя «хвасты»...

— Кідай усю непатрэбшчыну і пішы! Зашыйся сюды. Кажу табе! Потым за локці сябе будзеш кусаць, што ўпусціў час.

— Як быццам ты яго мала марнуеш...

У той дзень мы нават крыху пасварыліся. Але Караткевіч усё ж угаварыў мяне паехаць разам у Вільнюс, паказаць усім будынкі, узведзеныя беларускімі дойлідамі. Хаця Цвяткоў рашуча пратэставаў, што на ўсё гэта не хопіць аніякага метражу, але сцэнарыст настойваў:

— Інакш кіну вас, і рабіце ўсё адны, калі вы такія разумненькія...

Па дарозе паглядзелі руіны Медніцкага замка («не раўня нашым — дагледжаны»), заехалі ў Барэйкаўшчыну, дзе жыў Сыракомля, пашукалі Свіраны, у якіх нарадзіўся Багушэвіч. У Вільнюсе гасцініцы не аказалася (тут Цвяткоў вінаваціў Караткевіча), і мы, зноў пасварыўшыся, скіраваліся, хто куды. Цвяткоў з жонкай, аператаршай і шаферам пры-

строіўся да беларускай кінагрупы, што здымала «Усходні калідор». А мы аддаліся пад апеку Генадзю Кісялёву.

Назаўтра, калі ўсе сустрэліся каля гатычнага касцёла святой Ганны, узведзенага рукамі гервяцкіх мужыкоў (Напалеон нібыта хацеў перанесці гэтае цуда архітэктуры на далоні ў Парыж), гуморы ва ўсіх былі яшчэ дрэнныя, пералік узаемных крыўдаў узрастаў. Дастаткова было невялікай іскры, каб з яе ўзгарэлася полымя, і такая іскра знайшлася. Караткевіч спытаў у прысутных:

— А ведаеце, панове, чаму старыя муры так доўга стаяць?

— Не.

— Тады слухайце. Калі будавалі мінарэты ў Сярэдняй Азіі, то раствор замешвалі на крыві палонных. Секір башка і... А калі ўзводзілі Маскоўскі Крэмль, то дабаўлялі яечнага бялку. На ўсе ўладанні было накладзена нешта падобнае на харчовую развёрстку: казанцам — трыццаць тысяч яек, разанцам — дваццаць тысяч... І што вы сабе думаеце: разанцы прыслалі ўсе яйкі варанымі ўкрутую.

— Гэта каб зрабіць урэд царскаму ўраду, — знайшоў тлумачэнне Цвяткоў.

— Які там урэд — па дурасці! Разанцы ж... Не ведаю, чаму Цвяткоў, родам з Пскоўшчыны, апошнія словы ўспрыняў як асабістую абразу. Калі б не ўмяшанне Кісялёва, які рашуча стаў мурам паміж канфліктуючымі бакамі, іх слоўная дуэль магла б перарасці ў бойку... Караткевіч канчаткова адмовіўся ехаць з кінагрупай на Гродзеншчыну («ёсць сцэнар — то рабіце што хочаце») і прапанаваў мне з Кісялёвым тут жа пайсці да Зоські Верас:

— Падумаць толькі: жывая легенда, з самім Багдановічам сустракалася, а мы не выбралі часу, каб засведчыць ёй сваю павагу.

Але знайсці ў панарскім лесе «беларускую хатку» Зоські Верас, пабудаваную яшчэ да вайны яе мужам, аказалася не так проста. Сышлі з аўтобуса на праспекце Чырвонай Арміі, перайшлі чыгунку — і адразу апынуліся ў лясным гушчары. Сцежкі вялі ў розных кірунках. Мы выбралі адну,

другую, трэцюю — нічога не выйшла. Пазмрачнелыя, зноў выбраліся па праспект і рашылі («з гора») наведаць сяброў Генадзя Кісялёва. Караткевіч у гэтай сям'і быў добра вядомы. Нас гасцінна сустрэлі. Пачалося чытанне вершаў. А там — і застолле. І тут нечакана ў дзверы зазванілі. На парозе з'явіўся хлапчук і радасна абвясціў: — А ўслед за мной і мама ідзе!

— ? — прачытаў я на твары Валодзі.

— І папа!

— ?!

— І дзядуля!

— !!

Запасы ж для пачастунку былі абмежаваны нашымі сціплымі магчымасцямі...

А вундэркінд тым часам сунуў кожнаму з нас сваю руку і казаў:

— Здрастуй, старына!

— Здароў, калі так, — у голасе Валодзі не было энтузіязму.

Неўзабаве сапраўды з'явілася сям'я рээмігранта з Ізраіля, вядомага вільнюскага інжынера Л. Паехаўшы на зямлю «абяцаную», ён ажаніўся там, у кібуцы, з камсамолкай і прывёз яе на зямлю бацькоў.

Новыя госці дружна накінуліся на ўсё тое, што стаяла на стале. Бачачы такое спусташэнне, Валодзя ўсё змрачнеў і змрачнеў. Нарэшце прамовіў да Л.:

— Ведаеце, міленькі, хутка па майму сцэнарыю павінен здымацца фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Там апрача Хрыста будуць дзейнічаць і апосталы... Дык вось, ролю аднаго з іх я мог бы прапанаваць вам!

— Цікава, якую ж?

— Ролю Іуды!

Усе мы чакалі, што прапанова скончыцца аплявухай. Але Л., не зразумеўшы абставін і падтэксту, прарэагаваў надзіва спакойна:

— А вы ведаеце, я змог бы! Тады... Тады паедземце ўсе да мяне!

Валодзя змяніў гнеў па літасць. І мы, цудам уціснуўшыся ў таксі, паехалі да Л. на Антакальніс. І пад каву з меднага егіпецкага кафейніка пачалася дужа цікавая гаворка пра традыцыі розных народаў, агульнасць чалавечай культуры.

— Зямля і так маленькая, а мы будзем раз'ядаць яе сваімі сваркамі, — Валодзя яўна паціхамірнеў. — Трэба знаходзіць тое, што яднае людзей, а не наадварот. Бо ў кожным народзе ёсць і благое, і добрае. У нас, беларусаў, — згубная, так бы мовіць, флегматычнасць. Ведаеце анекдатычную гісторыю? У мужыка разам з ураджаем згарэла гумно. Ляснуў увесь гадавы запас неабмалочанага збожжа. Як сям'ю пракарміць — аднаму пану богу вядома. І тут да мужыка прыходзіць такое ма-аленькае суцяшэнне: «Але ж затое колькі мышэй ляснула!» Беларусы ўсе ў гэтым анекдоце... Ну, а ў вас — празмерная, так бы мовіць, дзелавітасць, гешэфтнасць. Аднак жа гэта не перашкаджае нам разам сядзець ды піць каву. У вас тут, у Вільні, дзівосная агульнасць. Учора выпадкам на вуліцы чуў фразу: пачаў чалавек па-літоўску, увярнуў польскае, беларускае і яўрэйскае слоўцы, а скончыў па-руску.

У той вечар Караткевіч здзівіў усіх нас здольнасцю адчуваць сэнс зусім незразумелай мовы. Паміж сабой гаспадары гаварылі па-арамойску. Аднак па інтанацыі, жэстах, міміцы твараў Валодзя ўгадваў, што было сказана. З цікавасцю разглядаў кнігі, надрукаваныя нязвычнымі літарамі — на ідыш. Як аўтара сцэнарыя фільма, у якім можна сыграць ролю Іуды, Караткевіча паклалі на раскладушцы. А мяне, як менш перспектыўнага госця, — на падлозе, побач з ім. Дзесьці ў шэсць гадзін раніцы перад намі паўстаў вундэркінд і пачаў цягаць нас за «вухі»:

— Эй, ты, старына, уставай, мне ў дзіцячы садзік пара!

Выйшлі мы на вуліцу, да тралейбуснага прыпынку, каб ехаць на вакзал. І тут я спытаў: — Ну як, будзеш болей прапаноўваць ролі ў сваіх фільмах?

— Дальбог, не буду. І шкадую, што з Цвятковым пасварыўся. Здольны ён хлопец. І па-беларуску пачынае гаварыць.

Караткевіч нейкі час вагаўся: вяртацца яму ў Мінск ці даганяць Цвяткова ў Гродне. Але потым рашыў, што абыдуцца там і без яго, бо асноўная частка матэрыялу ўжо адзнята. Ды сцэнарыст і не абавязаны ўвесь час ездзіць з рэжысёрам... Дарэчы, фільм «Памяць» неўзабаве выйшаў на экраны і здзівіў гледачоў: аказваецца, і ў Беларусі ёсць многа вартага дбайнай аховы — замкі і храмы, палацы і ансамблі жылых дамоў, ветракі і лямусы, корчмы і паштовыя станцыі. У часы, калі мінуўшчына перадавалася анафеме, калі ў Віцебску ўзарвалі Благавешчанне, у Магілёве — ратушу, а ў Гродне — касцёл, пабудаваны яшчэ пры Вітаўце, усё гэта ўспрымалася як смелае, ледзь не крамольнае.

Ці бываў болей Караткевіч у Вільнюсе — не памятаю (здаецца, ездзіў туды яшчэ ў 1967 годзе). Але заўсёды з вялікім сентыментам успамінаў гэты горад, з нязменнай павагай ставіўся да самабытнай літоўскай культуры, ахвотна пісаў артыкулы і даваў інтэрв'ю для літоўскага друку (ці не апошняе было для часопіса «Културос барай»).

Сваю абазнанасць з гісторыяй літоўскай літаратуры ён бліскуча прадэманстраваў у час сустрэч з Онай Главацкене (Прыс), дачкой літоўскай пісьменніцы Марыі Ластаўскене (пад псеўданімам Лаздзіну Пяледа яна выступала разам са сваёй сястрой Софіяй) і беларускага гісторыка Вацлава Ластоўскага. У сярэдзіне шасцідзясятых гадоў мы з Валодзем некалькі разоў пабывалі на яе мінскай кватэры (у доме па Ленінскім праспекце, — дзе некалі месціўся магазін «Антыквар»). Она Вацлаваўна, нягледзячы на свае гады, была вельмі жвавая і прывабная. Казала, што яе дзед (наколькі я зразумеў, па мацярынскай лініі) быў польскі паэт, паказвала яго п'есу пра паўстанне 1863 года (ці не гэта прывяло сюды ў першы раз Валодзю?). У Савецкім Саюзе яна з часоў першай сусветнай вайны — у адрозненне ад малодшай сястры, якая жыла ў Каўнасе (яна ж «пусціла па свету жмудскую бібліятэку» бацькі, якога бацькам не лічыла).

Она Главацкене ўспамінала нам, хоць і цьмяна помнячы, пра «нашаніўскую» пару, калі ў Вільні, па вуліцы

Завальнай, на кватэры Ластоўскіх бывалі Янка Купала, Людас Гіра, мастак Жмуйдзінавічус. Звычайна ў сутарэнні, дзе месціўся склад беларускай кнігарні, пілі гарбату з абаранкамі, елі селядцы з бульбай, абрэзкі таннай каўбасы. Дзецям куплялі цукеркі. Па словах Оны Вацлаваўны, Янка Купала і яе бацька дужа паважалі эрудыта Івана Луцкевіча, хоць і папракалі яго за тое, што ён прадаў музейную жырандолю, каб фінансава падтрымаць «Нашу ніву».

Она Главацкене ў снежні 1940 года ўдзельнічала ва ўрачыстасцях, прысвечаных 35-годдзю творчай працы Янкі Купалы. З савецкага ўжо Вільнюса ў Мінск тады прыехалі Пятрас Цвірка і Антанас Венцлава. Першы быў вельмі вясёлы і непасрэдны, нейкую высокую госцю называў «мандалінай балалаеўнай», чым выклікаў незадавальненне скаванага («штыўнага») Венцлавы. Беларускія і літоўскія пісьменнікі дамовіліся тады ўзнаўляць кантакты, аслабленыя ў часы, калі ў Літве панавала буржуазная ўлада, і спачатку ўсё ішло добра: за год Купала двойчы пабываў у Вільнюсе і Каўнасе. Аднак з яго смерцю абарваліся многія жывыя ніткі. І нікому асабліва не баліць, жалілася гаспадыня, каб іх снаваць нанава.

— Вашы творы, Уладзімір Сямёнавіч, мне вельмі падабаюцца, — сказала Она Вацлаваўна на развітанне ў другі ці трэці наш прыход. — Абяцаю што-небудзь перакласці на літоўскую мову. Ну хаця б «Каласы...», якія, чула я, вы заканчваеце.

Аднак Она Главацкене пачала хварэць, праз пару гадоў памерла, так і не здзейсніўшы многія свае задумы (у тым ліку і напісаць успаміны — «у піку Мядзёлцы»). Засталіся ад яе некалькі перакладаў з літоўскай на беларускую мову, зробленых у сааўтарстве, ды добрая памяць.

Але пара вярнуцца да рамана «Каласы пад сярпом тваім». Закончыўшы першую яго кнігу, Уладзімір Караткевіч аднёс яе ў «Полымя», дзе, насцярожаныя герцовічаўскімі адмоўнымі ацэнкамі папярэдніх яго твораў, не дужа спяшаліся друкаваць. Між тым аўтар чытаў урыўкі з рамана сяб-

рам — у аспіранцкім пакоі Арсена Ліса, на кватэры ў супрацоўніц Інстытута літаратуры Валянціны Гапавай і Ірыны Крэнь. Патрыятычныя маналогі і дыялогі Алеся Загорскага, галоўнага героя, узбуджалі слухачоў, спараджалі розныя асацыяцыі з сучаснасцю. Нехта прапанаваў зрабіць копіі і пусціць іх па руках, але Караткевіч быў супраць усялякай «нелегальшчыны»:

— Вялікую і святую справу трэба рабіць з адкрытым забралам.

Нарэшце ў другім — шостым нумарах часопіса «Полымя» за 1965 год раман пабачыў свет. На «сінкліцe» сяброў (рэй вёў Рыгор Барадулін) было вырашана, што я зноў напішу рэцэнзію — толькі як мага дыпламатычней, са спасылкамі на гісторыкаў («каб выбіць падрыхтаваныя козыры ў Герцовіча і іжэ з ім»). На гэты раз свой водгук я даў пачытаць Караткевічу, і ён, выкрасліўшы некалькі гучных эпітэтаў, блаславіў опус у друк. Рэцэнзія з'явілася даволі хутка, 6 жніўня таго ж года, у газеце «Літаратура і мастацтва» пад назвай «Праўда мастацкая і праўда гісторыі»:

«Стагоддзе аддзяляе нас ад гераічнага і шматпакутнага паўстання 1863 г., калі лепшыя сыны беларускай зямлі ўзняліся на барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне супраць царскага самаўладства і прыгонніцтва. Сто год у народзе жыве памяць аб палымяным дэмакраце Кастусі Каліноўскім і яго баявых паплечніках. Іх подзвігі неаднойчы натхнялі нашых паэтаў, кампазітараў, мастакоў. Аднак за стагоддзе так і не была створана шырокая мастацкая панарама падзей 1863 г. Вось чаму беларускі чытач з такой нецярплівасцю чакаў, калі ж урэшце «Полымя» выканае свае абяцанні і пачне друкаваць раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», прысвечаны легендарнаму паўстанню. Якой будзе яна, сустрэча з народным трыбунам Кастусём? Ці ўдасца аўтару паказаць усю веліч, складанасць, супярэчлівасць і трагізм паўстання? Урэшце, ці будзе мастацкая праўда ў рамане адпавядаць праўдзе гістарычнай?

І вось першая кніга рамана «Каласы пад сярпом тваім» убачыла свет (Полымя. № 2–6). Яна не можа даць поўнага адказу на пастаўленыя вышэй пытанні, бо аўтар яшчэ не давёў апавяданне да 1863 года. У першай кнізе гаворка пераважна ідзе пра падрыхтоўку паўстання, пра тую рэвалюцыйную сітуацыю, якая ўзнікла ў беларускай вёсцы напярэдадні і пасля адмены прыгоннага права. Думкамі аб паўстанні, прадчуваннем яго жыве і галоўны герой рамана Алесь Загорскі, і яго верныя сябры, якім «немагчыма бачыць рабоў і паноў, немагчыма напрактыкоўвацца ў цярпенні, бачыць, як другія надасканальваюцца ў ліслівасці». Алесь адчувае: «Бунт ідзе... Ідзе паўстанне... Ідзе рэвалюцыя, выбух шалёнага гневу і ярасці. Няўмольны пажар ад Гродні да Дняпра. Яго не можа не быць, такое зрабілі з людзьмі... Ідзе воля да майго народа і ўсіх народаў...» Першая кніга рамана — гэта апавяданне аб тым, як кроплі народнага гора паступова зліваліся, каб потым стаць магутнай ракой народнага гневу і помсты.

«Каласы пад сярпом тваім» пачынаюцца паэтычным апісаннем грушы, якая апошні год буяна цвіла на крутым беразе Дняпра — наступная повень павінна была кінуць яе галавой у хвалі. І гэтая груша ўспрымаецца як алегорыя, як сімвал усяго таго лепшага, што павінна было загінуць у хвалях паўстання. Узнімаючыся на барацьбу, паўстанцы не мелі амаль ніякіх шанцаў на перамогу — занадта няроўныя былі сілы. З аднаго боку — жменька такіх, як Алесь Загорскі, «блудных сыноў» свайго класа, якія шчыра хацелі заняволенаму селяніну дабра, але не змаглі, за рэдкімі выключэннямі, узняць сялян на барацьбу, жменька шляхецкіх рэвалюцыянераў, якія ў пераважнай большасці, як і дзекабрысты, былі ўсё ж далёкія ад народа. З другога боку — магутная махіна царскага самаўладства. Сіле царскіх штыкоў і гармат патрыёты маглі супрацьпаставіць толькі косы і паляўнічыя стрэльбы.

Разрозненае, дрэнна арганізаванае і заўчаснае паўстанне закончылася той змрочнай мураўёўскай ноччу, якая запанавала ў Беларусі з 1864 года. Гэтая ноч была такой бес-

прасветнай, а ахвяры такімі значнымі і беззваротнымі, што скептыкі пачалі лічыць паўстанне непатрэбным, рамантычным шаленствам. Скептычныя галасы раздаваліся і напярэдадні 1863 года.

«Мы ўзгубім усё прыдбанае з такой цяжкасцю», — перасцерагае Алеся Мсціслаў. І ўсё ж слушнасць была на баку Загорскага, які адказвае свайму сябру: «А зброю браць усё адно давядзецца... Зразумей, трэба... У рабстве гіне дух».

Так, паўстанне было неабходнасцю. Дзякуючы паўстанню ў Беларусі, Літве, Польшчы сяляне атрымалі зямлю куды на лягчэйшых умовах, чым у Расіі. Дзякуючы паўстанню тут была вымецена не адна куча феадальнага смецця, якое стрымлівала развіццё краю па капіталістычнаму шляху. Думка аб гістарычнай неабходнасці паўстання выказана, як мне здаецца, ужо ў самім загалоўку рамана, вельмі ёмістым і метафарычным. Падзеі 1863 года — гэта велічнае і трагічнае жніво, дзе серп гісторыі жне дзеля таго, каб наступныя пакаленні маглі правесці новы пасеў.

Хаця першая кніга «Каласоў пад сярпом тваім» завяршаецца толькі падзеямі 1861 года — сялянскай рэформай, расстрэлам маніфестантаў у Варшаве, — аўтар дакладна, у адпаведнасці з гістарычнай праўдай, вызначыў і прычыны, якія абумовілі паўстанне 1863 года і яго рухаючыя сілы. А гэта — нялёгкая справа. Варта прыгадаць, што аб характары паўстання 1863 года вядуцца даўнія спрэчкі. Раней царскія гістарыёграфы сцвярджалі, што ў 1863 годзе «бунтавалі» толькі польскія паны, беларускае ж сялянства заставалася верным «добраму цару-бацюшку». Уласна кажучы, такіх жа пазіцый прытрымліваліся і польскія буржуазныя даследчыкі. Яны характарызавалі рух 1863 года ў Беларусі выключна як нацыянальна-вызваленчы, шляхецкі рух. Потым, у гады культу асобы, некаторыя вульгарныя сацыёлагі кінуліся ў другую крайнасць. Яны абвясцілі паўстанне 1863 года выключна сацыяльным паўстаннем беларускіх сялян. З гістарычных даследаванняў такі пункт гледжання пераваандраваў у некаторыя літаратуразнаўчыя працы і мастацкія творы.

Аднак, як гэта часта бывае ў спрэчках, ісціна была недзе пасярэдзіне. Факты сведчаць, што ў 1863 годзе беларускае сялянства так і не змагло ўзняцца на рашучае выступленне супраць самаўладства і прыгонніцтва. Больш таго, уведзеныя ў зман дэмагагічнай прапагандай сяляне часам самі выдавалі паўстанцаў у рукі ўлад. Адзінае, на што была здольная непісьменная і неарганізаваная беларуская вёска з яе верай у «добрага царка», — гэта стыхійнае выступленне. Гэтая абмежаванасць сялянскага руху добра паказана ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». Адзін з герояў рамана, стыхійны бунтар Корчак, сам разумее, што яму «не ўзняць грамаду» на вялікую справу, і тым не менш ён вядзе людзей у Гарыпяцічы, каб здабыць схаваную нібы ў царкве «сапраўдную царскую волю». З іроніяй і нават нянавісцю паглядае Корчак на князя Алеся Загорскага, не разумеючы, што той шчыра жадае дабра грамадзе і збіраецца павесці яе ў бой.

Паўстанне 1863 года ў Беларусі і Літве было вельмі складанае і супярэчлівае. Гэта пацвярджаюць і апошнія працы гісторыкаў А. Смірнова, М. Міско, Г. Кісялёва, А. Касцюшкі, В. Кардовіча, С. Кяневіча, П. Ясеніцы і інш. Яно мела адначасова і сацыяльны, і нацыянальна-вызваленчы характар. Яно разгортвалася ў цеснай сувязі (і ў гэтым — яго сіла, а не слабасць, як сцвярджалася раней) з польскім шляхецкім рухам, які, па вызначэнні У. І. Леніна, меў гіганцкае значэнне «з пункту гледжання дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, не толькі ўсеславянскай, але і ўсееўрапейскай». На беларуска-літоўскіх землях паўстанне вызначалася большай паслядоўнасцю і бескампраміснасцю, чым на польскіх. Шляхецкі вызваленчы рух дапаўняўся тут сялянскімі выступленнямі. Абодва рэвалюцыйныя патокі тут перакрыжоўваліся, але рэдка калі спалучаліся, — асобна рыхтуе шляхецкую «змову» адзін з герояў рамана Яраслаў Раўбіч і асобна збіраюцца лясныя людзі» вакол сялянскага заступніка Корчака. І толькі такім дальнабачным кіраўнікам паўстання, як К. Каліноўскі, удавалася аб'ядноўваць дзеля агульнай мэты абедзве рэвалюцыйныя сілы. Будзем спадзявацца, што ў другой кнізе рамана гэта ўдасца зрабіць

і Алесю Загорскаму, які, па выбару нелегальнага цэнтра, павінен стаць камісарам атрадаў у ніжнім Падняпроўі.

Князь Алесь Загорскі выбіраецца адным з кіраўнікоў будучага паўстання ў Беларусі далёка невыпадкова. Гэта — адзін з прадстаўнікоў той «масы дваранства», звязанай з польскім вызваленчым рухам, пра якую У. І. Ленін пісаў, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя яна з'яўлялася рэвалюцыйнай. Алесь выйшаў якраз з той мясцовай шляхты, беларускай або апалячанай, якая была незадаволена і сабой, і ўмовамі жыцця ў «турме народаў». Гэтая шляхта разумела ўсю бязглуздасць прыгонніцтва і, наперакор афіцыйным уладам, дабівалася вызвалення сялян. Прыгадаем, з якой палымянасцю выступаюць у пэўны час за адмену прыгонніцтва прадстаўнікі ўсіх трох пакаленняў Загорскіх — стары Вежа, пан Юры і Алесь. Не чакаючы царскага маніфеста, Алесь самастойна вызваляе сваіх сялян на выгадных для іх умовах. І мы ведаем гэтаму гістарычныя паралелі: у першай палавіне XIX стагоддзя адпускалі сялян на волю ў многіх беларускіх маёнтках — напрыклад, Храптовічы ў Шчорсах, Манюшкі ў Смілавічах. Як сведчаць дакументы, у 1850 годзе большасць віцебскага дваранства на сваім сходзе катэгарычна выказалася за адмену прыгонніцтва. За такую ж адмену галасуе большасць удзельнікаў «зборні» магілёўскага дваранства, якая каларытна апісана ў рамане Караткевіча. Намаганні перадавой і адукаванай часткі шляхты заўсёды сустракаліся ўштыкі не толькі царскімі ўладамі, але і кансерватыўна настроенымі прыгоннікамі, якія, як Кроер у рамане, лічылі, што мужык яшчэ не дарос да волі.

Аўтар досыць пераканаўча паказвае, што ў тагачасным грамадстве і, у прыватнасці, у «шляхецкім стане» не было і не магло быць адзінства. Загорскім, Раткевічам у рамане супрацьпастаўлены Кроер, які самавольна парушае звычаёвае права і павялічвае прыгон, супрацьпастаўлены графы Хаданскія, якія здзекуюцца з сялян. І прорва, якая аддзяляе Загорскіх і Раткевічаў ад Кроераў і Хаданскіх, бесперапынна пашыраецца: першыя, пераадольваючы свае каставыя забабоны, перамагаючы ў сабе, як гэта робіць Алесь,

«панскі дух», усё больш набліжаюцца да народа, да яго патрэб, другія ж распраўляюцца з кожным праяўленнем свабодалюбства пры дапамозе штыкоў.

Алесь Загорскі належыць да той мясцовай шляхты, якая ў сярэдзіне мінулага стагоддзя пачынала ўсведамляць сваю сапраўдную нацыянальную прыналежнасць. У дзяцінстве ён выхоўваўся, у адпаведнасці са старадаўнім прыдняпроўскім звычаем, у сялянскай сям'і Кагутоў, там навучыўся «мужыцкай» гаворцы, а потым, вярнуўшыся ў палац, пасля спрэчак са старым Вежай, сустрэч з Кастусём Каліноўскім усвядоміў, што гэтая гаворка з'яўляецца мовай цэлага народа, у якога нават ёсць імя — Белая Русь. З таго часу Алесь становіцца свядомым змагаром за сваю Бацькаўшчыну, абарона якой была ў свой час абаронай дэмакратыі, усяго прагрэсіўнага. Ён пачынае даследаваць мінулае свайго народа, яго мову, пісаць на ёй вершы. Адначасова ў хаце Кагутоў, у часе дзядзькавання, Загорскі вучыўся разумець народнае жыццё, глядзець на свет вачыма сялян. Усё гэта ўплывала на фарміраванне рэвалюцыйнай свядомасці ў Алеся, які ў канцы першай кнігі горда заяўляе: «Я мужык. Я князь, але я і мужык. Магчыма, мяне тым дзядзькаваннем няшчасным зрабілі. Але я таго няшчасця нікому не аддам. У ім маё шчасце. Яно мяне вярнула да народа. Да гнанага, да аббрэханага кожным сабакам. І я цяпер з ім, што б ні здарылася».

Менавіта нарадалюбства зблізіла Загорскага з Кастусём Каліноўскім, прывяло ў нелегальную пецярбургскую арганізацыю «Агул», якая рыхтавала паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі, была цесна звязана з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі. Той Алесь Загорскі, які паўстае перад чытачом у канцы першай кнігі рамана, — гэта свядомы барацьбіт супраць прыгонніцтва і рускага самаўладства. Аднак ён ніколі не атаясамліваў, як некаторыя яго сучаснікі, рускае самаўладства з рускім народам. Знаёмства з рускай класічнай літаратурай, з «Современником» і «Колоколом», з пецярбургскай і маскоўскай грамадскасцю прывяло яго да вываду, што ёсць Расія тых, каго вешаюць, і Расія тых, хто вешае. Расія сваяка дзекабрыстаў Ісленьева і Расія жандар-

скага паручніка Мусатава. Рускія, кажа Алесь у палеміцы з польскім шавіністам Ямантам, «гэта адны з самых добрых людзей на свеце. Урад толькі ў іх дрэнны, вось што. Зменім — усё будзе хораша». Вобраз Алеся Загорскага, вачыма якога ўспрымаецца большасць падзей у рамане, з'яўляецца творчай удачай аўтара. Гэта — надзвычай цэльная і бескампрамісная натура, здольная на гераізм і самаахвяраванне ў імя агульнай справы. Сімпатыі Алеся заўсёды на баку абяздоленых. Прыгадаем хаця б, як ён, уступаючыся за скатаванага Корчака, уляпіў дзяржалам Кроеру ў «перакошаны твар». Прыгадаем, з якой высакароднасцю ён паводзіць сябе, ратуючы Чорнага Войну або старога Раўбіча, абараняючы ад Мусатава гарыпяцiцкіх сялян. Гэтая высакароднасць праяўляецца і ў яго адносінах да жанчын. Пачуцці Алеся да Майкі Раўбіч, да былой прыгоннай актрысы Гелены вызначаюцца незвычайнай цнатлівасцю, душэўнай шчодрасцю і пяшчотнасцю. І ўсё ж, гаворачы аб тым, як у рамане паказана інтымнае жыццё героя, нельга не папракнуць аўтара за некаторыя мастацкія хібы. У Алесева каханне да Гелены чытач верыць, бо яна — рэальная, зямная істота, акрэсленая індывідуальнасць. На жаль, гэтага нельга сказаць пра Майку Раўбіч. Яна хутчэй прывід, увасабленне жаночага ідэала ўвогуле, яе адметнасць, «другасць» у параўнанні з Геленай толькі дэкларуюцца (магчыма, у гэтым вінаваты зробленыя рэдакцыяй часопіса скарачэнні).

Алесь Загорскі — гэта дзіця свайго часу, свайго веку. Ён адначасова строгі рэаліст і ўзнёслы рамантык. Ён становіцца вучоным-энцыклапедыстам і адначасова застаецца летуценнікам. Ён можа да драбніц аналізаваць кожны свой учынак, кожную сваю думку і адначасова паддавацца настраёвым, падсвядомым імкненням. У душы Алеся змагаюцца рацыянальны і эмацыянальны пачаткі: ён можа марыць і сніць пра белых, як снег, коней з доўгімі грывамі (любасць да коней — у крыві Загорскіх) і адначасова цвяроза разлічваць, якую выгаду прынясе яму новая цукраварня. І гэты «гаспадарскі розум» героя не павінен нас здзіўляць і шакіраваць. Па сваёй накіраванасці паўстанне 1863

года было буржуазна-дэмакратычным, і Алесь Загорскі, яго ўдзельнік, змагаецца з прыгонніцтвам не толькі таму, што яно супярэчыць яго перакананням, але і таму, што яно стрымлівае развіццё краю па капіталістычным шляху, што яно стала таксама эканамічна нявыгадным. У Загорскім увасоблены як моцныя, так і слабыя бакі тагачасных шляхецкіх рэвалюцыянераў. Моцнае — падкрэсліваецца, аўтар любуецца ім, укладвае ў героя часцінку сябе. Але гэты герой не ідэалізуецца, не ставіцца на ўяўныя катурны. У ім многа такога, што было данінай часу, што складала трагедыю шляхты. Побач з Алесем Загорскім, які народжаны творчай фантазіяй аўтара (мы не ведаем, меў Алесь свайго прататыпа ці не, ды гэта не так і важна; важна, што час якраз нараджаў такіх, як ён), побач са старым вальнадумцам Вежай, Раўбічамі, Клейнай, Хаданскімі, Кагутамі, Корчакам у рамане дзейнічаюць і гістарычна рэальныя асобы — Тарас Шаўчэнка і Зыгмунт Серакоўскі, Адам Кіркор і Станіслаў Манюшка, Дунін-Марцінкевіч і Сыракомля. З дакументальнай дакладнасцю (можа, нават празмернай) апісаў аўтар літаратурны вечар пісьменнікаў, якія групаваліся вакол «Кур'ера Віленьскага», і нелегальныя сходкі рэвалюцыянераў у Пецярбургу. Як правіла, мастацкая характарыстыка рэальных асоб адпавядае той, якую дала ім гісторыя. А часам аўтар уступае і ў палеміку з гісторыкамі. Так у творчых абліччах Баршчэўскага і Дуніна-Марцінкевіча падкрэсліваюцца народныя, дэмакратычныя элементы, на якіх раней не акцэнтавалася ўвага. Мастацкая інтуіцыя падказала аўтару, што не мог Кіркор, як гэта сцвярджаюць гісторыкі, папракаць Дуніна-Марцінкевіча ў насаджэнні правінцыялізмаў — у рамане гэтыя словы ўкладзены ў вусны Ходзькі. І гэта слушна: Кіркор, які зрабіў столькі карыснага для беларускай літаратуры, не мог выступаць супраць аднаго з яе пачынальнікаў.

Сярод гістарычных асоб рамана на першы план вылучаецца фігура Кастуся Каліноўскага. Праўда, у першай кнізе ён яшчэ эпізадычны персанаж. Чытач знаёміцца з Каліноўскім пераважна па пісьмах, якія той адрасуе Загорскаму, пісьмах

усхваляваных і шчырых, хаця часам і празмерна пафасных — наўрад ці выказваў бы Каліноўскі, умелы і асцярожны канспіратар, так адкрыта сваю варожасць да царызму ў пісьмах, якія маглі б трапіць у рукі пабочных асоб. І ўсё ж з асобных рысаў перад чытачом паўстае прывабны воблік прафесіянальнага рэвалюцыянера, патрыёта і грамадзяніна, валявога і адначасова чулага чалавека, які дзеліцца апошнім з галодным дзіцём. Каліноўскі разумее, што вайна — зло, што смерць — гэта страшна. І тым не менш ён без ваганняў заклікае пачаць паўстанне: «Я прапаную: народы вызваляць і сялянам даваць зямлю. Я прапаную: паноў, якія рабавалі, высяляць з краіны, пазбаўляючы майна, а цмокаў — расстрэльваць рукамі працоўных людзей». Пісьмы і прамовы Каліноўскага аказалі велізарны ўплыў на погляды і перакананні маладога Загорскага. З першай сустрэчы, з той бяскрыўднай бойкі на свіслацкім кірмашы яны сталі сябрамі на ўсё жыццё.

Раман «Каласы пад сярпом тваім», адзін з нямногіх у нас гістарычных раманаў, сведчыць аб творчай сталасці яго аўтара. Можна было б пісаць і аб уменні пісьменніка будаваць сюжэт, і аб вобразнасці і свежасці мовы рамана, крыху архаізаванай (прыгадаем хаця б гэта: «І яшчэ Аза мела ласку прывесці шчанюкоў») і адначасова вельмі сучаснай. У кожным дыялогу, у кожным параўнанні («Сумная і пяшчотная, халодная і жывая, як падснежнік»; «Чорныя, з цяжкім, як галаўны боль, адценнем») адчуваецца свой пісьменніцкі почырк, свой індывідуальны стыль, свая інтанацыя, якую не зблытаеш з іншай. Часам гэтая вартасць, праўда, абарочваецца процілеглым бокам, і героі Караткевіча (Марка, Павал) пачынаюць гаварыць так, як гаварыў бы сам аўтар.

Паколькі гаворка ўжо зайшла пра недахопы рамана, хочацца папракнуць аўтара і ў тым, што часам ён выдае жаданае за сапраўднае. Я маю на ўвазе пашырэнне беларускай мовы сярод буйной шляхты ў сярэдзіне XIX ст. Вядома, нават магнаты добра ведалі «мужыцкую» гаворку — не па-французску ж яны звярталіся да сялян. Як бачна з мему-

арных і архіўных крыніц, беларуская мова была пашырана сярод шляхты куды больш, чым прынята ў нас цяпер сцвярджаць. З'яўляліся і адзіночкі накшталт Загорскага, якія прынцыпова пачалі гаварыць па-беларуску. І ўсё ж, калі аўтар піша, што ў прыгонным тэатры старога Вежы ставілася беларуская вершаваная драма «Гарыслава і Людамір» і цытуюцца радкі з гэтай драмы, якія гучаць як сучасны верш, — я ў гэта не веру. Гісторыя не ведае беларускіх п'ес (прытым п'ес дасканалых!), якія ставіліся б прыгоннымі тэатрамі ў XIX ст.

Калі чытаеш «Каласы пад сярпом тваім», ловіш сябе на думцы, што часам аўтар гоніцца за вонкавай займальнасцю («жахі» ў двары Раўбіча, драўляная змяя, якую кідае пастушкам Чорны Война), што яго героі часам становяцца ў меладраматычную позу. Штучнай, напрыклад, здаецца сцэна, калі Алесева маці, зламаная горам арыстакратка, страляе з пісталетаў у тушу мядзведзя, ад якога загінуў яе муж. Гэта — літаратуршчына, прыгожая, эфектная, але літаратуршчына. Налёт гэтай літаратуршчыны ёсць і ў сцэнах балю, начной паездкі на санках. Тут адчуваецца і нятворчае перайманне талстоўскай «Вайны і міру»: Загорскі і Майка на нейкі час перастаюць быць самі сабой і ператвараюцца ў Андрэя Балконскага і Наташу Растову. Прынамсі, такое ўражанне склалася ў мяне.

Хаця ў рамане «Каласы пад сярпом тваім» гаворка ідзе пра падзеі стогадовай даўнасці, аўтар напісаў вельмі сучасны твор, дзе далёкае мінулае асэнсавана з пазіцый сённяшняга дня. Напісаў страсна і зацікаўлена, як гэтага і патрабуе адна са слаўных старонак гісторыі нашага народа».

Раман «Каласы пад сярпом тваім», вяршыннае (побач з раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні») дасягненне ў прозе Уладзіміра Караткевіча, этапны твор для развіцця беларускай літаратуры ўвогуле, быў з энтузіязмам успрыняты моладдзю, узняў папулярнасць аўтара ў самых розных асяроддзях — нават там, дзе па-беларуску не чыталі. Адны яго ўзносілі пад нябёсы, другія (такіх было меней, але ў іх за-

сыроджвалася духоўная ўлада) з такой жа рашучасцю яго не прымалі — маўляў, ідэаліст, рамантык, адарваны ад жыцця містыфікатар... Нейтральных я не памятаю. Нейтральных людзей у акружэнні Караткевіча не было ўвогуле — яго або любілі, прымаючы з усімі недахопамі, або ненавідзелі.

Многа новых сяброў знайшоў Караткевіч на Далёкім Усходзе, куды ён нечакана трапіў на ваенныя зборы ў жніўні — верасні 1965 года (маю рэцэнзію на «Каласы...» пераслалі яму ўжо ва Уладзівасток). А было яно так. Неяк сабраліся вечарам у Караткевіча Рыгор Барадулін і Генадзь Кляўко і рашылі дзеля жарту пазваніць пісьменніку Мікалаю Аляксееву, які займаўся ваенна-шэфскімі справамі, і пачалі жаліцца, што ён іх забыў, што яны, прагнучы прыгод, хацелі б куды паехаць — хоць на Чукотку, хоць на Камчатку. Той, не дужа ўнікнуўшы ў сітуацыю, пахваліў іх за такое імкненне і абяцаў што-небудзь прыдумаць. А праз месяц, калі пра званок усе забылі, нечакана прыйшлі павесткі на зборы ў «Боевую вахту», штодзённую газету Ціхаакіянскага флоту. Барадулін і Кляўко, будучы людзьмі жанатымі, крыху прызадумаліся, пачалі шкадаваць, што патрывожылі Аляксеева. А Караткевіч, наадварот, узрадаваўся:

— Што вы, хлопцы! За казённы кошт паглядзець такі кавалак краіны! Туды палецімо самалётам, а назад ужо абавязкова будзем ехаць цягніком. Каб ведаць, што такое Сібір.

З Далёкага Усходу Валодзя прыслаў мне тры лісты. Першы з іх напісаны на рэдакцыйным бланку «Боевой вахты» і датаваны 18 жніўня:

*«Дарагі Адам!*

Даслалі мне твой артыкул. Прачытаў. Выдатна. Думаю, і надалей з тымі «Каласамі» ўсё абыдзецца. Хацелася б гэтага ад усёй душы.

Работу па рэдагаванні канчаю. Сёе-тое скараціў, сёе-тое дапісаў. Пасля сяду за трэці варыянт «Хрыста» і ўсё разам дашлю ў Мінск.

Вось ужо ідзе трэці тыдзень маёй службы. Акрамя сваіх спраў, нічога путнага не зрабіў. Для газеты я яшчэ, пакуль тое, тэра інкогніта. Хіба што здаў пераклад «Здратаваных магіл» у літаратурную старонку. Пераклаў адзін такі мясцовы паэта. Кепскавата пераклаў, ну ды ладна.

Пакуль што тут глухі туман і морась. Імжыць і імжыць. Варта кінуць на тры дні туфлі, як яны зацвітаюць. Прасціны прасыхаюць толькі да раніцы — клімат аж вельмі спрыяльны, асабліва для сухотных. Але днямі абяцаюць мора сонца: пачнецца залатая прыморская восень. Вось тады мы ўжо дамо раскрутку. Былі ў сакратара краёвага, Чарнышова (той раней быў у нас, на Беларусі), і ён паабяцаў нам даць на тыдзень машыну, каб паездзілі па краі, пазнаёміліся. Ну і на флоце, на караблях пабываем, паплаваем.

Шкада, але на Курылах і Камчатцы нам, відаць, пабываць не давядзецца.

Ну добра. На пачатку кастрычніка будзем у Мінску, зноў работа, а пасля Новага года паедзем, як дамаўляліся, у Вільню, пасядзім у архівах, ды трэба выпускаць з рук хаця трэцюю частку «Каласоў».

А як у цябе? Як пачалася праца, калі пачалася? Як здароўе Мальдзісовай, і Мальдзісяняткі, і мамы? Што новага бачыў? Перадавай прывітанне ўсім як адзін, акадэмікам і акадэмам. Ужо трохі скучыў па Мінску і па ўсіх вас, братове.

У Прымор'е, вядома, трэба ехаць не на дзяржаўны кошт, каб не сядзець па рэдакцыях, а швэндацца па краі.

Прывітанне табе ад Рыгора і Генкі.

Твой сябар *Уладзімір*».

У другім лісце, датаваным 14 верасня, падрабязна расказваецца аб паездцы па Прымор'і, па Усурыйскай тайзе. Сёння ён мае асаблівую цікавасць, бо дазваляе нам меркаваць, пры якіх акалічнасцях нарадзілася задума напісаць аповесць «Чазенія» — ці не самую рамантычную ў Караткевіча:

*«Пане шаноўны Адомас!*

Адказваю Вам аж на чатыры Вашыя цыдулы: паштоўку і тры лісты. Паштоўку і ліст перасылалі мне толькі што з Рагачова, яны яшчэ з Польшчы (бач, як «судьба играет человеком, а человек играет на трубе»), а астатнія два — нядаўнія.

Ну, польскія навіны, вядома, не вызначаюцца свежасцю, хаця паштоўка на праву зойме сваё месца ў альбоме, а з ліста, як заўсёды разумнага і цікавага, толькі тое, што наведвалі Вестэрплятэ. Ты, пры нагодзе, раскажы пра гэта Брылю. Яму будзе не тое каб прыемна, а цікава…

У рэстараны на чаўне мы не плаваем. Уладзівасток не залівае. Гэта Прыханкайскую і Суйфунскую даліны залівала ўжо два разы, а людзі сядзелі на дахах, чакалі верталётаў і пілі гарэлку. І нам не давалі, так што ніякія мы не мачыляпы і не мачыморды. Гэта вы там у Мінску распусціліся, як цыганскія пугі і як яшчэ нешта, мяркуючы па выразках, а мы тут цацы, лялі і ўвогуле. І хлопцы, каб былі ўдома, то абавязкова перадалі б табе прывітанне, як творча камандзіраваныя…

Мы нядаўна ездзілі па краіне з апаратарам. Цераз Арсеньеў-Анучына, цераз перавалы, палохаючы коз, у Цецюхе. А наступнага дня, палазіўшы па сопках (там свінцовы руднік), пакаштаваўшы лімонніку, паперлі на мора, на Цецюхе-прыстань. Скалы, грозныя хвалі, прыліў, пацук, што кінуўся да мяне шукаць паратунку.

З Цецюхе цераз Капцухінскі перавал — на Кавалераўку. Там начавалі, хадзілі на раку Луд'е, я пералазіў яе з апаратурай па бервяне ільма (экзотыка!!!), а аператар купнуўся не па сваёй ахвоце, а Грыц і Генка ўвогуле не палезлі, бо рака, як вір. А за ракой скала Халаза, а пад ёй бурундукі бегаюць і лётаюць блакітныя сарокі.

Адтуль паехалі цераз Малінавы перавал, які перайшлі Венюкоў, Пржэвальскі і Арсеньеў. Глядзелі там са стромы, ля якой тракт на р. Фудзін: кінеш камень — да самай ракі коціцца. Пілі на ім ваду (і толькі). Начавалі ў Чугуеўцы. Былі ў музеі Фадзеева, на пасецы, дзе пасечнікам беларус Лось, елі мёд і пілі медавуху, абкружаныя пчоламі. Ішлі тай-

гой, пераходзілі па дрэвах рэкі, былі на баштане, а вечарам на ўлазінах.

Раніцай я агледзеў Бахайскае гарадзішча, а пасля паехалі на Спаск («штурмавыя ночы»), Усурыйск і, цераз Чортаў перавал, на нізіну. Захад такі быў трывожны — д'ябал яго ведае які.

І ўначы прыехалі ва Уладзівасток. Днямі набяру работы на 2 дні, скажу, што на чатыры, і з'езджу ў запаведнік Кедравая Падзь, сплаваю на вос. Пуцяцін, а там і дадому.

Абрыдла ўжо тут да д'ябла. Хочам вырвацца 25-га, але можа быць так, што і не вылезем. Тады 30-га.

А што з тваім страўнікам, браце? Ты сцеражыся. А то Герцовічам занадта добра будзе (чытаў бездапаможную дурасць у «Сов. Бел.»?). Я плюю, нават рэклама, але матузы могуць насцеражыцца.

Перадай Зайцаву прывітанне, і ўсім хлопцам і дзяўчатам прывітанне. Не кажу нават пра Марыю, а проста, з твайго дазволу, цалую яе. Ссумаваўся — страшэнна.

Твой *Уладзімір*».

У канцы ліста — малюнак (Караткевіч цудоўна маляваў): дзве стромкія скалы, а на вяршыні адной з іх — маленькая фігурка са стрэлкай. Унізе подпіс: «Я і рэчка Луд'е».

Трэцяе ж пасланне, датаванае 30 верасня, зусім кароткае. Напісана яно на паштоўцы з кветкаю жэньшэня:

*«Адась, дарагі!*

Трымайся, заўтра мушкецёры выязджаюць у свой набег на стольны беларускі горад. Здзічэлі без жанчын і таму небяспечныя, аж зубамі скрыгочам. Вязем табе васьмінога. Прывітанне Мальдзісісе і Мальдзісянятку. Цалуем.

Твой сябар *Уладзімір*».

Абяцанага васьмінога, аднак, я не атрымаў: «мушкецёры» з'елі яго, едучы цягніком праз Сібір. Замест яго прывезлі засушаных марскіх зорачак і пеўняў. А яшчэ — новыя вершы. А Караткевіч — падрабязны план «Чазеніі».

З 1965 года, пасля публікацыі «Каласоў...», Уладзіміра Караткевіча часта сталі запрашаць на розныя публічныя і «неафіцыйныя» вечары і сустрэчы. 27 кастрычніка па маёй ініцыятыве ў Інстытуце літаратуры адбылася першая чытацкая канферэнцыя па гэтым рамане. Прыйшлі гісторыкі, філосафы, мастакі. З Крывічоў прыехала Паўліна Мядзёлка, якая называла Валодзю сваім сынам. Хораша выступілі супраць таго, што мы сёння назвалі б нацыянальным нігілізмам, гісторык Міхаіл Біч і стары культурны дзеяч, з пецярбургскай «закваскай», Язэп Сушынскі. Яны гаварылі, што беларусы як нацыя яшчэ не пазналі сябе. На іх словы Караткевіч парыраваў: гэта мы не пазналі свой народ, пакутліва ідзем да яго. Былі і незадаволеныя, насцярожаныя галасы. А філосаф Я. прама назвала ўсё абмеркаванне «гадзючнікам».

19 лістапада 1966 года разам з іншымі пісьменнікамі маладзейшага пакалення — Юркам Голубам, Алесем Разанавым, Яўгеніяй Янішчыц — Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна запрасілі да сябе студэнты Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута. Сцены былі ўпрыгожаны вытрымкамі з Валодзевых вершаў, сімвалічнымі малюнкамі. На сцэне сядзеў «ганаровы прэзідыум»: Рыгор Шырма, Язэп Сушынскі, маці Караткевіча Надзея Васільеўна. У першым аддзяленні студэнты чыталі вершы Жылкі, Родзевіча, Барадуліна, Зуёнка, але найбольш Караткевіча (запомнілася «Трызненне мужыцкага Брэйгеля» ў выкананні Сашы Лабанка). Другое аддзяленне пачалося з майго ўступнага слова, дзе я асцярожна, спасылаючыся на класікаў, апраўдваў цікавасць да мінулага, а значыць, і з’яўленне «Каласоў...». Валодзя чытаў больш «змрочнае». Каб разрадзіць атмасферу, Рыгор Барадулін (пачаў ён з сардэчнага звароту да «ганаровага прэзідыума») стаў згадваць дасціпныя вершы, напісаныя ў час мінулагодняй паездкі на Далёкі Усход (памятаецца, слухачак шакіравала фраза: «Глядзяць зялёнымі вачыма, як незанятыя таксі»).

З вечара ўсе разыходзіліся з прыўзнятым настроем, нібы са свята.

— Аказваецца, ёсць у нас моладзь! — радаваўся Караткевіч. Пасля вечара ён спяшаўся на вакзал, каб сустрэць акцёра Льва Дурава, выканаўцу галоўнай ролі ў фільме «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». — Значыць, стары, варта нам жыць і варта пісаць.

Аднак такія вечары тады здараліся не часта. Ды і арганізатараў іх потым чакалі розныя спагнанні. Таму ў тыя, застойныя, часы літаратурнае жыццё ў многім засяроджвалася на прыватных кватэрах — у Караткевіча, Барадуліна, Гапавай, Крэнь, у інтэрнацкіх пакойчыках Ліса, Прашковіча. Нярэдка збіраліся ў нас. Карыстаючыся гасціннасцю Валодзі, у яго часта адзначалі дні нараджэння сябры і проста знаёмыя. Так на пачатку 1968 года тэатразнавец Сцяпан Міско, чалавек здольны, але беспардонны, справіў у яго свае «халасцяцкія імяніны». На іх выпадкова прысутнічала і Ларыса Антонаўна Геніюш, якой Караткевіч рэдагаваў паэтычны зборнік «Невадам з Нёмана». Падпіўшы, Міско пачаў кідацца фразамі накшталт:

— Ты добрая дзеўка, Ларыса!

Але гэта не дужа бянтэжыла Ларысу Антонаўну. Куды больш трывожыў яе багемны, «ясенінскі» стыль жыцця, якому паддаўся тады Валодзя. Абараняючыся, ён казаў, што вось няма належнага парадку, належнага настрою...

— Для мяне не існуе слова «няма»! — перапыніла гаспадара паэтэса. — Для мяне існуе слова «будзе»! Такая ж вера павінна быць і ў цябе, Валодзечка.

Ларысу Антонаўну горача падтрымала Надзея Васільеўна. Ёй таксама не падабаліся паводзіны сына, але пратэст яе быў больш інтэлігентна-пасіўны. Адчувалася, што яна прытамілася ў сваім ушчуванні.

Неўзабаве, ужо ў новай Караткевічавай кватэры па вуліцы Веры Харужай, наладзіў свой дзень нараджэння Сяргей Панізнік, якога гаспадар, зважаючы на ваенныя пагоны, называў «Лермантавым беларускай паэзіі». Застолле сабралася інтэрнацыянальнае: Чэхаславакію прадстаўляў верны сябар і прапагандыст нашай літаратуры Вацлаў Жыдліцкі, Польшчу — паэт і даследчык Алесь Барскі (Баршчэўскі),

Латвію — сястра Панізніка са сваім знаёмым, якога Валодзя ахрысціў «анёлкам», Беларусь — Барадуліны, Коўтун, Янішчыц, Сіпакоў, яшчэ нехта. Чыталіся вершы. Караткевіч запяваў і хораша вёў «Ой, косю мой, косю», «Ой, расцвіла ружа», «Ад панядзелка да панядзелка», старыя рэлігійныя гімны. Сваёй непасрэднасцю ўсіх, асабліва жанчын, зачароўваў Барскі: кожнай з іх ён адразу ж гаварыў «коціку» і тут жа дадаваў: «То я ўжо паню кахаю»... Але, калі сур'ёзна, то ў той вечар завязаліся новыя творчыя кантакты, умацаваліся старыя. Толькі Вацлаў Жыдліцкі пераклаў тры кніжкі Уладзіміра Караткевіча (у тым ліку раман «Нельга забыць», які ў Чэхаславакіі выйшаў асобнай кніжкай намнога раней, чым у Беларусі).

Ну і, вядома ж, як сапраўднае свята заўсёды ўспрымаўся дзень нараджэння самога Караткевіча — 26 лістапада. Імяніннік апранаў белую кашулю. Рыхтаваліся рэдкія стравы (з дзічыны, з грыбоў) і настойкі («беларускалітоўскі крупнік»). Гасцям раздаваліся «буські», чыталіся новыя вершы. На тых днях нараджэння апрача Надзеі Васільеўны нязменна прысутнічалі Барадуліны, Грынчыкі (Люба Грынчык прыходзіла з гітарай), Адамчыкі, Прашковіч. Часам прыязджалі сваякі з Оршы — пляменніца Ляля з мужам Юркам («сапраўдным казаком»). Набіраўся цэлы стус парадыйна-гумарыстычных віншаванняў. Зачытвалася «газетка», згорнутая ў выглядзе папіруса.

Даволі часта збіраліся на кватэры ў Валянціны Ігнатаўны Гапавай, жанчыны, якая добра ведае і тонка адчувае паэзію. У добрым настроі Валодзя параўноўваў яе пакой з салонам княгіні Валконскай. Сюды прыходзілі супрацоўнікі Акадэміі навук Эльвіра Міхайлаўна і Віктар Уладзіміравіч Мартынавы, якія толькі што пераехалі з Украіны, «касмічны» Вячаслаў Кандратавіч Зайцаў, былы дацэнт Ленінградскага універсітэта, а тады даследчык беларускага Рэнесансу (а яшчэ ён пераклаў на рускую мову «Османа» І. Гундуліча), часам забягаў Сцяпан Гаўрусёў. Мартынаў іграў на фартэпіяна, Караткевіч падпяваў яму розныя арыі, заводзіў «Сядзеў дзед на пячы»,

«Истопника», «Парамоновну» (па словах Зайцава, у дзвюх апошніх песнях адбіўся лёс цэлага пакалення), маляваў дэманаў. Чыталіся вершы — свае і чужыя (Ясеніна, Цвятаевай, Еўтушэнкі, Вазнясенскага). Зайцаў пераконваў нас, цытуючы Біблію, што Хрыстос быў прышэльцам з космасу, прадстаўніком вышэйшай, чым зямная, цывілізацыі.

— Вячаслаў Кандратавіч, — пакепліваў Валодзя, — ну прызнайцеся нам па шчырасці! Вы — таксама адтуль?

Зайцаў не пярэчыў: яму падабалася выглядаць выключэннем. Былы асабіст, ён абвострана ўспрымаў многія тагачасныя з'явы і пратэставаў супраць іх, часам экстравагантна. Яго лекцыі «Космас і розум» збіралі вялікую аўдыторыю і заканчваліся «аргвывадамі» (асабліва не цярпеў іх тагачасны акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР Ц. С. Гарбуноў). Караткевіч адносіўся да Зайцава з цікаўнасцю, але многія яго ідэі не ўхваляў:

— Падумаць толькі: чалавек — вынік чыйгосьці эксперыменту, зборшчык інфармацыі для вышэйшай цывілізацыі... Хоць ты ўзвый на месяц, стаўшы ракам!

А калі Зайцаў прывёз у Мінск сваю жонку, чэхістку Наталлю Ашкназі (ўдваіх яны зладжана спявалі сербскія, македонскія, чэшскія песні), Валодзя, прыглядаючыся да яе каўказска-ўсходняга аблічча, дапытваўся:

— Прызнайцеся, Наталі, вы часам не мурсіяначка? Бо ў зямлянак такіх чорных да сінечы валасоў не бывае.

Потым, калі Вячаслава Кандратавіча за яго крайнія погляды (ён сцвярджаў, што ў Брэжнева ўсяліўся дэман, які раней знаходзіўся ў Мао, што жанчыны не павінны нараджаць, пастаўляючы ваеннаму молаху гарматнае мяса) звольнілі з работы, Караткевіч і Гапава спачувалі яму, часам падкормлівалі. Але «касмічныя» ідэі Зайцава (дарэчы, выкладзеныя ім у фільме Дзёнікена «Успаміны аб будучым») па-ранейшаму выклікалі ў іх іранічную ўсмешку.

На вечарах у Валянціны Ігнатаўны Караткевіч часта разважаў аб законах мастацкай творчасці, называў і цытаваў сваіх літаратурных куміраў.

— Верш у мяне пачынаецца з думкі, — казаў ён. — Потым узнікае фраза — з сярэдзіны, з канца. А ўсё астатняе падганяецца пад яе.

Іншы раз, адказваючы на пытанне, якому памеру верша ён аддае перавагу, Валодзя канкрэтызаваў папярэдняе выказванне:

— Дальбог, ніколі не ведаю, якім памерам пішу. Для мяне важны асноўны радок. Радок бацька ці маці. Ён цягне за сабой іншыя — спераду ці ззаду. Яны могуць быць лепшыя ці горшыя. Але пачатак, аснова — у тым, першым.

19 снежня 1966 года Караткевіч уголас перачытваў Гапавай урыўкі з «Хаджы-Мурата» Л. Талстога:

— Во, сцярвец! Што я ў параўнанні з ім?! Г... пана бога, парэзанае на талеры!

І доўга спрачаўся з Валянцінай Ігнатаўнай наконт таго, патрэбен ці не патрэбен быў нам тады Каўказ як «заплечча» на потым.

У другі прыход Караткевіч гучна захапляўся Аксакавым, яго апісаннем зімы:

— Проста і здорава! Так не напісаў бы нават Талстой!

На пачатку 1967 года Гапава разам са сваёй сяброўкай Федзюковай завялі Караткевіча на канцэрт вядомага «ўгадвальніка думак» Вольфа Месінга. Апошняму была прапанавана картачка са спісам кніг, з якога трэба было выбраць Караткевічавы творы. Месінг выдатна справіўся з гэтай задачай, толькі прыпыніўся на «Каласах...», бо Федзюкова, складаючы спіс, сама добра не ведала, ці выйшлі яны асобным выданнем. Тут жа дадаў, што мае справу з творамі таленавітага чалавека. І пагадзіўся з прапановай Валянціны Ігнатаўны, каб назаўтра прыняць Караткевіча ў гасцініцы. Гаворка ў нумары працягвалася мінут сорак. Па дарозе на выступленне ў Вязынскую школу (туды ехалі на таксі, а назад, нягледзячы на мароз, у кузаве грузавіка) Валодзя расказваў мне, што Месінг літаральна ашаламіў веданнем самых патаемных ягоных спраў (у тым ліку кіеўскіх), даў некалькі парад. У першую чаргу — пазбягаць частых застолляў, асабліва з ворагамі (уласна кажучы, дзеля такога ўнушэння і

старалася Гапава). «Угадвальнік думак» прадказаў, што пасля ўсялякіх выпрабаванняў сітуацыя яго як пісьменніка зменіцца да лепшага, прыйдзе прызнанне («але будзе ўжо позна»). Расказваў Валодзю, як ён уцёк ад фашыстаў, за што яго неўзлюбіў Сталін... Па словах Валянціны Ігнатаўны, якая чакала канца размовы на калідоры, Караткевіч выйшаў з нумара задуменны. Месінг жа выбег, нібы звар'яцелы, усклікнуў:

— Вы правільна зрабілі, што прывялі яго. Гэта наш геній!

Побач з «салонам» Валянціны Ігнатаўны Гапавай тады быў вядомы «салон» Ірыны Платонаўны Крэнь, дзе збіраліся людзі, якім балеў заняпад усяго беларускага. Муж яе, Мікола Верабей, надрукаваў якраз у «Полымі» артыкул, у якім даказаў блізкасць некаторых публікацый «Нашай нівы» да палажэнняў У. І. Леніна. Гэта выклікала адмоўную рэакцыю Л. Абэцэдарскага і іншых гісторыкаў. З'явіліся разносы ў рэспубліканскім друку. Караткевіч суцяшаў гаспадара:

— Нічога, яшчэ пагледзімо, на чыім баку будзе праўда. Прыйдуць да ўлады разумнейшыя людзі. Не можа быць, каб наша славянская зямля збяднела на моцныя галовы!

12 снежня 1966 года ў Крэнь апрача Уладзіміра Караткевіча былі стрыечная сястра Максіма Багдановіча Ганна Кіпрыянаўна, Алег Лойка, Мікола Прашковіч, літаратуразнавец Лідзія Голубева. Гаварылі дапазна аб розным. Ганна Кіпрыянаўна згадвала абстаноўку ў доме Багдановічаў («Максім рос у адзіноце, галоўная прычына — эгаізм бацькі»). Успаміналі абставіны смерці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

— Што гэта вы, даражэнькія даследчыкі, спіце ў шапку, — папракаў Валодзя супрацоўнікаў Інстытута літаратуры. — Пакуль жывуць яшчэ відавочцы таго, што здарылася летам 1942 года ў гасцініцы «Масква», сабралі б усе версіі, супаставілі, зрабілі высновы...

У той вечар Валодзя ахвотна гаварыў аб сваіх творчых справах. З рускай літаратуры найвышэй ставіў Чэхава, Льва

Талстога і Дастаеўскага. Казаў, што Някрасаву за яго верш, у якім усхваляецца Мураўёў-вешальнік, яшчэ можна дараваць, а вось Бялінскаму за яго нянавісць да Шаўчэнкі — нельга.

У тыя гады летам Караткевіч звычайна ездзіў да дзядзькі ў Рагачоў, дзе добра пісалася, падарожнічаў па Беларусі (з Брылём і Барадуліным — па іх радзімах, з групай творчай моладзі — на агітцеплаходзе па Прыпяці, да Грынчыкаў — у Бытэнь). Наняўшы аўтобус, аднойчы разам вандравалі па мясцінах Адама Міцкевіча (сам быў сведкам, як Валодзя пераплыў Свіцязь, а тыя, хто рашыў паўтарыць яго ўчынак, — не змаглі). Некалькі разоў і адзін, і з актрысай Б. Караткевіч пабываў на маёй Астравеччыне. Згуляў тут адно сялянскае вяселле (адстаў ад вясельнікаў, каб пагля́дзець у Зулове, ужо на літоўскім баку, месца, дзе нарадзіўся Пілсудскі). З ахвотай касіў сена і спрабаваў падаіць карову. Любіў хадзіць у Анелін, на месца, дзе стаяў легендарны маёнтачак, і ўсё падбіваў мяне напісаць «нешта такое». Збіраўся нават у Анеліне лакалізаваць апошнія сцэны «Каласоў...» (Марыська мелася тут пакутаваць ад таго, што ненаўмысна, з зайздрасці выдала Каліноўскага).

А аднойчы, калі мы прыехалі ў Гудагай разам сустрэць Новы год, з ім здарыўся такі анекдатычны выпадак. Назаўтра вечарам усе мы пайшлі ў клуб, каб паглядзець купалаўскіх «Прымакоў». Хтосьці з самадзейных артыстаў пазніўся, і Валодзя, стомлены чаканнем і папярэдняй бяссоннай ноччу, ціха прыдрамнуў. Перапоўненая зала гучна выказвала незадавальненне ўсёй затрымкай вядучай вечара, дачцэ гудагайскага ўчастковага міліцыянера Голубева, і яна, даведаўшыся ад маці, удзельніцы ўчарашняй сумеснай сустрэчы Новага года, аб прыездзе пісьменніка, выйшла на сцэну і гучна абвясціла:

— Таварышы! Сярод нас прысутнічае вядомы беларускі паэт Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч! Просьба на сцэну.

Зала заапладзіравала. Хтосьці штурхнуў Караткевіча: цябе! І ён з яўным незадавальненнем выйшаў уперад. Але

на сцэну не ўзышоў, а толькі прысланіўся да яе. Пачаў пакрыўджаным голасам:

— Людзі добрыя! Учора быў Новы год, сёння таксама свята. Вы стомленыя, я змораны... То якога ж яшчэ выспятка ад пана бога вам трэба?!

Нейкая развясёлая і дзябёлая жанчына, што сядзела ў першым радзе, рашыла, што чалавек такім чынам крыўляецца, смяшыць публіку. І, каб было яшчэ смяшней, падбегла да Караткевіча, схапіла яго за ногі і кульнула на сцэну. Валодзя ўзняўся і неяк безнадзейна махнуў рукой:

— Калі так, то не трэба! — і вярнуўся на сваё месца.

Праўда, у канцы вечара, каб рэабілітаваць сябе і Голубеву, усё ж прачытаў пару вершаў, у тым ліку пра зайца, што варыць піва.

Назаўтра мы пачалі фантазіраваць на тэму, які цяпер душэўны стан у той жанчыны.

— Разумееш, Валодзя, а раптам яна ўсвядоміла, якога чалавека кульнула. Ці яе разыгралі адпаведна. Пасмяяліся, што ў гісторыю ўвойдзе, пакарана будзе... І яна сёння пакутуе. Думае, канчаць жыццё самагубствам ці не...

— Што ж мне рабіць? — Караткевіч яўна не зразумеў жарту.

— Узяць паўлітэрка і пайсці да яе. Вывесці з трансу... Вунь, праз акно відаць яе дом.

І трэба ж такому здарыцца, што, ступіўшы пару крокаў на вуліцу, Валодзя сутыкнуўся з той жанчынай. Разыграная кімсьці, мусіць, участковым, яна ішла да нас «мірыцца з пісацелем», несучы з сабой сумку з прыпасамі... Расчулены Караткевіч спыніўся, пацалаваў яе ў лоб.

Увогуле Валодзя не крыўдаваў за цікавыя розыгрышы. Наадварот, лічыў, што чалавек, асабліва пісьменнік, павінен абрастаць імі («міфамі»), як карабель «ракушкамі». Не пакрыўдзіўся ён, калі даведаўся, што ніякі не інжынер трэста па азеляненні Ілля Хаданскі, а мовазнавец Арнольд Міхневіч пазваніў яму з «прэтэнзіяй»: нібыта яго, сумленнага працаўніка, вывелі як адмоўнага тыпа ў «Каласах...» («Я вашего романа не читал и читать не стану, но друзья

издеваются, поэтому требую сатисфакции»). Не крыўдаваў, калі выйшла, што не для «нявесты» Генадзя Кісялёва, а для касцёла ў Друскінінкай цягаў ён з магазіна да таксі дзевяноста метраў танных дарожак («гэта, мусіць, мне пакаранне за сцэнар «Хрыста»).

Дараваў ён мне і тады, калі я ледзь не падвёў яго «пад дурнога хату». Неяк Валодзя папрасіў мяне знайсці ў якой гістарычнай крыніцы і выпісаць яму старашляхецкае запрашэнне ў госці. Не ведаючы, што гэта для працягу «Каласоў...», я скапіраваў адзін тэкст з гумарыстычнай кнігі Антося з Лепля, выдадзенай у Беластоку, і паслаў яму ў Рагачоў (запомніліся макаранічныя фразы: «А і дужа хто будзе сабраўшысен»; «Будуць а і яблыкі ў клустасці, а і сырнікі з млекам»). Ён перапытаў у лісце: адкуль ты ўзяў такое? Я чыстасардэчна прызнаўся. У адказ атрымаў цэлае пасланне, вытрыманае ў характэрным для Караткевіча іранічназдзеклівым стылі. Для ўзору прывяду некалькі абзацаў:

«Ты што ж гэта, былы фальварковец з Расолаў, былы местачковец Астравецкі, а цяпер мешчанін Менскі, мне, князю, у мой ціхі зацішак, самоту маю гордую, у стольны град княства майго здзеклівыя лісты пішаш, га? Баніцыі не зазнаў, святы божыя святкаваць на зямлі даела?

Перадаю табе з цыдуляю той, у стылі барока пісанай, высокае сваё незадавальненне, а і не толькі за ліст, а і за тое, што выпісаў ты, пісака, з сувоя, напісанага шляхціцам Антосем з Лепля, запрашэнне на шляхецкае свята, і мне той грымзол твой, як нібыта з акта нейкага выпісаны, нахабна даслаў, і ляпу, прытым, такую ганаровую рабіў, як бы энцыкліку ці булу свентага папы нашага мне дасылаеш.

Пад карэннямі рыеш, нягледзячы ўгору. Прычын не ведаеш, і вынікі схаваныя ад вачэй тваіх. А каб я тое дзенебудзь ужыў? Якая б то ганьба княскаму гонару майму была!?!

Свае абазнаныя пагляздзелі б і сказалі: «крадзёж». Лацінцы зірнулі б і сказалі: «плагіятус вульгарыс».

То якое смеласць маеш мяне ў лаянцы і завушэнні выкрываць? Мала па грахах тваіх, галгане! Хто падбіў, хто пад-

бухторыў на гэта цябе, нешчаслівы!?! Кабеты, пэўна, бо з імі ты нарадзіўся, з імі ты жыў, з імі ў зямлю адыдзеш, а і ў чысцец — ды не, у пекла! — з імі пойдзеш.

О, будзе там табе цемра непрасвяцімая, вогнь нязгасны, скрогат зубоўны! Будзеш ты вісець там за ўсе тыя члены, што грашыў ты імі ў жыцці. За язык і за вочы, за пальцы і за іншае многае. Будзеш круціцца давеку на гаку, як вяндліна, што па сонцы яе варочаюць. Адным ты не грашыў толькі, галавою. То за галаву не павесяць цябе, абяцаю.

За тое ж, што ў замак мой Менскі шалбераў нейкіх з чарамі і гуслямі пусціў і не шкодзіў ім улезці туды і кашталяна майго вернага з невянчанай малжонкай ягонай стуль выперці, біць, мардаваць, ад якога морду сам не ведае, яка жывы будзе, за тое, што «Каласы» на «Калоссе» змяняў, — кару атрымаеш. На суллях распну, агурком салоным зарэжу!

Руку прыклаў, па проразях у дошчачцы абвёўшы, князь Рагачоўскі».

І ніжэй — лацінкай, друкаванымі літарамі: «Влодсімер».

Часам анекдатычныя сітуацыі стварала само жыццё. Караткевіч іх дапаўняў уласнай выдумкай, і ў асобных выпадках цяпер цяжка аддзяліць тое, што было ў сапраўднасці, ад таго, што пароджана містыфікацыяй. Для доказу спашлюся хаця б на такі прыклад.

Сёння шырока вядома апавяданне Уладзіміра Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі» (яно нават дало назву польскай анталогіі беларускай прозы). Асновай для аднаго з яго эпізодаў паслужыў рэальны факт: калі на «Беларусьфільме» здымалася беларуска-чэшская стужка «Пушчык едзе ў Прагу», яго галоўнага «героя», маладога мядзведзя Пуш-чыка, кінаработнікі неяк прывялі да Караткевіча, выкупалі ў ванне, а потым паклалі спаць на тахце і селі абедаць. Тады ж быў зроблены і фотаздымак: Караткевіч гуляе з мядзведзем. Гэты здымак трапіў у газету «Ніва», што выдаецца ў Польшчы, у Беластоку, на беларускай мове. І там яго ў 1965 годзе апублікавалі з прыкладна такім подпісам: «Вядомы беларускі пісьмен-

нік Уладзімір Караткевіч вельмі любіць жывёл; на гэтым здымку вы бачыце яго з уласным мядзведзем, з якім ён любіць прагульвацца...» Пасля той публікацыі не было адбою ад званкоў: а калі можна прыйсці, каб яго паглядзець, а дзе ты яго трымаеш, а чым корміш?

І вось у 1977 годзе Караткевіч быў у Польшчы. У Варшаве яго запрасілі на творчую сустрэчу, дзе той жа мядзведзь усплыў у нечаканым ракурсе. У справаздачы з сустрэчы, надрукаванай у «Ніве», сказана наступнае: «Маючы заўсёды «жартаў поўныя кішэні», як сцвярджаецца ў адным з яго вершаў, Караткевіч пачаў расказваць анекдоты, гумарыстычныя гісторыі, ствараючы вясёлы настрой сярод сваіх слухачоў. Адказваючы на пытанне аб мядзведзі, які жыў на яго кватэры, прыпомніў камічнае здарэнне. Выкупаў я яго — кажа Караткевіч — у ванне, мядзведзь выйшаў у пярэднюю, дзе ў вялікім люстры ўгледзеў свой адбітак. Мядзведзь прыглядаўся сабе хвіліну, потым грымнуў з усяе сілы лапай, і люстра рассыпалася на кавалачкі. Адгэтуль было ў мяне толькі маленечкае люстэрачка да брыцця, каб не гнявіць чатырохногага кватаранта».

...Але ж я добра памятаю, што тое люстэрка ў перадпакоі было разбіта не мядзведзем!

Або прыпамінаецца яшчэ выпадак. Калі Караткевічу ўстанавілі тэлефон, то далі яму нумар, які раней належаў намесніку дырэктара па гаспадарчай частцы Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Таму ў першыя дні бесперапынна раздаваліся тэлефонныя званкі:

— Фама Фаміч, аплачвайце заказ...

— Фама Фаміч, чакаем машыну...

Спачатку Караткевіч цярпліва тлумачыў, што адбылася памылка, што нумар перададзены іншаму абаненту. Не памагала! За нейкім сотым званком новы ўладальнік пачаў кіпець.

Урэшце аднойчы, позняй ноччу, зноў патрывожылі:

— Фама Фаміч, прыйшлі вагоны. Разгружаць?

— Так! — узравеў Караткевіч, нібы той мядзведзь. — Абавязкова разгружаць!

З таго выпадку, казаў Валодзя, нібы рукой зняло. Ніхто больш не пытаў Фаму Фаміча.

Але затое Рыгор Барадулін стаў велічаць Караткевіча не іначай як Фамой Фамічом. Потым Фама Фаміч трансфармаваўся ў Хаму Хаміча і проста ў Хаму. Але Валодзю гэта не раздражняла. У адказ ён называў сябра на латышскі лад Рыгарсам Барадулінсам. Дробныя шпількі і шпілечкі не перашкаджалі іх сапраўднай мужчынскай дружбе. Былі ва ўзаемаадносінах і суперніцтва, і зайздрасць, і спрэчкі, і дні адчужэння, і нават, казалі, ледзь не бойка. Але не прыпомню ніводнага выпадку, каб яны дайшлі да непавагі, узаемных абраз. У мяне склалася ўражанне, што яны адзін без аднаго проста не маглі існаваць. Вельмі розныя па характары і мастацкім бачанні свету (Валодзя больш рацыяналістычны, «зададзены», Рыгор больш эмацыянальны, непасрэдны), яны цудоўна сябе ўзаемна дапаўнялі. Адказваючы на вечарах на пытанні, Караткевіч нязменна высока ацэньваў творчасць «ушацкага хлапца» («Кулінінага сына»):

— У нас цяпер толькі два паэты, якія пішуць натуральна і арганічна, — Вазнясенскі і Барадулін. Яны нібы спецыяльна створаны для гэтага прыродай. Спяваюць, як птушкі на голлі! Барадулін адплачваў тым жа. Не раз памагаў ён Караткевічу і добрым словам, і слушнай парадай, і грашыма, асабліва калі Валодзю нейкі час не друкавалі.

Такая ж сардэчная дружба, нягледзячы на розніцу ў гадах, звязвала Уладзіміра Караткевіча з Янкам Брылём. У ёй, вядома, былі свае ўзлёты (калі абодва пісьменнікі жылі на адной лесвічнай пляцоўцы) і спады. Да свайго старэйшага сабрата Валодзя адносіўся часам крыху задзірліва («як малады певень»). Але Янка Брыль нязменна адказваў паблажлівасцю. Памятаецца, 27 лютага 1967 года ў Саюзе пісьменнікаў БССР быў вечар новага верша. Цікава выступалі Ю. Голуб, А. Разанаў. Валодзя ж чытаў нешта са зборніка «Дзень паэзіі». Пасля вечара разам са Сцяпанам Міско і геолагам Віктарам Лапуцем («бацькам беларускай нафты») пайшлі ў кафэ, што адчынілася ў Доме мастацтваў (з лёгкай рукі Барадуліна яго ахрысцілі «мутным вокам»).

Зусім блізка сядзелі Брыль з Карамазавым і нейкім госцем з Сібіры. Міско гучна, каб чувалася за суседнім столікам, правакаваў Караткевіча:

— Хто вышэйшы, ты ці Брыль?

Вядома, ён.

— А хто таленавіцейшы?

— Вядома, я. Каму ж пахваліць, як не самому сябе?!

На гэта Брыль:

— Самае смешнае, што і я так лічу!

У часы, калі пасля разноснай крытыкі ў Караткевіча апускаліся рукі, Брыль настойліва ўгаворваў яго не паддавацца чорнаму настрою і — пісаць, пісаць, пісаць! На гэта Валодзя агрызаўся:

— Па вашай скуры пісаць бы! Бо хто ж друкаваць будзе?!

У адказ Брыль прывёў словы Хемінгуэя:

— Пішы сумленна, а некалі цябе прызнаюць, хоць пасля смерці, што ўжо сумней.

Калі ў студзені 1980 года ў бібліятэцы АН БССР была сустрэча з Янкам Брылём, ці не найбольш пытанняў было пра яго адносіны да творчасці Караткевіча. Аўтар «Птушак і гнёздаў» адказаў, што цэніць яго вельмі высока, што гэта «самы чытабельны» беларускі аўтар («нават у Туніс з сабой бяруць»):

— Падумаць толькі: быў час, калі выдаўцам даводзілася даказваць, што «Каласы...» трэба выдаць асобнай кніжкай. І дзякуй Мележу, які тады заступіўся за раман на абмеркаванні, па сутнасці арганізаваў яго.

Па сваёй сціпласці Янка Брыль не сказаў, што ў тым, «пераломным» 1967 годзе і ён нямала прычыніўся да таго, каб «Каласы пад сярпом тваім» выйшлі асобным выданнем (у дзвюх кнігах). Яго рэдагаванне вельмі зацягнулася. Аўтару прад'яўляліся шматлікія, часам некампетэнтныя і смешныя прэтэнзіі.

У выдавецтве ад Караткевіча патрабавалі, каб ён улічыў прадузятыя заўвагі Я. Герцовіча, якія пасля часопіснай публікацыі рамана, нібы палемізуючы з маёй станоўчай рэцэн-

зіяй, выступіў з артыкулам «Лёсы чалавечыя і лёсы народныя», надрукаваным у газеце «Советская Белоруссия» 9 верасня 1965 года (яго меў на ўвазе Валодзя ў працытаваным лісце з Уладзівастока). Побач са слушнымі крытычнымі меркаваннямі (аб празмернай «даросласці» і рытарычнасці слоў і думак галоўнага героя Алеся Загорскага) там былі і шматлікія тэндэнцыйныя пасажы, на якіх ляжаў выразны адбітак вульгарнага сацыялагізму. Караткевічу інкрымінавалася, што ён рэалізаваў задуму толькі часткова, нават «на другім плане» не знайшоў месца для сацыяльных «нізоў», што ён, ідэалізуючы Загорскага, ледзь не пашырае ідэі класавага міру «паміж прыгоннікамі і прыгоннымі». «Аўтар, — гаворыцца ў артыкуле, — зноў прадэманстраваў абмежаванасць свайго гістарычнага бачання, звязаўшы адной вяровачкай буйнога зямельнага магната князя Юрыя Загорскага і прыгоннага селяніна Міхала Кагута і зрабіўшы з гэтага далёка ідучыя вывады». У апошнім абзацы сцвярджалася, што Караткевіч «паспяшаўся з публікацыяй», што яму яшчэ трэба нямала папрацаваць над раманам, «каб у ім зліліся ў адно лёсы чалавечыя і лёсы народныя, загаварыла поўным голасам сапраўдная гісторыя». Такім чынам, у артыкуле Герцовіча ставілася пад сумненне мастацкая і гістарычная вартасць «Каласоў...» увогуле. Ад раманіста патрабавалася, каб ён напісаў новы, прынцыпова іншы твор.

На артыкул Герцовіча рэагавалі па-рознаму. Адны абураліся ім, слалі пратэсты ў рэдакцыю, званілі аўтару артыкула, на што ён не раз публічна скардзіўся з трыбуны (Караткевіч не ўхваляў такіх званкоў). Мы з Барадуліным суцяшалі Валодзю, што ў кожнага Моцарта павінен быць свой Сальеры. Іншыя ж паціралі рукі ад задавальнення. Кіраўнікі выдавецтва ўспрынялі артыкул як прамое ўказанне афіцыйнага органа і паставілі перад раманістам нерэальную задачу — замест палымянскай публікацыі прынесці ім нешта дыяметральна супрацьлеглае. Усё часцей раздаваліся галасы, што ў канфліктную сітуацыю павінен умяшацца Саюз пісьменнікаў БССР. Гарачым прыхільнікам абмеркавання быў Іван Мележ.

І вось 22 лютага 1967 года адбылося сумеснае пасяджэнне сакратарыята СП БССР і секцый прозы і крытыкі. Перш чым адкрыць «баталію», Вячаслаў Адамчык і Янка Скрыган запатрабавалі, каб прадстаўнік выдавецтва, Леў Салавей, прыўзняў «забрала», выклаў прысутным усе контраргументы. І той вымушаны быў зачытаць урыўкі з выдавецкай рэцэнзіі, аўтар якой пачаў за «здравие», а скончыў за «упокой». Аддаўшы належнае таленту Караткевіча, рэцэнзент далей папракаў яго, што ён напісаў не хроніку народнага жыцця, а хроніку князёў Загорскіх. Народны заступнік Корчак дарэмна не выразаў іх. «Добрых» паноў накшталт Загорскіх не было і быць не магло, даказваў рэцэнзент. Абвяргаючы яго спрошчаныя ўяўленні пра гісторыю, Янка Брыль, Іван Мележ, Алесь Адамовіч, Іван Навуменка, Ніл Гілевіч, Генадзь Кісялёў, Алесь Асіпенка, аз грэшны, іншыя гаварылі пра тое, што, як і рускае дваранства, беларускія магнаты і шляхта бывалі розныя — і прагрэсіўныя, і «ніякія», і рэакцыйныя, што трэба пераадольваць ранейшую абмежаванасць нашай літаратуры, калі ў ёй (у Купалы, Бядулі) быў толькі «дрэнны пан». Прагучалі заклікі ўлічваць рэальную расстаноўку сіл у паўстанні 1863 года, спецыфіку тэматыкі, індывідуальнасць аўтара. Крыху скептычна выступіў Адамовіч: вось мы хораша пераконваем тут адзін аднаго, а выдавецтва ўсё роўна не выдасць раман яшчэ гадоў з пяць — пра гэта нават можна біцца аб заклад.

Узровень абмеркавання быў у цэлым вельмі высокі. Слушных аргументаў у абарону Караткевіча выказалі многа, і яны, па вобразнаму выражэнню Янкі Брыля, зваліліся на беднага Льва Салаўя нібы капа сена.

Уладзімір Караткевіч застаўся задаволены вынікамі абмеркавання. З Саюза мы пайшлі да яго дамоў. Былі Генадзь Кісялёў, які яшчэ прыязджаў з Вільнюса, мовазнавец Міхась Сыракваш (Валодзя пакепліваў над яго магутнай постаццю: «Занимает целый пляж изможденный Сырокваш»), рэдактар ашмянскай раёнкі Якаў Карабок. За сталом узнікла спрэчка, ці мелі права супрацоўнікі Дзяржаўнага музея БССР вырваць з памятнай табліцы ў жупранскім касцёле

Ашмянскага раёна партрэт Багушэвіча. Караткевіч горача даказваў, што не мелі, што гэта акт вандалізму. Мы тут жа дамовіліся, што напішам пратэст. Ліст такі (у Міністэрства культуры БССР) быў неўзабаве адпраўлены. Але партрэт не вернуты і да сёння (замест яго веруючыя ўстанавілі прыблізны заменнік).

Абмеркаванне рамана ў Саюзе пісьменнікаў, здаецца, не зрабіла на выдавецкіх работнікаў асаблівага ўражання. На рукапісе «Каласоў...» было пастаўлена столькі пытальнікаў і клічнікаў, панапісана столькі здзеклівых заўваг, што Караткевіч схапіўся за галаву:

— Гары яно ўсё гарам! Не буду я правіць ні слова! Няхай ляжыць да сканчэння свету!

Але тут умяшаўся Барадулін:

— Не рабі глупства, Хама. Твой раман патрэбны людзям цяпер! Зрабі выгляд, што сур'ёзна правіш, іначай увогуле выкінуць цябе з плана.

— Не магу, стары, — ледзь не рыдаў Валодзя. — Не магу пагадзіцца з чалавечай дурасцю.

— Дурны і ты, Валодзечка. Не лезь на дыбы з-за дробязей. Папраў нешта другараднае, замяні адзін эпітэт другім. Так, каб можна было сказаць, што ўлічана заўваг працэнтаў семдзесят. А на істотнае махні ім ручкай: маўляў тут другаразраднае глупства, ды і не стану я тут прыхарошваць розных прыгоннікаў... З імі, Хама, трэба ваяваць іхняй жа зброяй.

— Рука не ўзнімаецца!

— Тады папрасі Адася, — Рыгор кіўнуў у мой бок. — Чалавек тры гады ў рэдакцыі працаваў, розную дыпламатычную праўку рабіў.

І ў маі 1967 года мы разам заселі за стол. Скарачалі другарадныя фразы. Падкрэсленае рэдактарам слова замянялі другім. Валодзя спачатку быў змрачнаваты і спрабаваў ваяваць нават са мной, ды потым увайшоў у смак і ахвотна прыдумваў адэкватны ці нават больш трапны, але не такі «лабавы» варыянт. У многіх мясцінах работа пайшла раману яўна на карысць.

— Ты глядзі, Адасевіч, — цешыўся ён. — Можа, усё абыдзецца малой крывёю.

А каб у выдавецтве і наогул у грамадскасці склалася ўражанне, што раман сур'ёзна перарабляецца, Рыгор Барадулін прапанаваў «падкінуць» такую «мыслю» ў друк. Я ўзяўся рабіць адпаведнае інтэрв'ю з аўтарам, здаецца, першае ў яго жыцці інтэрв'ю ўвогуле. Неўзабаве, 10 ліпеня 1967 года, яно было надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» пад назвай *«Каласы з цаліны»*:

«Сярод перафразіровак вядомай прымаўкі, відаць, будзе слушнай і такая: «Пакажы мне твой рабочы стол — і я скажу, хто ты». На рабочым месцы заўжды адчуваецца адбітак індывідуальнасці чалавека.

Пісьмовы стол Уладзіміра Караткевіча — гэта стол-рамантык. Пасля кожнага чарговага падарожжа гаспадара на ім з'яўляюцца новыя і новыя дзівы: рэдкія каменьчыкі і засушаныя марскія зоркі, цагліны тысячагадовай даўнасці і ўпрыгожанні нашых продкаў. Да стала прыхінулася старадаўняя разная прасніца. Аднак галоўнае на ім — наклееены на шэрае палатно велізарны партрэт Кастуся Каліноўскага. Тут жа — каваны ў жалезе свяцільнік. Нібы агромністая кропля крыві, чырванее ў ім падфарбаваны воск. Гаспадар запальвае свяцільнік толькі раз у год — 21 сакавіка, у гадавіну гераічнай смерці таго, хто стаў самай вялікай любоўю Уладзіміра Караткевіча, яго натхненнем і героем яго твораў.

І адначасова — гэта стол-працаўнік. На ім заўсёды грудзяцца папкі з рукапісамі. За гэтым сталом былі напісаны вядомыя ўжо чытачу раманы «Каласы пад сярпом тваім» і «Нельга забыць», аповесці «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Чазенія», шматлікія вершы, рэцэнзіі, артыкулы, сцэнарыі кароткаметражных і доўгаметражных фільмаў. Сотні і сотні старонак, спісаных дробненькім, вуглаватым почыркам, які нельга зблытаць з нічыім іншым.

У дзень, калі вялася наша размова, Уладзімір Караткевіч закончыў праўку першай і другой кніг рамана «Каласы пад

сярпом тваім». Рыхтуючы рукапіс да друку ў выдавецтве «Беларусь», аўтар улічыў заўвагі рэдактара, рэцэнзентаў, чытачоў, выкрасліў многія мясціны і дапісаў новыя.

Прыемна адчуваць, што ўрэшце закончана тое, над чым працаваў амаль дванаццаць год. У параўнанні з тым варыянтам, які друкаваўся ў «Полымі», у рукапіс унесены вялікія змены. Прыйшлося пагадзіцца з некаторымі заўвагамі. Вядома, не з усімі. Сёй-той з рэцэнзентаў хацеў, каб у цэнтры рамана аб паўстанні 1863 года я паставіў не князя Алеся Загорскага і яго сяброў, а селяніна накшталт Корчака. Але ж гэта супярэчыла б гістарычнай праўдзе. З новых прац рускіх, беларускіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў — для прыкладу назаву прозвішчы Смірнова, Кісялёва, Кяневіча — бачна, што рухаючай сілай у паўстанні ў Беларусі была якраз шляхта. Не мог я згадзіцца і з тымі заўвагамі, дзе мне прапанавалася «абяліць» некаторых прыгоннікаў накшталт Кроера, зрабіць іх менш жорсткімі.

Значыць, задума «Каласоў...» з'явілася прыкладна дванаццаць гадоў назад? Калі? Пад уплывам якіх абставін?

Задума з'явілася яшчэ тады, калі я быў студэнтам Кіеўскага ўніверсітэта. Замест таго, каб хадзіць на лекцыі, — сядзеў у бібліятэцы над старымі кнігамі. Паступова перад маімі вачыма паўставалі прываблівыя постаці маіх продкаў — мужных, свабодалюбівых людзей. І сярод іх — паўстанцы 1863 года, якія не шкадавалі жыцця, змагаючыся за «вашу і нашу свабоду». А потым дзядзька паказаў мне на Дняпры мясціны, дзе адбываліся тыя падзеі. Руіны гаўптвахты, дзе расстрэльвалі людзей, і конскія могілкі, дзе іх потым закопвалі. Паступова ў мяне расло жаданне расказаць аб іх подзвігу, зберагчы памяць. Пачаў вывучаць архіўныя дакументы, запісваць мясцовыя паданні. Спачатку падзеі рамана былі лакалізаваны толькі ў Прыдняпроўі. Потым прыйшлося пашырыць рамкі, перакінуць з Прыдняпроўя «мосцікі» ў Вільню, Пецярбург, Варшаву.

— У пачатку года «Полымя» абвясціла, што сёлета ў часопісе будзе друкавацца другая кніжка рамана. Значыць, яна таксама ўжо напісана?

— У асноўным, так. Уласна кажучы, гэта будзе не другая, а трэцяя і чацвёртая кніжкі, таму што першую я вымушаны быў падзяліць на дзве. Праўда, работа над імі крыху зацягваецца. Па-першае, паступаюць усё новыя і новыя матэрыялы. Напрыклад, зусім нядаўна ўдалося знайсці дужа «каларытны» «Указ аб косах». Аказваецца, напярэдадні паўстання царскі ўрад быў настолькі напалоханы, што нават забараняў сялянам купляць і прадаваць косы.

— Значыць, у цэлым «Каласы...» будуць мець каля дзвюх тысяч старонак. Ці не занадта многа гэта ў наш час, калі ў моду ўвайшлі «мікрараманы»?

— Па-мойму, усё гэта — лухта. Чалавецтва працягвае накопліваць інфармацыю. Вядома, яму сёння не патрэбна такое дэталёвае апісанне інтэр’ера або чалавечага аблічча, якое мы бачым у пісьменнікаў і мастакоў XIX стагоддзя, напрыклад, у Аляшкевіча. Але чалавецтву вельмі важна ведаць факты, мець іх аб’ектыўнае апісанне. Вернецца, скажам, чалавек з Марса — і якой каштоўнай будзе яго падрабязная інфармацыя аб невядомай планеце, яго ўменне перадаць нам натуральны выгляд марсіян. А для нас жа беларуская гісторыя — у многім нязведанае. Мы пакуль што мала ведаем аб жыцці, звычаях, побыце нашых продкаў. І кожны, хто ведае, хто можа ведаць, павінен збіраць гэтыя падрабязнасці і перадаваць іншым. Па меры магчымасці я і рабіў гэта ў «Каласах...». У выніку — шматлікія апісанні, вялікі аб’ём рамана. Для тоненькіх гістарычных раманаў, такіх, як у Друона, у Беларусі яшчэ прыйдзе свая чарга. А пакуль што... Мне хочацца, каб, чытаючы «Каласы...», чытач адкрываў для сябе мінулае свайго народа і сваёй краіны.

І словы гэтыя не здаліся мне штучнымі ці нясціплымі. Прыгадаліся словы студэнткі, прыведзеныя ў нарысе У. Калесніка «Партрэт друга»: «Дагэтуль я думала, што ў нас няма такой гісторыі, як у іншых народаў. А пачытала «Дзікае паляванне караля Стаха», «Каласы пад сярпом тваім» — дык убачыла, што ёсць!» Сказана крыху наіўна, але дастаткова дакладна: найвялікшая каштоўнасць усяго, што пішацца Караткевічам, заключаецца ў тым, што яго

творы выхоўваюць патрыятычныя пачуцці, вучаць лепш разумець мінулае і сучаснае. Для нашага сучасніка вельмі важна мець дакладнае ўяўленне аб усіх тых падзеях, пра якія гаворыцца ў «Каласах...».

— Так, вельмі важна! — пагаджаецца пісьменнік. — Шляхецкія рэвалюцыянеры, якія ўзнялі паўстанне, рэвалюцыйныя дэмакраты накшталт Каліноўскага былі, калі карыстацца вядомым ленінскім вызначэннем, прамымі папярэднікамі марксізму. Першы Інтэрнацыянал быў утвораны якраз на вечары, прысвечаным памяці ахвяр 1863 года. У падзеях мінулага — нашы карані. А дрэва без каранёў не можа ні існаваць, ні, тым больш, прыносіць плады.

— А наколькі паказанае ў рамане адпавядае сапраўднасці? Ці існаваў, скажам, рэальны прататып Алеся Загорскага?

— Перш за ўсё я імкнуўся праўдзіва перадаць дух таго складанага і супярэчлівага часу. Узнавіць дэталі мне дапамаглі архіўныя дакументы. Часам яны пацвярджалі тое, да чаго я ўжо раней дайшоў інтуіцыяй. Прывяду адзін прыклад, але не з «Каласоў...», а з «Нельга забыць». У пралогу да рамана расказваецца аб трагічнай гібелі паўстанца 1863 года Грынкевіча. Пісаў я гэтыя старонкі, пераважна абапіраючыся на мясцовыя паданні. Потым жа, на маё ўласнае здзіўленне, Генадзь Кісялёў паказаў мне ў Вільнюскім архіве дакументы пра рэальнага Грыневіча, расстралянага пры тых жа акалічнасцях, што і апісаныя мною ў рамане. Што ж датычыць «Каласоў...», то ў іх ёсць некаторыя прыватныя адступленні ад сапраўднасці. Напрыклад, тры важныя для лёсу паўстання пасяджэнні царскага дзяржаўнага савета зліты ў адно. У адно зліты вобразы некаторых рэальных людзей. Так узнік Алесь Загорскі. Іншыя ж вобразы — Біскуповіч, стары Вежа — узяты з мінулага цалкам. Зразумела, што зусім інакш узнікалі ўсе жаночыя вобразы...

— Аднак хопіць пра тое, што ёсць у рамане. Некалькі слоў аб тым, што будзе ў апошніх дзвюх кнігах. Які фінал рамана?

— Крах усіх спадзяванняў, усіх ілюзій і — нават у гэтых абставінах — чалавечая нязломнасць! Паўстанне пацярпела паражэнне, але мужнасць — засталася. А значыць, засталося і спадзяванне, што чалавек, свабода і народ — выжывуць! Найбольш поўна гэтая думка праведзена на прыкладзе Алеся Загорскага.

— Раман закончыцца паражэннем паўстання 1863 года ці — па ўзору «Нельга забыць» — падзеі будуць даведзены да нашых дзён?

— Давесці падзеі да нашых дзён будзе вельмі цяжка. Магчыма, потым і прадоўжу сюжэтныя лініі рамана. Хацелася б паказаць нарадавольцаў, першыя марксісцкія гурткі, сялянскі рух. Але гэта — потым. Цяпер жа абмяжуюся невялікімі лірычнымі ўстаўкамі. У іх будзе ацэнка падзей 1863 года з пазіцый нашых дзён. Будзе роздум аб тых часах — мой і маіх сяброў. Да кніжнага выдання дапісаны некалькі ўстаўных навел, якіх не было ў часопісным варыянце.

Нашу размову ўвесь час перапыняюць тэлефонныя званкі. Звоняць з «Беларусьфільма», дзе па сцэнарыі У. Караткевіча здымаецца поўнаметражны фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», з кінастудыі дакументальных фільмаў, дзе толькі што закончыліся здымкі каротkametражкі «Будзь шчаслівай, рака...», прысвечанай роднай рацэ пісьменніка — Дняпру. Звоняць з гаркома камсамола, каб дамовіцца аб сустрэчы з моладдзю. Прыходзіць пошта: балгарскі паэт Найдан Вылчаў паведамляе, што ў «Анталогію сучаснага беларускага апавядання», якая выходзіць у Сафіі, уключаны пераклады караткевічаўскіх апавяданняў; аб выданні зборніка перакладаў на ўкраінскай мове пішуць са Львова. І зноў званок з кінастудыі: у вядомага літоўскага акцёра Баніёніса не «кладзецца» фраза, трэба перарабіць дыялог... І наша размова таксама пераключаецца на тэмы кіно.

— Ці задаволены я здымкамі «Хрыста»? Ці няма небяспекі, што з філасофскага твора зробяць звычайны прыгодніцкі фільм? Што ж, здымаюць «Хрыста» людзі тале-

навітыя. Але ў сцэнарыі — а ён перастаў ужо быць маёй рэччу — адбыліся змены. Вобразна кажучы, перавагу над Уленшпігелем атрымаў Лама Гудзак. Ці дапамагае пісьменніку работа ў кіно? Хутчэй шкодзіць, бо адбірае страшэнна многа часу. Сапраўдны пісьменнік цалкам сябе кіно ніколі не аддасць, таму што кіно — мастацтва групавое, дзе індывідуальнасць аўтара нібы раствараецца. З другога ж боку, кіно аказвае станоўчы ўплыў. Яно дае штуршок думкам, робіць больш сучасным мысленне. У чым гэта заключаецца? Дастаткова параўнаць «На Быстранцы» і «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля. Абодва творы сучасныя па сваёй тэме. Аднак яны розныя па мастацкіх сродках. «Птушкі і гнёзды» — твор вельмі кінематаграфічны. Дастаткова прыгадаць сцэну допыту Руневіча...

На стале з'яўляюцца кадры з будучага кінафільма: сярэдневяковая Гародня, беларускі Уленшпігель — Юрась Братчык, якога па збегу акалічнасцей прынялі за Хрыста, каларытныя твары людзей той даўняй эпохі. Старонкі народнай гісторыі, даўно забытыя і цяпер узноўленыя фантазіяй і талентам мастака. І іншыя старонкі гісторыі — здымкі беларускіх архітэктурных помнікаў. Гэта кадры з кароткаметражнага фільма «Памяць», які нядаўна выпушчаны на экраны Беларусі. Гродзенская Каложа і стары драўляны лямус, Полацкі Сафійскі сабор і руіны віцебскага храма Благавешчання, замкі ў Нясвіжы і Міры, Ружанах і Навагрудку. З гэтых здымкаў мог бы выйсці цудоўны альбом аб здабытках нашай архітэктуры, аб сівых сведках мінулага.

— Калі мы з Юркам Цвятковым здымалі гэты фільм — сэрца балела. Многія цудоўныя палацы і замкі стаяць у запусценні, разбураюцца. А пры жаданні ў іх можна было б размясціць пансіянаты, дамы адпачынку, санаторыі. Можна было б атрымліваць валюту ад зарубежных турыстаў. Узяць хаця б замак у Міры... Мала ў нас беражнага стаўлення да гістарычных помнікаў. Нашто, скажам, было работнікам Беларускага краязнаўчага музея вырываць са сцяны жупранскага касцёла дошку ў гонар Багушэвіча.

Раман, аповесць, апавяданне, кінасцэнарый, п'еса («Трошкі далей ад месяца» і «Смерць і неўміручасць Кастуся Каліноўскага» ў свой час былі перададзены Беларускаму тэатру імя Янкі Купалы), нарыс, рэцэнзія... Здаецца, няма такога літаратурнага жанру, у якім бы не спрабаваў свае сілы Уладзімір Караткевіч. А як справы з жанрамі паэтычнымі?

— У выдавецтве «Беларусь» ужо ляжыць вершаваны зборнік «Мая Іліяда». Пасля «Вячэрніх ветразяў» у мяне набярэцца нямала новых вершаў. Нядаўна прывёз з Крыма новы цыкл «Таўрыда». Некалькі вершаў напісаў, пабываўшы на магіле Багдановіча.

— З чаго пачынаецца звычайна верш? З думкі? З настрою?

— У мяне ён пачынаецца з радка. З аднаго або двух-трох. Вядома, радок немагчымы без думкі. Радок нясе зерне думкі. Напрыклад, верш «Паўлюк Багрым» пачаўся з радкоў: «Нельга верыць у бога, калі ён такое дазволіў...» Потым усё астатняе «падганялася» пад гэтыя радкі. Праўда, часам бывае наадварот — калі ідзеш ад агульнай ідэі. Але гэта — рэдка.

— А ў прозе?

— У прозе ўсё пачынаецца з настрою. Настрой нараджае адпаведную думку. Разам узятыя, яны і даюць той ключ, у якім будзеш весці апавяданне, якім «адамкнеш» тэму...

На хвіліну гаспадар устае, каб узяць з кніжнай паліцы чарнавікі сваіх «Каласоў...».

— Хтосьці ў свой час пусціў чутку, што пішацца мне лёгка і што напісанага я амаль ніколі не праўлю. Гэта няпраўда. Калі гаварыць ужо аб нейкай «творчай кухні», то працэс пісання выглядае прыкладна так. Спачатку з'яўляюцца запісныя кніжкі. У іх — думкі, назіранні, выпіскі. Потым нараджаецца кароткі план. Паміж яго радкамі ўпісваюцца ўсё новыя і новыя кавалкі. Такі план перапісваецца разоў пяць. А потым, калі ўсё адстаялася і адшліфавалася ў галаве, — перапісваю начыста. Лёгка і без асаблівых правак.

Я згодзен са словамі Буніна, якія прыведзены ва ўспамінах Катаева, што нельга з нічога зрабіць нешта шляхам бясконцых перакрэсліванняў. Вядома, калі ўжо нешта ёсць, тады праўкі дазваляюць палепшыць твор...

Для ілюстрацыі сваіх думак гаспадар паказвае запісную кніжку, з якой пасля вырасла «Чазенія» — аповесць аб рамантычным і чыстым каханні нашых сучаснікаў, унукаў тых жа паўстанцаў 1863 года. Вось запісы аб тым, якія рыбы водзяцца ў далёкаўсходніх рэках, якой вышыні дасягае цунамі, якія дрэвы растуць на берагах Амура. Вось малюнкі бурундука, Кедравай падзі, схема маршруту, па якому спачатку прайшоў сам аўтар, а потым — яго герой.

— Гэты маршрут мне хацелася б паўтарыць. Хочацца зноў пабываць на Далёкім Усходзе, пабачыць Камчатку. Не менш вабіць Сярэдняя Азія, Каўказ, нашы беларускія дарогі. Планы вялікія, на гады хопіць.

— А як з планамі творчымі? Калісьці, памятаю, Янка Брыль прапанаваў табе напісаць раман пра Багушэвіча...

— Што ж, расце папка з матэрыяламі і пра Багушэвіча. Расце папка пра таямнічага аўтара «Тараса на Парнасе». Думку напісаць раман на гэтую тэму падаў мне Юльян Пшыркоў. Але дзевятнаццатае стагоддзе больш-менш распрацавана. Не напішу я — напішуць іншыя. А вось Давыд Гарадзенскі, які на крыжаносцаў хадзіў, або полацкі князь Вячка, які бараніў ад ворага латышоў і эстонцаў... Пра гэтых пакуль што не напіша ніхто. А трэба! Трэба зберагчы народную памяць аб нашых слаўных продках, аб лепшых старонках сваёй гісторыі!

...У 1936 годзе Максім Танк запісаў у сваіх «Лістках календара»: «А пакуль што некранутай цалінай у нас ляжыць гістарычная тэма, чакаючы свайго Вальтэра Скота, Сянкевіча...» Сёння, калі з'явіліся гістарычныя раманы і аповесці Уладзіміра Караткевіча, падстаў для такога катэгарычнага сцвярджэння ўжо няма».

Сёння, праз дваццаць з лішкам год пасля таго інтэрв'ю, я часта задумваюся, чаму тады Караткевіч сказаў мне, што

трэцяя і чацвёртая кнігі рамана «ў асноўным» закончаны. Мы ж, члены камісіі па спадчыне пісьменніка, з надзеяй шукалі іх у яго архіве і расчароўваліся, знайшоўшы там толькі чарнавыя фрагменты, толькі накіды«загатоўкі» ў запісных кніжках. Сказаў няпраўду ў тым, 1967 годзе з нейкіх тактычных меркаванняў? Наўрад ці. Бо хлусні ён не любіў. Ды і не дазволіў бы ў адваротным выпадку анансаваць заканчэнне рамана ў «Полымі». Пра існаванне трэцяй і чацвёртай кнігі «Каласоў...» Караткевіч гаварыў не толькі мне, але і Міхалу Фёдаравічу Дубянецкаму, быламу дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» — яны нават дамовіліся, на які год паставіць іх у план. Усе сябры Валодзі ведалі, што ён рыхтуе заканчэнне рамана да друку: вывучае дадатковыя матэрыялы, цікавіцца далейшымі лёсамі паўстанцаў 1863 года. Праўда, не раз, адбіваючыся ад нашых патрабаванняў не займацца «кінаглупствамі», а хутчэй закончыць раман, ён стагнаў:

— А вы думаеце, мне гэта лёгка?! Любімых герояў — пад кулі, на вісельні, на катаргу, у ссылку... Вы ж ведаеце, чым скончылася паўстанне — суцэльным разгромам. Гэта ўсё роўна, што пад меч — уласных дзяцей... Неяк прыйшлі да мяне гуртам школьнікі і просяць: не забівайце Алеся Загорскага. І што я мог ім адказаць?!

Мы бачылі, што пасля баталій вакол рамана 1965–1967 гадоў Караткевіч паастыг у дачыненні да «Каласоў...». Балюча рэагаваў на пытанні пра іх. Пазбягаў гаворкі. Шукаў самаапраўданні (накшталт шкадавання герояў). Чаму? Адбілі ахвоту наскокі вульгарнай крытыкі? Адчуваў, што ў тагачасных умовах цяжка ці нават немагчыма будзе апублікаваць заканчэнне рамана ў такім выглядзе, як дыктавала творчае сумленне? Відаць, усё гэта таксама ўплывала. Ва ўсякім выпадку толькі на пачатку васьмідзясятых гадоў Караткевіч асмеліўся апублікаваць аповесць «Зброя», якая спачатку пісалася як адзін з раздзелаў рамана, а потым стала яго самастойным «адгалінаваннем». Стылёвыя асаблівасці сведчаць, што стваралася яна яшчэ ў гадах шасцідзясятых. Але Караткевіч ніколі пра яе не ўспамінаў, не

спрабаваў друкаваць, разумеючы, што не той яшчэ час: апісанні маскоўскіх нораваў маглі быць успрыняты крытыкай як абраза ўсяго рускага народа. Аднак вернемся да пытання, куды мог знікнуць чарнавік трэцяй і чацвёртай кніг «Каласоў...». Неяк у галаву прыйшла думка, што аўтар знішчыў яго, як гэта зрабіў Гогаль з другой часткай «Мёртвых душ». Аднак адразу ж здалася яна недарэчнай. Бо такія экзальтаваныя ўчынкі проста не адпавядалі б натуры Караткевіча. Не знішчыў жа ён рукапіс першай аповесці «У снягах драмае вясна», хоць бачыў немагчымасць яе апублікавання ў застойны перыяд... Наўрад ці мог знікнуць рукапіс і ў першыя месяцы пасля смерці пісьменніка: яго сястра, Наталля Сямёнаўна Кучкоўская, адразу зрабіла захады, каб да рэчаў пісьменніка — кніг, архіва, памятак — не мелі доступу пабочныя асобы.

Узважыўшы ўсе акалічнасці, я прыходжу да вываду, што чарнавік трэцяй і чацвёртай кніг (калі ён існаваў) хутчэй за ўсё знік летам 1982 года, калі Караткевічы былі ў Сімферопалі. Тады на гастролях там знаходзіўся віцебскі тэатр імя Якуба Коласа. Яго рэжысёр, Валерый Мазынскі, пасля «Званоў Віцебска» і «Кастуся Каліноўскага» збіраўся паставіць «Маці ўрагану». Караткевіч вылецеў туды з жонкай, Валянцінай Баніславаўнай, каб пазнаёміць трупу са сваёй новай п'есай. Але яна здалася акцёрам задоўгай, несцэнічнай, і Валодзя вяртаўся адтуль у дрэнным настроі. А тут яшчэ аказалася, што ў адсутнасць гаспадароў кватэру абакралі. Забралі ўсе залатыя і сярэбраныя рэчы, крышталь. Заадно прыхапілі ўзнагароды, дакументы. Усяго страт набралася на некалькі тысяч (у апошнія гады жыцця Караткевіч ужо меў добрыя ганарары, у тым ліку і замежныя). Але не яны бянтэжылі гаспадара. Доўгі час ён хадзіў прыгнечаны, злаваў, калі ў яго пыталі, што ўзята:

— Ведалі, што браць, гады! Білі прама пад дых!

Але ад канкрэтызацыі ўхіляўся, пераводзіў гаворку на іншае, на Рыгора Семашкевіча, амаль суседа па кватэры, чыё жыццё недарэчна абарвалася, калі Караткевічы былі ў Сімферопалі:

— Я ўсе транты аддаў бы, абы Рыгор быў жывы... З дакорам думаю, што ўжо больш не пабачу яго вінаватай усмешкі.

У росшук грабежнікаў былі ўключаны лепшыя мінскія шэрлакі холмсы (у іх асяроддзі было нямала добрых Валодзевых прыяцеляў). Але і яны не змаглі нічога зрабіць. Казалі, што папрацавалі тут «класныя спецыялісты», што не абышлося без наводчыка. Відаць, тады, побач з каштоўнымі рэчамі (не выключана, што іх бралі для адводу вачэй), знік і рукапіс другой палавіны «Каласоў...». Прынамсі, не прыпомню, каб пасля таго здарэння Караткевіч гаварыў пра заканчэнне і выданне «Каласоў...» як пра нешта рэальнае.

Хто мог зрабіць? Дзеля чаго? Рознае думаецца. І цепліцца надзея, што рукапіс недзе ўсплыве, што злачынства веку (пішу без іроніі) будзе калісьці раскрыта.

Аднак вернемся зноў у другую палову шасцідзясятых гадоў. Абмеркаванне «Каласоў...» у Саюзе пісьменнікаў БССР, галасы грамадскасці ўсё ж зрабілі сваю добрую справу. Алесь Адамовіч прайграў бы заклад, бо асобнае кніжнае выданне рамана пабачыла свет не праз пяць гадоў, а хутчэй — у 1968 годзе. На гэты раз Герцовіч змаўчаў (скардзіўся толькі на адной высокай нарадзе, што ў сувязі з яго артыкулам пра Караткевіча нават «Звязда» патрабуе, каб ён падпісваўся псеўданімам, на што Адамовіч падаў рэпліку: «Гэта робіць гонар «Звяздзе»). Затое «левая» і «ўмераная» крытыка (С. Андраюк, М. Ермаловіч, Г. Кісялёў) сустрэла кніжны варыянт рамана як творчую ўдачу аўтара, дасягненне ўсёй беларускай літаратуры. І сапраўды, «Каласы пад сярпом тваім», няхай і не закончаныя, з'явіліся адным з першых нашых гістарычных раманаў у поўным сэнсе гэтага слова. Лёс беларускай літаратуры склаўся так, што ў XIX стагоддзі ў ёй не было, не магло яшчэ быць свайго Вальтэра Скота, Генрыка Сянкевіча ці Алойза Ірасека. Не з'явіліся яны ў нас і ў першай палове стагоддзя дваццатага, бо «Салавей» З. Бядулі, «Спрадвечнае» Б. Мікуліча або «На шляху з варагаў у грэкі» Я. Дылы — гэта толькі пер-

шыя подступы да такога жанру. Аднак літаратура, як і прырода, не церпіць незапоўненай «пустаты», пераскоквання праз ступені развіцця. Раней або пазней, але гістарычны раманіст павінен быў прыйсці ў нашу прозу. І ён прыйшоў у асобе Уладзіміра Караткевіча, стаў яваю дзякуючы «Каласам...». Яны — не выпадковасць, а заканамернасць, абумоўленая заканамернасцямі фарміравання самой літаратуры. У «Каласах...» нас здзіўляе ўменне пісьменніка пранікнуць у сутнасць, дух эпохі, аддаленай ад нас больш чым на стагоддзе, узнавіць колішняе жыццё, асэнсаваць яго, не мадэрнізуючы, — і адначасова з пазіцый сённяшняга дня. Для гэтага патрэбны былі не толькі глыбокія і разнастайныя веды, але і творчая інтуіцыя. Патрэбен быў вялікі талент. Неўзабаве раман быў перакладзены Валянцінай Шчадрыной на рускую мову і двойчы выдадзены ў Маскве. Да яго аўтара пастутова прыходзіла не толькі ўсесаюзнае, але і міжнароднае прызнанне. Аналізуючы раман у артыкуле пад нязвычнай для нас назвай, якая павінна была «справакаваць» польскіх перакладчыкаў, — «Польска-беларуская эпапея Караткевіча», Фелікс Фарнальчык пісаў у кракаўскім штотыднёвіку «Жыце Літэрацке» 2 чэрвеня 1974 года: «Каласы пад сярпом тваім» — гэта адзін з самых амбітных гістарычных раманаў нашых усходніх суседзяў, асабліва важкі для нас, калі ўлічыць месца, якое ў ім займаюць польскія справы напярэдадні студзеньскага паўстання 1863 года. Нездарма Уладзіміра Караткевіча называюць «беларускім Сянкевічам», бо гэтую дылогію Караткевіча можна параўнаць з «Трылогіяй», як і з «Панам Тадэвушам», і з «Ганнай Карэнінай», і з іншымі гэтага роду вялікімі эпічнымі панарамамі».

Прымаючы пад увагу поспех, няхай і запознены, «Каласоў...», Караткевічу пісаць ды пісаць новыя гістарычныя раманы. Але ён на нейкі час, відаць, стомлены змаганнем за «Каласы...», адышоў ад прозы, амаль цалкам аддаўся кінематографу. У шасцідзясятыя гады з-пад яго пяра выйшлі сцэнарыі многіх мастацкіх і дакументальных фільмаў. Адны з іх — «Памяць», «Будзь шчаслівай,

рака...», «Сведкі вечнасці» — шчасліва выйшлі на экраны. Другія — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — леглі на паліцы. Трэція — «Расказы з каталажкі», заснаваныя на магілёўскіх анекдотах, — увогуле не здымаліся, адхіляліся ў Мінску або Маскве. Было яшчэ некалькі кароткаметражак, якія адымалі многа часу і нерваў, але не давалі сцэнарысту нават маральнай сатысфакцыі, нават патыражнага ганарару.

— Навошта табе ўсе гэтыя скандальныя сітуацыі, паданне на калені ў імя нейкага эпізода?! — упікалі мы Валодзю. — Пішы найперш гістарычную прозу. Захочуць — экранізуюць.

— Ні чорта вы не шупіце ў кіно! — злаваў Караткевіч. — Гэта ж магутная сіла! Раман у нашых беларускіх умовах прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм паглядзяць мільёны. Разумееце, якая магчымасць уздзейнічаць на народ, абуджаць яго годнасць, яго памяць. Вось выйдзе мой «Хрыстос» — тады ўзрыдаеце ад зайздрасці! — і, прымружваючы разнаколерныя вочы, выкладваў апошні козыр: — Не забывайце, панове, што я канчаў сцэнарныя курсы. Навошта дзяржава мяне вучыла?!

Здымкі «Хрыста» праходзілі ў 1967 годзе, якраз тады, калі вырашаўся лёс кніжнага выдання «Каласоў...», і дужа адцягвалі Караткевіча ад работы з выдавецкім рэдактарам. Праходзілі яны пераважна на ўзбярэжжы Чорнага мора, у Сімеізе, і аўтар сцэнарыя некалькі разоў лятаў туды, каб уносіць у яго бясконцыя змены. Памятаецца, 18 верасня ён вярнуўся з Крыма і прама з аэрапорта, нагружаны рукзакамі, стомлены, загарэлы, разам з артыстам Уладзімірам Паначэўным і аднакурсніцай з Кіева Рэгінай прыехаў на пяцідзесяцігоддзе Вячаслава Зайцава, на яго напаўхаласцяцкую кватэру. Быў пахмурны: прапанавалі змяніць назву фільма на «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», выкідвалі ўсю «філасофію», увесь здаровы сэнс.

— Вечна ім здаецца, што мой Хрыстос нешта не тое гаворыць, — скардзіўся. — Занадта сучасны.

Акрамя таго, на здымках Караткевіч згубіў частку вершаў з крымскага цыкла.

— Суцэльная трагедыя! — бурчэў, гуляючы з кацянём, якое невядома адкуль («ці не з космасу?») прыбілася з акальцаванай лапкай. — Уявіце сабе, што Міцкевіч згубіў «Крымскія санеты»! Тая ж непапраўная страта!

Потым аказалася, што не ўсё згублена. Некалькі вершаў знайшлося ў адной з кішэняў рукзака. І Валодзя, супакоіўшыся, прачытаў нам адзін — пра Чуфут-Кале. Потым — пераклад з Лоркі.

— Хацеў жыць, калі яго вялі расстрэльваць, — успамінаў недзе вычытанае пра іспанскага паэта-змагара. — Чапляўся за крыло аўтамашыны. Во быў хлопец! — І потым пра Лорку і Мачада: — Калі бог захоча пакараць краіну, ён дае ёй дзесяць цудоўных паэтаў, а потым адбірае іх.

Гаспадар паказваў нам нейкі італьянскі здымак Месяца, на якім нібыта віднеліся чалавечыя сілуэты. Але яны былі настолькі цьмяныя, што Караткевіч не стрываў:

— З такім жа поспехам я магу заявіць, што гэта сапсаваны кадр з майго «Хрыста», — і зноў пра фільм: — Ой, рэжуць, бязбожна рэжуць прама па-жывому. Адно «піфпаф» застаецца. З філасофскай трагедыі — баявік.

Нарэшце «Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка» было закончана. На кінастудыі, а затым у Саюзе пісьменнікаў БССР адбыліся прагляды. І мы пераканаліся, што Караткевіч шмат у чым меў рацыю. Сапраўды, як намякаў мне ў інтэрв'ю сам аўтар сцэнарыя, перамогу пад Тылем Уленшпігелем у фільме атрымаў Лама Гудзак. Кудысьці зніклі філасофскія разважанні аб сэнсе гісторыі, чалавечага быцця. І галоўнае, у фінале не аказалася самога «ўзнясення» — узыходжання «Хрыста» на Галгофу, яго распяцця ў поўнай адзіноце, — калі ўсе апосталы яго баязліва пакідаюць, а ля крыжа застаецца адзін Іуда.

— Разумееце, — растлумачыў нам праз дваццаць год, на паўторнай «прэм'еры» фільма ў Доме кіно, рэжысёр фільма В. Бычкоў. — Камусьці ўбачыўся тут намёк на Хрушчова,

якога таксама пакінулі ўсе верныя паплечнікі. І хаця аналогія была абсурдная, давялося канцоўку скараціць.

Аднак і ў такім, скалечаным, выглядзе фільм глядзеўся. Добра ігралі акцёры (асабліва Данатас Баніёніс). Хораша паказаў свае здольнасці сам сцэнарыст — ён іграў дзве эпізадычныя, але яркія ролі (ксяндза і татарына), за кадрам спяваў старадаўні гімн. Радавалі масавыя сцэны, аператарская работа. І галоўнае, у фільме заставаўся нацыянальны каларыт, беларуская гісторыя. Гэта, мусіць, і палохала тагачасных чыноўнікаў ад кіно. І яны прынялі саламонава рашэнне: адзіны экземпляр — пакласці на паліцу. Праўда, Караткевічу ўдалося выкрасці нейкую няпоўную копію, і ён трымаў яе «да лепшых часоў».

Сёння, калі глядзіш на тыя гады з пэўнай аддаленасці, разумееш, што забарона фільма «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка» была не выпадковай, а заканамернай. Сваёй «несіметрычнасцю», выключнасцю героя і абставін, адмаўленнем усяго афіцыйнага і кананічнага, урэшце, метафарычнасцю, дзёрзкасцю, гарэзлівасцю ён выбіваўся з застойнай атмасферы, пярэчыў ёй. Зрэшты, такі ж лёс напаткаў тады многія лепшыя кінастужкі.

У адным са сваіх выступленняў Васіль Быкаў сказаў, што Уладзіміру Караткевічу было пры жыцці недададзена ўвагі. Гэтыя агульныя словы патрабуюць канкрэтызацыі: калі было недададзена, па чыёй віне, чаго (бо чытацкую ўвагу і любоў ён меў заўсёды, а пад канец гадоў сямідзясятых з'явілася і ўвага органаў улады). Мне ўяўляецца, што самым цяжкім перыядам у жыцці Караткевіча былі другая палова шасцідзясятых — пачатак сямідзясятых гадоў, калі аўтар «Каласоў...» сапраўды хадзіў у «чорным целе», калі ў кожным яго радку шукалі крамолу. І віна за цкаванне пісьменніка ў вялікай ступені кладзецца, сёння трэба прама сказаць, на тагачаснага сакратара ЦК КПБ па пытаннях ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Гэта ён быў супраць выдання «Каласоў...» асобнай кніжкай. Гэта па яго ўказанні ў «Літаратуры і мастацтве» быў дадзены «адпор» цудоўнаму эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Прозвішча Караткевіча

ўпаміналася ў розных афіцыйных выступленнях як жупел ідэйнай заганнасці, ледзь не варожасці. Даведаўшыся пра яшчэ адно з такіх выступленняў, пісьменнік толькі цяжка ўздыхаў. У крайнім выпадку прарочыў:

— Хто мяне крыўдзіць — дрэнна скончыць.

У тыя застойныя гады Уладзімір Караткевіч не быў выключэннем. Цяжка даводзілася Васілю Быкаву, Івану Мележу, Янку Брылю, Андрэю Макаёнку, многім з маладзейшых. Спробы мысліць неартадаксальна, недагматычна заканчваліся «арганізацыйнымі вывадамі» (памятаю, як у АН БССР бэсцілі аспіранта А. Дабравольскага, які на сустрэчы з мастакамі асмеліўся сказаць аб незавершанасці нашай рэвалюцыі, разлажэнні сярод кіраўніцтва).

Праявы патрыятызму, нават нясмелыя, расцэньваліся як нацыяналізм. Ва ўніверсітэце пачаліся ганенні на групу студэнтаў на чале з А. Разанавым і В. Ярацам, якія адправілі ў інстанцыі ліст з прапановай, каб хаця на аддзяленні беларускай і рускай мовы і літаратуры ўсе лекцыі чыталіся па-беларуску (рэктар чамусьці палічыў гэта... «великодержавным шовинизмом»). Затым хваля звальненняў пракацілася па Акадэміі навук (зрэшты, некаторыя са звольненых паводзілі сябе не лепшым чынам — пасля ўсяго Караткевіч перастаў з імі вітацца). У самы апошні момант была адменена навуковая канферэнцыя па этнагенезу беларусаў. Нацыяналізмам была абвешчана спроба ўвесці ў БелСЭ слова «сысуны» замест слова «млекакормячыя». У спецфондзе акадэмічнай бібліятэкі нехта Лазарчык хаваў у сябе нават «Вянок» Багдановіча, нават віленскія выданні Купалы і Коласа. З аднаго мовазнаўчага выдання знялі супервокладку толькі таму, што на ёй была цытата з Лаўрэнція Зізанія. Юльяну Пшыркову на высокай нарадзе інкрымінавалі тое, што ён спасылаецца на «буржуазнага нацыяналіста» Максіма Гарэцкага, а Генадзя Каханоўскага звольнілі з пасады дырэктара Маладзечанскага музея таму, што ён гаварыў з экскурсантамі на беларускай мове.

Дайшло да абсурду: калі ў 1967 годзе адзначалася 900-годдзе Мінска, адзіным чалавекам, хто на ўрачыстым пася-

джэнні ў Палацы спорту сказаў некалькі слоў па-беларуску, быў... мэр горада Вільнюса.

Сёння многія з прыведзеных фактаў гучаць анекдатычна. Але ў той час было не да смеху. Сітуацыя часам здавалася безнадзейнай. Караткевіч гучна абураўся пералічанымі вышэй фактамі (я прывёў толькі тыя, што, памятаю, болем адбіліся ў яго свядомасці), абяцаў, што гісторыя кожнаму «дураксу» адмерае заслужанае пры жыцці, часам змрочна маўчаў. Свайго непрыняцця застою, сваёй нянавісці да яго носьбітаў ён не хаваў, выказваў з трыбуны, у рэпліках з залы. І яму, зразумела, плацілі тым жа. Побач а Васілём Быкавым Уладзімір Караткевіч успрымаўся тады ў Беларусі як галоўная асоба ў супрацьстаянні кансерватыўным колам, як найбольш небяспечны «парушальнік спакою». І хмары над ім не раз чорна згушчаліся. Але заўсёды знаходзіліся людзі — Іван Мележ, Янка Брыль, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Пятро Глебка, некаторыя асобы ў дырэктыўных органах, — якія заступаліся за ягоны талент. Не раз яго ратавала тое, што ён нідзе службова не працаваў (не хадзіў у «дэпартамент», жыў «тунеядцам»). І нават да прафсаюза, здаецца, не належаў. Паспрабуй прыцісні такога...

Трэба, аднак, падкрэсліць, што свайго непрыняцця застою, непрыняцця канкрэтных асоб Караткевіч ніколі не пераносіў на нашу сістэму, на сацыялізм увогуле. Ён, помню, не раз хваліў ленінскі перыяд у яго будаўніцтве, захапляўся рабочымі Магнітагорска, дзе пабываў з групай пісьменнікаў. Святымі для яго былі подзвігі ў Айчынную вайну, пасляваеннае аднаўленне. Ухвальна гаварыў пра першыя крокі Хрушчова. Але калі выступаў Брэжнеў, змаўкаў, выключаў «тэлік». Калі гаворка заходзіла пра Беларусь, расказваў прытчу, што вось бог, ствараючы нашу зямлю, даў ёй усё добрае: плодныя землі, звярыныя лясы, рыбныя рэкі, умераны клімат, але потым, спахапіўшыся, рашыў іх ураўнаважыць («каб не задаваліся, не пселі ў бяздзейнасці») і дадаў самае дурное начальства. Праўда, калі беларусы заслужаць на гэта, бог злітуецца і заменіць яго на лепшае...

Барацьба Уладзіміра Караткевіча з застойнымі парадкамі найбольш выразна выяўлялася ў яго барацьбе за беларускую мову, за нацыянальную гісторыю і абераджэнне прыроды. Ён бачыў арганічную еднасць паміж гэтымі вонкава markednымі праблемамі: калі ў чалавека няма патрыятычных пачуццяў, то ён становіцца перакаці-полем, якому ўсё роўна, што гіне: культура, памяць ці зямля.

У стаўленні да мовы, як мне ўяўляецца, Караткевіч быў сапраўдным інтэрнацыяналістам. Ён часта, ахвотна і без акцэнту (у тым ліку і дома, з маці) гаварыў па-руску. Ён дасканала ведаў украінскую мову, якую выкладаў на Кіеўшчыне. Многія радкі яго «Каласоў...» напісаны па-французску. У Польшчы ён спрабаваў гаварыць па-польску, у Славакіі — па-славацку. У Вільнюсе на ляту лавіў літоўскія словы (чамусьці асабліва спадабалася яму «драбужай» — «адзенне») і спяваў літоўскія песні. Увогуле лічыў, што чым больш моў чалавек ведае, тым ён багацейшы, што няма моў добрых і дрэнных, а ёсць толькі развітыя і няразвітыя. Але найперш кожны павінен ведаць, любіць, бараніць родную мову. Словы М. С. Хрушчова, што неўзабаве, гадоў гэтак праз дваццаць, усе мовы ў нас зліюцца ў адну, здаваліся яму абсурдам («хіба можа быць луг толькі з рамонкаў?»). А дазвол бацькам у Беларусі самім рашаць, ці вывучаць іх дзецям родную мову, — адступленнем ад ленінскіх нацыянальных прынцыпаў.

Памятаю, як горача, страсна абараняў Караткевіч беларускую мову, спрачаючыся ў сакавіку 1966 года ў маім інтэрнацкім пакоі з драматургам Анатолем Галіевым (яны разам рабілі нейкі фільм). Пачалося ўсё з моднага тады супастаўлення «фізікаў» і «лірыкаў». Потым Галіеў стаў даказваць, што «нацыянальныя» крытэрыі ўжо аджылі сваё і павінны ўступіць месца «тэхнакратычным» поглядам. Таму Валодзя не мае, маўляў, рацыі, трымаючыся беларускай мовы, беднай, недалікатнай. Калі б стаў пісаць па-руску, то меў бы і славу, і ганарары. Караткевіч злаваўся, абвяргаючы апанента, чытаў вершы Багдановіча. Спрабаваў — Гаруна.

— Каму ўсё гэта трэба! — перапыняў яго Галіеў. — Можа, вось ім? — паказваў на майго сына і яго сваяка з вёскі.

Нечакана на бок больш далёкага госця стала і мая нябожчыца маці: так, беларуская мова нейкая «некультурная»... І тут Валодзя першы раз на маіх вачах заплакаў:

— Усе вы нават не ведаеце, якую страшную рэч кажаце.

Адносіны Караткевіча да нацыянальнай гісторыі былі заўсёды паслядоўныя: яна багатая і «нармалёвая», толькі мала вывучаная, раздадзеная намі ж суседзям. Наша мінулае нельга маляваць толькі адной фарбай — белай або чорнай, бо былі ў ім і прымус, і жорсткасць, і здрада, але былі і светлыя праявы. Без іх проста немагчыма народнае жыццё. Караткевіча страшэнна абурала, калі хтосьці сцвярджаў, што раней у беларусаў, апрача каўтуна і лапцей, нічога не было. І каб даказаць адваротнае, не раз ездзіў у экспедыцыі з навукоўцамі, якія рыхтавалі шматтомны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Разглядаў яго выданне («толькі поўнае») як сваю кроўную справу і нават напісаў частку прадмовы да макета па Брэсцкай вобласці.

Уладзімір Караткевіч быў першы, хто ў Беларусі стаў біць трывогу, прадбачачы экалагічныя крызісы. Добра ведаючы нашы лясы і рэкі, ён заклікаў да іх разумнага, гаспадарскага выкарыстання. Напісаў эсэ «Званы ў прадоннях азёр», дзе даказаў, што меліярацыя на Палессі вядзецца па-варварску, толькі як асушэнне. У выніку на месцы балот з'явіліся пяскі, пачаліся чорныя буры, да горшага змяніўся клімат, зніклі многія расліны, звяры і птушкі. Як ужо гаварылася, эсэ Караткевіча выклікала рэзкую крытыку ў друку. Выступаючы ў лютым 1970 года перад камсамольцамі АН БССР, С. А. Пілатовіч абвінаваціў аўтара ў тым, што ён, маўляў, не ўбачыў на Палессі нічога новага, хоча з палешукоў стварыць нейкую «рэзервацыю». Але пісьменнік стаяў на сваім: многія экалагічныя ідэі, выказаныя ў эсэ «Званы ў прадоннях азёр», ён паўтарыў у кнізе-нарысе «Зямля пад белымі крыламі», выдадзенай спачатку па-ўкраінску, а по-

тым на беларускай і іншых мовах, — у артыкулах, напісаных па заказах рэспубліканскіх часопісаў і газет. Абараняў прыроду і непасрэдна, кулакамі: аднойчы пусціў іх у ход, калі пабачыў, што вялікаўзроставыя бамбізы падфутбольваюць маладога верабейчыка.

У сваім змаганні «за праўду» Караткевіч увогуле быў паслядоўны і бескампрамісны. Асабліва калі гэта датычылася не яго самога, а іншых. Неяк у 1973 годзе «Літаратура і мастацтва» змясціла абразлівую рэпліку Я. Герцовіча, скіраваную супраць празаіка Яўгена Васілёнка. Той расхваляваўся да інфаркту і неўзабаве памёр. На пахаванні Караткевіч падышоў да рэдактара газеты Хведара Жычкі і ледзь не даў яму аплявуху. Прысутныя далучыліся да асуджэння. І Жычка адышоў, апусціўшы галаву. У тыя гады «Літаратура і мастацтва» згубіла ранейшыя добрыя традыцыі, стала казённа шэрай. І гэта турбавала Караткевіча. На пленуме Саюза пісьменнікаў БССР у чэрвені 1974 года, у час прыняцця рэзалюцыі, ён перапыніў старшыню рэплікай:

— Калі пры Пашкевічу «ЛіМ» быў проста цікавы, калі пры Прокшу яго можна было часам чытаць, то цяпер, пры Жычку, чытаць яго проста немагчыма! Да якога часу будзем цярпець?! — і яшчэ нешта пра Васілёнка, сумленнасць.

Старшыня абарваў яго:

— Не перашкаджайце працаваць. На гэта Валодзя:

— Гэта ён, Хведар Жычка, перашкаджае ўсім нам працаваць!

Аднак прынцыповасць Караткевіча не мела нічога агульнага з максімалісцкай упартасцю, якую ён лічыў «уделом туполобых». Там, дзе гэта не датычылася асноўных жыццёвых і творчых прынцыпаў, ён ішоў на дыпламатычныя ўступкі. У маіх нататках ёсць такі запіс. 25 студзеня 1970 года нечакана да Валодзі ўвалілася цэлая група «кіношнікаў»: сімпатычны і таленавіты аператар Анатоль Забалоцкі, любімы ў гэтай кватэры, драматург Фёдар Конеў, яшчэ колькі асоб. Быў сярод іх і «максіміліст» Уладзік у скураных портках і тоўстым ваўняным світэры. Ён адразу накінуўся

на гаспадара: чаму ён дазволіў рэжысёру змяніць, па патрабаванні начальства, адзін з эпізодаў у «Хрысце»:

— Я б трымаўся да канца!

— А колькі табе год? — спытаў Караткевіч.

— З трыццаць дзявятага.

— О, то тады не пабачыў, не спазнаў бяды... А што загадаеш рабіць, калі людзі на здымках у роспачы, калі зноў прастой, а значыць, і зарплаты няма...

Юнак не здаваўся. Паказваў сваю дасведчанасць у сучасным заходнім кіно, у французскім жывапісе. Але Валодзя зноў абсек яго:

— Дарэчы, у слове Монпарнас чацвёртая літара «т» не вымаўляецца. Пара б ведаць! — і бачачы збянтэжанасць хлопца: — Вось бачыш... Так што давай не задзірацца.

Караткевіч не любіў агульных гучных слоў, балбатні і цаніў канкрэтныя справы. Неяк мы разгаварыліся з ім пра сітуацыю з беларускай мовай. Я расказаў яму пра свой ліст на імя тагачаснага Міністра асветы БССР Рыгора Якаўлевіча Кісялёва (ён прыняў мяне, і паміж намі адбылася канструктыўная на той час размова), і Валодзя нечакана ўспомніў вялізныя статуі на востраве Вялікадня (вычытаў пра іх у сваім любімым часопісе «Вокруг света»):

— Разумееш, стары, вучоныя рашылі высветліць, а як жа іх, такія аграмадзіны, ставілі старчаком далёкія продкі, якія шчэ не ведалі розных там пад'ёмных кранаў. Паспрабавалі ўзнімаць рыўком — нічога не выйшла: рваліся тоўстыя тросы, статуі падалі ніцма. Нарэшце здагадаліся: тыя падкладвалі пад галаву і спіну плоскія камені. Так і нам трэба...

І калі ў прысутнасці Караткевіча заводзілі размовы, як бы «рыўком» змяніць усё тое, што сёння называецца застоем, Караткевіч злаваў, лічачы гэта правакацыйнай дэмагогіяй, што толькі шкодзіць справе. Памятаецца, калі ў 1970 годзе адзначалася Валодзевых «сорак», назаўтра, каб «паправіць галовы», прыйшоў Сцяпан Міско з нейкім матэматыкам. Апошні пачаў бесцырымонна выкладаць розныя нерэальныя планы. Караткевіч пахмурна перапыніў яго:

— У маім доме пра палітыку, такую палітыку, не гаварыць! Зарубі гэта, хлопча, на носе!

— Што ж рабіць? Цярпець?

— Дзела рабіць! Сілы збіраць! Розум назапашваць! Каб вытрываць.

І Валодзя трываў, дапамагаў сваім словам і прыкладам вытрываць іншым. Праўда, не раз паддаваўся дэпрэсіі, не раз (што ўтойваць) змрочна (як сказаў Адамовіч, «з ідэяй») пачынаў піць. Але знаходзіў сілы, каб перамагчы сябе, зноў вярнуцца за пісьмовы стол, зноў быць вясёлым і дасціпным.

Зрэшты, тагачаснае быццё, як і жыццё наогул, не складалася толькі з адных маральных пакут. Яно было, па словах Караткевіча, паласатае, як зебра: паласа цёмная, паласа светлая. Згадваецца некалькі такіх «светлых палос» другой паловы шасцідзясятых гадоў. У 1967 годзе Валодзю нарэшце выдзелілі двухпакаёвую кватэру на другім паверсе (з увагі на ўзрост маці) у пяціпавярховым панельным доме пад нумарам 48 на вуліцы Веры Харужай. Заехаўшы (усе мы дружна памагалі яму пакаваць і цягаць кнігі), ён цешыўся, што побач — Старажоўскі рынак, дзе па нядзелях чулася сакавітая вясковая гаворка, прадавалі пеўняў, сабак і нават коней, а за ім — Камсамольскае возера. Перажываў, што я застаюся ў інтэрнаце.

— Нічога, стары, — суцяшаў, выйшаўшы на балкон. І тыцнуў пальцам у недабудаваныя дамы насупраць: — Во добра было б, каб табе далі вось там.

Сваё прадбачанне ён разглядаў як рэальнасць і нават прапанаваў «за адным заходам» купіць аднолькавыя кніжныя стэлажы:

— Складзеш пакуль што ў мяне. А пераносіць будзе недалёка, пабачыш.

І якое ж было наша ўсеагульнае здзіўленне, калі восенню таго ж года мне сапраўды выдзелілі кватэру ў адным з дамоў насупраць. Мы сталі часцей бываць адзін у аднаго. Пакуль не было тэлефонаў, «пераміргваліся» настольнымі лямпа-

мі. Тады ж у мяне і здарылася «рыначная» сцэна, апісаная потым у рамане «Чорны замак Альшанскі».

Аднойчы раніцай, на самым пярэдадні Кастрычніцкіх свят 1967 года, Караткевіч прыбег да мяне ўзбуджаны:

— Разумееш, стары, я, здаецца жанюся!

— І хто ж тая, што нарэшце цалкам запаланіла тваё сэрца?

— З Брэста. Валя. Валянціна Браніславаўна. Разумная жанчына. Гісторык, дакладней, археолаг, і дысертацыю абараніла.

І ён расказаў нам такую гісторыю. Уладзімір Калеснік запрасіў яго ў Брэст на чытацкую канферэнцыю па рамане «Каласы пад сярпом тваім». Разам са студэнтамі свайго курса, як куратар, прыйшла туды і Валянціна Браніславаўна. Канферэнцыя не дужа цікавіла яе, і яна, адседжваючы «мерапрыемства», чытала нейкі польскі дэтэктыў (дэтэктывы былі яе слабасцю). І калі ў прафесарскай Уладзімір Калеснік пазнаёміў іх, яна спытала:

— А чаму б вам не напісаць які дэтэктыў?

— Які, да прыкладу? — Валодзя сам страшэнна любіў добрыя дэтэктывы. Як і фантастыку.

— Ну, хаця б такі, як «Дзікае паляванне караля Стаха»... — аказваецца, Валянціна Браніславаўна неяк чытала ў цягніку часопіс з гэтай аповесцю, але не звярнула ўвагу, хто яе аўтар.

— Гага! Тры: га! — разрагатаўся Валодзя. — Дык гэта ж я напісаў «Стаха»!

Валянціне Браніславаўне стала ніякавата, і яна прапанавала:

— Тады пайшлі піць каву...

Валодзя расказваў усё гэта з гумарам і, здаецца, быў задаволены.

— Дык што ж тады цябе бянтэжыць? — не стрывала мая Марыя.

— Разумееце, старыя, я запрасіў яе на свята да сябе і толькі ў цягніку ўспомніў, што мы ўсе запрошаны ў Ракаў, на вяселле Рагойшавага Славы.

— То вазьмі і яе з сабою.

— А выпадае?

— Чаму ж...

Вяселле маладога беларускага літаратуразнаўцы Вячаслава Рагойшы з украінкай Таццянай Кабржыцкай, таксама філолагам, усе мы дружна найменавалі «вяселлем веку». З Львова прыехалі бацькі маладой — урач і заслужаны артыст. З Мінска — Міхась Ларчанка, Алег Лойка, Язэп Семяжон, Фёдар Янкоўскі. Захоўваліся многія старыя абрады, у тым ліку і выкраданне нявесты, дзяльба караваю. Спяваліся беларускія, украінскія, рускія, польскія песні. Уладзімір Караткевіч жвава вытанцоўваў полечку з Валянцінай Нікіцінай і ўвогуле быў завадатарам усялякіх «хохмаў». Аднак яго сяброўка прыйшлася не даспадобы некаторым маладзейшым «максімалістам»:

— Раз дрэнна гаворыш па-беларуску, то ты яму не пара, — заявілі яны за сталом, прама ў вочы.

Пачаліся жаночыя слёзы. Караткевіч вымушаны быў вярнуцца ў Мінск. А мы пачалі сарамаціць нявыхаваных хлопцаў:

— Толку, што вы гаворыце!

Да гонару Валянціны Браніславаўны трэба сказаць, што яна, жанчына рашучая, настойлівая і, як пісаў пра яе А. Ліс, «з запасам цярплівасці», неўзабаве стала гаварыць па-беларуску лепей, чым тыя, хто яе папракаў. Больш таго, аказалася, што яна апантаней аддадзена беларускай культуры, чым іншыя аматары гучных слоў. Тое, што зрабіла Валянціна Браніславаўна Караткевіч для падрыхтоўкі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», для таго, каб ён ішоў «без купюр», можна смела назваць навуковым подзвігам, грамадзянскай мужнасцю. Яна бясконца ездзіла ў экспедыцыі, абараніла не адзін помнік архітэктуры, пісала сама артыкулы і брашуры і рэдагавала чужыя. Аўтарытэт яе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, дзе яна працавала, і ўвогуле ў навуковых колах быў высокі.

А пакуль што Валянціна Браніславаўна працягвала жыць у Брэсце, чытаць там лекцыі па гісторыі КПСС. Даволі часта прыязджала ў Мінск, узважвала розныя варыянты абмену кватэры, шукала новую работу. Нарэшце 18 лютага 1971 года, роўна ў 110 гадавіну адмены прыгоннага права, адбыўся іх шлюб.

— Сялян вызвалілі, а мяне, стойкага ворага ўсялякага прыгону, звязалі путамі Гіменея, — жартаваў Валодзя, ідучы ў загс, размешчаны ў суседнім доме. Сведкамі маладых былі гісторык мастацтва Людміла Лапцэвіч і я. Работніца загса аказалася родам з Оршы, свайго земляка ведала па творах — і таму віншавала маладажонаў вельмі сардэчна.

Па розных прычынах аб дакладнай даце шлюбу Караткевічы асабліва нікому не казалі. За сталом сядзелі толькі сваякі і бліжэйшыя сябры: Надзея Васільеўна (нявестку яна дужа ўпадабала), яе кіеўская сястра з мужам, Грынчыкі (Мікола Грынчык звязаў маладых поясам «на ўсё жыццё»), Рагойшы, Лапцэвічы, Мікола Прашковіч, тэатразнавец Іза Гатоўчыц, гісторык архітэктуры Юра Якімовіч, яшчэ хтосьці. Валодзя быў узбуджана-прасветлены, задаволены, што нарэшце прыняў рашэнне. Шкадаваў, што няма многіх сяброў, асабліва Барадуліных.

— Нічога, разжывуся грашыма — тады зробім бэнц для ўсіх.

Але, не чакаючы бэнца, Рыгор Барадулін з'явіўся назаўтра. І не адзін, а з паэтам і кінасцэнарыстам Юрыем Лакербаем. Апошні ўзнімаў дасціпныя «кароткія» тосты, расказваў пра сваю родную Абхазію. І Валодзя жартаўліва, патрапляючы яму ў тон, знаходзіў многа агульнага ў лёсах Абхазіі і Беларусі.

Абяцаны бэнц адбыўся 27 сакавіка. На ім прысутнічалі Рагойшы, Лапуці, Пушкіны, Алеся Ігнатаўна Смоліч, удава вядомага беларускага географа. З'явіўся і Сцяпан Міско, хаця Валянціна Браніславаўна не ўхваляла многія яго выхадкі. Я трапіў на баль «з карабля» — з Днепрапятроўска, дзе тады адбываліся Дні культуры савецкіх народаў. Прывёз адтуль маладым вялізны ўкраінскі каравай.

З прыходам у дом Валянціны Браніславаўны ў многім змяніўся ўклад Валодзевага жыцця. Нягледзячы на сваю навуковую занятасць, яна ўзяла на сябе многія бытавыя клопаты. Перасталі наведвацца некаторыя знаёмыя з «халасцяцкімі» звычкамі. Іх месца занялі калегі па рабоце Валянціны Браніславаўны. Пасля пераезду з Вільнюса ў Караткевічаў сталі часта бываць Кісялёвы. Пасля вяртання з Урала — сястра Валодзі, Наталля Сямёнаўна Кучкоўская, яе муж Іван Мікалаевіч і дочкі. Неўзабаве Валянціна Браніславаўна абмяняла сваю брэсцкую кватэру на пакой у Мінску, а затым двухпакаёвую кватэру Валодзі і свой пакой — на трохпакаёвую кватэру з высокай столлю ў доме 36 па вуліцы Карла Маркса (наўскасяк ад тэатра імя Янкі Купалы). Там нарэшце ў пісьменніка з'явіўся асобны кабінет для работы. Ажаніўшыся, Караткевіч стаў часцей адпачываць — у сваім любімым Кактэбелі, а таксама ў Гаграх, Дубултах. Хоць і ўсялякае бывала ў жыцці, Караткевіч быў удзячны жонцы за яе паўсядзённыя клопаты.

— Шматпакутніца яна, — сказаў Валодзя ў сваім тосце, калі адзначалася саракагоддзе Валянціны Браніславаўны. — Бо нялёгка быць жонкай пісьменніка. А такога чорнага аспіда, як я, — удвая.

— Ведала, Валодзечка, аспід мой чорны, на што іду, — парыравала Валянціна Браніславаўна.

Былі ў тагачасным жыцці Уладзіміра Караткевіча і іншыя «светлыя палосы». 26 лютага 1971 года ў Саюзе пісьменнікаў БССР прайшоў яго першы творчы вечар. На яго сабралася мноства народу — перад пачаткам нават перасталі пускаць жадаючых. Прыйшлі Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, Мікалай Мікалаевіч Улашчык, Рыгор Раманавіч Шырма. Валодзя чытаў вершы, урыўкі з «Каласоў...». Паказваў, каменціруючы, здымкі-слайды гістарычных помнікаў, пераважна запушчаных, разбураных. Атмасфера ў зале была цяжкаватая, яе ўзмацнялі «сябры», што прыйшлі на падпітку і кідалі рэплікі. І нават Аляксей Кулакоўскі, тагачасны сакратар пісьменніцкай партарганізацыі, разгублена выціраў пот.

— Скажыце хоць, што гэта рэстаўравана, — кінуў ён віноўніку вечара, калі на экране з'явілася Полацкая Сафія.

Пасля вечара сябры павялі Караткевічаў у рэстаран «Нёман», дзе якраз шумна гуляла нейкая кампанія цыганоў. Адзін з іх падышоў да Валянціны Браніславаўны і з нахабнай галантнасцю запрапанаваў:

— Я дико извиняюсь, мадам. Разрешите предложить вам тур вальса с собой!

— С такой же дикостию не разрешаю! Вы, сударь, имеете дело с человеком, который сотворил «Цыганского короля»! — адказаў за жонку Валодзя. І тут жа, нібы апраўдваючыся, дадаў нам: — Цыганы — яны вельмі розныя, — і пачаў расказваць, як гасцінна сустрэлі яго цыганы на Палессі ў час пахавання свайго «суддзі», які патануў, ратуючы беларускую дзяўчынку.

З таго вечара словы «я дико извиняюсь» надоўга ўвайшлі ў лексікон Караткевічаў...

Ну і, вядома ж, былі ў тыя часы і творчыя радасці. Караткевіч застаўся задаволены аповесцямі «Чазенія» і «Лісце каштанаў», якія і сёння вельмі папулярныя, асабліва сярод моладзі. Першая з іх асобнай кніжкай выйшла раней у перакладзе на рускую мову (1969) і толькі затым — у арыгінале (1970). Часопісны варыянт рускага перакладу «Чазеніі», апублікаваны ў «Молодой гвардии», сабраў там ці не рэкордную колькасць чытацкіх водгукаў з усяго Савецкага Саюза. «Лісце каштанаў» увайшло ў зборнік «Вока тайфуна» (1974).

«Чазенія» — гэта ўзнёслы гімн першабытнай далёкаўсходняй прыродзе, Усурыйскай тайзе. Мы выразна бачым і горы, парослыя густымі лясамі, дзе побач з піхтамі і араліямі сустракаецца таямнічае дрэва, што дало назву аповесці, і крынічныя даліны з заблытанымі сцежкамі, на якіх можна сустрэць тыгра. У адной з такіх далін, Тыгравай Падзі, лёс звёў вучонага-атамшчыка Севярына Будрыса і біёлага Гражыну Арсайла. Здавалася б, яны створаны адзін для аднаго. Дык не! Севярын атрымаў значную дозу апра-

меньвання, яго эксперыменты тояць небяспеку для прыроды. Гражына ж, як будучая маці, сэрцам адчувае і прадчувае гэтую небяспеку. Яна кажа: «Я зямлю люблю, даліны, невысокія, зялёныя, вось такія, горы, цеплыню люблю. У ёй прыгажосць. І сапраўдная вышыня — у ёй. Чорта людзям у вышынях, на якіх нельга жыць... Якая страшная праца!» Таму, у рэшце рэшт, Гражына, шчыра кахаючы Севярына, усё ж пакідае яго.

Як і папярэднія творы Караткевіча, «Чазенія» выклікала рэзкае непрыняцце Я. Герцовіча. У артыкуле «Шукаць у рэальным жыцці», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» 25 чэрвеня 1971 года, ён абвінаваціў аўтара аповесці і ва ўтапічнасці, і ў ігнараванні навукова-тэхнічнага прагрэсу, ядзернай фізікі. Я. Герцовіч рашуча аспрэчваў палымянскую рэцэнзію С. Андраюка, які апраўдваў паводзіны герояў аповесці тым, што іх «мучаць страшэнныя прывіды атамнага выбуху». Аднак гісторыя даказала, што рацыю тут меў С. Андраюк. У наш час, калі мы вядзём паслядоўную барацьбу супраць татальнага знішчэння чалавека і прыроды, калі горкі ўрок нам выдаў Чарнобыль, разважанні Севярына і Гражыны гучаць надзвычай актуальна.

Як страсны пратэст супраць вайны, яе непатрэбных ахвяр успрымаецца сёння таксама аповесць «Лісце каштанаў». Месца яе дзеяння — Кіеў 1944 года. Горад ужо вызвалены ад фашыстаў, але, зразумела, увесь ляжыць у руінах. Фронт адкаціўся кудысьці на захад, і туды ж, у бой, рвуцца героі аповесці — беларус Васілька Стасевіч, ад чыйго імя вядзецца апавяданне (у ім лёгка ўгадваецца сам аўтар), украінцы Багдан Цар і Раланд Дзмітрэнка, напалову малдаванка, а можа, крыху і цыганка Нонка Юніцкая, немец Карл Канецкі. Падлеткі па «чатырнаццаць-пятнаццаць-шаснаццаць год», яны не дагулялі ў сваім галодным дзяцінстве, у эвакуацыі, у партызанах, і цяпер адчайна гуляюць у вайну, выступаюць вуліца на вуліцу. Аднак іх бойкі ніколі не даходзілі да жорсткасці, да расправы: «Знявечаныя, без пары дарослыя, мы ўсё ж не білі ляжачага ботам у бок і не гулялі ў расстрэл. Так, мы не гулялі ў расстрэл».

І адначасова гэта галодная пара была шчаслівай парой маладосці. «Божа мой, — усклікае апавядальнік, — якія мы былі маладыя, якія да святасці дурныя і якія бязглузда, па-боску чыстыя!» Менавіта ў такую пару прыходзіць першае каханне, якое героі сарамліва называюць «дружбай». Хваля гэтага светлага пачуцця захліснула і Васіля Стасевіча, Нонку Юніцкую. Яны акрылены вялікай і светлай марай. Ім хочацца жыць у праўдзе, у справядлівасці — і каб «ніводнай сволачы на свеце». Каб набудавалі новых гарадоў, у кожнага чалавека былі «тысячы кніг». І галоўнае, каб усюды быў мір — «ні табе аблаў, ні стрэлаў, ні мін».

Героі аповесці не толькі прагнуць шчаслівага мірнага жыцця. Яны гатовы за яго змагацца — уцячы на фронт або туды, дзе ловяць бандытаў. І не проста так, а з уласнай зброяй у руках. Дзеля гэтага яны пайшлі за горад, у глыбокі яр, і пачалі адкопваць кулямёты і вінтоўкі, кінутыя акупантамі. Нечакана рванулі затоеныя міны... Трое з падлеткаў назаўсёды засталіся спаць «у дняпроўскім пяску і ніколі ўжо не ўбачаць ні сонца, ні сіняй ракі, ні залатой лістоты каштанаў».

Да тых жа, хто застаўся ў жывых, кожны раз, калі аблятае лісце каштанаў, вяртаецца пякучая памяць пра загубленыя рэхам вайны жыцці, пра «знявечанае юнацтва».

Адначасова з аповесцямі «Чазенія» і «Лісце каштанаў» Уладзімір Караткевіч напружана працаваў над сваім лепшым гістарычным раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Ў яго аснову была пакладзена аднайменная кінааповесць. Пасля таго як зняты па ёй фільм «Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка» безнадзейна, здавалася, назаўсёды лёг на паліцу, аўтар рашыў, што мае ўсе юрыдычныя і маральныя правы ператварыць сцэнарый у самастойны твор. І не памыліўся: талент пісьменніка заззяў у ім новымі і нават нечаканымі гранямі.

Падзеі рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» адбываюцца год на трыста раней, чым у «Каласах пад сярпом тваім» — у далёкім XVI стагоддзі. Падзеі гэтыя ня-

звычныя, выключныя: у сярэдневяковай Гародні з’явіўся чалавек, Юрась Братчык, які па волі лёсу вымушаны быў выдаць сябе за Хрыста, а потым, увайшоўшы ў ролю, разам з дванаццацю «апосталамі» вандраваў па Беларусі, усюды наводзіў справядлівыя парадкі. Ад багатых адбіраў ён харчы і грошы, дзяліў іх сярод бедных. Караў царкоўнікаў, магнатаў, гандляроў. Бараніў землякоў ад татарскага нашэсця. Выходзіў цэлым з самых небяспечных і неверагодных сітуацый. Тварыў «цуды».

Галоўны герой рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — не толькі плод аўтарскай выдумкі. У «Хроніцы Белай Русі» Мацея Стрыйкоўскага ёсць некалькі радкоў пра тое, што пры каралі Жыгімонце I і на Гродзеншчыне знайшоўся самазванец, які «собе пріпісаў і прівлашчаў» імя Хрыста. Гэтых скупых звестак аказалася дастаткова, каб абудзіць фантазію пісьменніка. Адштурхнуўшыся ад хронікі Стрыйкоўскага, Караткевіч дадумаў тое, што магло быць з самазванцам. І дадумаў так вобразна і дакладна, напоўніў апавядальную плынь такімі канкрэтнымі рэаліямі, што мы бачым тыя далёкія падзеі, верым аўтару нават там, дзе ён расказвае неверагоднае. Ва ўсёй шматграннасці паўстае перад намі беларускае сярэдневякоўе з яго рэзкімі сацыяльнымі кантрастамі, барацьбой за ўладу, інквізіцыяй, засіллем схаластыкі, праз якую квола прабіваюцца парасткі Рэнесансу і гуманізму. Паміраюць ад голаду сяляне, а побач па дарозе цягнуцца вазы, гружаныя збожжам, якое па Нёмане будуць сплаўляць у Заходнюю Еўропу. Крамольным званам, што клічуць просты люд на барацьбу, вырываюць «языкі», самы ж большы звон хвошчуць бізунамі, уквэцанымі ў гнаі. Касцельны суд выносіць рашэнне выгнаць з горада ў дваццаць чатыры гадзіны ўсіх мышэй, і толькі цяжарным грызунням даецца месячная адтэрміноўка. У падзямеллях катуюць распаленым жалезам ерэтыкоў і ўяўных ведзьмаў. Трагічнае, жахлівае, пачварнае суседнічае з будзённым, смешным, ідылічным.

Чытаючы раман, увесь час здзіўляешся шматграннасці таленту Уладзіміра Караткевіча, яго ўменню пераўвасаб-

ляцца. Стыль апавядання ўвесь час мяняецца: то ён палетапіснаму бясстрасны, то становіцца ўзнёсла-трагічны, экзальтаваны, то шчымліва-сентыментальны, то гарэзліва-пацешны. А то раптам у тэкст уключаецца амаль навуковы, даследчыцкі каментарый. Кожны з дванаццаці апосталаў гаворыць сваёй, адметнай мовай, якая адпавядае яго паходжанню, яго сацыяльнай біяграфіі. Праўда, мова герояў часам празмерна (не ведаю, наўмысна ці міжвольна так атрымалася) асучаснена. З'яўляюцца фразы накшталт: «Па жаданні веруючых цуду не будзе». Або: «Неадменна гэта яны раней часу ад тэорыі да практыкі перайшлі».

У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» выразна адчуваецца той жа Караткевіч, што і ў «Каласах пад сярпом тваім». Відаць тое ж характэрнае спалучэнне рэалістычнага і рамантычнага пачаткаў, тая ж цікавасць да характараў яркіх і выключных, тое ж уменне захапіць чытача напружаным сюжэтам (і нават тыя ж недахопы: меладраматызм, «бесцялеснасць» жаночых вобразаў). Але з'яўляецца і прынцыпова новае. Польскі пісьменнік Тадэвуш Канвіцкі неяк сцвярджаў, што кожны аўтар «капае» пераважна з сябе, не можа выйсці за межы свайго асабістага вопыту, сваёй біяграфіі. І калі да Андрэя Грынкевіча і нават Алеся Загорскага гэтае выказванне ў многім стасуецца, то ў Юрасю Братчыку сам аўтар ужо амаль не адчуваецца. У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Караткевіч дасягнуў той ступені аб'ектывізацыі мастацкага пераўвасаблення, якая ўласціва лепшым гістарычным творам Г. Сянкевіча ці А. Ірасека.

Народны заступнік і філосаф Юрась Братчык — сын сярэдневяковай эпохі, калі панавала рэлігійнае светаўспрыманне. Ён мысліць часта схаластычнымі катэгорыямі. Але адначасова ў ім адчуваецца і чалавек Рэнесансу, дзесьці духоўна блізкі да Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага. Братчык думае не толькі пра часовае, але і пра вечнае, пра тое, што складае сэнс быцця ўсіх часоў і народаў. І таму многае ў ім блізкае і зразумелае нам, людзям зусім іншай эпохі.

Нас прываблівае ў герої тое, што ён увесь час імкнецца да «ведання», пакутліва шукае сябе, сваё месца ў гістарычнай хадзе. Братчыку хочацца знайсці «зямлю праўды», дзе не будзе галодных і шыбеніц, хочацца бачыць у чалавеку чалавека. Герой Караткевіча безумоўна разумее, што «шчасце не з'явіцца прадчасна», што нельга «выскачыць» за межы сваёй эпохі. Аднак, тым не менш, ён змагаецца за набліжэнне гэтага далёкага, прывіднага яшчэ шчасця. Гуманістычныя погляды Братчыка асабліва поўна раскрываюцца ў яго размове-спрэчцы з Юстынам. «Значыцца, умацуйся ў мужнасці сваёй, — пераконвае лжэ-Хрыстос бургамістра Гародні. — Сурова сей пасеў свой, не давай яго затаптаць, не спадзявайся, што лёгка аддадуць праўду. Чакай кожную хвіліну бойкі і плахі. Вось — вера. А іншай няма. Іншая вера — ад нячыстага, ад сатаны».

У рамане асабліва ўражвае сцэна, калі Братчыка вядуць на распяцце, на Галгофу. Вось дзе напружанасць дзеяння і — ніводнага лішняга слова! Такі ж — сон галоўнага героя, у якім вельмі па-караткевічаўску ўвасоблены сярэдневяковыя сялянскія мары аб роўнасці, справядлівасці і сытасці. У раі, што мроіцца Юрасю, усё так нагадвае зямлю: басаногі пастушок гоніць «па хмарах сытых кароў з прыўкраснымі вачыма», увішна гаспадарыць дзева Марыя, дастае з-пад лавы «бусла» з гарэліцай сам бог Саваоф. Кожная вёска там — як пахучы букет. Палі ўсюды чыстыя, дагледжаныя — па іх можна ісці босаму і не пакалечыць ногі. «Зямля дымела ад сытасці і задавальнення, на вачах гонячы ўгору злакі і дрэвы. Залатыя пчолы жундзелі ў шатах ліп. Паўсюль былі дастатак і заможнасць, паўсюль — сляды бясконца прыкладзеных да справы чалавечых рук...» Прачытаўшы апісанне гэтага сну, я зразумеў, чаму вядомы ленінградскі літаратуразнавец, член-карэспандэнт АН СССР Павел Навумавіч Беркаў, звычайна скупы на кампліменты, у адным з перадсмяротных лістоў параўнаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» з творам Франсуа Рабле.

Франсуа Рабле, Шарль дэ Кастэр, Рамэн Ралан, Міхаіл Булгакаў... Безумоўна, гэтыя класікі сусветнай літаратуры

былі светлымі настаўнікамі Уладзіміра Караткевіча ў час напісання рамана. І калі б вучань толькі паўтарыў іх на сваім, беларускім матэрыяле, то нават і тады яго праца варта была б ухвалення. Аднак вучань не дужа капіраваў настаўнікаў, пайшоў адметным ад іх шляхам. Яго Юрась Братчык блізкі, як гэта і падкрэсліваў сам аўтар, да вечнага і шматпакутнага вандроўніка Тыля Уленшпігеля з аднайменнага рамана Шарля дэ Кастэра, але блізкі пераважна ў тыпалагічным плане — як сын адной і той жа эпохі, як народны заступнік, народны характар. Больш чым на чужыя ўзоры, Караткевіч арыентаваўся на сваё — на старыя летапісы, легенды, казкі. І яшчэ — творча выкарыстаў біблейскія матывы. У рамане ёсць і дванаццаць апосталаў, і грэшніца Магдалена, і пакутнік Лазар, і трыццаць сярэбранікаў Іуды. Аднак усё гэта пазбаўлена арэолу святасці (тыя ж трыццаць сярэбранікаў проста прапіваюць). Самыя разнастайныя крыніцы, выкарыстаныя пры напісанні гэтага твора, дзякуючы багатай фантазіі аўтара зліваюцца ў адно непадзельнае і непаўторнае цэлае.

Адначасова з прозай пісаліся і вершы. Плённасць паэтычных пошукаў Уладзіміра Караткевіча выразна выявілася ў зборніку «Мая Іліяда» (1969). У ім багата твораў («Беларуская песня», «Землятрус», «Здратаваныя магілы», «Маленне аб чашы», «Чорная балада Гаркушы», «Балада аб трыццаць першым сярэбраніку», «Трасцянец», «Таўры»), якія ўражваюць значнасцю вобразаў і абагульненняў, страснасцю пачуццяў. У вялікім цыкле вершаў «Таўрыда» апяваецца прыгажосць Крымскіх гор і стэпаў, велічны Карадаг, Чорнае мора, у якое Караткевіч любіў хадзіць з рыбакамі. Але часцей за ўсё паэт звяртаецца да роднай Беларусі, уваскрашае яе светлыя постаці («Скарына пакідае радзіму», «Нявесце Каліноўскага», «Багдановічу»). Мінулае для яго неабходна, каб лепш асэнсаваць сучаснасць і будучыню, каб яскравей выказаць сыноўнія пачуцці да сваёй Айчыны. Патрыятызм Караткевіча страсны і дзейсны, асабліва ў «Беларускай песні»:

Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, — ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі ў хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок...

Крытыкі і даследчыкі (М. Барсток, С. Гаўрусёў, Я. Шпакоўскі, М. Ярош) у свой час аднадушна ацанілі «Маю Іліяду» як значнае творчае дасягненне аўтара, як кнігу спелую, маштабную і цэласную, як сведчанне непарыўных сувязей з Купалавай і Багдановічавай традыцыямі і смелага наватарства. Вядома, у рэцэнзіях былі і крытычныя закіды — у празмернай рацыяналістычнасці асобных вершаў, зададзенасці, кніжнасці. І ўсё ж хочацца тут удакладніць, што ўказаныя «недахопы» з'яўляюцца працягам «вартасцей» Караткевіча, тлумачацца асаблівасцямі яго таленту. Кніга, літаратура, не толькі беларуская, але і славянская, еўрапейская, сусветная, былі для яго такой жа крыніцай натхнення, такой жа глебай, што і рэальнае жыццё.

У сямідзясятыя гады значна пашыраюцца творчыя гарызонты Караткевіча. Ён многа і прагна чытае, часта глядзіць тэлевізар. Даволі многа ездзіць у іншыя рэспублікі — у Арменію, Грузію, Латвію, Эстонію. Некалькі разоў выбіраецца — адзін і з Валянцінай Браніславаўнай — у Польшчу і Чэхаславакію.

Першая зарубежная паездка Уладзіміра Караткевіча адбылася ў 1971 годзе. Яго запрасіў у Кракаў дацэнт Ягелонскага ўніверсітэта, чэхіст па спецыяльнасці Здзіслаў Нядзеля. Ураджэнец Беларусі, ён дужа хацеў пагглядзець сваю радзіму, і ў 1969 годзе я запрасіў яго ў Мінск, тады ж

пазнаёміў з Караткевічам. Нядзеля хацеў адказаць рэваншам і ўзаемна запрасіць мяне ў госці. Але я сказаў:

— Мяне збіраюцца і так паслаць у Польшчу ў навуковую камандзіроўку. То лепей няхай пан Здзіслаў запросіць Валодзю. За граніцай ён яшчэ ніколі не бываў: у афіцыйныя дэлегацыі яго не ўключаюць па «крамольнасці». А ў Польшчы пабываць хоча, бо цікавіцца яе гісторыяй, у многім для нас агульнай.

— Толькі адначасова з табой, Адасевіч, — папрасіў Валодзя. — Што я там адзін буду рабіць.

Так і рашылі: Нядзеля вышле запрашэнне не мне, а Караткевічу. Аднак час ішоў і ішоў. Мая трохмесячная камандзіроўка ўсё адкладвалася (па той жа «крамольнасці»). Нарэшце восенню 1971 года яна стала рэальнасцю. Мы дамовіліся, што Валодзя прыедзе ў Кракаў, калі я ўжо акліматызуюся там пасля Варшавы, што мы абавязкова сустрэнем яго на пероне. 25 лістапада Нядзеля загадзя выбраўся са мною на вакзал і, спасылаючыся на тое, што цягнікі ў Польшчы звычайна спазняюцца, прапанаваў зайсці на «маленькую чорную». На перон мы выйшлі цюцелька ў цюцельку па раскладзе і — здранцвелі: цягнік, чаго ў Польшчы звычайна не бывае, прыбыў з апераджэннем, стаяў пусты. Мы кінуліся туды, дзе свяціліся літары «Выйсце до мяста», і каля агароджы знайшлі Валодзю, разгубленага і пакрыўджанага. Як ён дацягнуў туды чамаданы — аднаму пану богу вядома.

— Яшчэ пяць мінут — і аддаў бы прызначаныя для вас запасы першаму лепшаму таксісту, — напаў на нас Караткевіч ледзь не са слязьмі на вачах.

Час быў позні. Дачакаўшыся таксі, мы раз'ехаліся: Валодзя — да Нядзелі, на вуліцу Дэшчовую, а я — у свой гатэль «Краковія». Дамовіліся толькі, што назаўтра сустрэнемся «Пад Сукеніцамі», у цэнтры горада, гадзін так у чатырнаццаць, калі я ўжо крыху папрацую ў бібліятэцы.

А назаўтра быў Караткевічаў дзень нараджэння. «Пад Сукеніцы» прыйшоў ён урачысты, у белай кашулі. Пад гукі гейнала з Мар'яцкай вежы ўсклаў кветкі да помніка «наша-

му супольнаму» Адаму Міцкевічу. Пакарміў галубоў купленым зернем. Паабедалі мы адны, бо Здзіслаў мусіў пайсці ва ўніверсітэт. Да запланаванай «імяніннай» вячэры было яшчэ далёка, і Валодзя папрасіў мяне:

— Не ідзі ўжо ты да сваіх манускрыптаў. Пабудзь сёння са мною. Звадзі мяне на які гістарычны фільм.

І мы пайшлі ў нейкі трэцеразрадны кінатэатр. Дэманстраваўся італьянскі гістарычны фільм пра жахі роду Медычы. Асобныя сцэны былі проста жорсткія: дачка і маці засякаюць бацьку-распусніка, адно забойства адбываецца за другім. І на вуліцу выйшлі мы змрачнаватыя. Дзень таксама выдаўся пахмурны, дажджлівы. І таму, ведаючы з газет, што ў гэты дзень будзе факельнае шэсце студэнтаў-гарнякоў і які яго маршрут, я рашыў крыху ажывіць, расшавяліць імяninніка:

— Ведаеш, Валодзя, дзіўны народ гэтыя палякі. Неяк даведаліся, што сёння твой дзень нараджэння, і рашылі ўстроіць у яго гонар факельцуг...

— Ну і даеш ты... За старыя жартачкі ўзяўся?!

— Вось пабачыш, ці жартую, калі мы дойдзем да таго скрыжавання.

Дайшлі — і Валодзя спыніўся, здранцвелы: насустрач нам рухалася мора агню.

— Бож-жачка мой! — схапіўся ён за галаву. — І што: усіх іх — запрашаць? На дзве пляшкі «Белавежскай»?!

Тут я не вытрываў, рассмяяўся. Разрагатаўся і ён. Гуморы яўна паправіліся. І мы зайшлі ў прыватную краму па вуліцы Кроводэрскай («якая назва, дзед, напэўна ж, тут калісьці здзіралі скуры з кароў»), купілі шампіньёнаў і бульбы. Чакаючы гаспадара кватэры, Караткевіч спёк бульбу з шалупіннем у духоўцы, засмажыў паводле свайго рэцэпта («каб лыжка стаяла!») грыбы, накрыў стол.

Нядзеля вярнуўся з работы не адзін, а з прафесарам Бялградскага ўніверсітэта Стоянам Субоціным (на жаль, таксама ўжо нябожчыкам).

— Не хапае толькі таварыша Панядзельнікава! — сустрэў іх Валодзя.

Прафесар Субоцін цікава расказваў пра югаслаўскі рух Супраціўлення, пра сваю літаратуру. І тут Караткевіч нечакана пачаў чытаць на памяць вершы чарнагорскага паэта Радуле Стыенскага, якія спадабаліся яму яшчэ ў дзяцінстве. Югаслаўскі літаратуразнавец прызнаўся, што чуе гэтае імя... упершыню. Праўда, прафесара крыху апраўдвала тое, што Стыенскі да вайны жыў у СССР, з-за чаго яго неадназначна ўспрымалі на радзіме.

Нядзелю ж Караткевіч здзівіў тонкім веданнем польскай паэзіі. Яны заспрачаліся з-за нейкага радка Галчыньскага, і, калі звярнуліся да зборніка, аказалася, што рацыю меў беларус.

Увогуле ж Валодзя быў крыху сумнаваты: упершыню яго дзень нараджэння адзначаўся не дома, не ў Беларусі, без маці, якую ён вельмі любіў, святкаваўся без асаблівага «размаху», шумнай кампаніі. І мы, як умелі і маглі, стараліся, каб у Кракаве ён адчуваў сябе нібы дома. У наступныя дні я абводзіў яго па старых універсітэцкіх дворыках, якія памяталі Скарыну і Цётку. Здзіслаў узяў білеты ў тэатр імя Славацкага. Ішла нейкая французская п’еса на маральныя тэмы (па словах Валодзі — амаральныя!). Мы спрабавалі тлумачыць Караткевічу сэнс, але ён агрызнуўся, што ўсё цудоўна разумее і так.

Звычайна Нядзеля з раніцы ішоў да сваіх студэнтаў. Я — да сваіх рукапісаў (у бібліятэцы Чартарыскіх якраз знайшоўся «Аршанскі зборнік» з беларускай песеннаінтымнай лірыкай XVII стагоддзя, што дужа ўзрадавала Валодзю, аршанца родам). А Караткевіч адзін хадзіў па старых гарадскіх вулачках — па музеях, мастацкіх выстаўках, касцёлах, прыглядаўся да мясцовага жыцця. Адкрыўшы для сябе кафэ «Кухцік», дзе падавалі з нечым добрае піва, чытаў там касірцы свае беларускія вершы. І ў адказ пачуў нешта накшталт:

— О, гэта гучыць амаль як Міцкевіч.

— Лепей, чым Міцкевіч! — жартам паправіў яе Валодзя. — Дарэчы, род яго вядзе свой пачатак ад беларускага Міцькі.

Роўна ў дзве гадзіны, пад гукі гейнала з Мар'яцкай вежы, сустракаліся мы ля «Сукеніц» і ішлі абедаць. Кожны дзень выбіралі іншую кухню: горскую («гуральскую»), венгерскую, французскую. Па патрабаванні Караткевіча плацілі строга па чарзе. Ён жа заўсёды сачыў, каб на стале былі вострыя прыправы. Асабліва Валодзю спадабалася «магі» — падліва з сушаных грыбоў. І ў кожнай рэстарацыі ён гучна патрабаваў:

— І ешчэ попрошэн о пшыправэн з гжыбув!

У час гэтых сустрэч каля «Сукеніц» адбыліся два анекдатычныя выпадкі, якія потым Караткевіч называў «розыгрышамі веку». Аднойчы падыходжу. Гляджу: стаіць Валодзя каля кіёска з markdown рознымі кур'ёзнымі сувенірамі, выбірае, што б гэта, вярнуўшыся, паднесці сябрам. А тут да мяне падбягае цыганка — маладая, прыгожая, інтэлігентная— і абяцае вываражыць шчасце. Я кажу ёй, што ў тое шчасце не дужа веру і што няхай яна лепш вываражыць яго вунь таму чалавеку ў футравай шапцы: імя яго — Валодзя, і з'яўляецца ён беларускім пісьменнікам. Цыганцы толькі таго было і трэба. Падбегла яна да Караткевіча і зычна (чуў, хоць стаяў зводдаль) пачала (зразумела, па-польску):

— Пане Валодзя! Я пану вываражу шчасце, скажу, колькі пан кніжак выдасць у наступным годзе!

У Валодзі, як ён потым прызнаўся, валасы сталі дыбарам. Але паслухмяна палез у кішэню і стаў «залаціць» цыганцы ручку дробнай манетай. Варажбітка тут жа выказала незадавальненне: «залаціць» трэба «паперкай». І для заахвочвання дадала:

— Пан будзе жыць восемдзесят восем год!

— А нашто мне так многа? — здзівіўся Валодзя. І, даўшы нейкую «паперку», пачаў ніякавата адступаць.

І тут я выйшаў яму насустрач:

— Ты што гэта, Валодзя, сёння нейкі такі збянтэжаны?!

— Т-ты скажы лепей, адкуль кракаўскія цыганкі могуць ведаць маё імя?

Я паглядзеў на вежу Мар'яцкага касцёла, на помнік Міцкевічу, на пахмурнае неба і паволі вымавіў:

— Слава, Валодзечка, слава. Ужо і да Кракава дайшла!

Хадзіў ён несамавіты дні з тры — аж нарэшце, за абедам, я яму ва ўсім прызнаўся. Нечакана для мяне ён усцешыўся:

— Гэта ж гатовы міф! — і дамогся таго, каб заплаціць за абед па-за чаргой («па злоту за тых восемдзесят восем год»). — Больш, аднак, вы мяне, чэрці, ужо не купіце!

А ў другі раз было так. У амаль пустой зале бібліятэкі Чартарыскіх я пачуў, што нейкая жанчына гаворыць з абслугай па-польску, але з яўным рускім акцэнтам. Аказалася яна савецкай фалькларысткай. Як больш абазнанага з Кракавам спытала мяне, дзе тут лепей абедаць. І я адказаў, што мы, ёсць тут такі беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч, кожны дзень абедаем для разнастайнасці ў іншым месцы.

— Які Караткевіч? — спытала яна. — Той, што вучыўся ў Кіеве і напісаў «Чазенію»?

— Той самы.

— Ой, тады пазнаёмце нас асабіста! Зрабіце ласку!

Па дарозе да «Сукеніц» мы распрацавалі план розыгрышу. Падышлі — бачым: стаіць Валодзя ля помніка Міцкевічу, снег з каўняра абтрасае, на гадзіннік пазірае.

І вось падыходзіць да яго жанчына, апранутая ў дарагое футра, і па-руску строга пытае:

— Таварыш Караткевіч?

— Так.

— Уладзімір Сямёнавіч?

— Та-ак.

— Вось што, Уладзімір Сямёнавіч, вам прапануецца на працягу дваццаці чатырох гадзін пакінуць межы гэтай краіны. Аб прычынах лепей не пытайце, таму што вы іх добра ведаеце самі.

— Ну... Ну што такое я вам зрабіў? Пару разоў у «Кухцік» зайшоў, дык хіба за гэта высылаюць...

Жанчына рассмяялася. І тут Валодзя зразумеў, што яго зноў разыгралі.

— Завошта?! — спытаў ён у мяне меладраматычна, калі ўсё высветлілася.

— А каб не гаварыў, што цябе ўжо больш ніхто не «купіць», не зазнаваўся. Ды і за ўчарашняга «сапраўднага паляка», Валодзечка, за тое, што ты мяне таксама падвёў пад манастырскі мур...

А напярэдадні здарылася вось што. Польскія сябры арганізавалі ў наш гонар «прыём» у кафэ «Літаратурнае» на Плянтах. Прыйшоў з універсітэта прафесар Лужны, нейкі барадаты паэт. Пагаманілі крыху, выпілі па маленькаму кілішачку такайскага віна.

— Паседзімо дзе яшчэ! — рашуча запрапанаваў мне Валодзя, калі пачалі разыходзіцца.

— Дужа няма часу.

— Знойдзеш той час! — калі Караткевіч упарціўся, спрачацца з ім не мела сэнсу. — Пойдзем у «Кухцік»!

— Тады — лепш у «Міхаліковую яму». Афармлена яшчэ мастакамі «Маладой Польшчы». Выспяньскі там бываў. Цыганскі хор спявае...

У «Міхаліковай яме» было чамусьці пуставата. За суседнім столікам сядзеў сівы мужчына з «арліным носам». Пацягваючы моцную каву і пітны мёд, Валодзя заўважыў:

— Відаць, так выглядаў Юльян Тувім, калі быў жывы.

Наш сусед пачуў, што пра яго гаворым. І калі мы выйшлі, спачатку стаяў у гардэробнай чарзе перад намі, а потым — за намі. Як вынікала з наступнай размовы, ён зразумеў, што паміж сабой мы гаворым не па-руску, а вось ці на украінскай, ці на беларускай мове — да яго не дайшло... На вуліцы ён дагнаў нас і адразу пачаў браць быка за рогі:

— Але ж і памыі вы, панове, пілі ў гэтай «яме»!

— Чаму — «люра»? — здзівіўся Валодзя. — Нішто сабе пітны мёд. Стары. Трайны.

— Калі хто прыязджае ў Польшчу з Украіны або з Беларусі, то павінен піць не мёд... Вы... ведаеце генерала Залатарова?

— Здаецца, быў такі. А што?

— Я — той слаўны лейтэнант Сокал, які пад яго началам змагаўся на ўкраінскай і беларускай зямлі за вашу і нашу вольнасць! І калі хто прыязджае з Украіны ці з Беларусі, то запрашаю на сапраўдны польскі пачастунак! Не на такія памыі.

Валодзя штурхнуў мяне ў бок: нарэшце натрапілі на «сапраўднага паляка»! Але мне нешта ныла ў сэрцы, і я пачаў рашуча аднеквацца.

— Няма часу. Спяшаемся!

— Я ведаю, што калі хто прыязджае з Украіны або з Беларусі, то заўсёды не мае ні часу, ні грошай. Я запрашаю, я стаўлю! Ад чыстага польскага сэрца.

— Але ж...

Ніякага «але», Адасевіч, нельга крыўдзіць чалавека! — заўпарціўся Караткевіч.

І мы пайшлі ў вялікае «гумно» пад назвай «Гавэлка», дзе наш новы знаёмы выкупіў тры ўступныя білеты па дзесяць злотых (на нашыя гэта было тады па пяцьдзесят капеек) і, сеўшы за столік, гучна паклікаў афіцыянта:

— Гэта нашы савецкія госці! Мусіце іх абслужыць на вышэйшым узроўні! — і прашаптаў яму нешта на вуха.

Неўзабаве на стале з'явілася цэлае «мора». І нейкая мізэрная закусь: агурок, капуста.

— Але ж пан і многа грошай патраціў, — бянтэжыўся Валодзя. — Адомас, пашукай у сваім партфелі які сувенір, — шапнуў мне.

— Які пан! Дай пысу! Вып'ем на «брудзя»! — гарлапаніў «лейтэнант Сокал». На пласцінку з беларускімі песнямі, дзе мы паставілі свае аўтографы, нават не звярнуў увагі. Знішчаў заказанае з шалёным імпэтам. Прыставаў да жанчын за суседнім столікам. Нарэшце неяк абвяў. Я папрасіў у афіцыянта рахунак, і той прынёс — нешта на чатырыста восемдзесят злотых.

— У мяне толькі дзесяць, — прамармытаў «Тувім». — Але затое ёсць ашчадная кніжка, я зараз збегаю, здыму тысяч з пяць — і тады па-сапраўднаму пагуляем!

У дзесяць гадзін вечара ён пойдзе ў ашчадную касу! Смеху варта... Я ціхенька разлічыўся з афіцыянтам, і мы падаліся да дзвярэй. А «лейтэнант Сокал» тым часам прыстройваўся за суседні столік, адкуль яго гналі...

Ноччу, гадзіны ў чатыры, Караткевіч, расказваў потым сам, раптоўна, нібы ад штуршка, абудзіўся і доўга не мог заснуць: вечна гэтых беларусаў нехта крыўдзіць: то шведы, то французы, то немцы, а цяпер яшчэ і палякі...

Назаўтра пан Нядзеля ўспрыняў нашы нягоды з гумарам:

— Не толькі ж у вас водзяцца «дзеці лейтэнанта Шмідта»... Будзь, Валодзю, асцярожны, у выпадку чаго не купляй Вавельскі замак ці які помнік, — і расказаў нам гісторыю, як аднаму амерыканцу ў Варшаве «прадалі» калону Зыгмунта. Стаіць мільянер, любуецца. Падлабуньваюцца двое: «Падабаецца?» «О йес!» «Купіць хочаце?» «О йес!» Умомант абсталілі ў нейкай кватэры бюро, плакаты расклеілі, машыністка ляпае. Прывялі туды амерыканца, заплаціў наяўнымі. «Назаўтра пачнем пакаваць», — абяцалі. Назаўтра прыходзіць, глядзіць: стаіць калона цэлая! Тады кінуўся ў міліцыю: «Ашукалі!» «Хто вам мог прадаць нацыянальную рэліквію?» — здзівіліся там. Пайшлі шукаць бюро, знайшлі нарэшце. А там — звычайная кватэра ўжо: дзеці плачуць, сабака бегае. «Якое, пане, бюро?» — здзіўляюцца. — «Мусіць, прыснілася».

— Ото малайцы, — па-свойму разважыў Караткевіч, забыўшы пра ўчарашнюю крыўду. — Устаўлю ўсю гісторыю ў «Расказы з каталажкі». Уяўляеце сабе: прыязджае амерыканец ў дарэвалюцыйны Магілёў ці Вільню. І яму прадаюць, скажам, помнік Мураўёва-вешальніка або Кацькі. Што тут пачнецца...

Каб ужо закончыць з забаўнымі здарэннямі ў Кракаве, згадаю яшчэ адно. Дакладней, унясу пэўныя карэктывы ў вельмі цікавыя і эмацыянальныя ўспаміны Дануты Бічэль-Загнетавай «Сустрэчы, аўтографы...» (Літ. і мастацтва. 1986, 3 кастрыч.). «Сядзяць Караткевіч і Мальдзіс у мяне на кватэры па вуліцы Паповіча, — гаворыцца там, — і рас-

казваюць розныя літаратурныя анекдоты. Напрыклад, пра тое, як Валодзя ў Беластоку ці Варшаве адной польскай паненцы хацеў сказаць камплімент па-польску і ў яго атрымалася: «Вы капнента Данута Бічэль». І як паненка пакрыўдзілася. І як ён яе перапрошваў. Бо словам «капнента» ў польскай мове абзываюцца, лаюцца, а кампліментаў не гавораць. А ён хацеў сказаць «выкапа́ная»... Праўда, іншым разам яны расказвалі гэтую гісторыю з варыянтам: «Вы — капнента Вольга Іпатава...» Так з імі здаралася...

Не памятаю ўжо, які горад і чыё прозвішча называў Караткевіч (мы разам выступалі тады ў Гродне па пуцёўках Бюро прапаганды мастацкай літаратуры нашага Саюза), аднак на самай справе ўсё было крыху іначай. Пайшлі мы ў Кракаве аднойчы абедаць у кавярню, што знаходзіцца ў падзямеллі былой ратушнай вежы. Спускаешся туды па сходах, ля якіх вісяць старадаўнія прылады для катаванняў. У такім жа макабрычным стылі вытрымана і сама зала. Але змрочны настрой рассейваецца, калі бачыш маладых афіцыянтак у старапольскіх строях. Тая, што нас абслугоўвала, дужа нагадвала Вольгу Іпатаву. І Валодзя, жадаючы сказаць ёй у кампліменце, што яна як дзве кроплі вады падобная на вядомую беларускую паэтэсу, урачыста прамовіў:

— Пані ест копнента бялоруска поэтка Ольга Іпатова!

Афіцыянтка пачырванела і збянтэжана адышла.

— А чаго яна так? — спытаў у мяне няўцямна Валодзя.

— Як чаго? Ты сказаў ёй, што яна копнутая ў адно месца, ну, ненармальная, чокнутая.

— А чаму ты мяне не папярэдзіў, што так нельга казаць.

— А адкуль я, Валодзечка, мог ведаць, што ты прыдумаеш такі камплімент.

Калі афіцыянтка прынесла нам заказ, Караткевіч доўга прасіў у яе прабачэння, цалаваў ручкі, а тая ў адказ усміхалася:

— Кліент заўсёды мае рацыю.

Пакідалі мы кафэ ў мірным настроі. Валодзя з гумарам здзекаваўся сам з сябе:

— Тэн копненты Короткевіч! — і потым:— Уяўляеш сабе: вяртаемся мы дамоў — а там ужо ўсе пра гэта ведаюць. І Іпатава таксама.

Толькі мы выйшлі на вуліцу, як з вежы Мар'яцкага касцёла раздаліся гукі гейнала. Трубач трубіў кожную гадзіну ў памяць аб колішнім татарскім нашэсці. Воін, які аглядаў тады са старожы навакольныя палі, пабачыў ворага і ўзяў трубу, каб папярэдзіць гараджан. Але толькі ён выдаў некалькі гукаў, як варожая страла ўпілася яму ў горла... Таму і цяпер мелодыя нечакана абрываецца на высокай ноце.

— Ведаеш, дзед, добра было б правесці ноч на вежы з гейналістамі, — Валодзя нечакана спыніўся.

— Дзеля чаго?

— Нічога ты не разумееш! Каб пабачыць старыя муры і дрэва, адчуць іх пах. Каб зверху пачуць гукі начнога горада. Адчуць стагоддзі.

Аднак Нядзеля аднёсся да Валодзевай ідэі без асаблівага энтузіязму:

— Ніколі не чуў, каб туды кагосьці пускалі. Нават не ведаю, ад каго гэта залежыць. Ва ўсякім выпадку, не ад духавенства. Мусіць, ад гарадскіх улад.

— Тады пойдзем за дапамогай да Уладзімежа Мацёнга ў «Жыцце Літэрацке». Калісьці бываў ён у Беларусі. Раскрытыкавалі яго нашы за адзін рэпартаж — часам слушна, а часам і не... Можа, забыў старую крыўду?!

Уладзімеж Мацёнг, вядомы польскі публіцыст, прыняў нас з падкрэсленай ветлівасцю, але ад нечаканай просьбы і ён развёў рукамі. Доўга званіў. Нарэшце высветліў: дазвол залежыць ад гарадской пажарнай каманды. Падышлі мы туды — і нам неакрэслена паабяцалі, што вывучаць справу. Бо мы першыя, хто звярнуўся да іх з такім незвычайным жаданнем.

Праз тры дні па нас спецыяльна прыйшоў пажарнік, здаецца, нават не радавы, і павёў нас па стромкіх драўляных сходах на старадаўнюю Мар'яцкую вежу, пазнаёміў нас з двума гейналістамі, якія, дзяжурачы, штогадзінна трубілі на змену. Валодзю ўразіла, што ў каморцы для адпачынку на-

ват стаяў тэлевізар. Гейналісты аказаліся людзьмі маладымі, гаваркімі, асабліва Янак Колтун, сын Яна, прадстаўніка той жа прафесіі. Пабачыўшы Валодзевы запасы, яны адразу згадзіліся, каб мы ў іх пераначавалі. Але я адмовіўся: трэба было вяртацца ў бібліятэку. Караткевіч жа застаўся. Потым пайшла легенда, што ў тую ноч гейналісты не трубілі — упершыню за шэсцьсот год. Ці так яно было — не ведаю, бо ад Мар'яцкай вежы да гасцініцы «Краковія» — добры кавалак дарогі... Потым легенду падхапілі польскія газеты. Яцак Москва пісаў у штотыднёвіку «Політыка», што Караткевіч быў першым паэтам, які пераначаваў на вежы (ёсць толькі сумненні наконт Галчыньскага). А пасля смерці пісьменніка Анатоль Верабей знайшоў яго верш «Вакол хейнала», прысвечаны «Яну Колтуну II, самаму маладому трубачу-«хейналісту» Вежы Мар'яцкай». Пачынаецца ён радкамі:

— Думаеце — герольды
У барве й каронах?
Рык фанфаронаў — ад суднага дня глухіх?..
А тут проста трубы
Чэшскай фірмы «Лігатона»,
А на калках вісяць кажухі.
Бэлькам — шэсцьсот
(Тут што праўда, то праўда)...
Сведкі польскай, і нашай, і... іншай зары,
Але тут... Тут спявае ціхутка радыё
І ў каморцы «тэлік» маленькі гарыць.

На вежы паэта сустрэлі тыя ж пахі баршчу, цёплага хлеба, цыбулі, што і ў час начлегу на яго родным Дняпры. І яму добра глядзець зверху на помнік, што, «як вулей, над згасаючым Кракавам мёдам гарыць».

У архіве Караткевіча знайшоўся таксама верш «На вуліцы Дэшчовай», напісаны ў Кракаве 16 снежня 1971 года, відаць, на развітанне і прысвечаны Здзіславу Нядзелю. У апошніх яго радках нечакана з'яўляецца «пакаяльнасць»:

О божа, даруй маёй Беларусі!
І Польшчы!
І ўсім на свеце... Даруй.

Чым выкліканы гэты заключны трагічны акорд, сказаць не магу. На некалькі дзён раней я ад'ехаў у Вроцлаў. Нягледзячы на ўлеву, Караткевіч і Нядзеля праводзілі мяне на вакзале. З Вроцлава шляхі мае вялі ў Познань і зноў у Варшаву. А ў Варшаве сустрэў Валянціну Браніславаўну, якой далі навуковую камандзіроўку ў Польшчу для выяўлення матэрыялаў па гісторыі беларускай архітэктуры. Расказвала, што Валодзя вярнуўся задаволены і што яго апярэдзілі міфы пра кракаўскую цыганку і Мар'яцкую вежу. З дапамогай польскіх даследчыкаў Брыкоўскага і Хшаноўскага і княгіні Радзівіл (дарэчы, удзельніцы польскага Супраціўлення) Валянціна Браніславаўна знайшла тады многа цікавых звестак. І, па словах Валодзі пасля яе вяртання, годна прадстаўляла Беларусь. Калі ў адной арыстакратычнай кампаніі пачалі гаварыць пра «ўсходнія крэсы», што гэта цёмны і забіты край, які нават не мае ўласнай гісторыі, яна нібыта пагадзілася:

— Ну так, проша паньства. За маленькім толькі выключэннем.

— Цікава, за якім жа?

— За тым, што мы далі Польшчы чатырох выдатных людзей.

— Напэўна, найперш скажаце: Фелікс Дзяржынскі...

— Дзякуй, што прыгадалі пятага.

— А тыя чацвёра?

— Так, «дробязь»: Касцюшка, Міцкевіч, Манюшка і Пілсудскі.

Пасля гэтага ў прысутнасці Валянціны Браніславаўны гаворак пра «крэсы» больш не заводзілі.

— Вось так трэба абараняць наш гонар, панове горапатрыёты! — заканчваў Караткевіч свой расказ пра знаходжанне жонкі ў Варшаве. І тут жа напяваў уласную песеньку пра гэта знаходжанне, з якой засталіся ў памяці толькі некалькі слоў:

...удивил:
Пан Брыковский, пан Хшановский
И графиня Радзивилл.

У 1973 годзе Караткевічы выбраліся ў Чэхаславакію па запрашэнні чэшскай перакладчыцы Веры Адлавай і славацкай пісьменніцы Гелены Крыжанавай-Брындзавай, з якімі яны выпадкова пазнаёміліся, а потым пасябравалі на курорце ў Гаграх. З дарогі, з Прагі і з Браціславы, Валодзя прыслаў мне лісты, у якіх апісваў помнікі архітэктуры і асаблівасці побыту. Вярнуўшыся, захоплена расказваў пра паездку ў Высокія Татры, наведанне Дэманоўскіх пячор і горада Левача з яго палацамі і касцёламі, упрыгожанымі гатычнай разьбой.

— Славацкая мова, стары, вельмі падобная па беларускую. І я амаль усё разумеў без перакладу, нават спрабаваў гаварыць.

У наступным годзе Гелена Крыжанава-Брындзава, пісьменніца, хрэстаматыйная на радзіме, разам з мужам Іржы і зяцем Ота гасцявала ў Мінску, у Караткевічаў. Паколькі да мяне якраз з Польшчы прыехаў аўтар манаграфіі пра Сыракомлю Фелікс Фарнальчык з жонкай, мы аб'ядналіся і, наняўшы «рафік» ды атрымаўшы неабходны дазвол (у той час гэта было нялёгка), павезлі іх у Нясвіж, Мір і Навагрудак з дзвюма начоўкамі па дарозе. У Нясвіжы Валодзя выпрасіў у ксяндза Каласоўскага, каб той паказаў нам падзямеллі фарнага касцёла, дзе пахаваны (муміфікаваны) Радзівілы, расказваў ледзь не пра кожнага з іх жахлівыя і пацешныя гісторыі. Ў Міры абвёў нас вакол сцен замка і смуціўся, што ў Беларусі помнікі архітэктуры не так дагледжаны, як у Славакіі ці Польшчы. У Навагрудку паказваў руіны замка, курган Міцкевіча, яго музей. Над Свіцяззю ўрачыста абвясціў, што гэта самае чыстае і самае паэтычна-легендарнае возера ў свеце.

Праз тыдзень Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч павёз нас усіх, а таксама Барадуліных, Івана Бурсава і яшчэ некалькіх пісьменнікаў, на радзіму Якуба Коласа, у Акінчыцы, Альбуць, Ласток, Смольню, Мікалаеўшчыну, дзе заначавалі. Назаўтра хадзілі ў лес па грыбы. Па дарозе Валодзя паказваў гасцям розныя расліны, прыводзіў іх беларускія і лацінскія назвы, пытаў, як яно будзе па-славацку і па-польску,

і цешыўся, калі знаходзіў нейкую сугучнасць. Тады ж выказаў думку, што ўсе мы, літаратары, недаацэньваем ролю народнага самародка дзядзькі Антося ў станаўленні творчай індывідуальнасці Якуба Коласа («ён жа адкрываў яму, мяркуючы па «Новай зямлі», вочы на хараство»).

У тым жа 1974 годзе Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч і я вазілі польскага сябра Беларусі паэта і перакладчыка Мацея Юзафа Кананові́ча і грамадскага дзеяча Зыгмунта Пшэтакевіча (Валодзя «перакладаў» яго прозвішча: пан Рэшатовіч) з іх жонкамі Крыстынай і Галенай у тыя ж Навагрудак, Мір і Нясвіж. Па дарозе Брыль паказваў нам мясціны, блізкія яму з дзяцінства.

— Калі б я пабыў у кожнай хаце, дзе мне рады, хаця б з паўгадзіны, — з натуральнай годнасцю сказаў ён, — то гэта заняло б пару месяцаў.

— І ў мяне ў Падняпроўі набралася б не меней, — парыраваў з пэўнай зайздрасцю Валодзя.

У навагрудскім фарным касцёле, дзе хрысцілі Міцкевіча, ён уважліва прыслухоўваўся да таго, што ксёндз Новак расказваў пра барэльефную «табліцу» ў гонар беларускіх братоў Рудамінаў, якія ўдзельнічалі ў вайне з туркамі пад Хоцінам, амаль усе там загінулі.

— Гэта ж гатовы сюжэт! — усклікнуў.

На развітальным абедзе ў гонар польскіх гасцей у мінскім рэстаране «Юбілейны» Мацей Юзаф Кананові́ч прапанаваў стоячы «споўніць» здароўе «начальніка і грамадзяніна Касцюшкі». Адказваючы яму, Караткевіч выдаў цудоўны тост за Польшчу, за лепшыя старонкі супольнай гісторыі («у ёй было, панове, усё: і веліч, і ганьба») і тут жа з усёй непасрэднасцю запрасіўся дамоў.

— Гэта сапраўдны Галчыньскі! — правёў Кананові́ч паралель паміж Караткевічам і вядомым польскім паэтам, маючы на ўвазе і іх талент, і спосаб быцця.

У сярэдзіне сямідзясятых гадоў, калі сакратаром ЦК КПБ па ідэалагічных пытаннях стаў Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін, афіцыйныя адносіны да Уладзіміра Караткевіча

ды і да іншых пісьменнікаў прыкметна змяніліся да лепшага. Застойны перыяд у краіне працягваўся, але ў Беларусі паменшала вульгарна-абвінаваўчых выступленняў у друку і з трыбун, наклейвання нацыяналістычных, абстрактнагуманістычных, пацыфісцкіх і ўсялякіх іншых ярлыкоў. Караткевіча ўпершыню выбралі ў праўленне СП БССР, сталі запрашаць у высокія інстанцыі, каб параіцца па розных пытаннях нацыянальнай культуры. У маі 1976 года ён быў у ЦК КПБ, дзе выказаў свае меркаванні аб тым, якім яму бачыцца музей пад адкрытым небам, якія помнікі архітэктуры рэстаўраваць у першую чаргу. 18 ліпеня 1977 года сустракаўся з П. М. Машэравым і разам з ім ездзіў, каб выбраць месца для таго ж музея. Некалькі разоў аўтарытэтна ўзнімаў свой голас у абарону Верхняга горада ў Мінску. Караткевіч вельмі высока адгукаўся пра П. М. Машэрава (асабліва пра яго клопаты, каб беларуская мова лепш гучала на тэлебачанні і радыё) і А. Т. Кузьміна, ганарыўся іх даручэннямі і ахвотна іх выконваў. Так пасля размовы з А. Т. Кузьміным паехаў у Мсціслаў і напісаў пра гэты старадаўні горад кнігу (на жаль, сапсаваную пасля смерці аўтара недарэчнымі скарачэннямі і некваліфікаваным перакладам рускай часткі). Памятаецца, у сувязі з гэтымі сустрэчамі Караткевіч стаў больш аптымістычна глядзець на беларускую нацыянальную перспектыву.

— Некуды ж гісторыя прыйдзе, — паўтараў ён словы Уладзіміра Дамашэвіча.

У 1974 годзе нарэшце пабачыла святло рампы першая п’еса Уладзіміра Караткевіча; тэатр імя Якуба Коласа паставіў да тысячагадовага юбілею горада яго «Званы Віцебска» (ранейшыя спадзяванні на купалаўцаў не апраўдаліся — яны толькі паказалі ў 1972 годзе яго пераклад гістарычнай драмы М. Карыма «У ноч зацьмення месяца»). 27 лістапада, на другі дзень пасля дня нараджэння аўтара, коласаўцы прывезлі спектакль у Мінск, і ўсе мы, ягоныя сябры, дружна адправіліся паглядзець яго. Пастаноўка спадабалася: добрае веданне гісторыі, моцныя і трагічныя характары, цікавая рэжысёрская работа Валерыя Мазынскага, зладжа-

ны акцёрскі калектыў. Наша неўразуменне выклікала толькі адсутнасць на сцэне папы рымскага і польскага караля Сігізмунда, выразна абазначаных у праграме.

— Што б гэта значыла? — спыталі мы ў Валодзі, калі пасля спектакля ён, узбуджаны і задаволены, прыйшоў на кватэру да Лапцэвічаў (Валянціна Браніславаўна якраз прыхварэла, і таму сабраліся «на нейтральнай тэрыторыі»).

— А тое, што і папу, і караля яны ўставілі самі, без маёй згоды, — Караткевіч у той вечар гаварыў многа і ахвотна, а я, седзячы на ўзбоччы, меў магчымасць непрыкметна занатаваць яго словы. — Ясна, мусіў запратэставаць. Аднойчы Мазынскага нават у хату сваю не пусціў. Толькі праз дзверы сказаў: выкінь, я не хачу ўзбуджаць ранейшыя сваркі паміж народамі. Мусілі, сардэшныя, у самы апошні момант папу і караля скараціць, хоць і адзенне для іх знайшлося пашытае... Не з Ватыканам, не з папам рымскім ваюю я ў п'есе, а з нецярпімасцю людской. Лухта, нібы я напісаў пра падзеі трохсотпяцідзесяцігадовай даўнасці. Усё гэта — аб нецярпімасці сённяшняй. Кунцэвіча я імкнуўся зрабіць асобай моцнай і трагічнай: забілі яго, калі стаў нешта разумець, мог дамовіцца з людзьмі... Шкада, што з п'есы выкінуты добрыя сцэны, у тым ліку пакаранне вяроўкамі крамольнага звана.

Неўзабаве, у сакавіку 1978 года, адбылася прэм'ера оперы «Сівая легенда», лібрэта якой напісаў Уладзімір Караткевіч, а музыку — Дзмітрый Смольскі. Аўтары разам сядзелі некалькі тыдняў і «падганялі» кожную фразу — прытым Валодзя праяўляў тонкае веданне музыкі. Опера падабалася: у ёй было нямала арыгінальных, вельмі народных і вельмі сучасных, мелодый — арый, дуэтаў, хораў. Засмучала толькі дыкцыя: большая палова беларускіх слоў не даходзіла да залы.

— Не быў бы то арыстакрат па паходжанні і духу, — пацвельвалі мы з лібрэтыста. — Чатыры разы паставіў народ на калені і двойчы прымусіў хрысціцца...

— А хіба мала народ наш ставілі на калені?! — успыхнуў Валодзя, не зразумеўшы жарту. — Ды і тое, што ён хрысціў-

ся, з гісторыі не выкінеш. У ёй было ўсё: і бунт, і пакуты, і цярпенне, і вера.

У тагачасным жыцці Уладзіміра Караткевіча таксама было ўсё: творчыя ўзлёты і глыбокія дэпрэсіі, радасці ад сустрэч з удзячнымі чытачамі (яны нярэдка прыходзілі дамоў) і пакуты, выкліканыя хваробай маці, уласнай хваробай. У канцы лістапада 1977 года Надзея Васільеўна, звычайна бадзёрая і ўраўнаважаная, нечакана злегла: дактары з лечкамісіі падазравалі, што быў інсульт. Але калі мы з Грынчыкам зайшлі, каб яе наведаць, яшчэ ахвотна гаварыла з намі. Валодзя яшчэ гнаў ад сябе ўсялякія дрэнныя думкі і ў той вечар гаварыў пра Пушкіна, Талстога, Буніна. У Яснай Паляне, згадваў, быў ён з нейкім паўночна-каўказскім крытыкам. Калі сказаў: «Вось гэта чалавек!», той запярэчыў: «Он нэ чэловек». Абураны Караткевіч схапіў яго за грудкі. Адпусціў, аднак, калі той выгукнуў: «Он Бог!» Лепшым творам усіх часоў і народаў Валодзя тады назваў «Чысты панядзелак» Івана Буніна. Мы са скрухай прызналіся, што не чыталі яго. Тады гаспадар прынёс адпаведны том, пачаў зачытваць урыўкі. Потым з задавальненнем перачытваў уголас бунінскія вершы.

16 снежня Надзеі Васільеўны не стала. Калі мы з Кісялёвымі і Рагойшамі зайшлі вечарам, Валодзя выглядаў стомлены ад недаспаных начэй.

— Вось і запалілася каля маці свечка, што раней стаяла перад Каліноўскім, — неяк вінавата павітаў ён нас.

Гаварылі пра тое, што нікому — нягледзячы на гады — не хочацца паміраць. Рагойша папракнуў Валодзю, што ён так і не запісаў голас маці, яе ўспаміны:

— Калектыўная памяць народа вымяраецца тым, колькі напісана або запісана мемуараў. Пра культуру чалавека сведчыць яго жаданне пакінуць пасля сябе расказ аб перажытым.

Валодзевы думкі на нейкі момант пераключыліся ў іншым кірунку, і ён пачаў хваліць Паўліну Мядзёлку, што вось яна добра зрабіла, напісаўшы свае ўспаміны. Большую па-

лову апублікавала, а астатняе дала яму на захаванне. Праўда, потым нечага спалохалася і ўзяла назад. Дзе яно цяпер знаходзіцца — невядома. А вось цёці Уладзі, удаве Янкі Купалы, таксама было што ўспомніць, аднак жа не знайшлося каго, каб запісаць. І многае з біяграфіі народнага песняра назаўсёды застанецца загадкай.

На наступны дзень Надзею Васільеўну пахавалі на Паўночных могілках. Над труной Валодзя вымавіў толькі тры фразы: «Адхадзілі твае ножанькі», «Адрабілі твае ручанькі» і яшчэ нешта, цішэй, пра вочы. Потым стаяў над магілай з закрытымі вачыма і нешта шаптаў — ці то малітву, ці то сваё.

За жалобным сталом Валодзя стаў крыўдаваць на сакратароў Саюза пісьменнікаў — «з маладых, ды ранніх». Званіў да іх з просьбай, каб далі машыну прывезці труну, але адмовілі. І на пахаванне ніхто не прыйшоў, не выказаў спачуванне нават па тэлефоне.

— Яны былі б рады, калі б Караткевіч сам памёр, — з болем казаў Вячаслаў Адамчык, таксама нейкі ўчарнелы.

На саракавіны па Надзеі Васільеўне прыйшоў Ніл Гілевіч. Нейкі час, пасля позняй вечарынкі, спраўленай Караткевічам у гонар прыезду пана Рышарда Брыкоўскага, адносіны паміж імі былі напятыя. Аднак смерць прымірае людзей, прымушае іх забыць часовае, дробязнае. Валодзя быў удзячны суседу за разважлівае слова, рады, што наступіла згода.

У 1978 годзе Караткевіч упершыню сур'ёзна захварэў сам. Ляжаў у лечкамісіі, у дзявятай бальніцы, дома. Калі мы наведвалі яго, скардзіўся, што ў страўніку «нібы волава наліта». Але бадзёрыўся, збіраўся паехаць у Самарканд і Бухару, а затым у Планерскае ці Гагры. Настойліва частаваў то мінеральнай вадой, то соленым міндалём, то сушанымі грушамі («упадзе такая — застанецца мокрае месца і крыху семечак»). Рытарычна прапаноўваў нам «для ўзняцця настрою» чарачку («сам я ні-ні»). Абураўся частымі візітамі «розных непатрэбных людзей», тэлефоннымі званкамі.

Каб уратавацца ад усяго такога, ён — ці то сур'ёзна, ці то жартам — прасіў аднаго добрага знаёмага з гарадской міліцыі, каб яго на некалькі месяцаў пасадзілі ў турму, — толькі каб камера была асобная, параша чыстая («а то ў мяне грэблівасць») і на стале ляжаў стус чыстай паперы. Пытаў нават, што для гэтага трэба («вокны ў суседнім будынку пабіць?»). Але знаёмы збянтэжана аднекваўся: наўрад ці гэта рэальна...

На пачатку лета 1978 года Караткевіч (здаецца, адзін) паехаў у Планерскае, спрабаваў па старой звычцы ўзысці на Карадаг, але ўпаў, аступіўшыся (нешта стала падводзіць абвараная кіпетнем нага), збіў галаву. Нейкі час ляжаў у Сімферопалі ў бальніцы, куды па яго вылятала Валянціна Браніславаўна. Калі ў ліпені мы з Кісялёвым зайшлі да яго, каб пераставіць кніжныя паліцы, сядзеў сумны на тахце, пад драўляным партрэтам Багдановіча, зробленым у турме і прынесеным пасля выхаду на волю нейкім чытачом, які, дзякуючы яго творам, адчуў сябе «чалавекам і беларусам». Валодзю нервавала, што мы можам выпадкам пакалечыцца, як і ён. Даваў нам нейкія парады. Расказваў, што ў сімферопальскай бальніцы давялося «ваяваць» з маракамі, якія ляжалі ў адной з ім палаце і адмыслова лаяліся. Прыціхлі і запаважалі яго, калі і ён успомніў урокі «боцманскай школы» (ці не далёкаўсходняй?).

Восенню Караткевіч крыху акрыяў, паляцеў з Валянцінай Браніславаўнай у Сярэднюю Азію, адкуль прыслаў мне недатаваную паштоўку з выявай маўзалея Гур-Эмір:

*«Даражэнькі Адомас!*

Прывітанне з Самарканда!

За гэтыя дзесяць дзён аб'ездзілі канал Сярэдняй Азіі. Былі ў Душанбе, Гісары, на Нурэкскай ГЭС, дзе равуць раўмя нашы пакутнічкі БелАЗы, і бог ведае яшчэ дзе. Учора прыляцелі ў Самарканд, бачылі ўжо ўзбекскае вяселле (вечна мяне носіць чорт ведае дзе), вось гэтае дзіва Гур-Эміра (фота не дае аніякага ўяўлення аб сіні купала знадворку і

цьмяным яго золаце знутры) і плошчу Рэгістан уначы. Тысяча і адна ноч! Шкадую, што няма побач цябе, дружа. Разам бы глядзелі, разам бы елі дыні, разам бы не пілі (я тут уладкаваў бязлітасны сухі закон, горача і зашмат трэба ўбачыць на свежае вока). Каларыту — вышэй галавы. Цалую Марыю і ўсіх. Валя — таксама. Яна тут, па-мойму, на вінаградзе нават болей пагладзела.

Твой *Уладзімір*».

Унізе почыркам Валянціны Браніславаўны дапісана: «Учора ў Самаркандскім абкоме аспіда прынялі за ўзбека — ён ходзіць у цюбецейцы і стаў зусім азіятам».

Пасля Сярэдняй Азіі Караткевічы адправіліся адпачываць у Піцунду. Але на Каўказе Валодзю зноў стала блага, з дапамогай Алеся Савіцкага яго паклалі ў бальніцу. Вярнуўшыся, стаў вельмі трывожыцца, што не паспее нічога зрабіць. Калі я зайшоў наведаць яго з Вацлавам Жыдліцкім і Адамчыкамі, ён знаходзіўся ў стане глыбокай дэпрэсіі. Каб ажывіць яго, я расказаў, што супрацоўнікі Інстытута літаратуры ў час экскурсіі ў Суздаль і Уладзімір спецыяльна заязджалі да цэркаўкі, якую ён уславіў у вершы «Дзіва на Нерлі», а Іван Чыгрын прачытаў там гэты верш. Затым перадаў яму значок з цэркаўкай на Нерлі. Але Валодзя застаўся абыякавы. Ажыўляўся крыху, калі перадавалі «мульцікі». Шкадаваў толькі, што сам не напісаў якога сцэнарыя да мультыплікатараў.

Спадзеючыся, што Караткевічу стане лепей, мінская гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы прызначыла на 20 снежня яго творчы вечар. Але пасля прыступа Валодзю зноў адвезлі ў лечкамісію, і на вечар мне давялося пайсці аднаму. Прысутныя былі вельмі расчараваны. Тады я прапанаваў, каб яны, калі хто захоча, напісалі Караткевічу свае пажаданні і пытанні, а я аднясу яму ў бальніцу і на наступнай сустрэчы зачытаю адказы. Або ён сам выступіць, калі акрые. Да канца вечара на стале сабраўся добры стус запісак. Некаторыя з іх аказаліся вельмі сімптаматычныя і вартыя таго, каб іх працытаваць цалкам.

*«Паважаны Уладзімір Сямёнавіч!*

Пасля Вашых твораў адчуваеш сапраўдны гонар, што ты — беларус, што «зямля пад белымі крыламі» — не проста частка СССР, а самабытная краіна са сваёй цікавай гісторыяй, нават каралямі. Шкада толькі, што гэтай самабытнасці застаецца ўсё менш і менш. Беражыце сябе для нас, чытачоў!

Студэнт журфака БДУ імя У. І. Леніна».

«Вельмі балюча, што мы, беларусы, саромеемся размаўляць на роднай мове, да таго ж і не ведаем яе добра. Што ж то будзе з намі, беларусамі?

Студэнт БДУ».

«Вельмі падабаюцца Вашы гістарычныя апавяданні і раманы. Здаецца, што пачынаеш бачыць Беларусь новымі вачыма. Пад нагамі з'яўляецца зямля, адчуваеш сваё месца на ёй. Жадаем поспехаў і крэпкага здароўя.

Таццяна і Іосіф Трубачы. НДІ ЭВМ».

Было сярод запісак і цэлае пасланне:

*«Глыбокапаважаны Уладзімір Сямёнавіч!*

Мне вельмі хацелася асабіста перадаць Вам прывітанне ад старажытнай Полацкай зямлі. На жаль, лёс рассудзіў інакш...

Я люблю свой народ, люблю яго мову і культуру. Той уклад, які Вы ўнеслі ў нашу сучасную родную літаратуру, лічу часткай яе залатога фонду.

У Наваполацку створана аб'яднанне творчай моладзі «Маладзік». На пасяджэннях аб'яднання даволі часта гучыць Ваша імя, а кнігі Вашы, якія ёсць у нашых уласных бібліятэках, ніколі не стаяць на сваіх месцах (на кніжных полках), яны заўсёды на руках — у знаёмых людзей.

Хачу перадаць Вам ад Вашых землякоў-беларусаў вялікае дзякуй за Вашы кнігі, за Вашу любоў да зямлі нашых бацькоў.

Мая маці (у мінулым выкладчыца роднай літаратуры ў школе) год 15 назад вяла перапіску з беларускімі пісьменнікамі. Сярод кніг, якія беларускія пісьменнікі даслалі нам у школу, быў зборнік Вашых вершаў «Матчына душа». Я, здаецца, адзіны з членаў нашага аб'яднання, у каго ёсць гэты зборнік, але верш, прысвечаны Паўлюку Багрыму, змешчаны ў гэтым зборніку, ведаюць усе мае сябры.

Многае яшчэ хацелася б Вам сказаць, але, ведаючы аб дрэнным стане Вашага здароўя, я вельмі баюся стаміць Вас.

Чытач кахае Вас! Чакае новых Вашых кніг!

*Сяргей Сокалаў*,
студэнт падрыхтоўчага аддзялення БДУ».

Былі яшчэ пытанні. Ці праўда, што кватэра Караткевіча нагадвае музей беларускага народнага мастацтва? Чаму яго кнігі выдаюцца тыражом 10–15 тысяч экземпляраў, калі трэба 50–100 тысяч? Чаму спыніўся цыкл тэлеперадач «Спадчына» з яго ўдзелам? Калі будзе яго Збор твораў? Характэрна, што апошняе пытанне задалі рабочыя з Мінскага прыборабудаўнічага завода.

Што ж датычыцца самога вечара, то ён прайшоў даволі сумна (падумалася: а можа, і добра, што не чуе Караткевіч). Інжынеры і настаўнікі выступалі па напісаным тэксце, на рускай мове, з банальнымі ісцінамі. Запомніліся толькі словы тых, хто ў папярэднім спісе прамоўцаў не значыўся. Рабочы Уладзіміраў і па-беларуску, і небанальна сказаў, што творы Караткевіча прымусілі яго па-новаму глянуць на свет, на сваю родную зямлю. Вучаніца Хоміч вельмі эмацыянальна перадала свае ўражанні ад «Чазеніі». Студэнтка Рудабелец задала пытанні, чаму мы ўсе забываем, што мы беларусы, чаму гэта людзі неяк драбнеюць у сваіх учынках і словах. У самым канцы ўзняў руку Сяргей Сокалаў і прасіў мяне перадаць Караткевічу падзяку за высокія патрыятычныя пачуцці, выказаныя ў яго рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Прызнаўся, што спачатку, хоць вельмі доўга пражыў у вёсцы, не зразумеў мовы гэтага рамана:

— У мяне ўзнікла дылема: хто не ведае беларускай мовы — я ці Караткевіч. Потым зразумеў, што я...

Назаўтра ўсе запіскі і пытанні я аднёс, разам з кветкамі ад удзельнікаў вечара, у лечкамісію. Але Караткевіч быў паранейшаму прыгнечаны:

— Пазнавата ўсё гэта. Каб крышачку раней.

У дні, калі Караткевіч ляжаў у бальніцы, некалькі разоў пра яго здароўе пытаў у мяне па тэлефоне архіепіскап Мінскі і Беларускі Антоній (А. С. Мельнікаў). Хоць і ўраджэнец Масквы, ён прачытаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ў арыгінале, цікавіўся беларускай культурай.

Іх асабістае знаёмства адбылося такім чынам. Шукаючы жыровіцкія арацыі 18 стагоддзя, я звярнуўся з некалькімі пытаннямі да архіепіскапа Антонія. Ён даў мне каштоўныя парады, указаў на некаторыя ленінградскія фонды. Потым я ўсю гісторыю падрабязна апісаў у «Літаратуры і мастацтве». У публікацыі не было звычных тады наскокаў на прадстаўнікоў духавенства. Гэтым я тлумачу званок, які, прызнацца, у першыя хвіліны прыняў за розыгрыш: — Вас турбуе архіепіскап Мінскі і Беларускі Антоній. Адам Іосіфавіч, я чуў («наслышан»), што ў ліку вашых сяброў ёсць Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Сёння я арганізую ў сябе, а гэта ж зусім побач з вамі, выстаўку старадаўняй беларускай вышыўкі і ткацтва. Ці не былі б вы так ласкавы перадаць маё запрашэнне Уладзіміру Сямёнавічу і ўдваіх прыйсці на гэту выстаўку заўтра, скажам, гадзіне а сёмай вечара?!

Я тут жа пайшоў да Валодзі і пераказаў яму змест размовы.

—Ну як, пойдзем? — спытаў.

—Ой, не ў выстаўцы тут уся штука...

—А ў чым жа?

—У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Зойдзем мы на падвор'е, а тут выбегуць служкі, пакладуць мяне гэтак мякканька на зямлю і стануць секчы розгамі, прыгаворваючы: «Не пішы блюзнерчых раманаў!»

—Тады не пойдзем...

—Не, пойдзем! Цікава ж.

Анатолій Сяргеевіч Мельнікаў прыняў нас у сваёй канцылярыі, якая месцілася ў аднапавярховым драўляным доміку па вуліцы Чарвякова. Паўсюль, на крэслах, канапе, стале, сапраўды былі раскладзены цудоўныя ўзоры старой беларускай вышыўкі і ткацтва — тое, над чым гадамі слялілі вочы манашкі. Караткевіч быў на ўзроўні: указваў стагоддзе, месца стварэння. Потым перайшлі ў бібліятэку, дзе віселі арыгіналы Васняцова, Каровіна, захоўваліся аўтографы Тургенева, Салаўёва, Пастарнака, у хатнюю капліцу, завешаную старымі абразамі. Караткевіч і тут паказаў сябе тонкім знаўцам мастацтва. Праўда, у адрозненне ад гаспадара, ён не мог пахваліцца столькімі зарубежнымі сувенірамі, прывезенымі з розных міжнародных рэлігійных канферэнцый і нават — з Індыі і Кіпра, Егіпта і Мадагаскара.

Калі мы перайшлі ў сталовую, пад аўстралійскім паралонавым кенгуру аказалася бутэлька армянскага «Дзвіна». Тут жа, у адмысловым швейцарскім агрэгаце з арганічнага шкла булькала чорная кава.

— Уладзімір Сямёнавіч, — за сталом пачалася гаворка, дзеля якой, наколькі я разумею, і арганізоўвалася сустрэча, — нядаўна я быў у Галандыі на пасяджэнні Сусветнага савета хрысціянскіх цэркваў. Дык вось, швейцарскі архіепіскап, — тут было названа прозвішча, але запісаць было няёмка, а потым яно выветрылася з памяці, — спытаў у мяне, ці ёсць у Беларусі гістарычны раман. На гэта я адказаў: «О, так, раманы Уладзіміра Караткевіча...» Ён перапыніў мяне: «Караткевіч піша блюзнерскія раманы...» Тут я запярэчыў: «Караткевіча турбуюць не столькі пытанні рэлігіі і атэізму, колькі пытанні чалавечай асобы, яе адказнасці перад... перад гісторыяй...» Скажыце, калі ласка, Уладзімір Сямёнавіч, ці правільна я запярэчыў яму?

Караткевіч, не запытаўшы дазволу, узбуджана закурыў «беламорыну».

— Ну, вядома ж... Я не быў бы мастаком, калі б пісаў голыя агіткі. Мяне сапраўды куды больш хвалюе, што та-

кое чалавек і чаму ён можа мецць уладу над іншым чалавекам, чым розныя там канфесіянальныя праблемы. З-за гэтых праблем у гісторыі майго народа было столькі войнаў, столькі трагедый... Сёння я, так бы мовіць, недавярак. Але калі б гэта было трэба для прымірэння варожых канфесій, то я, праваслаўны па сям'і, згадзіўся б прыняць каталіцкае хрышчэнне. Ці яшчэ якое. Чалавек павінен стаяць вышэй канфесійных звадак.

— У гэтым сэнсе плённыя сёння ідэі самага ранняга хрысціянства.

Потым размова перайшла на Зайцава. Як і Караткевіч, Анатолій Сяргеевіч быў настроены ў дачыненні да яго палажэнняў скептычна, асабліва да спасылак на апакрыфічную кнігу Яноха, але дапускаў мажлівасць існавання і такой тэорыі.

Развітваючыся, Валодзя звярнуў увагу гаспадара на тое, што ў Валеўцы, Міратычах і іншых навакольных цэрквах могуць быць арыгіналы Васняцова, перавезеныя туды ў даваенны час з Варшавы.

Такім чынам, першая сустрэча Уладзіміра Караткевіча і архіепіскапа Антонія адбылася без канфрантацый. За ёй былі іншыя. Караткевіч заходзіў у духоўную рэзідэнцыю, каб папрасіць за нейкага састарэлага святара з падняпроўскай вёскі. Званіў, каб удакладніць дзень нейкага святога. Анатолій Сяргеевіч заўсёды быў вельмі высокай думкі пра талент Караткевіча, пацвердзіў яе, калі мы сустрэліся пасля яго смерці, ужо ў Ленінградзе. А ў 1978 годзе, ад'язджаючы туды, яшчэ раз пажадаў яму хуткага выздараўлення.

Вясной 1979 года Караткевіч сапраўды акрыяў і па маёй просьбе прыйшоў на сустрэчу з аматарамі кнігі, якая адбылася 22 мая ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа АН БССР. Зала была паўнютная. Валодзя трымаўся добра, вершы чытаў натхнёна (па просьбах з залы— «Дачу ў Тарусе» і «Дзіва на Нерлі»), на пытанні адказваў удумліва і дасціпна. Праўда, прадстаўнік рэспубліканскага праўлення Таварыства аматараў кнігі, які сядзеў побач са мной

у прэзідыуме, не раз, слухаючы адказы, устрывожана круціўся на крэсле. Але Валодзя, не зважаючы на яго прысутнасць, гаварыў адкрыта, шчыра.

Найбольш пытанняў (трывожных, вядома) было пра стан беларускай мовы. Караткевіч адказаў, што тут ён аптыміст:

— Пакуль беларуская баба стаіць каля печкі ці пліты, смерць мове не пагражае. Паедзьце ў Ракаў, у вёску — беларускую мову пачуеце там і з вуснаў інтэлігентных людзей. Пытаецеся, ці знікае разам з мовай душа народа?

— Відаць, не. Прыклад — Ірландыя. Гавораць па-англійску, апрача дальняга ўзбярэжжа. Але ж змагаюцца, спяваюць старыя песні... Дарэчы, у рускай мове становішча таксама трывожнае. Карыстаюцца ёю няўмела — нібы мікраскопам забіваючы цвікі.

Пытанняў задавалі многа. Запіскі клалі на трыбуну, на стол. Караткевіч «глытаў» іх нецярпліва, без аніякай паслядоўнасці. Я меў магчымасць натаваць адказы адразу ж і цяпер падаю іх у такой паслядоўнасці, як яны гучалі на вечары.

— Калі завяршацца «Каласы...»?

— Працуецца цяжка. Не хочацца забіваць любімых герояў.

— Як вы прыйшлі ў літаратуру?

— Ад думкі: усе пішуць, а чаму я не магу?! Пісанне — гэта збор у калекцыю сваіх перажыванняў.

— Як вы адносіцеся да дзіцячага чытача?

— Станоўча. Напісаў чатыры казкі. Вазьмуся яшчэ...

— Чаму малыя тыражы вашых кніг?

— Не ад мяне гэта залежыць. Часта нават пісьменнікі просяць у мяне: прышлі кніжку з аўтографам. А адкуль прышлеш, калі аўтарскіх даюць толькі дзесяць экземпляраў, а з іх адзін яшчэ трэба ахвяраваць у выдавецкую бібліятэку.

— Калі ў вас нарадзілася задума «Дзікага палявання караля Стаха»?

— Дзесьці ў дзевятнаццаць год, на вышках гумна. Не памятаю дакладна. Адкуль бярэцца сюжэт — ніхто не ад-

кажа. Напрыклад — пачуў чалавек асірыйскую легенду аб тым, што розум чалавека — у вушах: чым яны даўжэйшыя, тым больш розуму. Абсеклі вушы — і тут сапраўды паразумнеў чалавек, ды позна...

— Што вам блізкае ў Багдановіча?

— Усё! Безагаворачна прымаю яго — нават у слабасцях. Ніхто так не ўрос у Радзіму, як ён. Часам нават здзіўляешся: адкуль толькі магло такое брацца?!

— Адкуль узялася ідэя «Хрыста»?

— З «Хронікі» Стрыйкоўскага. Стопрацэнтна гістарычных твораў у мяне няма, — тут Чамярыцкі кінуў рэпліку з залы: «У нікога няма». — Правільна. У Вальтэра Скота, да прыкладу, — дзясяткі анахранізмаў. Ёсць яны і ў мяне. Ніхто не заўважыў, што ў «Ладдзі Роспачы» Сапега ўжо год як памёр да падзеяў. Цень Івана Грознага, на якой вісіць дзевяць закатаваных жонак, таксама не магла з'явіцца ў часы Боны, таму што ён тады толькі што нарадзіўся. Мяне цікавіла іншае: два тыпы дэспатызму — італьянскі (вытанчаны, з атрутай) і рускі. Які лепшы? І хто сутыкнуў іх ілбамі? Гервасій Выліваха, звычайны чалавек. Чалавек — не вінцік. Ён — цвік у рыштаванні, якое ўзводзіцца вакол будынка гістарычнага прагрэсу. Стопрацэнтная праўда нікому непатрэбная. Мяне цікавіць не гісторыя-сапраўднасць, а гісторыя-анекдот, гісторыя-прытча. Кожны бярэ з яе тое, што яму трэба.

— Якая задача літаратуры?

— Быць сумленнем сваёй эпохі. Не хлусіць! Калі чалавек заблуджаўся шчыра, гісторыя прабачыць, калі хлусіў — не! Акрамя ж літаратуры, ніхто не скажа чалавеку, як жыць. Літаратура адлюстроўвае не столькі жыццё, колькі адносіны паміж людзьмі.

— Што рабіць пісьменніку, калі такая складаная сітуацыя з мовай, як у нас цяпер у рэспубліцы?

— Працаваць! Каб не сорамна было б у канцы, перад смерцю.

— Які жанр для вас самы цяжкі? Як вы пішаце?

— Усе — і лёгкія, і цяжкія. Калі ёсць канцэпцыя, пішацца лёгка. Цяжка складаецца план. Калі ж ён ужо ёсць (аж да рэмарак), пішу амаль без паправак.

— Што з напісанага вам найбольш падабаецца?

— «Ладдзя...», «Каласы...».

— Што самае галоўнае ў чалавеку?

— Суперажыванне, супакутванне з няўдачнікам. З Каліноўскім, напрыклад.

— Хто ваш любімы настаўнік?

— Як пчала бярэ пыльцу з розных кветак (але не з усіх), так і пісьменнік. Праўда, ёсць кветкі, да якіх ляцець мне не хочацца: Гамсун, Кафка, з трыццаць нашых. Ад сапраўднай прачытанай кніжкі з'яўляецца сверб — хочацца пісаць. Люблю Віцьку Астаф'ева.

— Якая мэта вашых гістарычных раманаў?

— Прышчэпка супраць памылак. Да прыкладу, задоўга да фашызму ў Кітаі было нешта падобнае, — тут Караткевіч пераказаў легенды і гістарычныя рэаліі пра Шань Яна, выкарыстаныя ім у аповесці «Вялікі Шань Ян». — Гісторыя — яна павучае!

— Ці не вы напісалі паэму пра Лысую гару?

— Я напісаў бы яе больш злосна. Ды і дачы ў мяне на Лысай гары і наогул нідзе няма.

— Ці пішаце вы надалей вершы?

— Забыў узяць з сабой. Набралася ўжо на зборнік. Трэба падгатовіць яго да друку. Але да ўсяго рукі не даходзяць.

У канцы вечара Караткевіча акружылі аматары аўтографаў. Ставіў ён іх сур'ёзна. У кожнага выпытваў факты біяграфіі. Кожнаму знаходзіў нейкае адметнае слова.

Праз тыдзень жыццёвыя дарогі звялі мяне з Караткевічам у Кіеве. Якраз там праводзілася Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная сучасным славянскім культурам. У беларускую дэлегацыю сярод іншых навукоўцаў уваходзіла і Валянціна Браніславаўна (яна расказала пра

падрыхтоўку Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі). З намі падахвоціўся ляцець і Валодзя. Мы разам пасяліліся ў гасцініцы «Славуціч» з вокнамі на Днепр, разам хадзілі на ўрачысты канцэрт, прысвечаны 325-годдзю з'яднання Украіны з Расіяй, і заключны банкет. Разам двойчы вячэралі ў «Куранях», дзе падавалі дужа смачны боршч і варэнікі.

У Кіеве я не раз бываў і раней. Але толькі Караткевіч адкрыў мне сапраўдную прыгажосць гэтага старажытнага горада. У першы ж дзень ён павёў нас «па такому Кіеву, якога не бачыў ніхто». Найперш мы пайшлі на Уладзімірскую горку, да помніка хрысціцелю Русі, чыё імя атрымаў і Караткевіч. Стоячы ля падножжа, Валодзя сказаў:

— Усе мы пайшлі адсюль. Усе тры нашы літаратуры. Прыйдзе час — і мы па-іншаму глянем на хрышчэнне.

Потым паўз Сафію («сястру нашай, полацкай»), паўз помнік Багдану Хмяльніцкаму («рабіў беларус, з Падняпроўя»), павёў нас у нейкія старыя двары, дзе прайшло яго юнацтва. Але ў дварах тых ішла рэстаўрацыя, многае змянілася, і гэта нервавала Валодзю. Затым мы хвіліну памаўчалі перад помнікам Тарасу Шаўчэнку, агледзелі ўніверсітэцкія муры, пафарбаваныя па традыцыі ў крывава-чырвоны колер. Тут Караткевіч стаў згадваць свае студэнцкія гады. Паказаў той трамвайны спуск, дзе ён цудам застаўся ў жывых. Ехаў перад стыпендыяй без білета, і на прыпынку кандуктар высадзіла яго. Ідзе пакрыўджаны — і раптам чуе грукат, скрыгатанне металу. Аказваецца, на павароце трамвай сышоў з рэек і з усяго размаху ўрэзаўся ў браму... Успамінаючы пра тую катастрофу, з якой мала хто выйшаў жывым, Валодзя запар выкурыў дзве папяросы і кожны раз, па студэнцкай звычцы, падпальваў запалкай белыя пасмы тапалінага пуху на асфальце.

У дні, калі прадбачыліся цікавыя даклады, Караткевіч хадзіў з намі на пасяджэнні, сустракаў там старых знаёмых. Напрыклад, славака Мольнара, у якога ў Браціславе выйграў заклад, звязаны з творчасцю Шаўчэнкі. Абураўся, калі прадстаўнікі Захаду рабілі намёкі на гістарычную непаў-

нацэннасць усходніх славян. Хваліў выступленне нашага Уладзіміра Сакалоўскага, які гаварыў пра беларуска-нямецкія літаратурныя кантакты.

І ўсюды Караткевіча акружалі ўніверсітэцкія сябры. Да аднаго з іх, перакладчыка Карла Скрыпчанкі, мы паехалі дамоў, і там я адчуў, як не толькі аднакурснікі, але і былыя студэнты ранейшых і пазнейшых курсаў памятаюць і любяць Валодзю. Увесь вечар прайшоў ва ўспамінах, з якіх я, на жаль, нічога не занатаваў.

Назаўтра жонка Скрыпчанкі, Ганна Зотаўна, запрасіла нас у музей Т. Р. Шаўчэнкі, дзе сама працавала. Беларускім гасцям там падаравалі па «Кабзару». Караткевіч расказаў супрацоўнікам музея многа новага пра сувязі Шаўчэнкі з Беларуссю, раіў замяніць некаторыя экспанаты, удакладніць подпісы. Творчасць Кабзара ведаў ён дасканала. Да прыкладу, звярнуў украінцам увагу, што, малюючы сваю «ідэальную» хату, Шаўчэнка зрабіў яе падобнай на бацькоўскую — адно акно большае, а другое меншае. Адным словам, паказваў і шырокую эрудыцыю, і творчую інтуіцыю.

Вечарамі я ў Кіеве са спазненнем дачытваў своеасаблівыя ўспаміны Валянціна Катаева «Алмазный мой венец». Не ўсіх я там адразу расшыфроўваў (напрыклад, Мулата). Але Ясеніна ў Каралевічу нельга было не пазнаць. І вось яго многія рысы здаліся вельмі падобныя да Караткевічавых. Тая ж вечная незадаволенасць сабой і іншымі, няўменне і нежаданне чакаць. Тая ж духоўная «неприкаянность», недастасаванасць да жыцця. Тое ж арганічнае непрыняцце ўсялякага фальшу, хлусні ў жыцці і літаратуры. Некаторым гэта здавалася (і здаецца) позай, бравадай ці яшчэ чым. Але для іх («Каралевіча» і Караткевіча) гэта было натуральным і адзіна мажлівым станам быцця. Калі я ўсё гэта выказаў Валодзю ў Кіеўскіх пячорах, ён крыху сумеўся, а потым прызнаў:

— А ведаеш, стары, мы сапраўды, відаць, аднатыпныя асобы. Як і мой поўны цёзка Валодзька Высоцкі.

Пасля Кіева Валодзя паехаў падлячыцца ў Друскінінкай. Адтуль схадзіў у Ротніцу, на магілу Яна Чачота, пра што расказаў мне на дзвюх паштоўках (на адной — помнік Чурлёнісу, на другой — Тракай), датаваных 17 ліпеня (дату смерці Чачота на помніку адчытаў ён недакладна):

*«Даражэнькі Адомас!*

Атрымаў тваю добрую паштоўку.

Дзякуй. Пішу пару слоў, хаця праз нейкія пару дзён (пяць, калі быць дакладным) убачымся. Праз гэтыя працэдуры і штодзённае трайное швэнданне на вадапой мала што бачыў, мала дзе пабываў, амаль нікуды, акрамя Гродні, дзе прызямліўся на пару гадзін, не быў. І, што горш за ўсё, нічога не зрабіў. Хаця б адзін радок напісаць!

Стан мой, як быццам, лепей, але, можа, гэта не дзякуючы водам і гразям, а проста таму, што, як і раней, не п'ю нават піва. А ёсць някепскія піўярні, кавярні, вінярні і каньякарні. Часам, асабліва пад вечар, у дождж, мяне нават цягне туды, калі праходжу, але тады я цягну свае ногі некуды далей. Ды яно і праўда. Час і гонар знаць. А ўсяго на свеце ўсё адно не вып'еш, як не пералюбіш усіх жанчын. Хаця адзін бог ведае, як я імкнуўся калісьці і да таго, і да другога.

Пазнаёміўся я тут з адным вельмі цікавым дзядзькам, якога і ты, мабыць, ведаеш. Але аб гэтым пры сустрэчы неяк.

Быў я на магіле Чачота. Парадак поўны. Чысціня — ані былачкі. Кветкі растуць. Ну і я падсадзіў яшчэ ад майго, твайго і Быкава імя (ён прасіў мяне). І ў слоік вялікі паставіў ружы, рамонкі і «божыя слёзы». А іншых тут не прадавалі.

Пры сустрэчы я табе дам аркушыкі, на якіх я запісаў проста на месцы, што там і як на магіле і што трэба зрабіць.

Здзіўляюся толькі, чаму на магіле дата смерці 1846 г., а ва ўсіх бедэкерах — 1847. Хто мае рацыю? І не ведаю, ці гэта я сам зрабіў памылкі, спісваючы эпітафію, ці яны і там так. Тым больш, надпіс не дужа выразны. І сям-там яго не

так абвялі «залатой» фарбай. Так што і сфатаграфаваць нельга. А такта я зняў і касцёл, і могілкі, і гроб.

Ну вось, цалую вас усіх.

*Уладзімір».*

У верасні таго ж 1979 года Караткевічы зноў выбраліся ў Чэхаславакію. Калі мы з Адамчыкам прыйшлі іх праводзіць (быў яшчэ Валодзеў вучань з Украіны, сімпатычны геолаг з пышнай сівой чупрынай), гаспадары здзіўляліся, як гэта магло так здарыцца, што два высланыя заказнымі лістамі запрашэнні Адлавых да Мінска не дайшлі. Давялося дадаткова прасіць Гелену Крыжанаву-Брындзаву.

За сталом Караткевіч казаў, што «выношвае» заказаны яму надпіс на камені, які збіраюцца ўстанавіць на мінскім замчышчы, каля святой крыніцы. Ад яго патрабуюць пералічэння ўсіх разгромленых чужынцаў. Ён жа прапануе даць нешта абагульняючае.

Потым успыхнула дыскусія паміж гаспадаром і Адамчыкам наконт украінскай прозы. Другі з іх даказваў, што ніводзін яе твор не дацягвае да «Хлопаў» Рэйманта. Першы ж гарачыўся, уставаў з-за стала, спасылаўся на Кацюбінскага, Заграбельнага, Іванычука, яшчэ кагосьці. Але абодва засталіся пры сваіх меркаваннях.

З Чэхаславакіі Караткевіч прывёз цудоўна выдадзены пераклад «Хрыста» (пад назвай «Евангелле ад Іуды») і задуму напісаць аповесць пра беларусаў і славакаў.

— Адным словам, павінна атрымацца нешта накшталт славянскай сагі, — дзяліўся сваімі планамі Валодзя, калі мы з Кісялёвымі і Адамчыкамі зайшлі яго адведаць пасля прыезду. — Беларус уцякае з палону, у славацкіх гарах закахаўся ў дзяўчыну, хаваўся ў яе, пакуль яго не ўзялі... Тут і гітлерызм можна паказаць ва ўсёй яго жудаснасці.

Затым гаворка пераскочыла на іншых тыранаў. Караткевіч даказваў, што ўсе яны — Напалеон, Мао, Гітлер, у пэўнай ступені Сталін — «несостоявшиеся писатели» (ці мастакі). Адсюль іх імкненне зрабіць з жывымі людзьмі тое, што можна зрабіць з героямі ў кнізе.

— Для мяне гэтыя расстрэлы, праследаванні не маюць сэнсу, бо я магу ўсё тое зрабіць, разрадзіцца на старонках рамана.

А яшчэ Валодзя абураўся тым, што ў Славакіі адзін украінец з Прэшава абвінаваціў яго ў... няведанні Беларусі. Нібы ён у кнізе «Зямля пад белымі крыламі» «перанёс» у Беларусь возера Свіцязь... Аказваецца, ёсць другое з такой жа назвай дзесьці на Валыні...

У другой палове кастрычніка на кінастудыі «Беларусьфільм» адбыўся прагляд фільма «Дзікае паляванне караля Стаха». Рэжысёр В. Рубінчык паставіў яго з выдумкай, фантазіяй. Аднак, як і ў выпадку з «Хрыстом», у фільме мала што засталося ад філасофіі Караткевіча. Прыглушанымі аказаліся сацыяльныя канфлікты, амаль знікла вёска. Ды і Беларусь не адчувалася: падзеі адбываюцца ў яўна ўкраінскім замку, галоўную гераіню іграе балгарка... Пра ўсё гэта Барыс Бур'ян прапаноўваў мне напісаць у рэцэнзіі для «Літаратуры і мастацтва». Але Караткевіч папрасіў пачакаць з яе публікацыяй, пакуль фільм не атрымае катэгорыю, не выйдзе на экраны:

— Разумееш, Мальдзісевіч, мне гэта не трэба. Але няхай людзі, якія рабілі фільм, атрымаюць капейку. Яны не вінаваты, што рэжысёр так рашаў. Голую Яноўскую, якую замаўляюць у пер'і, ён узяў з «Мсціслаўцавага посаха» Ялугіна. Замак выбраў у Алеску пад Львовам... А што я мог зрабіць, стары? Да здымкаў мяне не дапускалі. Усё вырашаў чалавек, які прыблізна ведае Беларусь... Так што нялёгкі гэта пісьменніцкі хлеб. Пакутуеш, пакуль народзіш. А потым — другі раз, калі бачыш, што іншыя робяць з тваім чадам, і ўмяшацца не смей... Дарэчы, як у цябе з анялінскай аповесцю? Узяўся нарэшце за розум?

Я адказаў неакрэслена, што, здаецца, нешта выходзіць. Апрача Каліноўскага ўвёў туды Сыракомлю, былую жонку Кіркора. Маглі ж яны аказацца ў Аняліне ў адзін і той жа дзень, у пераломны момант для кожнага з іх... Тут жа папрасіў Валодзю «напісаць» для аповесці працяг беларускага верша Сыракомлі «Ужо птушкі пяюць усюды...».

— Рабіць такое нявартa, бо ёсць горкі вопыт «прадоўжыць» Пушкіна. Давай лепей я табе напішу асобную стылізацыю пад гэты верш. І няхай яно будзе пакуль што маленькай нашай таямніцай. Павінны ж мы, у рэшце рэшт, абрастаць міфамі.

— А як у цябе справы з «Крыжам Аняліна»?

— Пачаў, стары, але далей не ідзе. Зноў я нешта не ў форме… Не ведаю, можа, і ад дня нараджэння адмоўлюся. Бо глядзець, як іншыя весяляцца, а самому ні-ні — ведаеш, якая пакута?!

Але затым, па тэлефоне, папрасіў усё ж прыйсці. Прытым «датэрмінова» — 24 лістапада. Мы з Рагойшамі купілі імянінніку драўляную «ладдзю надзеі». Тамадзіў Вячаслаў Рагойша. Кісялёў у сваім тосце сказаў, што «клясыкам» называем мы Валодзю не жартам, а ўсур'ёз. Работнік міліцыі (прозвішча яго не помню, гаспадар называў яго Жэнем і падкрэсліваў, што ён фігуруе ў «Чорным замку Альшанскім» як палкоўнік) хваліў імянінніка, што ўзяўся пісаць дэтэктывы, бо добрым дэтэктывам многа можна зрабіць — для выхавання людзей. Я ж згадаў, што праз год Валодзю будзе пяцьдзесят і прапанаваў «абвясціць» 1980 год «годам Караткевіча». Пад канец імяніннік крыху ажывіўся, прачытаў некалькі новых сваіх вершаў.

Раман «Чорны замак Альшанскі», які не раз успаміналі ў той «перад'юбілейны» вечар, друкаваўся з працягам у «Маладосці» ў 1979– 1980 гадах. Поспех быў незвычайны: упершыню нумары гэтага часопіса прадавалі з-пад прылаўка, кралі ў бібліятэках. У 1983 годзе выйшла кніжнае выданне рамана (сумесна з аповесцю «Зброя»), цудоўна ілюстраванае П. Драчовым. Неўзабаве на экранах з'явіўся аднайменны фільм.

Сам Уладзімір Караткевіч назваў «Чорны замак Альшанскі» «псіхалагічным дэтэктывам». Памятаецца, калі аўтар яшчэ працаваў над раманам (а працаваў ён год з дзесяць), яму не раз задавалі пытанне, чаму менавіта дэтэктыў, а не, скажам, працяг «Каласоў…», не гістарычная проза, якая па праву лічылася і лічыцца галоўным творчым

«амплуа» пісьменніка?! На гэта Караткевіч адказваў звычайна жартаўліва: — Ведаеце, я паабяцаў напісаць дэтэктыў Валянціне Браніслаўне, маёй вернай спадарожніцы жыцця, у першы дзень нашага знаёмства. І я, як лыцар, павінен стрымаць сваё слова.

Была, аднак, яшчэ адна вельмі істотная прычына такога звароту да дэтэктыўнага жанру. Караткевіч балюча перажываў зніжэнне чытацкай цікавасці да беларускай кніжкі і лічыў, што ўзняць гэтую цікавасць можна і трэба як «нармалёвым» стаўленнем да вывучэння беларускай мовы, так і стварэннем кніг з займальным, дэтэктыўным сюжэтам.

— Мы ўсё пішам пра тое, як «Ганна завіхалася ля печы», — казаў ён. — А трэба — пра незвычайнае, яркае, таямнічае. Каб нельга было б адарвацца ўсю ноч.

І Уладзімір Караткевіч ажыццявіў сваё творчае крэда, дамогся жаданага. Я ведаў падлеткаў, якіх за раманам «Чорны замак Альшанскі» сапраўды заставала світанне. Чаму? Ды таму, што ў рамане расказана «самая неверагодная гісторыя, якая адбылася на зямлі беларускай за апошнюю чвэрць стагоддзя», раскрыта таямніца Альшанскага замка. Дакладней, не адна, а некалькі таямніц. Хто на пачатку XVII стагоддзя забіў Ганну Альшанскую і яе каханага Валюжыніча? Куды тады падзеліся багатыя фамільныя скарбы? Што адбылося ў замку ў час апошняй вайны? Нарэшце, хто і чаму забіў Мар'яна Пташынскага, Людвіка Лапатуху, Герарда Пахольчыка і іншых сумленных людзей?

Я не буду тут пераказваць усе нечаканыя перыпетыі рамана, непазбежна збядняючы іх, бо найлепш яго прачытаць ці перачытаць кожнаму самому. Падкрэслю толькі, што «Чорны замак Альшанскі» напісаны па ўсіх канонах класічнага дэтэктыва. Сюжэт рамана вельмі заблытаны. Разгадка ўсіх злачынстваў нечаканая. Як і ў «Дзікім паляванні караля Стаха», чытач да канца застаецца ў няведанні, навошта некаму спатрэбілася прыбіраць з дарогі, тапіць у возеры аматара і збіральніка даўніны Мар'яна Пташынскага (прозвішча забойцы свядома тут не называю, — дзеля тых, хто яшчэ не чытаў раман, бо, як казаў Караткевіч, за заўчасную

«падказку» трэба «даваць па пысе»). Антон Космiч, галоўны герой рамана, сваё расследаванне вядзе, праяўляючы незвычайныя гiстарычныя веды, глыбокi iнтэлект, iнтуiцыю Шэрлака Холмса. Такiм чынам, тое жанравае вызначэнне, якое даў «Чорнаму замку Альшанскаму» сам аўтар, цалкам апраўдана. Гэта — сапраўды «псiхалагiчны дэтэктыў» (можна было б яшчэ дадаць вызначэннi: навуковы, iнтэлектуальны, фiласофскi). У жанравых адносiнах — новае слова ў беларускай лiтаратуры.

Аднак, як i «Дзiкае паляванне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскi» — не толькi дэтэктыў. Гэта яшчэ i раман гiстарычны, сацыяльна-фiласофскi. Як пераканаўча паказалi крытыкi (У. Захараў, В. Каваленка, Г. Пойманава, М. Тычына, В. Шынкарэнка i iнш.), Караткевiч выступiў тут сапраўдным наватарам як у дачыненнi да формы, так i зместу, дасягнуў тут асаблiвай раскаванасцi, «свабоды самавыяўлення». Чытача рамана хвалюе не столькi расследаванне даўнiх i новых злачынстваў, колькi ход аўтарскай думкi, асаблiва страсныя публiцыстычныя адступленнi пра нашы адносiны да помнiкаў архiтэктуры, да прыроды. Раман успрымаецца як актыўны пратэст супраць усялякiх войнаў, усялякiх майданэкаў i хатыняў, супраць прымусу, здрады, здзекаў з чалавека — зла ўвогуле. Яно ўвасоблена ў князях Альшанскiх, iх апошнiм нашчадку Вiтаўце Шапо-Калавур-Лыганоўскiм. Але зло не вечнае, калi на свеце iснуюць, актыўна супрацьстаяць яму такiя светлыя людзi, як Антон Космiч i яго каханая Стася Рэчыц, як апантаныя краязнаўцы Шаблыка i Змагiцель, як «Абель у адстаўцы» Адам Хiлiнскi. Яны моцныя праўдай. За iмi будучыня.

У «Чорным замку Альшанскiм» ёсць прадчуванне тых грамадскiх змен, што адбылiся ў нашай краiне за апошнiя гады, пасля смерцi пiсьменнiка. Яно — i ў iмкненнi Космiча заўсёды быць чалавекам, з годнасцю «распараджацца сабою». Яно — i ў разуменнi непарыўнай повязi часоў. Памкненнi герояў добрыя i чыстыя: «Людзям вельмi патрэбна чыстае паветра. Трэба, каб лёгка дыхаць. Вельмi трэба чыстае паветра. Вельмi чыстае паветра».

Аднак вернемся ў «год Караткевіча». Пачаўся ён для Валодзі «нефартунна» — новымі прыступамі. Спачатку хворы ляжаў дома, потым у лечкамісіі, у Аксакаўшчыне, казаў, што яму пагоршала, калі схадзіў у Саюз, каб дабіцца маральнай і матэрыяльнай падтрымкі для Вацлава Жыдліцкага, і сустрэў там поўнае неразуменне. Скардзіўся, што мы ўсе рэдка яго наведваем («хаця б перакінуцца ў дурня»). А калі я аднойчы зайшоў да яго, каб расказаць, як яго ведаюць і любяць студэнты ўніверсітэта (на кніжным «аўкцыёне», які я там вёў, на пытанне, хто з герояў беларускай літаратуры найбольш падабаецца, многія адказалі: Алесь Загорскі), двойчы паўтарыў, што едзем мы ўжо не на вяселле, а з вяселля, што пара зарубіць на носе лацінскае «momento mori» («памятай аб смерці»). На гэта я адказваў, што шлях з вяселля таксама можа быць доўгі, а на ім, напэўна ж, сустрэнуцца прыемныя і гасцінныя корчмы. Валодзя тут крыху ажывіўся:

— Раней, здаецца, корчмы былі кожныя пяць вёрст... Аднойчы мужыкі завялі спрэчку: колькі вёрст да неба? Адзін адказаў: менш пяці, бо інакш была б відаць і карчма.

Каб яшчэ больш падбадзёрыць яго, я дастаў з партфеля выразку з артыкулам Ганны Далінскай, надрукаваным у польскай «Політыцы». Уладзімір Караткевіч, Аляксей Кулакоўскі і Алесь Жук там былі названы песнярамі дабрыні і талеранцыі.

— Хочаш, і я табе нешта пачытаю, — сказаў ён нібы ў адказ. І выцягнуў з-пад стуса рукапісаў сваю своеасаблівую рэцэнзію на выказванні аб сітуацыі з беларускай мовай, сабраныя філосафам Алегам Бембелем. Зачытаў урыўкі з яе, а потым — з надрывам, на адным дыханні — і некаторыя выказванні.

— Вось бачыш, — закончыў, — і адзін чалавек многа можа... Кожны павінен з годнасцю несці свой крыж — ці то едучы на вяселле, ці то з онага... Вядома, ніхто цяпер усяго гэтага не надрукуе. Ды і сырое, сумбурна зроблена — рэдагаваць трэба. А так — карысную работу зрабіў хлопец...

Караткевіч яшчэ хварэў, калі на экраны выйшаў фільм «Дзікае паляванне караля Стаха». Тым, хто не чытаў аповесць, ён падабаўся. Ля білетных кас, ці не ўпершыню за гісторыю беларускага кіно, выстройваліся вялікія чэргі. Але гэта не пахіснула майго ранейшага крытычнага стаўлення. І я аднёс у «Літаратуру і мастацтва» рэцэнзію, якая пад назвай *«Яшчэ адзін «добры сярэдні»?»* была надрукавана 23 мая 1980 года:

«На першы прагляд фільма «Дзікае паляванне караля Стаха» я ішоў з насцярожанасцю, пэўнай прадузятасцю. Асабліва трывожыла, ці знайшлі на кінастудыі «Беларусьфільм» адпаведны «экранны эквівалент» аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча, якая ўжо здабыла шырокую папулярнасць. Вядома, аповесць гэта юнацкая, небездакорная. Але, мабыць, якраз таму вельмі шчырая, з вострым, захапляючым сюжэтам. У аповесці страсна асуджаецца сацыяльны прымус, увасабленнем якога якраз і з'яўляецца «дзікае паляванне», што запалохвае людзей, распраўляецца з сялянамі. І адначасова гэта аповесць пра любоў да сваёй Айчыны і свайго народа, пра пошукі чалавекам месца ў жыцці, пра чыстае каханне. Твор Караткевіча гістарычна канкрэтны, падзеі яго адбываюцца ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. І ў той жа час аўтар вядзе чытача да філасофскіх абагульненняў, ставіць перад ім «вечныя» пытанні.

Дык як жа ўсё гэта ўвасоблена ў фільме? І ці не напаткаў яго лёс папярэдняй экранізацыі караткевічаўскага твора — рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», адкуль была выкінута філасофія, роздум аб сэнсе гісторыі і жыцця, а засталася адна голая прыгодніцкая канва?

І вось на экране — першыя кадры. Беспрасветная цемра. Грыміць гром. Пад праліўным дажджом брыдзе галоўны герой Андрэй Беларэцкі (артыст Б. Плотнікаў). Бліскі маланкі высвечваюць яго твар, вялікія вочы. Вочы народнага заступніка, пакутніка, вочы Хрыста. І такога Беларэцкага адразу прымаеш. Менавіта так павінен быў выглядаць га-

лоўны герой. Толькі чаму ён ідзе? Член прывілеяванага Рускага геаграфічнага таварыства, аўтар некалькіх кніжак, чалавек з адносным дастаткам — і раптам ідзе. Праз незнаёмыя балотныя мясціны, ноччу. Адкуль і куды? У аповесці ж сказана канкрэтна: «Я ехаў з губернскага горада М. у самы глухі куток губерні на наёмным вазку...» Здаецца, дробязь, а ў глыбіні душы адразу заварушылася сумненне: навошта такая неадпаведнасць, непраўдападобнасць? Каб прасталінейна падкрэсліць «дэмакратызм» героя?

З напружаннем чакаю наступнай сустрэчы — з васямнаццацігадовай гаспадыняй Балотных Ялін, апошняй прадстаўніцай старадаўняга шляхецкага роду Надзеяй Яноўскай. Вось яна запрашае Беларэцкага на вячэру. Полымя свечкі выхоплівае з паўзмроку яе твар. Васковы, хваравіты, сапраўды «вымарачны». Праўда, адразу заўважаеш яўную неадпаведнасць паміж узростам актрысы і яе гераіні. Але, паколькі А. Дзімітрава іграе Яноўскую шчыра, тэмпераментна (хоць часам і меладраматычна), хутка неяк перастаеш на гэта звяртаць увагу.

З першых жа кадраў фільма яго аўтарам (сцэнарый У. Караткевіча і В. Рубінчыка, рэжысёр-пастаноўшчык В. Рубінчык) удаецца ўзбудзіць у гледача трывожны настрой. Крывавая легенда пра даўняе забойства караля Стаха. Яе працяг праз стагоддзі. Таямнічы паўзмрок вялізных пакояў запусцелага палаца-замка (майстар па святле С. Лук'янчык). Несамавітая, вельмі кантрастная музыка (кампазітар Я. Глебаў). Незразумелыя шолахі, галасы, шэпты. Узрастаючы грукат капыт... Адразу адчуваеш, што ў гэтай атмасферы павінна адбыцца нешта выключнае па сваёй жудаснасці. Андрэй Беларэцкі спачатку даволі скептычна адносіцца да ўсіх паданняў, не верыць у існаванне ні «дзікага палявання», ні Малога Чалавека, ні Блакітнай Жанчыны. Але паступова і ён пераконваецца, што ў палацы і наваколлі дзейнічаюць нейкія злыя сілы. Відаць, не звышнатуральныя, а зусім зямныя, рэальныя. І ў Беларэцкага з'яўляецца імкненне высветліць усю гісторыю да канца. Імкненне супрацьстаяць гэтым сілам, дзейнічаць.

А пакуль тое дзеянне, Беларэцкі, пачуўшы таямнічыя шэпты, спускаецца ў падзямелле, дзе над аголенай Яноўскай чыніць замову ахмістрыня. Сцэна гэта, як і большасць сцэн фільма, знята выразна, прафесійна (аператар-пастаноўшчык Т. Логінава). Старэчыя рукі ахмістрыні эфектна закопваюць васковае цела дзяўчыны ў белае пер'е... Але тут зноў жа з'яўляецца сумненне: чаму — у пер'е? У Беларусі ж замовы чынілі толькі ў збожжы, жыце. Зноў недакладнасць, на гэты раз этнаграфічная.

У адрозненне ад аповесці, дзе падзеі разгортваюцца запаволена, у фільме яны развіваюцца імкліва, дынамічна. Аўтары берагуць экранны час. Ужо на другі дзень (такі перанос падзей здаецца ўвогуле апраўданым) Беларэцкі прысутнічае на балі, які даецца ў Балотных Ялінах з выпадку паўналецця Надзеі Яноўскай, знаёміцца там з Дубатоўкам, Варонай, Свецілавічам, іншымі дзейнымі асобамі. Асабліва трэба вылучыць Грыня Дубатоўка: Р. Філіпаў — ідэальны выканаўца гэтай складанай ролі. Вось яго герой імкліва ўрываецца ў залу, грамавым голасам загадвае ўнесці падарункі — мядзведжую шкуру, старасвецкую сукенку (ах, як шкада, што, у адрозненне ад аповесці, Яноўская не апранае яе і не танцуе ў ёй), партрэт караля Стаха. Вось ён пяшчотна кажа кампліменты імяніннніцы, дасціпна сыпле жартамі, прадухіляе сварку, запрашае да сябе Беларэцкага. Але за ўсёй гэтай гойнасцю і добразычлівасцю праглядваецца нешта крывадушнае, сквапнае, жорсткае. Праглядваецца адзін з кіраўнікоў «дзікага палявання».

Акцёрскай удачай здаецца таксама Свецілавіч у выкананні А. Харытонава. Былы студэнт Кіеўскага ўніверсітэта натура тонкая, хваравітая, але адначасова гераічная, гатовая «ісці на плаху», Свецілавіч нясе і ў аповесці і ў фільме, так сказаць, асноўную ідэйную нагрузку. Гэта народалюбец, непрымірымы вораг сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, перакананы рэвалюцыйны дэмакрат, які вучыўся стойкасці ў Каліноўскага, Грынявіцкага, Пяроўскай. На жаль, у адрозненне ад аповесці, у фільме Свецілавіч гіне занадта рана, не паспеўшы сказаць і палову таго істотнага, што ўкладва-

лася ў яго вусны аўтарам. Заўчасна знікае з экрана той, хто найбольш паслядоўна і дзейсна супрацьстаяў «поскудзі», «дзікаму паляванню». Хто істотна ўплываў на Беларэцкага, дапамагаючы яму «шукаць народ». У выніку значна слабее сацыяльнае гучанне фільма.

Увогуле трэба сказаць, што ў другой серыі карціны, пасля забойства Свеціловіча, фільм губляе ранейшую цэласнасць і напружанасць, усё часцей распадаецца на шэраг сцэн, не звязаных паміж сабой мастацкай логікай. Героі ўсё радзей мысляць, дзеянне пераважае над думкай. Востры сацыяльны твор усё больш ператвараецца ў звычайны дэтэктыў.

Так, прыходзіцца канстатаваць, што сацыяльны змест аповесці ў фільме прыглушаны. У аповесці апрача дваранства і чыноўнікаў яшчэ жывуць і дзейнічаюць сяляне. Беларэцкі сустракаецца з імі, бачыць «апошнюю бульбу ў місе, чорны, як зямля, хлеб», запісвае ад сялян легенды. Нічога гэтага няма ў фільме. Эпізадычным стаў нават фурман Рыгор. Праўда, каля дарогі часам з'яўляюцца неверагодна апранутыя вясковыя дзеці, якія выпрошваюць капеечку. Але іх скупыя жальбы ніяк не замяняюць паўнакроўных карцін народнага жыцця. Яны ёсць у аповесці, павінны былі б быць і ў фільме. Нават для таго, каб вытлумачыць гледачу, а чым жа ўвесь гэты доўгі час (паміж «громам» і Новым годам) займаўся Беларэцкі.

Выклікае пярэчанне і фінал фільма. У аповесці сяляне ўступаюць разам з Беларэцкім у бойку з «дзікім паляваннем» і перамагаюць яго. Гэта бойка апісана ў Караткевіча каларытна, «кінагенічна», і яна значна ажывіла б даволі вялае дзеянне ў другой серыі. Дык не! Замест канкрэтнага сутыкнення дзвюх варожых сіл мы бачым абстрактнае «супрацьстаянне» на заснежаным полі сялян і «дзікага палявання». «Супрацьстаянне» знята з падкрэсленай сімвалічнасцю — узнікае нават асацыяцыя, нібы гэта пачатак бітвы на Чудскім возеры... Але раптам аказваецца, што перад сялянамі — пераважна чучалы, пасаджаныя на коней. Коні ж ішлі за сваім важаком, на якім сядзеў Варона. Канкрэтны

і грозны вораг, што трымаў у страху ўсю ваколіцу, становіцца ледзь не фікцыяй.

І апошнія сцэны. За «падбухторванне да мяцяжу» Беларэцкага арыштоўваюць (хаця гэта выглядае нелагічна: не ў інтарэсах мясцовага правасуддзя, звязанага з выкрытым ужо «дзікім паляваннем», было арыштоўваць чалавека, які многа ведае і многае можа выкрыць на судзе) і вязуць у карэце (яе неадпаведнасць эпосе — на сумленні мастакоў) кудысьці ў турму. Разам з Беларэцкім едзе Яноўская. Судовы следчы, які іх суправаджае, глыбакадумна, са слязой на вачах заўважае, што вось, маўляў, наступіць першы дзень новага, дваццатага стагоддзя. Аўтары, відаць, хацелі гэтым змяшчэннем у часе надаць фільму сімвалічнае гучанне. Аднак, адвольна перанёсшы дзеянне твора з васьмідзясятых гадоў на пачатак нашага стагоддзя, тым самым сказілі гістарычную праўду. Не Беларэцкі і не Свеціловіч, не рэвалюцыйныя дэмакраты (ці, дакладней, не толькі яны) павінны былі б супрацьстаяць «поскудзі» напярэдадні рэвалюцыі 1905 года, калі на гістарычную арэну ўступілі ўжо зусім іншыя сілы.

Дарэчы, такіх адвольнасцей, неадпаведнасцей, вялікіх і малых, у фільме багата. Здаецца, дробязь: пасля балю ў Яноўскай частка шляхты разыходзіцца пеша — пад даждждом, з парасонамі ў руках. Шлях няблізкі, бо толькі парк вакол Балотных Ялін цягнецца, як кажа Яноўская, вярсты на чатыры... Ды ўся бяда ў тым, што тагачасная шляхта не магла прыходзіць на баль пеша — яна мусіла прыязджаць, няхай на «свірэпе», няхай «па шэсць паноў на адным кані»! «Прыблізная» ў фільме і вопратка герояў, і старадаўнія кнігі, і галерэя сямейных партрэтаў, ператвораная ў двухрадавы «іканастас». Прыблізнае і само месца дзеяння (калі б не словы Свеціловіча і не пытанне Яноўскай пра Мінск, цяжка было б нават здагадацца, што падзеі адбываюцца ў Беларусі). Такая неакрэсленасць, відаць, ідзе ад прыблізнага ведання (рэжысёрам, мастаком) гістарычных рэалій. Прыблізнае ж веданне помсціць хаця б тым, што

выклікае недавер да фільма. Дакладнасць асабліва важная ў стужцы гістарычнай...

Дык што, думалася мне пасля першага прагляду, у фільме ўсё горш, чым у аповесці? Не, гэта далёка не так. Ёсць і новае, што арганічна ўвайшло ў старую тканку, нібы дапоўніла аповесць. Напрыклад, вельмі выразнае ў мастацкіх адносінах батлеечнае прадстаўленне, калі лялечнікі своеасабліва інтэрпрэтуюць гісторыю роду Яноўскіх. Добра глядзяцца зімнія сцэны з Малым Чалавекам. Аўтары сцэнарыя правільна зрабілі, адмовіўшыся ад непераканаўчага ў аповесці (скажам, ад пошукаў у балоце рэчавых доказаў на месцы, дзе быў забіты бацька Надзеі Яноўскай). І ўсё ж пасля першага прагляду фільма я выходзіў з залы ў многім расчараваны. І прэтэнзіі мае перш за ўсё адрасаваліся рэжысёру-пастаноўшчыку: ну чаму ж, чаму ў «Дзікім паляванні караля Стаха» В. Рубінчык застаўся такім жа гістарычна прыблізным, якім быў і ў «Магіле льва»? Чаму не дасягнуў тут хаця б такой жа дакладнасці ў перадачы эпохі, як у сваім фільме 1974 года «Апошняе лета дзяцінства»? Урэшце, чаму кінатвор аказаўся намнога бяднейшы за сваю літаратурную першааснову?

Першааснову? Але ж у цітрах фільма напісана, што яго сцэнарый створаны па матывах аповесці У. Караткевіча. Ды і якое я маю права глядзець на фільм толькі праз прызму аповесці? Кожная больш або менш дакладная экранізацыя — самастойны твор мастацтва і ацэньваць яго ў першую чаргу трэба зыходзячы з таго, што ёсць на экране...

Таму, калі фільм пачаў дэманстравацца ў кінатэатрах, я рашыў паглядзець яго яшчэ раз. Паглядзець, «забыўшы» пра тое, што існуе аднайменная аповесць, што я двойчы яе перачытваў. Але здзейсніць гэты намер аказалася не так проста. Яшчэ за квартал да кінатэатра «Партызан», дзе пачаў дэманстравацца фільм, у мяне сталі пытаць, ці няма лішняга білеціка... Давялося пачакаць, пакуль крыху спадзе ажыятаж (дарэчы, узняты не без дапамогі недарэчнай у дачыненні да гэтага фільма шыльды «Толькі для дарослых»),

і паглядзець «Дзікае паляванне караля Стаха» ў нармальнай абстаноўцы ў кінатэатры «Вільнюс» — адным з самых утульных і культурных у Мінску.

...І зноў на экране з'яўляюцца знаёмыя кадры. Зноў Беларэцкі і Свеціловіч выкрываюць нягоднікаў, змагаюцца са страхам і насіллем у імя дабра і праўды. І барацьба гэта аніяк не патыхае абстрактным гуманізмам: носьбіты сацыяльнага зла паказаны ў фільме даволі канкрэтна. Гэта паны Дубатоўк і Варона, якія дзеля дасягнення сваёй мэты ідуць на любыя злачынствы. Гэта прадстаўнікі царскай улады, прыстаў і судовы следчы, цесна звязаныя з мясцовай мафіяй. Ідэйнае гучанне фільма, сацыяльныя акцэнты выразныя.

А яшчэ ў фільме ёсць каханне — узнёслае, чыстае, рамантычнае. Глядач з сімпатыяй сочыць, як у душы Надзеі Яноўскай паступова тае лёд, знікае жах, абуджаецца прага жыцця, нясмелае і цнатлівае пачуццё.

«Дзікае паляванне караля Стаха» з цікавасцю глядзіцца таксама таму, што гэта твор вострасюжэтны, напружаны (асабліва ў першай серыі), прыгодніцкі. Праўда, калі падыходзіць да фільма са строгай меркай патрабаванняў дэтэктыўнага жанру, то бачны і парушэнні гэтых патрабаванняў. Глядач, асабліва той, які не чытаў аповесці, так і не зразумее, каго ж бачыў незадоўга да смерці Свеціловіч і чаму хаваў свайго брата Гацэвіч.

Поспеху фільма садзейнічае і добры акцёрскі калектыў. Да названых вышэй выканаўцаў трэба дадаць А. Філозава (Гацэвіч), В. Шэндрыкаву (удава Кульша), Б. Раманава (судовы следчы). З агульнага ансамбля неяк выпадае толькі Б. Хмяльніцкі (Варона) — празмерна статычны, пазбаўлены індывідуальнасці.

І ўсё ж, нават калі не суадносіць фільм з аповесцю, застаюцца ў сіле многія з тых прэтэнзій, што былі выказаны раней. Найперш гэта тая ж гістарычная прыблізнасць. Я разумею, В. Рубінчык хацеў, паводле яго ж выказванняў у друку, стварыць абагульненне, «фільм-прытчу» пра барацьбу сіл дабра і зла ўвогуле. Але ж нельга, застаючыся канкрэтным

у адных рэаліях, быць абстрактным і таму недакладным у іншых. Нельга, назваўшы канкрэтную дату — 1900 год, тут жа прымушаць Свеціловіча захапляцца подзвігам Соф'і Пяроўскай, як нечым, што адбылося зусім нядаўна, што зусім свежае ў памяці (як вядома, Пяроўская была пакарана смерцю ў 1881 годзе). Нельга падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі, адвольна пераносіць у замак, архітэктура якога нічога агульнага з Беларуссю не мае.

Урэшце, фільму шкодзіць меладраматызм, пагоня за вонкавымі эфектамі. Ах, як прыгожа і як доўга шугае полымя з адзення Дубатоўка! Ах, як ненатуральна бяжыць па белым снезе апранутая ў чорную сукенку звар'яцелая ўдава Кульша! Эфектна, дужа эфектна, але адначасова безгустоўна выглядаюць і босыя ногі мерцвяка на чорным фоне чыноўніцкай фігуры, і асеннія лісты паміж старонкамі старой кнігі, і курчо на галаве той жа ўдавы. Толькі думаеш: навошта ўсё гэта? Што гэта дае для разумення падзей? Безумоўна, сімвалы патрэбны, проста неабходны ў мастацтве, але такія, як, скажам, адзінокае дрэва, што ў адной са сцэн само падае ў балотную твань. Гэта не толькі каларытная дэталь, але і абагульненне, якое прымушае думаць, застаецца ў памяці.

«Дзікае паляванне караля Стаха» магло стаць падзеяй у беларускім кінамастацтве. Стала ж толькі яшчэ адным «добрым сярэднім фільмам». І не дало яму ўзняцца на вышэйшую ступеньку якраз тая прыблізнасць, якой няма ў аповесці і якую часта адчуваеш на экране».

Нечакана для Караткевіча фільм «Дзікае паляванне караля Стаха» атрымаў прызнанне за мяжой — на фестывалях у Францыі, Канадзе, Італіі. Відаць, членаў журы прывабіла нязвычная для тагачаснага савецкага кіно праблематыка. Пасля кожнага такога прыза рэжысёр фільма В. Рубінчык званіў Караткевічу.

— Перадай свайму Мальдзісу, што, наперакор яго рэцэнзіі, фільм атрымаў узнагароду...

— Члены таго журы не чыталі маёй аповесці, а Мальдзіс чытаў, — парыраваў Валодзя.

Дарэчы, пасля адной з такіх узнагарод здарыўся кур'ёзны выпадак. Друкуючы справаздачу з парыжскага фестывалю прыгодніцкіх і фантастычных фільмаў, газета «Правда» назвала аўтара сцэнарыя «Дзікага палявання караля Стаха»... польскім пісьменнікам. А паколькі ў Польшчы якраз стала неспакойна, паведамленне газеты выклікала трывогу: а раптам ён сапраўды там? З вельмі высокай інстанцыі раніцай пазванілі Караткевічам, натрапілі на Валянціну Бранiславаўну, якая ўжо ўстала, і спыталі:

— Ці не скажаце вы, дзе цяпер знаходзіцца Уладзімір Сямёнавіч?

— Спіць, — адказала Валянціна Бранiславаўна, на ўсякі выпадак заглянуўшы ў кабінет. — Дзе ж яму яшчэ быць?!

Між тым «год Караткевіча» працягваўся. Вярнуўшыся з санаторыя ў Аксакаўшчыне, Валодзя на нейкі час стаў ранейшым — вясёлым, дасціпным. Тэрмінова, да юбілею, пісаў п'есу пра Янку Купалу, дзеля чаго мы з Кісялёвым шукалі яму звесткі пра ўдзельніка паўстання 1863 года Зыгмунта Чаховіча, які аказаў вялікае ўздзеянне на будучага песняра. Зноў загаварыў пра завяршэнне «Каласоў...». Пачаў даваць згоду на сустрэчы з чытачамі.

Адна з такіх сустрэч адбылася 21 мая ў шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах. Арганізавала яе Тамара Мікалаеўна Антановіч, неўрапатолаг шпіталя, прапагандыст беларускай культуры. Вакол яе стварылася, як бы мы сказалі сёння, нефармальнае аб'яднанне з медыцынскага персаналу. Яна і пастаралася, каб сустрэча прайшла сардэчна, па-хатняму. Расставілі кругам сталы з чорнай кавай і бутэрбродамі. Запалілі камін. Уключылі запісы «Песняроў»... Хаця Караткевіч спяшаўся дамоў, бо якраз з Тбілісі прылятала Гелена Крыжанава-Брындзава, але ахвотна адказваў на пытанні. Прыводжу па тагачаснаму запісу найбольш істотныя.

— Што ў вашых творах — праўда?

— Для мяне важна перадаць дух эпохі. І каб за ёй адчуваўся сённяшні дзень. Каб чалавек рабіў вывады... У гісторыі, якую я паказваю, не ўсё добра, але гэта наша гісторыя — ад яе нікуды не дзенешся.

— Хто ў вас любімы герой?

— Гервасій Выліваха, бо нідзе не губляецца. А ўвогуле ўсе блізкія. Відаць, таму, што пішу іх не адной белай крэйдай ці чорнай сажай.

— Чаму не пішаце пра сучаснасць?

— Яшчэ не адстаялася яна. Ды і матэрыялы ў архівах яшчэ не адсакрэчаны.

— Пісьменнік павінен весці?! — мужчынская рэпліка ад увахода.

— Так. Але трэба ведаць, куды. А то завядзеш... Вунь Фадзееў (гэта прыспешыла яго смерць) у «Чорнай металургіі» выступіў за адну з дзвюх тэхналогій. А яна аказалася заганнай, магла адкінуць краіну назад... У гісторыі ж я адчуваю сябе ўпэўнена.

— Што вы думаеце пра сённяшняга чытача?

— Яго забівае «ящик». Праўда, я і сам гляджу тэлеперадачы — «В мире животных», дэтэктывы. Апошнія лічу карыснымі, бо яны ўбіваюць людзям, асабліва маладым, параграфы кодэксу ў даступнай і займальнай форме. А гэта істотна: марожанае ў шакаладзе мы ямо куды ахвотней, чым калі б яно было загорнута, да прыкладу, у салому...

— Вашы любімыя кветкі? Пара года?

— Усе добрыя. Непрыгожых кветак не бывае ўвогуле... Цяпер сумую па гнілой восені. Калі доўга цёмна, калі за акном — безнадзейны дождж, а табе добра.

— Ці было ў Беларусі людажэрства?

— Рытуальнае — здаецца, не. Прынамсі, сляды — толькі ў адным кургане. Ад голаду — было.

— Чаму вы так любіце Прыбалтыку?

— Чужое здаецца лепшым. Ды і Прыбалтыка з Украінай мяне многаму навучылі...

Потым спявалі песні. Валодзя — свае любімыя «Ой, косю мой, косю», «На цвярдыню тваю ўпаваю». Усе ра-

зам, пад баян — народныя. Адны ведалі словы на памяць, другія тут жа вучылі іх з папярэдне аддрукаваных і раздадзеных картак.

— Ведаеш, стары, — сказаў Валодзя, калі нас адвозілі санітарнай машынай у Мінск, — на вечары мне чамусьці здавалася, што седзімо мы не ў канцы дваццатага, а год на сто раней. У часы Лучыны. Сабралася горстка энтузіястаў беларусчыны і пачынае амаль з нуля. І пасярод іх — будзіцелька, Тамара Мікалаеўна.

— Лучына з Багушэвічам падрыхтавалі «нашаніўцаў», пазнейшы ўздым. Было б толькі зерне...

— Во-во! Мне чамусьці сённяшні вечар здаўся нейкі сімптаматычны. Як першая ластаўка перамен да лепшага. Павінны ж яны калі наступіць. Бо людзі ёсць, працуюць. Толькі раз'яднана, пакрыёму.

Летам 1982 года, асабліва пасля паўторнага курса лячэння ў Друскінінкай, Караткевіч адчуў сябе амаль здаровым. Злётаў у Ерэван, каб наведаць сяброў. Вычытаў рускі пераклад «Чорнага замка Альшанскага», зроблены Валянцінай Шчадрыной. Нешта перакладаў са славацкай. Зноў актыўна пачаў змагацца за захаванне помнікаў гісторыі і культуры, за іншыя грамадскія справы.

27 жніўня зайшоў я да Валодзі, каб перадаць яму пераклады яго аповесцяў, зробленыя фізікам Ухавым (пераехаўшы ў Мінск з Сібіры, ён вывучыў беларускую мову, каб у арыгінале чытаць Быкава і Караткевіча). Але Валянціна Браніславаўна сказала, што «аспіда» няма дома: паклікалі яго ў аддзел культуры ЦК КПБ, да І. І. Антановіча. Мы з нецярплівасцю і цікавасцю сталі чакаць гаспадара — гадзіну, другую, трэцюю. Нарэшце каля шасці з'явіўся. Увогуле задаволены.

— Ну, з чым віншаваць — з сакратаром Саюза ці з міністрам культуры? — жартам спытала Валянціна Браніславаўна.

— Асабіста мне нічога не трэба. Так і заявіў там, у час размовы... Хіба што навесці парадак на нашай кінастудыі: вярнуць Тольку Забалоцкага, прышчаміць варагаў. Ды яшчэ

навесці парадак з помнікамі. Хаця б з радашковіцкім касцёлам, дзе хрысцілі Купалу, — тут Караткевіч успомніў нашу супольную паездку ў Радашковічы на адкрыццё памятнага каменя Ядвігіну Ш. — Прыгадаў Антановічу, што той касцёл мясцовае начальства жадае перарабіць пад керамічны цэх. Зацікавіўся... Дамовіліся туды з'ездзіць разам.

Гутарка ў І. І. Антановіча, мусіць, прама ці ўскосна, была звязана з юбілеем Уладзіміра Караткевіча. Мы, ягоныя сябры, некалькі разоў «варажылі», якую ўзнагароду дадуць яму да пяцідзесяцігоддзя, бо на той час гэта было дужа істотна. Песімісты казалі: Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР. Аптымісты: Знак Пашаны... І якая ж была наша радасць (і нават здзіўленне), калі ў газетах быў апублікаваны ўказ аб узнагароджанні юбіляра ордэнам Дружбы народаў. Хаця сам Караткевіч не раз падкрэсліваў (у тым ліку ў інтэрв'ю У. Ягоўдзіку ў «Літаратуры і мастацтве»), што фармальнае («фанфарна-барабаннае») прызнанне яму аніяк не патрэбна, аднак вестку аб узнагародзе сустрэў з вялікім задавальненнем, а ордэн у час пяцідзесяцігоддзя насіў з гонарам.

Юбілейны вечар Уладзіміра Караткевіча адбыўся 28 лістапада ў Доме літаратара. Зала была паўнюткая — людзі сталі ва ўсіх праходах. Перад пачаткам нікога не прапускалі нават па запрашальных білетах. Караткевіч быў бадзёры і зусім неафіцыйны, непасрэдны. У час віншавання некалькі разоў хаваўся за кулісы, каб зрабіць пару зацяжак. Жанчынам галантна цалаваў ручкі. Перабіваў прамоўцаў дасціпнымі рэплікамі. Адным словам, паводзіў сябе так, нібы не яго ўшаноўваюць, а кагосьці іншага (потым ва ўспамінах артыста Алеся Лабанка вычытаў трапнае: «...быў як гарэзлівае, добрае дзіця»).

Слова пра юбіляра сказаў Янка Брыль. Ён гаварыў аб шырокай вядомасці Караткевіча, у тым ліку за мяжой, параўнаў яго «з другім Валодзем» — Бранеўскім: той таксама мог на сустрэчы з вучнямі прайсціся перад імі на руках, заказаць у карчме яешню з трыццаці двух яек, з'есці адно і пайсці. Брыль успомніў, як нешта падобнае вытварыў у

Маскве юбіляр, паказваючы неграм, што такое беларуская гасціннасць: трапіў у перапоўнены рэстаран як... польскі рэжысёр Ежы Кавалеровіч, вячэраў з прынцэсай Уганды, уратаваў яе ад хуліганаў, атрымаў за гэта ад яе прапанову стаць прынцам-кансортам, а назаўтра вымушаны быў прасіць у сяброў, каб пазычылі яму грошай.

Пацешныя і павучальныя гісторыі згадвалі і іншыя прамоўцы — Рыгор Барадулін, украінец Алекса Юшчанка, адзін з братоў-мастакоў Басалыгаў. Артысткі спявалі юбіляру песні. У выкананні коласаўцаў былі паказаны ўрыўкі з п'ес «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі». Скончыўся вечар сімвалічна: Маці-Радзіма з «Кастуся Каліноўскага» спусцілася ў залу, узяла Караткевіча за руку і ўзвяла на сцэну. Тут яму акцёры ўручылі вялізную сякеру і скрутак з віншаваннем. І тое, і другое юбіляр расчулена пацалаваў.

Разыходзячыся, людзі казалі, што ўжо даўно, з часоў мележаўскіх, у Саюзе не было такіх светлых юбілеяў.

Назаўтра святкаванне прадоўжылася ў кафэ Дома літаратара. Тамадзіў і задаваў тон Рыгор Барадулін. З сардэчнымі віншаваннямі выступілі Васіль Быкаў, Сяргей Законнікаў, Ніл Гілевіч, Міхал Дубянецкі, Валодзеў дзядзька з Рагачова. Я зачытаў шматлікія тэлеграмы і паштоўкі. Юбіляр усім шчыра дзякаваў.

Пасля ўсіх выступленняў у Караткевіча зусім прапаў голас. Калі мы зайшлі да яго з рыжскім мастаком і збіральнікам беларускіх паштовак Вячкам Целешам, які якраз зрабіў юбіляру экслібрыс, гаварыў ён шэптам. Але быў поўны планаў. Паказваючы сігнальны экземпляр свайго двухтомніка, прымеркаванага да пяцідзесяцігоддзя, хваліўся, што з Міхалам Дубянецкім, дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», склаў на бліжэйшыя гады цэлую «караткевічаўскую праграму».

Уладзімір Караткевіч узяў слова на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, які стаў для яго апошнім з'ездам. Як сёння бачыцца, ён тады ледзь не найбольш пераканана і паслядоў-

на выступіў супраць «застойнай», кан'юнктурнай літаратуры, параўнаў яе з роўняддзю. Патрэбны ж «вяршыні» і «даліны». Трэба рызыкаваць. Бо мы — «галоўная стаўка»! Сялянская стыхія меншае, беларуская мова нівеліруецца. Таму ён, Караткевіч, і пачаў пісаць дэтэктывы — каб чыталі. Затым ён рэзка крытыкаваў кіраўніцтва Саюза. У ім многа міжусобіц, «мышынай вазні». Нельга, каб яна падмяняла літаратурны працэс.

Побач з іншымі выступленне Караткевіча несумненна паўплывала на выніку тайнага галасавання пры выбарах новага складу праўлення. Некаторыя сакратары атрымалі па сто і болей галасоў супраць. Але паколькі гэта складала меней палавіны ўсіх прысутных, то ў новае праўленне яны ўсё ж прайшлі. На першым яго пасяджэнні, пры адкрытым галасаванні, яны зноў былі выбраны сакратарамі, прытым амаль аднагалосна. Гэта расстроіла Караткевіча.

— А дзе ж сумленнасць? — сказаў ён з дакорам на ўсю залу. — Пры тайным галасаванні многія з вас былі супраць, а цяпер, выходзіць, не хапіла пораху, паказалі хвігу ў кішэні.

І гэта было своеасаблівае заключэнне пленума. Бо болей слова ўжо ніхто не браў.

У маі 1981 года пачалася для Караткевіча новая «чорная паласа». Сур'ёзна захварэла Валянціна Браніславаўна — ёй зрабілі аперацыю, але з часовым поспехам. Застаўшыся адзін, Валодзя стаў менш дбаць пра сябе. Усё часцей паўтараліся болі ў страўніку і жываце (лекары даказвалі, што гэта вантроба), дрэнна служылі ногі. Але галоўныя былі пакуты маральныя.

— Ты ж ведаеш, я не з баязлівых, — сказаў мне аднойчы, вярнуўшыся з Бараўлян, Валодзя. — І ў гарах, і ў моры ўсе здзіўляліся, што ў мяне быццам і няма інстынкту самазахавання. А тут стала страшна ад думкі, што побач пакутуе блізкі чалавек, што ўсё гэта можа дрэнна скончыцца.

— Будзем спадзявацца, што абыдзецца.

— Не абыдзецца, чуе сэрца... І нешта нервы сталі здаваць, кашмары пачалі з'яўляцца... Учора ўкольшчыца на-

крыла падушкай маіх тохаў, — так Валодзя называў забаўных сабачак, прывезеных з Чэхаславакіі, — горбіцца яна на крэсле, а мне ўсю ноч здавалася, што гэта пачвара за мной цікуе... Так што даруй, стары, калі можаш, што я не ў настроі.

Потым спытаў, ці паеду я сёлета на радзіму — у Расолы, Гудагай, Палушы. Даведаўшыся, што хата маіх бацькоў, пакінутая без догляду, нядаўна згарэла, Валодзя расстроіўся:
— Бачыш, і для цябе радзіма ўжо ў нечым страчана, бо няма дзе прытуліцца. Як і для мяне Орша і Рагачоў. Засталася толькі гэта хата. Але хіба тут можа быць утульна?!

Калі Валянціна Браніславаўна выпісалася з бальніцы, Валодзя паехаў на Рыжскае ўзмор'е, у Дубулты. Адпачываючы там, наведваўся ў Рыгу, да мастака Вячкі Целеша. Па просьбе Сяргея Панізніка і даследчыцы Мірдзы Абала перакладаў вершы латышскіх паэтаў, найперш Яна Судрабкална. Чытаў для «Маладосці» карэктуру аповесці «Зброя», падзеі якой адбываюцца ў Маскве напярэдадні паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.

У 1981 годзе, з вялікім спазненнем, у «Литературной газете» нарэшце ўспомнілі, што, па сутнасці, не адзначылі юбілей Караткевіча. Тэрмінова заказалі мне артыкул. Потым патрымалі некалькі месяцаў... Адкрыў я газету ў пачатку лістапада і жахнуўся: артыкул аказаўся недарэчна скарочаны, выхалашчаны. Амаль кожны сказ — нібы не твой. Праўда, Валодзя падзякаваў па тэлефоне і за такую публікацыю.

Новы, 1982 год пачаўся для Караткевіча, здавалася б, памысна. Яго кандыдатуру вылучылі на Дзяржаўную прэмію БССР (аднак потым, у выніку закулісных інтрыг, прэмія прысуджана не была). Кінастудыя «Беларусьфільм» пачала работу над экранізацыяй рамана «Чорны замак Альшанскі». Тэатр юнага гледача рыхтаваў пастаноўку «Калыскі чатырох чараўніц». Крыху палепшала Валянціне Браніславаўне. І яны разам былі на калядах у Барадуліных, на дні нараджэння ў Кісялёва. Папіваючы «Вярску», «клясык» (ён жа «аспід») нібы іскрыўся гу-

марам, устанаўліваў прэмію («па капейцы») за кожнае дасціпнае слова іншых.

Так працягвалася амаль усю вясну і лета. Калі 16 мая я зайшоў да Караткевіча, каб аддаць яму экземпляр сваёй кнігі «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя», ён пахваліўся, што паставіў «апошнюю кропку» ў п'есе пра Крычаўскае паўстанне «Маці ўрагану», а цяпер узяўся за кнігу пра Мсціслаў і эсэ пра Кіеў. Чытаў якраз у «Літаратуры і мастацтве» дыскусійны артыкул пра пераклад і не пагаджаўся з асобнымі палажэннямі, не канкрэтызуючы іх:

— Абодва бакі ў чымсьці не маюць рацыі. Разумныя хлопцы, а пішуць абы-што... Пераклад, вядома, можа часам быць вышэй арыгінала — я гэта адчуваў сам, перакладаючы міцкевічаўскага «Мешку, князя навагрудскага», Цыпрыяна Норвіда... І чаму так ставіцца пытанне — або Пегас, або кляча? У Сярэдняй Азіі гэта можа быць і вярблюд з «крыльцамі». А як вы перакладзіцё каня для бушменаў, якія каня ў жыцці ніколі і не бачылі, бо ён там не выжыве. Таму бушмены і ходзяць ад крыніцы да крыніцы пеша, абвешаўшыся страусавымі яйкамі.

Далей высветлілася, што гаспадар уважліва прачытаў і артыкул Генадзя Шупенькі, у якім разглядаўся раман Віктара Казько «Неруш», падзяляў яго асноўныя думкі:

— Пачатак у «Неруша» сапраўды выдатны. А далей — нямала неадгабляваных мейсцаў. Усё роўна як у таго майстра, што адточыць для крэсла філігранныя ножкі, а ў сядзенні пакіне стрэмкі.

Потым паказаў мне Чэцці-Мінеі на снежань месяц, прывезеныя з Арменіі (здаецца, атрымаў іх ад самога каталікоса), экзатычныя ракавінкі, прысланыя вядомым акеанолагам з Масквы («яна жыла ў стане дэпрэсіі, а ад «Чазеніі» «нібы нарадзілася на свет нанова»).

Усё гэта настройвала Караткевіча мажорна, творча.

— Напісаць бы барочную драму з шасцю інтэрмедыямі — нейкую такую містэрыю накшталт тагачасных фран-

цузскіх бурлескных фарсаў. Або апісаць нашых каларытных жабракоў...

У жніўні Караткевічы былі на нашым «стагоддзі» («пяцьдзесят плюс пяцьдзесят»). «Клясык» па-ранейшаму быў у добрым гуморы: гучна смяяўся з дасціпнай «насценгазеты», падрыхтаванай калегамі з інстытута, пацвельваў з маіх заняткаў англійскай мовай (восенню мелася адбыцца мая камандзіроўка ў Англію). Лёгка ўзнавіў кантакты з нашымі вясковымі сваякамі. Многа кепікаў і звычайных юбілейных гіпербал было і ў ягоным вершаваным тосце-віншаванні:

Табе з Марыляй сто гадоў,
або На стогадовы юбілей Адама Мальдзіса
Я ад пашаны аж зароў:
«Будзь шчасны і бывай здароў!
Віват, старэйшы брат!
Бо (з жонкай) маеш сто гадоў,
(І кніг жа маеш сто радоў),
Я ж — толькі пяцьдзесят.
Адаме, дуб наш векавы,
З Марыляй трыста год жыві,
І ўвагі не звяртай,
І не тлумі ты галавы,
Што век кароткі у травы,
Што наш старэе гай.
Ты з ласкі шчырае багоў
Пражыў стагоддзе — ого-го!
Расці ж, не падай ніц.
Бо трэ рукавы закасаць,
І сто раманаў напісаць,
І сто раманаў завязаць,
Але пра гэта — цыц!
А колькі ж можа, друг, за век
Цыстэрнаў выпіць чалавек?! —
Ты й гэта памятай.
Сумленне б толькі не прапіць,
Не мала піць, не многа піць,
А так, каб свет, як рай.
Каб сябра для сяброў усіх,

Каб вораг быў для ўсіх ліхіх,
Каб чысты быў, як шкло.
Каб добра ўсе з табой жылі,
Цябе ніколі не клялі,
Гарэлкі ў вокны падалі,
Як гэта раз было.
Хай будзе плённае пяро
Тваё, мой друг і брат...
Табе сягоння — сто гадоў,
Мне — толькі пяцьдзесят.

Восенню 1982 года, у сувязі з маімі паездкамі ў Польшчу і Англію і хваробай Валянціны Браніславаўны, мы сустракаліся рэдка і паспешліва. На дзень нараджэння паслаў яму з Лондана віншавальную паштоўку з каляровым партрэтам каралевы: маўляў, разам з уладальніцай брытанскай кароны жадаю табе... Потым спахапіўся: мабыць, не дойдзе, бо ў Англіі з усяго можна смяяцца, але не з каралевы. Але, на маё здзіўленне, віншаванне дайшло. І неўзабаве я атрымаў адказ на двайной паштоўцы з «Санатай мора» М. Чурлёніса, любімым творам самога пісьменніка.

*«Здароў, місцер Сміт з Бобкін-стрыт!*

Атрымаў тваю паштоўку. Дзякуй! Хаця ты і парсюк, мог бы хаця перадаць прывітанне Вальцы, тым больш што яна кладзецца на аперацыю. Ну добра. Затое я перадаю прывітанне ўсім знаным і нязнаным тваім сябрам, усім, хто табе дапамагае ў працы. Ты ж глядзі, горад і іншае аглядай толькі вечарамі, не марнуй часу, яго ў цябе мала, і прывязі з Альбіёна такую кучу цікавых адкрыццяў, каб нам за цябе не было сорамна.

Галоўнае, многа-многа зрабі, нельга занядбаць такі шчаслівы выпадак, які ў цябе здарыўся.

Моцна цісну руку.

Твой *Уладзімір*».

Новая аперацыя не выратавала Валянціну Браніславаўну, і з кожным днём ёй, а з ёй і Валодзю, рабілася ўсё горш.

Памерла яна ў самы апошні дзень лютага 1983 года — адначасна з Валодзевай цёткай, у якой ён жыў у Кіеве, і Міколам Прашковічам, з якім ён сябраваў у шасцідзясятыя гады. На пахаванне прыйшлі Барадулін, Брыль, Быкаў, Гілевіч, Зуёнак, Кісялёў, Някляеў, Рагойшы, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства на чале з дырэктарам. Усіх здзівіла выступленне на могілках аднаго археолага, які ў свой час многа нашкодзіў Валянціне Браніславаўне. Але мне сказалі, што перад смерцю нябожчыца змяніла да яго адносіны і нават прасіла начальства, каб яго зрабілі старшым.

Валодзя трымаўся даволі мужна. Толькі паўтараў, што без Валі не ўяўляе сабе далейшага жыцця. Хацеў кудысьці з'ехаць з хаты, каб хоць крышку «адтаяць душой».

— Хто хацеў бы мяне прыняць, у таго малыя хаты, — жаліўся. — А ў каго вялікія, той не мае такога жадання.

З дапамогай аддзела культуры ЦК КПБ Караткевіч атрымаў тады пуцёўку ў прэстыжны санаторый на Нарачы. Але чужыя людзі, казённая атмасфера, халоднае надвор'е не садзейнічалі «адтайванню», і з «Соснаў» ён вярнуўся датэрмінова. З таго часу апеку над ім, хатнія клопаты ўзяла на сябе сястра, Наталля Сямёнаўна.

Калі 6 красавіка я прыйшоў на «саракавіны» па Валянціне Браніславаўне, то ледзь пазнаў Валодзю — так ён апух. Да таго вельмі балелі зламаныя раней рэбры. Усіх, хто прыходзіў, Валодзя сустракаў вельмі песімістычна, гаварыў, што ён ужо адпісаў і адбыў сваё. Таму Васіль Быкаў, устаўшы за жалобным сталом, згадаў словы Хемінгуэя: пакуль ты жывы, мы будзем жыць абодва... Дзеля памяці пра Валянціну Браніславаўну, дзеля літаратуры Валодзя павінен узяць сябе ў рукі і жыць, каб жыла памяць. Прыкладна такім жа быў сэнс і слова Рыгора Барадуліна, іншых сяброў. Усё гэта не падабалася Караткевічу: бачыў тут нейкі дыктат над сваёй асобай, ці што.

Выйшаўшы з-за стала, усе мужчыны сабраліся ў Валодзевым кабінеце. Седзячы на тахце, ён пачаў скардзіцца, што вось і сон у яго змясціўся: засынае ў пяць і ўстае ў дванаццаць.

— Трэба, Валодзя, праявіць сілу волі і вярнуць усё на сваё месца, — прапанаваў Быкаў.

Гэтыя словы вывелі з раўнавагі Караткевіча. Нервова зацягваючыся папяросай, ён адрэзаў — ды так, каб было несправядліва і балюча (хоць Васіль Быкаў у апошнія гады быў яму вельмі блізкі):

— І ніякі ты не ваенны пісьменнік. Асабліва пасля Льва Талстога... Любіш ставіць людзей у экстрэмальныя сітуацыі і глядзець, што з імі будзе.

— А чаму ж не пагглядзець, як будуць паводзіць сябе два павукі ў банцы або муха з мурашкай... — не то пагаджаўся, не то іранізаваў Быкаў, добра разумеючы стан і прычыны такой абвостранай рэакцыі Караткевіча.

Тут уключыўся Генадзь Кісялёў і стаў пераконваць Валодзю, што трэба больш рухацца, больш бываць на свежым паветры, больш быць гаспадаром свайго слова. Але гэта канчаткова расстроіла Караткевіча — нібы яму жадалі што благое.

Летам Караткевічу крыху палепшала. Ён зноў стаў хвалявацца за лёс помнікаў архітэктуры, розных «апальных» асоб. Некалькі разоў пазваніў з гэтай прычыны А. Т. Кузьміну, які, наколькі магу меркаваць з дзвюх тагачасных размоў, вельмі хваляваўся за здароўе пісьменніка і рабіў канкрэтныя захады, каб яго ўратаваць. Спробы, часам нават адчайныя, уратаваць Валодзю ад дэпрэсіі, рабілі і мы, ягоныя сябры. Але вынікі былі толькі часовыя. І тут Наталля Сямёнаўна рашыла, што яму трэба змяніць асяроддзе, паехаць у Оршу, дзе жыла яго пляменніца Ляля і яе муж Юра. На радзіме, здавалася, хворы павінен акрыяць.

29 кастрычніка разам з Нінай Уладзіміраўнай Адамчык, Галінай Львоўнай Кісялёвай, лекаркай з бальніцы і дачкой Наталлі Сямёнаўны Надзяй я наведаў Валодзю ў Оршы. Ён адчуваў сябе, як сам казаў, «пяцьдзесят на пяцьдзесят», лепш стаў есці, чытаў кнігі, апекаваўся катамі. Узрадаваўся нашаму прыезду. Шкадаваў толькі, што пільныя справы перашкодзілі прыехаць Быкаву і Кісялёву («Кісялю»). Паказаў нам хату, у якой жыў (па вуліцы Касманаўтаў, 10) —

яна была пабудавана адразу ж пасля вайны з бярвення, перавезенага з вёскі (месца ж знаходжання бацькоўскай хаты акрэсліў вельмі прыблізна: там усё змянілася). Разам мы выйшлі на бераг Дняпра, прыбранага ў асеннюю пазалоту дрэў. Але спусціцца па стромкім адхоне да самой ракі Валодзя ўжо не рашыўся — адмаўлялі слухацца ногі.

Назаўтра пазваніў Васіль Быкаў, распытваў пра стан здароўя Караткевіча. Казаў, што і сам з'ездзіць да яго пасля Кастрычніцкіх свят, калі крыху вызваліцца.

У снежні, на зіму, Уладзімір Караткевіч вярнуўся ў Мінск. З кватэры амаль не выходзіў, з выдавецтвамі кантактаваўся па тэлефоне. Я некалькі разоў заходзіў да яго, каб угаварыць на курс лячэння, прапанаваны літоўскім медыкам Валдасам Банайцісам, але Валодзя адказваў неакрэслена:

— Можа, летам, калі пацяплее.

— Час бяжыць, Валодзечка...

— Што вы ўсе мяне хаваеце, — узарваўся Валодзя. — Вунь і Зайцаў прыходзіў, заклікаў хадзіць у царкву, прычашчацца перад... перад смерцю.

— І што ты яму адказаў?

— Сказаў: Вячаслаў Кандратавіч, нашто? Лепш я памалюся дубу. Ці каменю. Ці яснаму сонейку.

У лютым 1984 года, пасля смерці Ю. А. Андропава, калі яшчэ было невядома, куды пойдзе далейшае развіццё краіны, па Беларусі пракацілася, як вызначыў Валодзя, «непамысная хваля высакоснага года». Выступаючы на семінары ў Гродне, работнік Галоўліта БССР В. Пепяляеў ахарактарызаваў Караткевіча, Адамовіча, мяне, а заадно чамусьці і Думбадзе ледзь не як ворагаў народа. Рашыўшы, што настаў яго зорны час, адзін з пісьменнікаў стаў пісаць у высокія інстанцыі палітычныя даносы. Усё гэта вельмі расстроіла Караткевіча. Пасля званка з Гродна пра тое, што гаварылася на тым семінары, ён рашыў (казаў пра гэта мне ў бальніцы), што зноў вяртаецца «сталіншчына». Пачалася вострая дэпрэсія. З цяжкім прыступам «хуткая» забрала Валодзю ў лечкамісію, дзе ён праляжаў у рэанімацыі некалькі дзён без асаблівай надзеі.

2 сакавіка я папрасіўся на прыём да А. Т. Кузьміна, каб даказаць беспадстаўнасць гучных абвінавачванняў у свой адрас (услед за імі пачалі мне вяртаць з рэдакцый і выдавецтваў заказаныя раней рукапісы). Аляксандр Трыфанавіч уважліва выслухаў мяне, спрабаваў знайсці нейкі выхад з сітуацыі, прапанаваў абмеркаваць рукапіс «варожай» кніжкі пра Англію на Вучоным савеце нашага інстытута («як там вырашаць, так і будзе»). Потым я згадаў, што існуе прамая залежнасць паміж выступленнем В. Пепяляева ў Гродне і знаходжаннем Уладзіміра Караткевіча ў рэанімацыйнай палаце.

— Ведаю, — сказаў Аляксандр Трыфанавіч. — Адпаведныя заўвагі ў адрас той арганізацыі, дзе працуе Пепяляеў, зроблены. А пра стан здароўя Уладзіміра Сямёнавіча мне штодзённа дакладваюць. Робіцца ўсё магчымае ў яго становішчы.

Праз тыдзень Валодзю перавялі ў агульную палату. А там і дазволілі яго наведаць. Калі я зайшоў да яго, ён быў рухавы, настроены даволі аптымістычна. Узрадаваўся вясковай каўбасе, якую яму перадала Марыя.

— Якія навіны на божым свеце? — спытаў. — Можа, мой фільм бачыў?

Я пачаў пераказваць яму ўражанні ад «Чорнага замка Альшанскага». Ля кас стаяць чэргі, людзі пытаюць пра лішні білецік. Ды і фільм зроблены лепш, чым «Дзікае паляванне караля Стаха». Лапатуха проста выдатны. Вось толькі з выканаўцамі галоўных роляў не пашанцавала: яны — ніякія.

— Ведаю, — адказаў. — Людзі гаварылі.

І пачаў пералічаць, хто ў яго тут бываў. Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч толькі што заходзіў з жонкай. Быкаў прынёс цэлы стус часопісаў. І Кузьмін двойчы заходзіў з Антановічам.

— Твары ў іх су-умныя такія былі. Давялося мне іх забаўляць анекдотамі. Хаця павінна быць наадварот.

І тут жа пачаў расказваць, што ў крытычныя дні ў рэанімацыі яму прыснілася атамная вайна:

— Страшней, чым на вайне. З усімі жахамі. Нават Барадуліна мусіў прыстрэліць, каб не пакутаваў.

— Многа крыві было? Чырвонага?

— Ведаеш, стары, не. Больш карычневага. Розных адценняў. Вось ад гэтага, — пастукаў па бальнічным стале, — да цёмнага чаю...

— Укладзеш гэтыя трызненні ў каго са сваіх герояў?

— Не, занадта страшна. Уся Беларусь падзелена прорвамі — небаскроб схаваецца — на асобныя часткі. І — непраходныя валы. Людзі рыюцца, каб пераадолець іх, даведацца, што ў іншых. Дзесьці з'явіліся небяспечныя мутацыі чалавека. І толькі каля Валожына, кажуць, можна трывацьⅽ... Мяне ўся гэтая радыяцыя чамусьці не брала. Але ведаў: возьме...

— Не возьме... Цяпер ты добра выглядаеш. Але... выпісвацца з бальніцы не спяшайся.

— Аднак жа і прасіцца, каб пакідалі, не буду. Можа, дні праз тры выпішуць.

Нават ранейшай знаслівасці, што з'явілася ў апошнія два-тры гады, у яго не было. Хутчэй — усёдараванне, паблажлівасць да людзей.

Выпісаўшыся, Уладзімір Караткевіч стаў нават выходзіць у сквер каля тэатра імя Янкі Купалы. Чытаў кнігі, седзячы на лавачцы ля фантана, вітаўся са знаёмымі (а іх у яго было — безліч). Аднойчы я застаў яго ў двары дома з Васілём Віткам. Гаварылі пра навінкі літаратуры. Караткевіч радаваўся, што падрастае цікавая моладзь. Абураўся пісьменнікам, які тады пісаў даносы на іншых:

— Было б дзе выступіць — я яму выдаў бы! — злаваў Валодзя. — Але з'езд не хутка, а пленумаў не чуваць. І што б тут учыніць...

Не ведаў я, што гэта была апошняя наша размова, апошняя сустрэча...

Неўзабаве Валодзя адчуў сябе настолькі добра, што выбраўся ў Кіеў — на трыццацігоддзе свайго ўніверсітэцкага выпуску. А затым разам з фотажурналістам Валянцінам Ждановічам і мастаком Пятром Драчовым, які цудоўна

праілюстраваў яго «Чорны замак Альшанскі», адправіўся ў падарожжа на пазычаным, няхай і добра абсталяваным плыце ўніз па Прыпяці. Праўда, прадчуваў нядобрае. Перад ад'ездам у Кіеў, нібы развітваючыся назаўсёды, абзваніў, каго мог. Мяне ў гэты час не было дома, да тэлефона падышла Марыя. Расказвала потым, што перадаў прывітанне яе бацьку, «дзядзьку Карлу», і збіраўся яшчэ пабываць у яго ў Палушах. Бадзёрыўся, але тон размовы быў вельмі сумны.

І вось на Прыпяці Уладзіміру Караткевічу стала зноў дрэнна. На машыне яго хуценька прывезлі ў Мінск, у лечкамісію. Адразу скіравалі ў рэанімацыю. Моцная натура яшчэ некалькі дзён змагалася са смерцю. Змагалася адчайна і ўпарта — нібы герой ягонае аповесці «Ладдзя Роспачы» Гервасій Выліваха. Пульс ужо амаль не прашчупваўся — а ён гаварыў пры поўнай свядомасці.

25 ліпеня 1984 года ў чатыры гадзіны раніцы Уладзіміра Караткевіча не стала. Калі зрабілі ўскрыцце, аказалася, што страўнік ператварыўся ў суцэльную нервова-крывавую рану. Ён вельмі любіў усё вострае, казаў, што можа глытаць не толькі перац і аджыку, але і цвікі. І гэта губіла яго. Аднак не адно гэта. Ён абвострана, пакутліва ўспрымаў усе нягоды і бядоты, якія выпадалі ў сталінскія і застойныя часы на долю беларускай літаратуры і беларускага народа. А колькі горкіх асабістых крыўдаў і зняваг давялося праглынуць яму моўчкі, амаль без слёз. Яны не праходзілі бясследна. Яны таксама набліжалі канец.

Уладзімір Караткевіч ведаў, што ён рана памрэ і ўвогуле быў гатовы да смерці, у апошнія гады часам нават адчайна імкнуўся насустрач ёй.

Думка пра смерць, прытым заўчасную, заўсёды трывожыла Караткевіча. Асабліва гэта я адчуў, калі разам з іншымі членамі камісіі па спадчыне пісьменніка стаў праглядаць, рыхтуючы да публікацыі, ягоныя запісныя кніжкі. Яшчэ ў 1959 годзе ён абураўся вызначэннем «натуральная смерць». Смерць заўсёды ненатуральная! Чалавек, па-мак-

сімалісцку патрабаваў ён, павінен жыць тры-чатыры тысячы гадоў. Або быць інтэнсіўным. І тады за семдзесят год ён пражыве «не менш тысячы таго чалавека, які век сядзеў на месцы». І далей: «Напэўна, я хутка памру». А ў 1960 годзе запісаў пра смерць: «...а день ее будет мне открыт».

Хуткаплыннасць жыцця, прадчуванне блізкага канца трывожылі Караткевіча ўсё больш і больш. 6 верасня 1982 года датаваны такі крык душы: «А жыццё фізічна адчувальна плыве праз пальцы! А яго так мала! А зрабіць яшчэ трэба так многа! І нічога ўжо, адчуваю гэта, не паспею зрабіць, пусты мантач часу. І гэта тады, калі (няхай ты слабы і перабольшваеш значэнне зробленага табой) ніхто тваёй работы за цябе не зробіць, калі хата валіцца і ты ў яе адна з нешматлікіх падпорак у самым заваланебяспечным месцы. Уцякаць кудысьці трэба!»

Да думкі пра смерць Уладзімір Караткевіч не раз — то прарочa, то іранічна — вяртаўся і ў сваіх непаўторных лістах. 8 лютага 1966 года ён пісаў мне з Рагачова: «А што будзе, калі я ўвогуле памру. Як вы без мяне пражывяцё, адшэльнікі і аскеты? Вось тады, хлопчыкі, паплачаце, ды позна будзе.

А я буду ляжаць у труне такі халодны і прыгожы, што нават начальства, нават ворагі расчуляцца і заплачуць. Грынчык будзе раўці як бялуга і абсмоктваць слёзы з сівых вусоў. Нават дабрэйшы Юльян Сяргеевіч не будзе ўсміхацца. Ужо не кажу пра ягоную дачку. Яна адразу ўспомніць, як мяне на абмеркаванні дражніла — і... зарыдае».

І Уладзімір Караткевіч тут многае прадбачыў. Не ўсё, вядома. Раней яго памёр «дабрэйшы» Юльян Сяргеевіч Пшыркоў. Не адпусціў вусы Мікалай Міхайлавіч Грынчык. Але сумную вестку ён, як і сотні і сотні іншых яго сяброў і чытачоў, сустрэў з мужчынскай слязой на вачах, якой не саромеўся. «Расчулілася» і «начальства». А «ворагаў» — як і зусім не было.

Беларускае грамадства, зразумеўшы, каго яно страціла, нібы ўстрапянулася, нібы рашыла «дадаць» Уладзіміру Караткевічу, ужо нябожчыку, тое, чаго яму не «дадало»

пры жыцці. Яму не было прысвоена званне народнага. Але жыў ён — як народны. І хавалі яго — як народнага.

У некралогу, падпісаным кіраўнікамі партыі і ўрада рэспублікі, вядучымі савецкімі пісьменнікамі, афіцыйна ўпершыню ў дачыненні да Уладзіміра Караткевіча было ўжыта слова «выдатны». Нябожчык называўся «выдатным мастаком слова, пісьменнікам-грамадзянінам, патрыётам, чалавекам добрага сэрца». Словы развітання былі выказаны не толькі ў беларускім, але і ў рускім, украінскім, літоўскім, польскім друку. «Быў. Ёсць. Будзеш!» — сцвярджаў загалоўкам свайго артыкула ў «Літаратуры і мастацтве» Рыгор Барадулін. Звяртаючыся да свайго сябра як да жывога чалавека, ён казаў: «Ты пісаў як дыхаў. Сваім асабістым прыкладам паказаў узор служэння Радзіме, народу, мове. Ты даў усім нам урок сумленнасці. Далёкі ад марнай сумятні, ад дробязных страсцей, з кнігай і шчодрым сэрцам прыйшоў ты на свет, каб пакінуць свету кнігі свае па-беларуску шчырыя і па-караткевічаўску рамантычна-незамутнёныя. Кнігі твае чыталіся, чытаюцца і чытацца будуць, бо яны напісаны як бы навырост. Тыя, што прыйдуць на зямлю ўслед за намі, будуць зайздросціць нам як тваім сучаснікам, тваім першачытачам». Беластоцкі «Кур'ер Подляскі» змясціў артыкул Сакрата Яновіча «Смерць, вялікая, як геній», у якім гаварылася: «Адышоў ён у краіну ценяў, будучы яшчэ далёка ад парога старасці, у поўні сваіх творчых магчымасцей, але і схварэлы, на жаль. Згараў у працы. На яго пахаванне выйшаў увесь Мінск, прыехала многа людзей з правінцыі. Пад звычайным некралогам падпісаліся кіраўнікі партыі і ўрада Беларускай рэспублікі».

Хавалі Уладзіміра Караткевіча 27 ліпеня. У Дом літаратара, дзе на сцэне была ўстаноўлена труна, прыйшлі пісьменнікі, мастакі, артысты, навукоўцы, работнікі з заводаў, студэнты, вучні, землякі з Оршы. У ганаровай варце стаялі кіраўнікі партыі і ўрада нашай рэспублікі І. Я. Палякоў, Г. Г. Барташэвіч, А. Т. Кузьмін. На жалобным мітынгу выступілі Н. Гілевіч, В. Быкаў, Р. Барадулін, першы сакратар Аршанскага гаркома партыі Я. Глушкевіч, кінарэжысёр

М. Пташук. Было многа вянкоў і кветак. І быў боль, горкія слёзы ад усведамлення, якую вялікую страту ўсе мы панеслі.

Свой апошні прытулак нястомны працаўнік і вандроўнік знайшоў на Маскоўскіх могілках — побач з вялікімі і заслужанымі, непадалёку ад Мележа і Макаёнка. На магільным узгорку заўсёды было шмат кветак, летам сюды ставіліся — як сімвал — жытнёвыя каласы, а дзіцячыя і жаночыя рукі клалі цукеркі. Праз чатыры гады пасля смерці Уладзіміра Караткевіча ў адпаведнасці з яго апошняй воляй над магілай узнёсся сціплы і велічны палявы камень, знойдзены В. Аляшковічам. Скульптар А. А. Анікейчык захаваў яго натуральную прыгажосць, аздобіўшы толькі бронзавым аўтографам пісьменніка і бронзавым калоссем. Выступаючы на адкрыцці помніка, Васіль Быкаў вобразна і ёміста акрэсліў тое значэнне, якое мела, мае і будзе мець для беларускай літаратуры і ўсёй Беларусі творчасць Уладзіміра Караткевіча: «Мы стаім з вамі перад яшчэ адным каменем на нялёгкім шляху нашай культуры, перад яшчэ адным сімвалам, які ўвасабляе не толькі наш боль, наш смутак, але і наш гонар».

Так, цяпер ужо відаць — і мы гэта можам сказаць без сумневу, — што тут ляжыць вялікі чалавек Белай Русі, апостал нашай духоўнасці, непараўнальны мастак XX стагоддзя Уладзімір Караткевіч.

Караткевіч — гэта пісьменнік божае міласцю, — паэт, празаік, драматург, — самы універсальны талент, прыдатны для якога-небудзь XVIII ст., аднак у якасці нейкае боскай кампепсацыі дадзены нашай культуры ў XX. Лёс яго ўвогуле быў шчаслівы (калі наогул можа быць шчаслівы лёс у такіх людзей), не зважаючы на ўсе выпрабаванні, якія былі шчодра пасланы яму людзьмі і богам. Ён іх перамог з годнасцю, не пераступіўшы свой талент і сваё сумленне. Тое, вядома, заўжды не проста для чалавека наогул, тым больш для мастака такой яркасці і такога маштабу. Ці многія з нас могуць сказаць перад гэтай магілай, што былі такія ж, як ён, — у нягодах, у спакусах, таксама і ў шчасці, якое зрэдку

яму выпадала. Ён быў ці не адзіны такі сярод нас — нам у папрок, але і нам у прыклад. Будзем жа памятаць гэты яго-ны прыклад і раўняцца на яго».

Сёння памяць Уладзіміра Караткевіча ўвекавечана — хоць яшчэ і недастаткова — у Оршы, дзе ён нарадзіўся, вучыўся і настаўнічаў, Віцебску, які ён вельмі любіў, і Мінску, дзе ён жыў, тварыў і памёр. У Оршы і Віцебску яго імем названы вуліцы. Па ініцыятыве пошукавага клуба «Повязь» у 3-й Аршанскай сярэдняй школе створаны музей пісьменніка. У Мінску, на доме 36 па вуліцы Карла Маркса, дзе ён жыў у апошнія гады, устаноўлена мемарыяльная дошка. Дзякуючы старанням сястры Уладзіміра Караткевіча, Наталлі Сямёнаўны, амаль усё ў яго кватэры застаецца ў ранейшым выглядзе, і з цягам часу тут таксама (верыцца ў тое) будзе музей. Два мемарыяльныя пакоі-музеі пісьменніка ёсць сёння ў рабочых інтэрнатах — на мінскім заводзе «Інтэграл» і ў маладзечанскіх будаўнікоў. Штогод, у дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча, там праводзяцца кранальныя вечары.

Прозвішча Уладзіміра Караткевіча трывала ўвайшло ў гісторыю літаратуры — беларускай, усесаюзнай, усеславянскай. У распрацоўцы гістарычнай праблематыкі сёння за ім упэўнена ідуць многія і многія нашы празаікі — у першую чаргу я тут назваў бы Уладзіміра Арлова, Леаніда Дайнеку, Канстанціна Тарасава. Светлы воблік Караткевіча ўзнаўляецца ў вершах паэтаў. Яму прысвячаюцца крытычныя і літаратуразнаўчыя працы.

З выказванняў пра Уладзіміра Караткевіча людзей самых розных прафесій і нацый сёння можна скласці сапраўдны вянок — у дадатак да тых кветак, што ўскладаюцца на яго магілу, да каменя-помніка. Гэтыя выказванні сведчаць пра вялікую папулярнасць пісьменніка як у нашай краіне, так і за яе межамі. Прывяду некаторыя з іх.

Беларуская паэтэса *Галіна Каржанеўская*. Верш «Уладзіміру Караткевічу»:

Ён выпорвае слоўца з імхоў забыцця
(Не заўважыць другі і нагой наступіўшы!).
Ім, крамяным, любуецца, круціць пяшчотна,
А пасля ачышчае ад жухлай ігліцы,
Ад прыліплых пясчынак, малых парушынак
І ў ёмісты кош свой кладзе.
Ў тым кашы
З-пад Бягомеля слоўцы, з-пад Воршы і Пінска...
Аднаго зразумець не магу:
Як жа ён
Наадшукваў іх гэтулькі, гледзячы ў неба!

Прафесар Карлава ўніверсітэта *Вацлаў Жыдліцкі.* Са «Слоўніка пісьменнікаў Савецкага Саюза» (Прага, 1977): «Уладзімір Караткевіч. Аўтар пераважна гістарычных, дакладней, «гістарыяграфічных» празаічных твораў. Больш, чым уласна гісторыяй, займаецца яе сэнсам. Таму ён пазбягае простай белетрызацыі гісторыі, не апісвае вяршынныя падзеі, не партрэтызуе праслаўленых асоб. Наадварот, ён чэрпае матэрыял, яўна пабочны, з легенд, старых хронік і народных паданняў. Невядомыя, як правіла, выдуманыя героі і падзеі з глухіх, перыферыйных закуткаў служаць яму сыравінай, з якой ён стварае тыпы і выклікае ўяўленне духу беларускай народнай гісторыі». І далей: «Як гістарычныя, так і сучасныя сюжэты ён настройвае рамантычна, даючы перавагу ў першым выпадку класічнаму вальтэрскотаўскаму рамантызму, у другім — «неарамантызму» з яго значнай дозай лірызму і казкавай паэтычнасцю. Караткевіч разам з тым піша годную ўвагі сучасную асацыятыўна-метафарычную лірыку, а таксама паспяхова выступае як драматург і кінасцэнарыст».

Рускі празаік *Віктар Астаф'еў.* З інтэрв'ю беларускаму літаратару Аляксею Гардзіцкаму (70-я гады): «Як там Валодзя Караткевіч? Я яго помню па літаратурных курсах. Мы яго любілі слухаць, ён цудоўны расказчык».

Загадчыца кніжнага магазіна *Зоя Сямёнава.* З артыкула ў астравецкай раённай газеце (1979): «Бадай ніхто з беларускіх пісьменнікаў не ведае так добра свой край, яго гіста-

рычнае мінулае, побыт беларусаў, іх звычкі, як Уладзімір Караткевіч».

Беларускі паэт *Рыгор Барадулін.* Верш «Да партрэта Уладзіміра Караткевіча»:

Дзіця з вачыма празарліўца,
З душой, пакрыўджанай на свет
Зірне — і будзе фраза ліцца,
Нібыта клёкат праз арліцу,
Як несупыннасць праз Тыбет.
Адчай з прарочымі вачыма,
Дзе ўзорацца шляхоў шлякі,
Дзе з небам раіцца Радзіма,
Дзе немагчымае магчыма,
Дзе дзівакуюць дзівакі.
Ахвярца верны неспакою
Над плынню крэўнае ракі.
І мова матчынай рукою
Яго сумленне трапяткое
Благаславіла на вякі.

*Сяргей Сідарэвіч,* наладчык вытворчага аб'яднання «Інтэграл». З ліста ў рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» (1982) у сувязі з вылучэннем кандыдатуры Уладзіміра Караткевіча на Дзяржаўную прэмію БССР: «Сёлета кандыдатура Уладзіміра Караткевіча за «Чорны замак Альшанскі» і за распрацоўку гістарычнай тэмы ў іншых творах вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. Калі мы адкажам сабе на пытанне, хто больш і хто лепш напісаў у нашай літаратуры пра мінуўшчыну Беларусі, то пераканаемся, што пісьменнік заслугоўвае гэтай высокай дзяржаўнай узнагароды».

Балгарскі крытык *Сямён Уладзіміраў.* З прадмовы да зборніка Уладзіміра Караткевіча «Паром на бурнай рацэ» (Сафія, 1982): «Я перакананы, што Уладзімір Караткевіч у хуткім часе стане адным з самых любімых балгарскімі чытачамі пісьменнікаў. Яго вылучае натуральны талент апавядальніка, уменне неназойліва і з захапленнем пранікнуць у псіхалогію сваіх герояў, як правіла, цікавых і

неадназначных асоб, якімі кіруюць значныя ідэі і моцныя парыванні. Той, хто прачытаў выдадзеную нядаўна ў нас у перакладзе на балгарскую мову аповесць У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» і пазнаёміцца з апавяданнямі, якія ўключаны ў гэтую кнігу, абавязкова згодзіцца са мной. Яшчэ недастаткова вядомыя ў Балгарыі, у беларускай літаратуры творы У. Караткевіча — даўно ўжо не толькі абяцанне цікавага развіцця, а жывая рэальнасць, якая ўзбагаціла гэтую літаратуру значнымі мастацкімі каштоўнасцямі».

Беларускі спявак *Міхал Забэйда-Суміцкі.* З ліста да віцебскага краязнаўцы Міколы Плавінскага (1972): «Трэба сказаць, што наша літаратура зрабіла вялікі крок наперад. Мне прысылаюць свае кнігі М. Танк, С. Грахоўскі, У. Караткевіч і інш. Чытаю і павучаюся. Караткевічава «Дзікае паляванне караля Стаха» пераклалі, і вельмі ўдала, на чэшскую мову. Прачытаў з захапленнем два разы...»

Беларускі пісьменнік *Ніл Гілевіч.* З юбілейнага артыкула ў газеце «Советская Белорусскя» (1980): «Колькасць чытачоў яго кніг і прыхільнікаў яго таленту будзе расці, таму што расце ўзровень адукаванасці і агульнай культуры народа, а значыць, узровень яго гістарычнай самасвядомасці. Мы — сведкі гэтага росту, гэтай плённай тэндэнцыі ў духоўным развіцці грамадства, гэтай узмоцненай увагі мастакоў і мысліцеляў да каранёў і вытокаў».

Польскі літаратуразнавец *Фларыян Няўважны.* З рэцэнзіі ў часопісе «Пшыязнь» на зборнік Уладзіміра Караткевіча «Блакіт і золата дня» (Лодзь, 1976): «Добра сталася, што Караткевіч паступова пачынае прамаўляць да польскага чытача. Добра, што мы можам прачытаць навелы аўтара «Блакіту і золата дня» ў старанным і прыгожым перакладзе Яна Гушчы. Але, атрымаўшы каштоўную кніжку, мы хацелі б атрымаць новыя творы Караткевіча. Дадатковым жа аргументам з'яўляецца яго сімпатыя да Польшчы, да яе культуры, гісторыі. Даказаў гэта не толькі сваімі арыгінальнымі творамі, але таксама перакладамі нашай паэзіі. Таму

закончу заклікам да Лодзінскага выдавецтва: чакаем новых кніг Уладзі Караткевіча!»

*В. Матусевіч,* інжынер. З ліста ў рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» (1988): «Не магу зразумець і тое, чаму ў школах зусім не карыстаюцца цудоўнай кнігай «Зямля пад белымі крыламі»? Праблема ж са складаннем новых падручнікаў па гісторыі надта вялікая. Ды і падручнікі, якія выйдуць праз некалькі гадоў, будуць ужо не для сённяшніх вучняў. А між тым у кнізе Караткевіча ёсць усе неабходныя гістарычныя звесткі, і, што вельмі важна, напісана яна цікава і займальна. Гэта, фактычна, гатовы падручнік па гісторыі і культуры Беларусі для дзяцей дзесяці — дванаццацігадовага ўзросту».

Беларуская паэтэса *Святлана Басуматрава.* З верша «Блізкая далячынь. Памяці Уладзіміра Караткевіча»:

Не бушуюць
Раўнінныя рэкі,
Ды пад вербамі
Кружаць віры.
Адышоў ты
На вечныя векі.
Ці пайшоў на плытах
Па Дняпры?..

Толькі знік
За крутым паваротам,
Наўздагон
За нязбытнай вясной.
...За балотам,
За чуйным чаротам
Лес цямнее
Зубчастай сцяной.

Нібы замак той чорны
З падання.
Ходзяць здані
Сівых аблачын.
Гэта — родная,
Аж да рыдання,
Сэрцу блізкая
Далячынь.

*Казбек Султанаў.* З артыкула «Фрэскі, што ажылі», апублікаванага ў «Литературной газете» (1983): «Паэзія гісторыі адухаўляе, мне думаецца, такую цікавую і неацэненую ў поўнай меры з'яву нашай літаратуры, як проза У. Караткевіча... Заражальная сіла вострасюжэтнай, насычанай драматычнымі супярэчнасцямі прозы У. Караткевіча ідзе якраз ад глыбіні пранікнення ў сутнасць блізкай і далёкай старыны, ад беражлівага адкрыцця рэальнага драматызму самой гісторыі. І — каштоўнасцяў нацыянальнага мінулага».

Беларускі літаратуразнавец *Серафім Андраюк.* З яго юбілейнага артыкула ў газеце «Чырвоная змена» (1980): «Пра што б ні пісаў Караткевіч, у якім бы жанры ні выступаў (а ён жа і празаік, і паэт, і драматург, і аўтар шматлікіх эсэ, і нарысіст), заўсёды творы ягоныя напоўнены вялікай любоўю да роднай зямлі, яе людзей. Уся творчасць пісьменніка — гэта своеасаблівая песня пра Беларусь, песня сапраўды народнага, эпічнага размаху, глыбокага драматызму і высокага паэтычнага ўзлёту».

Англійскі славіст *Арнольд Макмілін.* З кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры» (Гесэн, 1977): «Гэта пісьменнік з вялікім прыроджаным талентам, чые няпростыя для чытання творы сведчаць не толькі пра любоў да беларускай культурнай і гістарычнай спадчыны, але таксама пра яе глыбокае веданне».

Уладзімір Зянько, машыніст цеплавоза з Маладзечна. З неапублікаванага верша «На смерць У. Караткевіча»:

І што ж гэта сёння народ наш спаткала?
Не знаю, ці верыць, не верыць,
Ды радыёдыктар выразна ж сказала:
Памёр Уладзімір Караткевіч!
І быццам маланкай мяне паласнула,
Душа забалела і цела,
Не помню ўжо, колькі хвілін праміну ла,
Пакуль я стаяў так, здранцвелы.

Польская даследчыца *Марыя Далінская* і беларуская даследчыца *Ала Кабаковіч.* З іх сумеснага артыкула «Цень

Міцкевіча нада мною...», надрукаванага ў кракаўскім штотыднёвіку «Жыцє Літэрацке» (1970): «Несучы людзям сваю паэзію, Караткевіч перш за ўсё хоча, каб яна была «праўдзівай», вольнай ад фальшу, які вельмі адчувае вуха сучаснага чалавека. І перакананы, па свайму свядомаму выбару, не хоча штукарыць. Затое здзіўляе — асабліва багаццем сваёй паэтычнай мовы, якая з'яўляецца і класічнай беларускай, і мовай сусветнай паэзіі, і народнай гаворкай, тым ці іншым яе дыялектам».

Беларускі паэт *Васіль Жуковіч.* З верша «Уладзімір Караткевіч»:

Жыццялюб, фантазёр і рамантык ідушчы,
не сябе шанаваў, не сабой даражыў —
са стагоддзяў ён нёс, нібы з чорнае пушчы,
кветку матчынай чыстай душы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Чарадзей легендарнае волі і сілы,
ён чароўную кветку як вока бярог.
Смерць раптоўна, як колас, пад корань скасіла,
ён — як колас — яе перамог.

Толькі абмежаванасць месца не дазваляе мне цытаваць і цытаваць гэтыя суладныя галасы, якія зліваюцца ў стройны хор, што спявае рэквіем памяці Пісьменніка і Грамадзяніна. У доўгі пералік можна было б яшчэ дадаць вытрымкі з даследаванняў і артыкулаў беларусаў М. Арочкі і В. Бечыка, Я. Брыля і В. Быкава, А. Вераб'я і П. Дзюбайлы, В. Іпатавай і В. Каваленкі, В. Палтаран і Л. Прашковіч, А. Сямёнавай і М. Тычыны, Т. Чабан і Я. Шпакоўскага, В. Шынкарэнка і А. Яскевіча, рускіх А. Макарава і Б. Плотнікава, украінцаў У. Лучука і М. Рочыня, латышкі М. Абала, літоўца А. Станкуса, балгарына Г. Вылчава, немца Н. Рандава, аўстрыйца Ф. Нойрайтэра, вершы Д. Бічэль-Загнетавай і В. Коўтун, А. Лойкі і У. Някляева, А. Пагасяна і С. Панізніка, М. Рудкоўскага і Я. Сіпакова, М. Танка і В. Яраца. Да вобраза Уладзіміра Караткевіча, яго твораў звярталіся і звяртаюцца мастакі, скульпта-

ры, кампазітары, кінематаграфісты (дакументальны фільм Ю. Цвяткова).

Аднак, зразумела, самым трывалым помнікам Уладзіміру Караткевічу з'яўляюцца яго творы. Яны сталі сёння настольнымі для многіх і многіх чытачоў як у Беларусі, так і за яе межамі. Яны з'яўляюцца падручнікам, па якому наша моладзь вучыцца патрыятызму, маральнай чысціні. Вялікім (для Беларусі) тыражом пачаў выдавацца васьмітомны Збор твораў Уладзіміра Караткевіча, куды, дарэчы, увойдзе далёка не ўсё з напісанага ім. Спатрэбяцца дадатковыя тамы для публіцыстыкі і эсэістыкі, для кінасцэнарыяў, для дзённікаў і шматлікіх пісем.

Сённяшні чытач адкрывае для сябе новага, невядомага раней Караткевіча па тых яго творах, што не паспелі або не маглі выйсці пры яго жыцці. Вялікай падзеяй, найперш, стаў выхад пасмяротнага паэтычнага зборніка з сімвалічнай назвай «Быў. Ёсць. Буду» (1986) — гэтыя прарочыя словы выведзены на вокладцы буйна і ўпэўнена почыркам аўтара. Многа факсімільных старонак і ў самой кнізе. Тужлівы настрой ёй прыдаюць прадмова-развітанне Рыгора Барадуліна, шчымлівыя здымкі Валянціна Ждановіча і Пятра Драчова, дзе Караткевіч паказаны ў час падарожжаў па Беларусі (у тым ліку — і апошняга, развітальнага).

У назве зборніка яшчэ раз сцверджана непарыўная сувязь часоў, пакаленняў. Паэт мае права сказаць, што ён будзе, што ён адыдзе «Бясконцым Трактам неўміручасці», бо сам ён свята шанаваў, зберагаў і памнажаў усё тое, што створана народам, завешчана Бекешам, Каліноўскім, Буйніцкім, Купалам і іншымі папярэднікамі. Паэт пакутаваў ад таго, што на свеце ўсё яшчэ ёсць жорсткасць і несправядлівасць, раз'яднанасць, дысгарманічнасць. І часта, вельмі часта ў яго з'яўляецца прадчуванне Невядомасці і Непазбежнасці. Але ў гэтым прадчуванні няма адчаю. Паэт верыць, што свет яго «паўторыць», што прыйдуць лепшыя, больш гарманічныя людзі, што будзе жыць народ, а з ім дабро і прыгажосць. Журботна і разам з тым аптымістычна гучаць радкі верша-запавета:

Быў. Есць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.
За ўсіх, хто ўздымае цяжкія разоры,
Хто ў гарачым пекле метала,
За ўсіх, хто змагаецца з небам і морам,
За жывых, і за тых, што сканалі.

Як пісаў у «Нёмане» (1987, № 7) Яўген Гарадніцкі, «апошняя кніга Уладзіміра Караткевіча — гэта ўжо такая ступень духоўнай унутранай засяроджанасці, адказнасці перад часам і народам, перад словам, якая сапраўды можа многаму навучыць. Але ў ёй няма паблажлівага павучальніцтва. Яна напісана жывым чалавекам, які можа быць узвышаным, не баючыся паказацца смешным, можа быць павучальным, не асцерагаючыся дыдактыкі, можа часам здавацца і грубым, але ніколі — цынічным. Ды гэта ж і ёсць прыкмета сапраўднага майстэрства — уменне захаваць пачуццё меры».

Зборнік «Быў. Ёсць. Буду» можа выклікаць і выклікае спрэчкі, часам нават непрыняцце. Але, мужны і страсны, ён нікога не пакідае раўнадушным. Таму што гэта — споведзь. Таму што гэта — завяшчанне.

Пасля смерці, спачатку ў «Маладосці» (1985, № 12), а пасля ў зборніку «Старыя беларускія хронікі» (1988), была таксама надрукавана трагедыя Уладзіміра Караткевіча «Маці ўрагану» — ці не самы лепшы сярод яго драматычных твораў. Яна дазволіла па-новаму асэнсаваць і ўсё тое, што было раней апублікавана аўтарам у гэтым жанры.

Калі я чытаў «Маці ўрагану», яшчэ раз пераконваўся, што сутнасцю Уладзіміра Караткевіча — яго творчасці і яго натуры — былі дзеянне, рух.

Увесь час актыўна, нястомна дзейнічаюць героі раманаў, аповесцей і апавяданняў Уладзіміра Караткевіча — асабліва рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і аповесці

«Дзікае паляванне караля Стаха». Там усе і ўсё — у няўрымслівым руху, у нечаканых і незвычайных нягодах і прыгодах. І ўчынкі караткевічаўскіх герояў маюць глыбокі, глыбінны сэнс: у дзеяннях Алеся Загорскага, Юрася Братчыка ці Антона Косміча ўвасоблена хада самой гісторыі!

Сюжэтныя, дынамічныя вершы Уладзіміра Караткевіча — дастаткова прыгадаць «Землятрус» ці «Рагнарадзі». У іх няма спакойнага сузірання, апісальнасці. Тут усё — людзі, пачуцці, думкі — у зменлівым і бесперапынным руху. Нездарма, адчуўшы гэтую асаблівасць караткевічаўскай паэзіі, студэнты Беларускага тэхналагічнага інстытута паказалі яе ў жывых вобразах, на сцэне — у яркім прадстаўленні «Па шчасце, па волю». Дарэчы, лёгка паддаюцца інсцэнізацыі і празаічныя творы пісьменніка (тэлеспектаклі «Лісце каштанаў» і «Сіняя-сіняя...», радыёспектаклі «Каласы пад сярпом тваім» і «Паром на бурнай рацэ»).

Ды і аўтар гэтай прозы і гэтай паэзіі быў само дзеянне. Як ужо гаварылася, ён цаніў не столькі слова, колькі справу, куды адносіў таксама творчасць, пісанне. Колькі разоў нам, яго сябрам, даводзілася чуць прыкладна такое: вось вы прыгожанька гаворыце, але гэтага мала. Са слоў кашы не зварыш. Вы лепш зрабіце (напішыце, дапамажыце, абараніце). Бо толькі гэта залічыцца нам за грахі смяротныя і паўсядзённыя...

Калі не лічыць перыядаў дэпрэсій, Уладзімір Караткевіч быў увесь у руху. Ён не мог доўга праседзець на адным месцы, за адным сталом, у адным пакоі. Праз паўгадзіны гаворкі, нават самай цікавай, яму станавілася сумна. Яго бесперапынна цягнула да змены субяседнікаў і абставін. У самы нечаканы момант ён мог усклікнуць: «Пайшлі!» або «Паехалі!». І ішоў (пакуль дазвалялі ногі) з аднаго канца горада на другі, ехаў да сваякоў або сяброў.

Часам мне здаецца, што Уладзімір Караткевіч глядзеў на зменлівы свет, на хуткаплыннае жыццё як на велічнае і непаўторнае відовішча. Глядзеў дапытліва і зацікаўлена. Адчуваў сябе ў гэтым відовішчы не толькі гледачом, але і акцёрам, але і рэжысёрам. Ён радасна, неяк па-дзіцячаму ўспрымаў

усё тое лепшае, што ёсць у гэтым свеце, — прыгажосць чалавечых твараў і высакароднасць учынкаў, значнасць ідэй і магічную сілу слова, чароўнасць краявідаў і гарманічнасць народнай музыкі. Але многае ў жыцці не прымаў, намагаўся змяніць да лепшага. Найперш гэта была недастатковая павага, абыякавасць ці нават пагарда да свайго, роднага, беларускага. Караткевіч бачыў, да чаго вядзе адсутнасць патрыятызму, асабліва сярод моладзі, — вядзе да таго, што чалавек становіцца касмапалітам, перакаці-полем, у якога няма ні каранёў, ні памяці, ні гісторыі. Бачыў — і абураўся, пратэставаў, дзейнічаў, выклікаючы неўразуменне, наклікаючы гнеў тых, для каго таптанне на месцы было арганічным станам. У гады застою ён дзейнічаў.

Уладзімір Караткевіч усведамляў, што дзеянні, асабісты прыклад аднаго чалавека абмежаваныя. Таму ён раз-пораз звяртаўся да вопыту гісторыі, гэтай мудрай і аб'ектыўнай настаўніцы жыцця. Ён апеліраваў да вопыту папярэдніх пакаленняў. Ён браў дзеля прыкладу жыццё тых продкаў, якія аддана служылі народу, айчыне.

Аднак у Караткевіча было разуменне, што слова таксама абмежаванае. Не кожнаму чытачу дадзена ажывіць у сваім уяўленні вобразы кнігі. Іншая справа — дзеянне. Дзеянне сцэнічнае, кінематаграфічнае. Яно абуджае думкі і эмоцыі не толькі словам, але і рухам, гукам, колерам. Яно ўздзейнічае адразу, адначасова на сотні, тысячы, а то і мільёны.

Гэтым разуменнем тлумачыцца няспынная цяга Уладзіміра Караткевіча да тэатра, кінематографа, тэлебачання. Іх велізарныя магчымасці вабілі яго заўсёды, нават пасля няўдач. Яго часта не разумелі — не ставілі, не здымалі. Або разумелі і бачылі не так, як разумеў і бачыў ён. І тады ён умольваў «не псаваць гісторыю». Тады ён нават кідаўся на калені (было такое на «Беларусьфільме»), спрабуючы нешта ўратаваць. А калі не ўдавалася — публічна даваў клятву, што ягонай нагі там ніколі не будзе. Але тут жа парушаў клятву: пісаў новую п'есу, новы сцэнарый, ішоў або ехаў у тэатр, на кінастудыю, на тэлестудыю. Каб убачыць, каб паказаць іншым у вобразах тое, што было народжана

яго ўяўленнем. Жывое дзеянне здавалася яму надзеленым неадольнай, магічнай сілай. І свае, і чужыя п'есы ён глядзеў захоплена і засяроджана — як першаадкрыццё, як цуд.

Драматургія захапляла Уладзіміра Караткевіча ўжо на самым пачатку творчага шляху. У сярэдзіне 50-х гадоў, амаль адначасова з «Дзікім паляваннем караля Стаха», была створана ўсхваляваная і шчырая п'еса «Млын на Сініх Вірах». Сам аўтар, пішучы аўтабіяграфічныя нататкі «Дарога, якую прайшоў», згадваў яе так: «За два гады, што (пасля вёскі) працаваў у Оршы, я падрыхтаваў першы зборнік «Матчына душа» і атрымаў прэмію за п'есу «Млын на Сініх Вірах» (паставіла яе беларускае тэлебачанне)».

Наступны драматычны твор быў напісаны Уладзімірам Караткевічам, можна сказаць, па «сацыяльнаму заказу» — да тысячагоддзя Віцебска. У выніку нарадзіліся «Званы Віцебска» — «хроніка» паўстання 1623 года супроць сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага прымусу. У п'есе апавядаецца пра сутыкненне дзвюх варожых сіл: з аднаго боку — полацкі і віцебскі ўніяцкі арцыбіскуп Іасафат Кунцэвіч, яго духоўнік езуіт Станіслаў Касінскі, яго памагаты тысячнік Палікар Абрагімовіч, з другога — гараджане, прадстаўленыя прывабнымі постацямі Сцяпана Пасіёры, Марцыяна Ропата, Багусі Данель. Гэта яны арганізавалі народную змову, забойства Кунцэвіча, за што былі жорстка пакараны канцлерам Львом Сапегам. Зрэшты, кара пала не толькі на людзей, але і на сам горад, яго будынкі, яго званы, што клікалі да паўстання.

У «Званах Віцебска» Уладзімір Караткевіч узнавіў не толькі вонкавую хаду падзей, але і глыбінныя, псіхалагічныя матывацыі людскіх учынкаў. Іасафат Кунцэвіч у яго — не толькі вораг, не толькі носьбіт рэлігійнага прымусу, але і духоўна багаты чалавек, мысліцель, натура значная і супярэчлівая. Ён перакананы, што, пашыраючы унію, робіць добрую справу. І чым большая асабістая трагедыя Кунцэвіча, тым большы напал пачуццяў у п'есе.

Вобраз уніяцкага арцыбіскупа ў свой час выклікаў ажыўленую палеміку. Сяму-таму здавалася, што, малюючы

яго не толькі адной чорнай фарбай, аўтар паграшыў супраць гістарычнай праўды. Але вось у 1986 годзе ў народнай Польшчы выйшла даследаванне Тадэвуша Жыхевіча «Іасафат Кунцэвіч», — і сёння мы бачым, што тая трактоўка, да якой Караткевіч ішоў яшчэ ў многім інтуітыўна, мела пад сабой трывалы фактычны грунт. Бо полацкі і віцебскі арцыбіскуп быў чалавекам таленавітым, апантаным. Аднак ідэя, што апантала яго, не знайшла разумення ў народзе. Трагедыя сумленнага служэння лжывай ідэі, — вось што хвалявала Караткевіча, калі ён пісаў п'есу, вось што выклікала жывую рэакцыю ў залах, дзе яна ставілася.

«Званы Віцебска» — вялікая ўдача як самога аўтара, так і калектыву тэатра імя Якуба Коласа — маладога тады рэжысёра В. Мазынскага, выканаўцы ролі Кунцэвіча У. Куляшова, кампазітара С. Картэса, дэкаратара А. Салаўёва. Атрымалася якраз народнае відовішча, якое было высока ацэнена і гледачамі, і крытыкай. А. Лабовіч пісаў у «Тэатральным Мінску» (1974, № 4): «П'еса У. Караткевіча і яе сцэнічнае ўвасабленне — не проста ўзнаўленне, ілюстрацыя падзей памятнага 1623 года. Тэатр імя Якуба Коласа гэтым спектаклем дае ўрок мужнасці, урок патрыятызму. Узнаўляючы мінулае, ён напамінае сучасніку пра святы абавязак быць верным абаронцам справядлівасці і свабоды, бескампрамісна, з поўнай аддачай духоўных і фізічных сіл змагацца за Праўду».

У тым жа віцебскім тэатры імя Якуба Коласа ў 1979 годзе адбылася прэм'ера і наступнага драматургічнага твора Уладзіміра Караткевіча — трагедыі «Кастусь Каліноўскі: Смерць і неўміручасць». Паставіў яе В. Мазынскі, а галоўную ролю кіраўніка паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве, легендарнага Кастуся, выканаў У. Куляшоў. Як і ў «Званах Віцебска», у цэнтры п'есы і спектакля — сутыкненне дзвюх варожых сіл — «сейбітаў» і «крумкачоў», змагароў за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, супраць царскага самаўладства і ахоўнікаў гэтага самаўладства. На чале першых — палымяны рэвалюцыйны дэмакрат Кастусь Каліноўскі, акружаны паплечнікамі, «зліты з народам»,

на чале другіх — сам імператар Аляксандр II і яго памочнік граф Міхаіл Мураўёў. Як і Кунцэвіч, Мураўёў — асоба неардынарная. У маладыя гады ён сам удзельнічаў у паўстанні дзекабрыстаў. Ён разумны, валявы, праніклівы і ад гэтага яшчэ больш злавесны. Слоўны паядынак народнага заступніка, прыгаворанага да расстрэлу, і графа, які прыйшоў да сваёй ахвяры ў камеру Дамініканскага кляштара, — гэта кульмінацыя трагедыі, яе найлепшая сцэна. Адсюль Каліноўскі пойдзе ў неўміручасць. «Той, хто памёр, як вы, — не паміpae» — вяшчуе яму ясны і спакойны Голас Беларусі. Мураўёў жа атрымае ад гісторыі заслужаную мянушку «вешальніка».

Да стагоддзя з дня нараджэння Янкі Купалы Уладзімір Караткевіч стварыў драму «Калыска чатырох чараўніц». У 1982 годзе яна была пастаўлена ў мінскім Тэатры юнага гледача і тады ж апублікавана ў часопісе «Маладосць». Чатыры чараўніцы, Белая, Блакітная, Залатая і Змрочная, вяшчуюць будучаму песняру яго выключны і таму нялёгкі лёс. Караткевіч паказаў Купалу ў маладыя гады, калі адбывалася яго станаўленне як асобы і творцы. Вялікае ўздзеянне на Янку Луцэвіча аказалі сустрэчы з Зыгмунтам Чаховічам, актыўным удзельнікам паўстання 1863 года, — паплечнік Каліноўскага нібы перадае паэту эстафету пакаленняў. Драма напісана ўзнёсла, рамантычна, дасведчана. Аднак яе пастаноўка ўсё ж не стала такой падзеяй, як спектаклі па караткевічаўскіх творах у Віцебску. Часткова ў гэтым вінаваты рэжысёр і выканаўцы. Часткова — сам аўтар, якому давялося пісаць драму ў спешцы. Да таго ж выбраны матэрыял аказаўся недастаткова напружаным, канфліктным.

Дзесяцігоддзямі Уладзімір Караткевіч імкнуўся ўвасобіць у драматычных формах гісторыю свайго народа ў яе кульмінацыйных момантах. «Званы Віцебска» — пра ўзброенае выступленне мяшчан супраць паланізацыі і каталіцызацыі ў стагоддзі сямнаццатым. «Кастусь Каліноўскі» — пра паўстанне супраць царызму пад кіраўніцтвам перадавой шляхты ў стагоддзі дзевятнаццатым. «Калыска чатырох ча-

раўніц» — пра ўсплеск сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці на самым пачатку дваццатага стагоддзя, на хвалі рэвалюцыйных падзей 1905 года, якая тады ўзнімалася. І хаця ўзброенай барацьбы ў гэтай п'есе няма, але зноў жа тут паказана паўстанне — паўстанне духоўнае, адраджэнне народнага духу, выразнікам якога выступіў наш найпершы інтэлігент Янка Купала.

Відаць, Уладзімір Караткевіч усведамляў, што ў гэтым храналагічным ланцугу, гэтай прадуманай мастацкай сістэме не стае стагоддзя васямнаццатага, не стае сялянства. І ён доўга і настойліва працаваў над п'есай пра Крычаўскае паўстанне 1743–1744 гадоў — найбольш гераічную і трагічную падзею ў тагачаснай гісторыі. Ён кансультаваўся з вучонымі, знаёміўся з архіўнымі матэрыяламі. Перачытваў усё, што было напісана пра слуцкага і польскага князя Гераніма Радзівіла, якому тады падпарадкоўвалася Крычаўскае староства. Ён прагна ўглядаўся ў жыццё, браў каларытныя дэталі з рэчаіснасці (тая ж карчмарка Магда, што нагадала мне ўладарную «мамусю» ў Вільнюсе, пра якую ішла гаворка раней). Урэшце, ён дадумваў, фантазіраваў, ствараў абагульненыя тыпы.

І вось перад намі — «Маці ўрагану», адсутнае раней звяно, істотная (а можа, і асноўная) частка драматычнай тэтралогіі. Тут асабліва яскрава ўвасобіўся шматгранны талент аўтара — трагедыйны (фінал твора), камедыйны (сцэны ў радзівілаўскім палацы), паэтычны (велічныя канты), аналітычна-даследчыцкі (грунтоўныя ўступныя тлумачэнні). Караткевіч стварыў яшчэ адзін узнёслы гімн чалавечай мужнасці і высакароднасці. Напісаў рэквіем па тых сотнях крычаўскіх паўстанцаў, якія загінулі на полі бою, былі павешаны на шыбеніцах, узбіты на завостраныя палі, зацкаваны сабакамі. Перад намі паўстае шматфарбнае палатно аддаленага ў часе народнага быцця, паказанага аб'ектыўна, ва ўсіх яго супярэчнасцях (на хвалі сялянскага гневу, вядома ж, было і шумавінне — праявы жорсткасці, прадажніцтва).

Пра апошнюю трагедыю Караткевіча будуць пісаць не раз. І пра панарамнасць падзей, якія адбываюцца ў сялян-

скім двары і на полі бою, у карчме і на гарадской плошчы, у магнацкім палацы і закінутай пячоры. І пра сацыяльную дакладнасць у паказе галоўных асоб (асабліва — жорсткага, разбэшчанага, але разам з тым разумнага, небаязлівага Гераніма Радзівіла). І пра каларытнасць мовы, пра тое, што ў словах некаторых персанажаў «угадваецца» сам аўтар. Я ж хачу звярнуць увагу толькі на адну істотную акалічнасць — на аптымістычнае гучанне трагедыі. Яна завяршаецца паражэннем паўстання. Паражэнне гэта непазбежнае, бо тады не было сіл, якія змаглі б супрацьстаяць феадалам. Падзеі заканчваюцца перамогай радзівілаўскіх войскаў. Але гэта Пірава перамога. І не толькі таму, што велічная і няшчасная Агна Вецер цалуе ворагаў пацалункам смерці, заражае іх праказай. Але, галоўным чынам, таму, што маральна перамаглі паўстанцы. Бо на іх баку народ, народная памяць. Бо пра іх вяшчае ў канцы народны голас: «Чорта лысага яны ўзялі і возьмуць нас!» Калі Вашчыла, Карпач, браты Ветры, іх маці здольны ахвяраваць сабой у імя іншых, здольны рагатаць, нават ідучы на смерць, то такія людзі неўміручыя!

У драмах Уладзіміра Караткевіча выявіліся тыя ж лепшыя, характэрныя рысы, што ўласцівы і яго празаічным ды вершаваным творам на гістарычныя тэмы. Найперш гэта — незвычайнае майстэрства ва ўзнаўленні гераічных і трагічных падзей нашага мінулага, у перадачы сутнасці, духу далёкіх ад нас эпох, іх мастацкай «рэканструкцыі». Героі п’ес звычайна перажываюць вострую ўнутраную барацьбу, прымаюць у крытычныя мінуты адказныя рашэнні, перамагаючы саміх сябе, выбіраюць адзіна правільны і сумленны шлях. Таму драматычныя творы Караткевіча ўспрымаюцца як мудры падручнік жыцця.

З надрукаванага пасля смерці Уладзіміра Караткевіча прынцыпова важнай уяўляецца мне яго юнацкая аповесць «У снягах драмае вясна». Напісана яна была ў 1957 годзе, а апублікавана — толькі ў 1988м. Рукапіс аповесці меў усе шанцы так і застацца рукапісам — калі б не шчаслівы выпадак.

Пра існаванне свайго празаічнага першынца (раней яго былі толькі школьныя практыкаванні) сам Караткевіч, здаецца, нідзе і ніколі не згадваў. Ні ў друку, ні вусна. Бо агульную фразу ў яго аўтабіяграфіі-ўспамінах «Дарога, якую прайшоў» (сказана там пра пяцідзясятыя гады: «Напісаў я за дзевяць год — горы»), браць у разлік не даводзіцца.

Чаму не згадваў? Можа, таму, што той першынец забыўся?

Але ж першынцы не забываюцца.

Можа, таму, што ён загубіўся?

Але ж блізкую сэрцу загубу звычайна ўпарта шукаюць.

Можа, таму, што першынец здаваўся не вартым увагі?

Але ж сёння нам бачна, што ў аповесць укладзены значны змест. Гэта мужная і шчырая споведзь юнака, што сумленна ўваходзіць у сапраўднае жыццё. І напісаны твор вопытнай, спрактыкаванай рукой.

Тады чаму ж?

Мне здаецца, што прычына тоіцца ў неадпаведнасці таго часу, калі пісалася аповесць, і тых часоў, што наступілі пазней.

У канцы аповесці пазначана: «Май 1957 г., Орша». Гэта сведчыць пра тое, што яна пісалася на хвалі абнаўлення, якое пачалося ў 1953 годзе і асабліва пасля XX з'езда нашай партыі. Пісалася, калі пачалася «вясна», што «драмала» ў ранейшых «снягах» (прыгадаем, што асноўныя падзеі аповесці адбываюцца крыху раней — у 1952 годзе). Як і сам пісьменнік, яго юны герой, Уладзіслаў Берасневіч, усім шчырым сэрцам і адкрытай душой вітаў гэтую «вясну», гэтае доўгачаканае абнаўленне. Нібы сёння, у часы другога, куды больш магутнага абнаўлення напісаны хаця б такія радкі: «Чатыры гады мінула, адбыліся вялізныя змены ў дзяржаве, і з кожнай зменай Берасневіч адчуваў, што гэта яго думка, што робіцца яго справа, і сама дзяржава робіцца ўсё больш і больш роднай яму, без ранейшых непаразуменняў. І Маркічаў (дэмагогаў і кар'ерыстаў. — А. М.) ставала ўсё менш, бо новае патрабавала, каб кіраўнік проста працаваў і займаўся гаспадаркай, не мян-

ціў языком на зборах (сходах. — А. М.). Стала спакайней на сэрцы».

Аднак мы ведаем, што тая, першая «вясна» была і непрацяглай, і нясмелай. Пасля яе, гаворачы словамі аповесці, зноў пачалі выпадаць снягі, зноў наступілі «марозныя ночы». Новая, сённяшняя вясна яшчэ доўга «драмала» ў снягах застою. Уладзімір Караткевіч усё гэта балюча, абвострана перажываў. Ён поўніўся прадчуваннем сапраўднай вясны. І, безумоўна, разумеў, што ў часы, калі мы нібы пачалі саромецца свайго захаплення тым, першым цяплом, яго аповесць, выклíканая да жыцця спрыяльнымі промнямі 1956 года, наўрад ці магла быць належным чынам зразумета, ацэнена. Наўрад ці магла быць апублікавана. Прынамсі, без купюр.

І Уладзімір Караткевіч не згадваў пра свайго першынца, не шукаў яго. Выкрасліў яго з памяці або імкнуўся выкрасліць. Як не згадваў і пра цудоўнае апавяданне «Маленькая балерына», напісанае ў 1961 годзе, а затым перададзенае Васілю Сёмуху на захаванне. Сёння яно здзіўляе нас глыбінёй пранікнення ў сутнасць таго, што называем культам асобы, аб'ектыўнасцю ў паказе Сталіна, жорсткага і разам з тым сентыментальнага, адзінокага.

Рукапіс аповесці «У снягах драмае вясна» быў выпадкова знойдзены яшчэ пры жыцці Уладзіміра Караткевіча. А было гэта так. Наталля Сямёнаўна Кучкоўская паехала ў Оршу, каб адшукаць там рукапіс яго ранняй п'есы «Млын на Сініх Вірах». Зайшла ў дом, дзе жыў пісьменнік, калі працаваў настаўнікам, зазірнула ў куфар — а там ляжыць, загорнуты ў абрус, рукапіс іншага, невядомага твора... Аднак сам аўтар не паспеў яго пабачыць: быў ужо ў вельмі цяжкім стане.

І вось гэты рукапіс ляжыць перада мною — на прасторным пісьмовым стале, што ў адным з пакояў новага Дома творчасці ля Ракава. У адрозненне ці па аналогіі з «Чорным замкам Альшанскім» яго з пэўнай дозай іроніі называюць «шэрым замкам Ракаўскім». За акном, на ўзлессі, ружавеюць, кланяючыся ад ветру, цыбатыя кветкі, назвы якіх я да-

кладна не ведаю (а Караткевіч абавязкова ведаў бы). З-пад берагоў Ісдачы падае голас нейкая невядомая птушка (а Караткевіч расказваў бы пра яе з гадзіну). Кожны працуе тут неяк раз'яднана, самотна (а Караткевіч абавязкова з'яднаў бы ўсіх, як гэта было не раз у Каралішчавічах, ранейшым Доме творчасці). Зрэшты, у «шэрым замку Ракаўскім» аўтара «Чорнага замка Альшанскага» згадваюць часта і ахвотна. Успамінаюць, як ён быў тут, у Ракаве, на «вяселлі веку». Як задуменна глядзеў на спрадвечнае ракаўскае гарадзішча ці на тое месца, дзе раней стаяў дом Здзяхоўскіх, да якіх, у «паўночныя Афіны», прыязджала Эліза Ажэшка. Як дапытліва ўзіраўся ва ўмураваную ў касцельную агароджу каменную пліту, на якой відаць абведзеныя дзеля яркасці сіняй фарбай, рунічныя пісьмёны (праўда, скептыкі лічаць іх таленавітай падробкай Здзяхоўскіх). Як збіраўся, пры наступным зручным выпадку, сфатаграфаваць памятную дошку, устаноўленую на званіцы былой уніяцкай царквы ў 25-ю гадавіну адмены прыгоннага права... На жаль, такі выпадак (мяркую па фатаграфіях, зробленых пісьменнікам у час шматлікіх вандровак) ужо не здарыўся...

Рукапіс аповесці — гэта 110 старонак, 13 сшыткаў вялікага фармату, змацаваных уверсе тонкім ільняным шнурочкам. Акуратна адлінееныя палі, дробны, «востры» і адначасова надзіва каліграфічны почырк, які чытаецца лёгка і спорна (выцвілі месцам — ці то ад сонца, ці то ад вільгаці — толькі верхнія краі). Усюды — адно і тое ж тонкае пяро, адно і тое ж сіняе чарніла. Узнікае ўражанне, нібы ўся аповесць пісалася на працягу якога месяца — «на адным дыханні». Такое звычайна бывае ў вясну жыцця, калі хочацца як мага хутчэй выказаць усё тое, што выспела ў душы, выпакутавана ёю.

Значыць: «У снягах драмае вясна»... Не спыніўшыся асабліва на першым слове, чытач адразу ж «спатыкаецца» на другім, не прымае яго: чаму «драмае», а не «дрэмле»? Але спакваля пачынаеш разумець, што гэты наватвор ужыты свядома, наўмысна. Караткевіч жах як не любіў лёгкага гладкапісу. Спасціжэнне мастацкага твора ўяўлялася яму

хадзьбой не па гладкім гасцінцы, а па няроўным, цярністым шляху, на якім ёсць свае ўзвышэнні і выбоіны, ёсць «шурпатасці», што зачапляюць, спыняюць і зрок, і слых, і думку. Стыль Уладзіміра Караткевіча вельмі гарэзлівы, вельмі парадаксальны, барочны. Таму і — «драмае»! Каб спыняла, здзіўляла, уражвала, актывізавала чытацкую фантазію.

А далей, на першай жа старонцы, аўтар дакладна вызначае час і месца дзеяння аповесці, пераносіць чытача ў нязвычна цёплы канец лютага «тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят другога года», у вялікі горад, «дзе былі помнікі і прыгожыя будынкі, зялёныя бульвары і ціхія хаткі на ўскраінах, дзе быў нават універсітэт, а значыцца, існавала гарластая і хударлявая, дасціпная і яхідная парода людзей, якіх завуць студэнтамі». І хаця той «вялікі горад» у аповесці прама не названы, але мне адразу стала зразумела: гэта Кіеў і толькі Кіеў! Згадваюцца радкі з названых ужо ўспамінаў Уладзіміра Караткевіча: «У сорак дзявятым годзе я паступіў у Кіеўскі ўніверсітэт на філалагічны факультэт. Вучыўся, быў шчаслівы, меў шмат сяброў і, усё ж, успамінаю гэты час са змешаным пачуццём глыбокай пяшчоты і сораму. Пяшчоты — таму, што была навука, старыя рукапісы, кнігі, музеі, музыка, дзяўчаты, сябры, свае і чужыя вершы. Сораму — таму, што нярэдка даводзілася тады сустракацца са звычайнай вульгарызацыяй навукі.

Мне хацелася самому зразумець, чаму і нашто, і таму на некаторыя лекцыі я не хадзіў, а замест таго сядзеў у публічнай бібліятэцы».

У гэтых радках — ключ да разумення аповесці.

Сапраўды, хаця ў першым празаічным творы Уладзіміра Караткевіча не названы ні Кіеў, ні Дняпро, ні Украіна, хаця месца дзеяння ў ім — мусіць, каб «наблізіць» яго да беларускага чытача — крыху закамуфлявана, кіеўскія, украінскія рэаліі праглядваюць скрозь камуфляж вельмі празрыста. У аповесці захавана і тапаграфія гэтага «вялікага горада», і тагачасная атмасфера Кіеўскага ўніверсітэта. Так у Бялевічу, любімым студэнтамі выкладчыку, я з лёгкасцю пазнаў прафесара А. І. Бялецкага. А паляк Ян

Уважны, хударлявы хлопец у акулярах, — гэта Фларыян Няўважны, сябар Караткевіча па Кіеўскім універсітэце, пра якога ўжо ішла гаворка. Пры жаданні можна было б устанавіць прататыпы і іншых герояў аповесці, любімых і нелюбімых аўтарам.

З усёй пераканаўчасцю можна сказаць, хто з'яўляецца і прататыпам галоўнага героя празаічнага першынца Уладзіміра Караткевіча. Гэта — сам аўтар!

Аповесць «У снягах драмае вясна» мае ў многім аўтабіяграфічны характар. Як і Уладзіміру Караткевічу, Уладзіславу Берасневічу (звярніце ўвагу на сугучнасць ў імёнах і прозвішчах!) у 1952 годзе было 22 гады. Як і сам пісьменнік, галоўны герой тады яшчэ не ведаў, што з яго атрымаецца — вучоны («Шахматаў») ці паэт («Петрарка»). Як і аўтар аповесці, Берасневіч не дужа хадзіў на лекцыі (асабліва сумныя), увесь час сядзеў у бібліятэках, думаў пра аспірантуру, а пасля сфабрыкаванай дэмагогамі справы паехаў настаўнічаць у вёску.

Праўда, ёсць і адрозненні ў біяграфіях. Берасневіч, да прыкладу, у час вайны быў сувязным у партызан, пасля — на камсамольскай рабоце ў Заходняй Беларусі, дзе двойчы ледзь не загінуў ад бандыцкай кулі. Караткевіч жа знаходзіўся ў вайну ў эвакуацыі. Але адрозненні ў лёсах пісьменніка і яго героя не дужа істотныя. Куды важлівей (як любіў гаварыць сам Караткевіч) унутранае, духоўнае падабенства Уладзіслава Берасневіча і яго «прататыпа». Яднаюць іх усебаковая адоранасць, маральны максімалізм, здольнасць прымаць блізка да сэрца ўсё тое, што рабілася навокал, што складала сутнасць той, пераломнай эпохі. Уладзіслаў Берасневіч — багатая, цэльная, творчая натура. Ён піша вершы, дасканала разбіраецца ў класічнай музыцы, у айчынным і зарубежным жывапісе, ведае народныя песні і танцы, легенды і звычаі. Ён надзелены незвычайна вобразным мысленнем (прыгадаем карціны, якія яму хочацца намаляваць, каб праславіць «на ўвесь свет беларускае мастацтва» — так і бачыш тую заРослую папараццю і залітую сонечным святлом паляну, на якой б'юцца Ян Прыгожы і

Балотны ўладар). Берасневічу ўласціва «стыхійнае разуменне прыгожага», якім вызначаўся і сам аўтар аповесці.

Тыя, хто ведаў Уладзіміра Караткевіча, згодзяцца са мной, што ён быў чалавекам незвычайна цікаўным да ўсяго, што дзеецца ў жыцці, у акаляючым свеце. Цікаўным да людзей, да прыроды, да гісторыі. Тое ж — і ў Берасневіча. Яму цікавыя сябры, настаўнікі, нават выпадковыя прахожыя. Ён здольны суперажываць, зразумець іншага чалавека, моцна пакахаць. Даверлівы і шчыры па натуры, ён часам прыхарошвае, ідэалізуе іншых (таго ж кар'ерыста Маркіча), за што потым яму даводзіцца жорстка расплачвацца. У Берасневічу спалучаецца цвярозы рэаліст-практык (прыгадаем, якія карысныя парады даваў ён у час суботніка на будучым стадыёне або як абнавіў ён побыт у Вавуліцкім Млыне) і адначасна — акрылены марай рамантык. Ён цвёрда стаіць на зямлі і адначасна — увесь у будучыні, у прадчуванні і набліжэнні дваццаць першага стагоддзя, калі на Венеры, ачышчанай ад вуглекіслаты, будзе праведзена «першая сусветная нарада камуністычных паэтаў».

Уладзіслаў Берасневіч, гараджанін і сын гараджаніна, паказаны ў арганічнай, непарыўнай еднасці з прыродай. Як хораша чытаецца апісанне той месячнай марознай ночы, калі Берасневіч, спачатку непазнаны, вязе Алёнку на далёкую чыгуначную станцыю! Ці возьмем хаця б вось гэтыя радкі — з ліста, адпраўленага з Залеска ў Кіеў, любай дзяўчыне: «Мы возьмем човен і паедзем уверх па цячэнні. Човен плыве, месяц вялізны, чырвоны, вада вячэрняя, ружова-блакітная, і такое ж неба. І здаецца, што човен плыве ў паветры, як казачны карабель.

А раніцою прачнешся ў сене: трава росная, хмызы гараць расою пад сонцам. Нейкі дзядзька ідзе з вобраццю лавіць каня, а балабон аддаецца недзе ў лугах, чысты, ясны, як звон той царквы, якая патанула калісьці ў Чырвоным возеры».

Пісалася гэта, калі мы пра экалогію, пра навакольнае асяроддзе яшчэ і не думалі, не гаварылі. Здавалася тады, што адведзенага нам прыродай харастваа хопіць на ста-

годдзі. А Караткевіч, няхай і падсвядома, разумеў ужо: не хопіць, калі не ашчаджаць. Таму ў аповесці адчуваецца не толькі радасць ад адзінства з прыродай, але і затоеная трывога за яе лёс. За лёс кожнай траўкі, кожнай птушкі і нават экзатычнай афрыканскай змяі лаў.

Такая ж трывога, толькі, можа, больш выразна, палемічна выражаная, агортвае Уладзіслава Берасневіча, калі ён думае ці разважае пра гістарычную памяць народа, пра яе зберажэнне і памнажэнне. Тады, калі пісалася аповесць, нямала было дзеячаў, якія лічылі, што сапраўдная гісторыя пачынаецца толькі з іх, а ўсё ранейшае не варта асаблівай увагі або нават і шкодна. У аповесці ж Караткевіча настойліва праводзіцца думка аб жывой повязі пакаленняў. Берасневіч ганарыцца, што яго продкі актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе. Яму блізкі стары дэкан Грушэвіч, які ў вольныя хвіліны расказваў «пра свае сустрэчы з Горкім, пра тое, як яму давялося працаваць некаторы час з Леніным». Ідэал Берасневіча — выкладчык філасофіі Маркевіч, чыё «цела ўсё пасечана ў вайну». Так што ў аповесці і блізка няма таго супрацьпастаўлення розных пакаленняў, якое не-не дый сустрэнецца сярод сённяшняй моладзі. Наадварот, ёсць глыбокае разуменне іх пераемнасці, разуменне таго, што трэба зберагаць і памнажаць нашу гістарычную спадчыну, захоўваць памяць пра важныя падзеі і вялікіх людзей. І гэтым, сваім гістарычным мысленнем, Берасневіч блізкі і нам, людзям іншай, але сугучнай эпохі.

І яшчэ адна вельмі істотная рыса прываблівае нас у галоўным героі аповесці. Уладзіслаў Берасневіч — чалавек дзейсны, сацыяльна актыўны. Праца дзеля іншых, дзеля грамадства — ці то на суботніку, ці то ў вясковым клубе — спараджае ў ім глыбокае, унутранае задавальненне, пачуццё выкананага абавязку. Берасневічу блізкая і дарагая родная Беларусь, яе мова, гісторыя, фальклор — і адначасова ён сапраўдны інтэрнацыяналіст, бо паважае «другія народы», ведае іх культурныя здабыткі. Ён адданы сваёй сацыялістычнай айчыне, нават у самыя цяжкія хвіліны не аддзяляе

сябе ад камсамола. І таму ў адказ на дэмагагічныя абвінавачванні можа з поўным правам і адкрыта, нібы на споведзі, сказаць на студэнцкім сходзе: «І вы ведаеце мяне, вы ведаеце, я не зрабіў ніводнага ўчынку, які можна было б назваць варожым учынкам, учынкам чалавека, які ненавідзіць нашу рэчаіснасць. Маё жыццё чыстае перад камсамолам, перад дзяржавай. Калі я думаю, што ёсць у нас яшчэ цемрашалы, якія імкнуцца парушыць еднасць нашых народаў — я кажу гэта проста ў вочы і гэта не азначае, што я лічу цемрашаламі ўсіх. Калі я люблю сваю радзіму — гэта яшчэ не нацыяналізм. Я кажу адверта, што люблю».

Драматычны сход, на якім прагучалі працытаваныя словы, з'яўляецца ў аповесці кульмінацыяй усяго дзеяння. Ён істотна заважыў на лёсе галоўнага героя: яму давялося пакінуць універсітэт, адмовіцца ад аспірантуры. На доўгі час адцуралася ад яго нават Алёнка, натура тонкая і ўражлівая. Але Берасневіч свядома і мужна робіць свой выбар, ідзе на канфлікт з Маркічам і Холадавым. Мог пайсці на кампраміс, мог пакаяцца ва ўяўных грахах і, у выніку, атрымаць меншае пакаранне. Але такое не ў натуры Берасневіча. Маркічаўшчына здавалася яму небяспечным адступленнем ад ленінскіх прынцыпаў, якія для яго, як і для ягонага бацькі, свяшчэнныя. Таму ён і ідзе на подзвіг, не меншы, чым выратаванне Сяляўкі ад пэўнай смерці пад бетоннай плітой. Гэты подзвіг патрэбны не толькі Берасневічу, але і яго сябрам, бо адкрыў вочы на праўду, дазволіў ім, таму ж Сяляўку, духоўна выпрастацца, скінуць з сябе цяжар «маркічаўшчыны». А калі мы прыгадаем, што тады яшчэ быў 1952 год, а «маркічаўшчына» — даволі распаўсюджанай з'явай (аналагічныя сходы перажыў Караткевіч, памятаюцца яны і мне па Беларускаму ўніверсітэту), то становіцца зразумелай уся значнасць учынку Берасневіча. Ён пратэставаў супраць мёртвага дагматызму сталінскай «зімы», выступаў за веснавое абнаўленне грамадства.

І Берасневіч дачакаўся гэтага абнаўлення, прыняў яго арганічна і радасна, бо, як кажа Алёнка, «інстынктам, сумленным сэрцам прадбачыў гэта наперад».

Як і сам Караткевіч.

Аповесць «У снягах драмае вясна» — павучальная гісторыя адной маладосці, у якой праглядваецца лёс цэлага пакалення. Пакалення, што выступала тады за адзінства слова і справы, за шырокую галоснасць, супраць «забароненых» тэм і твораў (прыгадаем, як Берасневіч абараняе «рэакцыянера Дастаеўскага»). І ў гэтым — пазнавальнае і выхаваўчае значэнне аповесці, яе актуальнасць. Многія старонкі яе (асабліва пра важнасць маральных прынцыпаў, працоўнага выхавання, неабходнасць адрозніваць здаровую крытыку ад дэмагогіі, патрыятызм — ад нацыяналізму) нібы спецыяльна адрасаваны сённяшняй моладзі, наглядна вучаць яе таму, што жыццё развіваецца дыялектычна, праз адмаўленне адмаўлення. Вучаць аптымізму.

«У снягах драмае вясна» ўяўляецца мне маладым і свежым парасткам, з якога потым вырасла ўся проза Уладзіміра Караткевіча. Парасткам, у якім ужо былі яе многія вызначальныя рысы. І ўменне бачыць у звычайным, будзённым узнёслае і рамантычнае. І незвычайнасць, неардынарнасць учынкаў. І яркая вобразнасць, спалучэнне неспалучальнага. І непаўторная, насычаная новаўтварэннямі лексіка. Праўда, у аповесці яшчэ няма так характэрнага для Караткевіча напружання дзеяння (хаця і яно з'яўляецца ў апісанні сходу). Сюжэт яшчэ не заблытаны, не «закручаны», як у пазнейшых творах — скажам, у «Чорным замку Альшанскім». Чытача яшчэ не інтрыгуюць ніякія таямніцы. Але, зрэшты, гэта і не вымагалася матэрыялам аповесці. У ёй усё проста і ясна. А ў некаторых мясцінах — і прамалінейна. Пры жаданні ў аповесці можна знайсці і іншыя пралікі (напрыклад, недастатковую індывідуалізаванасць некаторых постацей, псіхалагічную нематываванасць некаторых учынкаў), што найперш тлумачыцца маладосцю аўтара. Але напісана яна па-караткевічаўску насычана, «густа» — у ёй няма нічога неабавязковага, лішняга. І галоўнае, напісана таленавіта.

Яшчэ адным незабыўным адкрыццём для мяне (і, спадзяюся, для чытача) сталі запісныя кніжкі Уладзіміра Караткевіча, з якімі я, побач з іншымі членамі камісіі па

спадчыне пісьменніка, пазнаёміўся раней, чым аддаць іх Язэпу Янушкевічу для падрыхтоўкі да друку.

На першы погляд у гэтых кніжках пераважаюць паўсядзённыя запісы: дзе быў, што бачыў, што чытаў. Да таго ж вяліся яны нерэгулярна, як правіла, у час падарожжаў — па Бярэзінскім запаведніку, Палессю, Чорнаму мору (на цеплаходзе ў 1970 годзе), Чэхаславакіі. Гэта — беглыя занатоўкі са шматлікімі скарачэннямі слоў (часам іх цяжка або і немагчыма расшыфраваць), якія, відаць, прызначаліся для будучых нарысаў і эсэ (а можа, і ўспамінаў). І толькі запісы за 1982 год маюць сістэматычны характар, набліжаюцца да дзённіка. Тут рэгулярна, дзень за днём, адзначаецца, якое было надвор'е (нават тэмпература за акном) і якім — настрой.

Аднак побач з паўсядзённым і нават дробязным у запісных кніжках Уладзіміра Караткевіча ёсць багата такога, што мае непераходную каштоўнасць. Як, да прыкладу, верш «Выносьце з сэрцаў саркафагі», напісаны 1 лістапада 1961 года ў мінскім вакзальным рэстаране, відаць, пад уражаннем ад весткі пра вынас з маўзалея цела І. Сталіна:

Пакуль не ўмерла ў сэрцы прага,
Пакуль вы помніце бяду, —
Не забывайце саркафагі,
Што з велічы ў нябыт ідуць.

Не пагарджайце чыстым словам,
Што краты ведае й свінец,
І чалавечнасцю суровай,
Што ў пекле марыць аб вясне.

І ведайце:
за ўсё чысцее
Галеча нездрадлівых слоў,
Бо не выносяць з маўзалеяў
Ні Бацькаўшчыну, ні Любоў.

Пакуль не ўмерла праўды прага,
Пакуль не зведалі бяду, —
Выносце з сэрца саркафагі,
Выносце саркафагі з душ...

Запісныя кніжкі пераконваюць, што Уладзімір Караткевіч добра ўсведамляў сваю «будзіцельскую» місію, сваё месца ў тагачаснай беларускай літаратуры і беларускім грамадстве. Ён свядома выбраў свой цяжкі шлях. Яшчэ ў 1963 годзе, калі новыя «замаразкі» толькі-толькі наступалі, ён пераканана сцвярджаў: «Мне заўсёды краяла сэрца нейкая недарэчная прамежкавасць нашага народа (народ-межеумок, сказалі б расіяне). Заўсёды ён за кагосьці. І амаль ніколі ён не бывае сам за сябе. 14 г[од] як я зразумеў гэта, і ўсё гэта стала для мяне адной вечнай крыніцай пакут. І яшчэ трохі — шчасця, падфарб[аванага] горкім гонарам. Таму што мне нічога і нікога не трэба, акрамя гэтых людзей, якім я непатрэбен і якім непатр[эбна] іх імя.

І таму я бядн[ейшы] за апошняга жабрака і, адп[аведна], самы багаты. Бо я магу дазв[оліць] сабе раскошу любіць усіх.

Пакуль самаасэнс[авання] няма калі, трэба проста, горда і самотна рабіць сваю справу, не зважаючы ані на якія пляўкі, поўхі, страты. Відаць, пры такім становішчы біць будуць з усіх бакоў. Што ж, і гэта набытак. Такім, па-мойму, пакуль што яшчэ ніхто не мог пахваліцца. Калі вытрымаем — значыць, тытаны і не памрэм. Калі не вытр[ымаем] — туды нам і дарога, шэлег нам кошт і смецце нам магіла. І іншага мы не варты. І хай яны тады здыхаюць, такія ўладары думак і такі народ, не пераводзяць дарма хлеб. Таму што кожны купляе права на жыццё мар[альнай] стойкасцю, веліччу душы, у якую ніхто не мае магчымасці запусціць лапы.

Відаць, лёс любіць нас, калі даў нам такі гонар: быць адным супраць усіх. А калі так, то ўступ[ае] у правы дэвіз Давыда Гарадзенскага: «Нас мала, не чакайце літасці».

Або вось гэты запіс, датаваны 1980 годам. Без яго аніяк не абысціся ўсім даследчыкам творчасці Уладзіміра Караткевіча — так дакладна і ёміста вызначыў ён, чаму менавіта ўзяўся за гістарычную прозу: «Без гістарычнага рамана, гістарычнай літаратуры ўвогуле не можа абудзіцца нацыя, бо няма без пачуцця гістарызму, без спакойнага гонару за сябе і проста самапавагі, без веры ў тое, што яна ёсць яна,

непераходзячая, сталая, вечная каштоўнасць вечнага чалавецтва і па ўсіх гэтых прычынах павінна жыць, жыць дзейна і велічна, ведаючы сабе цану і ў дрэнным і ў вялікім».

«Быў. Ёсць. Буду», «Маці ўрагану», «У снягах драмае вясна», «Маленькая балерына», дзённікавыя і падарожныя запісы... Кнігі і творы, якіх Уладзімір Караткевіч у надрукаваным выглядзе ўжо не пабачыў... У чытача, натуральна, можа ўзнікнуць пытанне: а ці будуць яшчэ такія ж публікацыі і знаходкі? Ці ўсё мы ведаем са спадчыны пісьменніка? Як член камісіі па гэтай спадчыне, магу адказаць: далёка не ўсё. Калі мы з Янкам Брылём, Генадзем Кісялёвым і Наталляй Кучкоўскай складалі беглы вопіс рукапісаў Караткевіча, якія засталіся ў яго кватэры (частка іх яшчэ пры жыцці была перададзена ў Архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР і Цэнтральную навуковую бібліятэку АН БССР), то ў 114 ёмістых папках, побач з апублікаваным, знайшлі нямала і невядомага чытачу. Гэта— кінасцэнарыі («Расказы з каталажкі», «Мёртвыя ўваскрашаюцца», «Супраць усіх», «Гнеўнае сонца»), п'еса («Трохі далей ад месяца»), казкі, апавяданні, эсэ, пераклады, якія пакуль што не ўвайшлі ў Збор твораў. Некалькі важных знаходак зроблена ў іншых рукапісных сховішчах. Працуючы ў Літаратурным музеі Якуба Коласа, Анатоль Верабей выявіў там з дапамогай супрацоўнікаў агульны сшытак з казкамі, двума апавяданнямі («Дзядуля» і «Паляшук»), вершамі на беларускай і рускай мовах, якія юны Караткевіч даслаў песняру (відаць, яшчэ з Кіева), а таксама першую публікацыю — верш «Якубу Коласу», надрукаваны ў аршанскай раённай газеце ў 1951 годзе. А ў акадэмічнай бібліятэцы той жа даследчык знайшоў рукапіс прынцыпова важнага апавядання «Вялікі Шан Ян», пра якое гаварылася, што яно беззваротна загінула. Усё гэта, будзем спадзявацца, неўзабаве пабачыць свет.

Аднак і тое, што сёння апублікавана, здзіўляе нас як аб'ёмам (разам усяго набярэцца больш трохсот выдавецкіх аркушаў), так і жанрава-тэматычнай шматграннасцю. Бадай няма такога жанру, у якім Уладзімір Караткевіч не спра-

баваў бы свае сілы! Раман і аповесць, апавяданне і навела, верш і балада, трагедыя і кінасцэнарый, лібрэта оперы і эсэ... А былі ж яшчэ нарысы і публіцыстыка. Своеасаблівай візітнай карткай нашай рэспублікі, падручнікам па гісторыі і краязнаўству стала кніга «Зямля пад белымі крыламі», перакладзеная ўжо на англійскую, нямецкую, літоўскую і іншыя мовы. Чытаючы яе, здзіўляешся эрудыцыі аўтара, яго ўменню вобразна і эмацыянальна паказаць, здавалася б, звычайныя факты. Такое ж яркае ўражанне пакінулі эсэ Караткевіча пра Віцебск і Тураў, Кіеў і Прагу, яго артыкулы пра Францішка Скарыну і Максіма Багдановіча, Міхаіла Шолахава і Лесю Украінку, рэцэнзіі на зборнікі Р. Барадуліна, Я. Сіпакова, В. Зуёнка, І. В. Гётэ, Д. Байрана, публіцыстычныя выступленні ў абарону навакольнага асяроддзя ці помнікаў драўлянага дойлідства. Грунтоўны, даследчыцкі аналіз, навуковая аргументацыя спалучаюцца тут з вобразнасцю і займальнасцю выкладання.

Такім жа шматгранным з'яўляўся Уладзімір Караткевіч як асоба, як індывідуальнасць. Ён быў надзелены не толькі пісьменніцкім талентам. Здымкі некаторых фільмаў засведчылі, што ў яго было «кінематаграфічнае вока», што ён разбіраўся ў рэжысёрскім і аператарскім мастацтве не горш прафесіяналаў. Ён умеў маляваць, пра што сведчаць змешчаныя тут рэпрадукцыі з майго хатняга «Часопіса», і пры жаданні мог бы ілюстраваць свае кніжкі. Ён любіў спяваць — асабліва старадаўнія беларускія песні. Аднойчы, згадвае В. Шчадрына, калі ён у Кактэбелі зацягнуў «Ой, косю мой, косю...», прыціхла, зачараванае, усё курортна-пляжнае ўзбярэжжа... Урэшце, у яго быў акцёрскі талент — яго апавяданні пра розныя забаўныя здарэнні можна было слухаць бясконца. «З Уладзімірам Караткевічам кожная сустрэча была б занадта кароткая», — пісаў неяк у часопісе «Керункі» польскі журналіст Яцак Москва.

Дык якім жа быў ён, адзін з самых папулярных сёння беларускіх пісьменнікаў?

Быў розны — як і яго вочы. Часта вясёлы, гарэзлівы — тады яго нязмушаны смех гучаў гучна, раскацiста. Часам

задумённы і сумны — асабліва калі сустракаўся з праявамі чалавечай дурасці і кар'ерызму. Часам — у апошнія гады жыцця — раздражнёны і гнеўны. Але заўсёды сумленны (яму давяралі падлічваць галасы пры бурным галасаванні, лагодзіць канфлікты паміж пасваранымі сябрамі). І высакародны. Колькі яму папсавалі крыві розныя крытыкі-дагматыкі (даходзіла да таго, што Л. Жога ў «Літаратуры і мастацтве» заклікаў Караткевіча пісаць... «сэрцам, а не жоўцю»), аднак ён не апускаўся да дробнай помсты. Часам толькі кіне ў адказ рэпліку з залы або складзе дасціпную прыпеўку.

Аднак непараўнальна больш, чым ворагаў, было ў Караткевіча сяброў. А сярод іх — акадэмікі і леснікі, Васіль Быкаў і невядомы нікому пачатковец, артысты віцебскага тэатра і дняпроўскія рыбакі, зарубежныя паэты-перакладчыкі і калгаснікі з-пад Рагачова... Караткевіч усіх гасцінна прымаў, да ўсіх ставіўся даверліва, часам наіўна — як дзіця. Віктар Карамазаў расказваў мне (а потым і апісаў) такі выпадак. Караткевіч часта хадзіў на Старажоўскі рынак, дзе любаваўся рознай жывёлай. Яго ўжо там ведалі — асабліва прадаўцы сабак і птушак. І вось аднойчы падыходзіць ён да «галубятніка» і абураецца тым, што той трымае такіх прыгажуноў у цеснай клетцы. Гандляр здзекліва адказвае: «Калі шкада — то плаці: выпушчу на волю». «Колькі?» «Па дзясятцы за кожнага!» Караткевіч аддаў тады ўвесь свой ганарар. Браў кожнага голуба з клеткі і трыумфальна ўзнімаў увысь: ляці! А тыя птахі... вярталіся звычным шляхам да гаспадара, у яго клеткі.

Вызначальнай рысай Уладзіміра Караткевіча была ўсебаковая адукаванасць. Ён аднолькава добра разбіраўся ў гісторыі сусветнай літаратуры, жывапісу, музыкі, архітэктуры. Колькі разоў мне даводзілася прысутнічаць пры тым, калі ён беспамылкова вызначаў аўтарства карціны або мелодыі, выйграваў пары ў мастакоў або кампазітараў. Эрудыцыя Караткевіча была такая глыбокая, энцыклапедычная, што побач з ім, гаворачы яго ж словамі, «ажно боязна было сядзець». Эрудыцыя не мёртвая, не схаластычная... Калі на-

ставала патрэба, назапашаныя веды тут жа імкліва выкарыстоўваліся ў творах, у сяброўскай дыскусіі.

Як ужо гаварылася, Уладзімір Караткевіч быў заўзяты падарожнік. Ён аб'ездзіў (з кінагрупамі, акадэмічнымі экспедыцыямі, пісьменніцкімі брыгадамі) усю Беларусь, абхадзіў (з вудай на стронгу і кошыкам на смарчкі) усю Міншчыну і Аршаншчыну. Вандраваў за народнай песняй і трапным словам, дзеля сустрэч з жывымі людзьмі і помнікамі гісторыі. А яшчэ ж былі паездкі ў братнія рэспублікі і замежныя краіны. І адусюль ён прысылаў ці прывозіў уласнаручна зробленыя фатаграфіі — дасціпныя, нечаканыя па сюжэце. Прывозіў сувеніры, што запаўнялі на паліцах месца перад кнігамі. Колькі там было гліны і дрэва, забаўных чарцей і рэдкіх выкапняў!

Дарэчы, пра кніжныя паліцы. На ўсіх мінскіх кватэрах Уладзіміра Караткевіча яны нязменна займалі галоўнае месца ў інтэр'еры. Беларуская і руская класіка, дарэвалюцыйныя выданні па гісторыі, альбомы з рэпрадукцыямі, прыгоды, фантастыка, дэтэктывы, падарункі сяброў з аўтографамі... Усё гэта стаяла вонкава ў хаосе, але гаспадар дакладна ведаў, дзе што шукаць.

Уладзімір Караткевіч быў дасведчаным, вялікім кніжнікам. У кожную вольную хвіліну, дома або ў гасцях, ён хуткім позіркам аглядаў паліцы, беспамылкова выцягваў адтуль нешта цікавае і тут жа паглыбляўся ў чытанне.

Які ж круг чытання быў у Караткевіча? Хто былі яго любімыя пісьменнікі, духоўныя настаўнікі? Адказ на гэтыя пытанні нялёгкі. Даючы інтэрв'ю Розе Станкевіч, ён сказаў: «Што датычыць любімых твораў, то іх вось так — раз і назаўсёды — няма. У кожным узросце меў улюбёнцаў і багоў. Чытаю кожнага ў залежнасці ад настрою. Калі ён светлы — то Пушкіна, гнеўны — ранняга Купалу, Багдановіча, Шаўчэнку, калі настрой філасофскі і грэбліва непрымірымы да смуроду і пошласці — проста хоць на дуэль — Лермантава, Гарэцкага і Льва Талстога, роўны — добрыя гістарычныя раманы Сянкевіча, лепшыя рэчы Аляксея Талстога.

І, прызнаюся, хоць ведаю, што сёй-той скрывіцца, перад працай, якая патрабуе разлічанай, завостранай думкі, вельмі люблю чытаць добрыя дэтэктывы, сапраўды добрыя. Да іх залічваю не толькі, скажам, творы Сімянона і лепшыя раманы Агаты Крысці, але й роднага па духу Стывенсана. І, калі браць вяршыні, на якіх нават дыхаць цяжка, — «Братоў Карамазавых».

Далей сярод творчых настаўнікаў зноў называюцца Багдановіч, Купала, Гарэцкі. Яшчэ — Колас. І, нечакана, — Кіплінг. З жывых, беларускіх, любімыя — Барадулін, Танк, Панчанка, Брыль, Быкаў. А яшчэ (гэта ўжо з інтэрв'ю для Б. Фірштэйна) — «аўтары гістарычнага жанру і фантасты» Вальтэр Скот, Аляксандр Грын, Шэклі, Лем, браты Стругацкія. Чыталася ўсё гэта ўсхвалявана, эмацыянальна.

А яшчэ Уладзімір Караткевіч быў працаўнік. Вось я перачытаў напісанае — пра тое, што галоўнае месца ў кватэры Караткевіча займалі кніжныя паліцы — і сумеўся: а ці так гэта? Бо галоўнае месца займаў усё ж пісьмовы стол. Стол-працаўнік. І, як ужо казалася, стол-рамантык.

Працаўнік — таму, што на ім нязменна ляжалі папкі з рукапісамі, добрая папера і добрае — кітайскае або паркераўскае — пяро. Караткевіч адносіўся да пісання як да свята, асабліва ў маладзейшыя гады. Апранаў чыстую кашулю. Ставіў побач кубак моцнай кавы. Даставаў падрабязна прадуманы і неймаверна счырканы план дзеяння. І — «священнодействовал». Пісаў дробным почыркам, амаль без паправак, «начыста і намёртва», як казаў ён сам. Хаця пасля настаўнічання ў Лесавічах і Оршы Караткевіч нідзе стала не працаваў, не меў «партфеляў», бо не імкнуўся да іх, жыў на «вольным» творчым хлебе, больш таго, не разумеў і не спагадаў іншым, хто хадзіў у «дэпартамент», аднак працаваць умеў і любіў. І злаваў, калі хто адцягваў яго ад стала дробязнымі справамі. Бо разумеў цану часу. Дзесьці пасля пяцідзесяцігоддзя спецыяльна паставіў на стол электронны гадзіннік, які міргаў зялёнымі лічбамі, пульсаваў кропкамі: momento mori, памятай аб смерці.

А рамантык — таму што на стале заўсёды можна было пабачыць нешта незвычайнае, выключнае. То плоскую полацкую плінфу. То каменную сякеру, прынесеную кімсьці з археолагаў. То шкляное рыбацкае грузіла ці дзівосныя каралы.

Такім жа — працаўніком і рамантыкам — быў і сам гаспадар стала. Тыя ж рысы набывалі і творы, напісаныя ягонай рукой. Будзённае, дакладнае, рэалістычнае ў іх (ад аповесці «У снягах драмае вясна» да «Чорнага замка Альшанскага» і «Маці ўрагану») арганічна спалучалася з узнёсла-рамантычным, таямнічым. Караткевіч паказваў мінулае, навакольны свет і такімі, якімі яны былі на самай справе, і такімі, якімі маглі быць. Героі пісьменніка часта дзейнічаюць у выключных сітуацыях, нібы ўзнятыя над рэальным жыццём. І адначасова гістарычны фон, на якім яны выступаюць, паказаны канкрэтна, дакладна. Рамантызм Караткевіча ўжо даўно прызнаецца большасцю літаратуразнаўцаў. Праца М. Рочынь, апублікаваная ў 1983 годзе ва ўкраінскім часопісе «Дніпро», так і называецца: «Рамантычны свет Уладзіміра Караткевіча». А вядомы савецкі даследчык Леанід Навічэнка на сустрэчы ў Інстытуце літаратуры АН БССР сказаў:

— На першы погляд гэта дзіўна: запознена, у XX стагоддзі ў беларускай літаратуры з'явіўся свой Вальтэр Скот — у асобе Караткевіча. Але гэта не выпадковасць. Тут праявілася мудрасць літаратуры. Беларускай моладзі патрэбны быў прыклад, рамантызацыя мінулага.

Пачакайце, скажа тут дасведчаны чытач: вось вы разважаеце пра рамантызм у творчасці Караткевіча, а сам пісьменнік яго адмаўляў. Скажам, у інтэрв'ю для Таццяны Шамякінай. І асабліва настойліва — у сваіх запісных кніжках («Я не рамантык, і не сентыменталіст, і не які-небудзь «іст»).

Сапраўды, парадокс.

Аднак вытлумачыць яго можна даволі проста. У часы, калі пісаліся і публікаваліся асноўныя творы Уладзіміра

Караткевіча, рамантызм — і як мастацкі напрамак, і як стыль — меў адмоўную афарбоўку. Загорскага, Грынкевіча, Беларэцкага крытыка ўпарта называла прыдуманымі, нерэальнымі, нежыццёвымі. Карацей — рамантычнымі. І ў пісьменніка выпрацаваўся стойкі «імунітэт» супраць гэтага слова, яго непрыняцце («лепяць і лепяць ярлыкі» — у запісной кніжцы). Ён упарта даказваў: не, у мяне ўсё так, як было, як магло быць у жыцці, я пішу ў адпаведнасці з праўдай гістарычнай, праўдай мастацкай... «Я проста ёсць я, Караткевіч, з двума нагамі (пакуль), двума вачыма і вушамі, адным носам і адным сэрцам, з 5 дадатнымі якасцямі і 95 недахопамі. Такім вы мяне і прымайце, калі вам хаця крыху цікава тое, што я кажу вам» (з запісной кніжкі). Ён казаў: я нармальны, а яму доўга не верылі. Доўга яго не чулі.

Што жыццё Уладзіміра Караткевіча было нялёгкім — гэта святая праўда. Аднак ён ведаў, на што ідзе. Пісьменнікаў, відаць, можна ўмоўна падзяліць на тры групы: тых, хто апярэджвае свой час, тых, хто добра крочыць з ім у нагу, і тых, хто ад яго адстае, часам безнадзейна. Караткевіч адносіцца да першых. Іншыя лягчэй або цяжэй прыстасаваліся да застойнага перыяду. А ён — не. Ён горда, нібы Юрась Братчык крыж на Галгофу, нёс цяжкую ношу «заступніка» беларускай гісторыі і беларускай культуры. Быў прапаведнікам і прарокам. Нехта ж мусіў ім быць, а выбар паў на яго. Усведамляў ён гэта? Безумоўна. Інакш не напісаў бы: «Быў. Ёсць. Буду».

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адзін рускі класік, Аляксандр Блок, сказаў пра другога рускага класіка, Аляксандра Пушкіна: ён ведаў, што «рана ці позна ўсё будзе па-новаму, таму што жыццё цудоўнае»... Неяк прачытаў гэтыя словы і падумаў: як жа яны стасуюцца і да нашага Уладзіміра Караткевіча. Ён ведаў, што будзе, таму што верыў у абавязковае і бесперапыннае абнаўленне жыцця. Ён быў носьбітам гэтага абнаўлення і адраджэння, асобай рэнесанснай і таму адначасна аптымістычнай і трагічнай. Далёка не

кожнаму дадзена ўзняцца над сваім часам, бачыць будучыню. Іншыя прыніжаюцца да абставін, зручна ўрастаюць у іх. А Караткевіч узняўся. Узняўся і ўзвысіўся. Да абнаўлення, што прыйшло ўжо ў гады яго фізічнага небыцця.

Уладзімір Караткевіч узвысіўся, стаў эпахальнай з'явай (не пабаімся гэтых слоў) не толькі ў працэсе развіцця беларускай літаратуры ці беларускай культуры, але і фарміравання (дакладней, адраджэння) нацыянальна-гістарычнай свядомасці нашага народа. Вядома, рабіць абагульненні яшчэ ранавата («большое видится на расстоянии»). Вырашальнае слова пра значэнне шматграннай творчасці Уладзіміра Караткевіча скажуць, вядома, нашы нашчадкі. Але ўжо сёння ён бачыцца мне ў шэрагу такіх постацей, як Францішак Скарына ці Кастусь Каліноўскі. Можна назваць і іншыя прозвішчы. Але спынімся на гэтых трох.

— Што агульнага паміж імі, людзьмі розных эпох і розных перакананняў? — спытае скептычна чытач. І, на першы погляд, будзе мець рацыю.

Але толькі — на першы погляд.

Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага і Уладзіміра Караткевіча аб'ядноўвае тое, што яны жылі і дзейнічалі ў часы, якія раней называліся эвалюцыйнымі, а сёння звычайна застойнымі. Дакладней, пад самы канец гэтых часоў, калі выспявалі новыя, рэвалюцыйныя з'явы. І такія людзі былі носьбітамі новага, яго прадвеснікамі.

Скарына, Каліноўскі і Караткевіч апярэджвалі свой час. Прытым намнога. І таму іх не разумелі, і таму ім цяжка жылося.

Францішак Скарына быў на беларускай зямлі прадвеснікам Рэнесансу і Рэфармацыі. Сілы сярэдневякоўя былі яшчэ моцныя. Ім удалося спыніць Скарынава кнігадрукаванне ў Вільні, адправіць яго ў новае выгнанне. Справа, распачатая беларускім першадрукаром, знайшла свой працяг і развіццё толькі гадоў праз сорак-пяцьдзесят, калі з'явіліся Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Але, даючы «люду посполитому» кніжку на роднай мове (ці, дакладней, вельмі набліжанай да яе), вялікі палачанін рыхтаваў той гуманістычна-рэфарма-

цыйны «пераварот у розумах», які пачаўся ў першай, але адбыўся ў другой палове XVI стагоддзя.

Кастусь Каліноўскі таксама значна апераджаў свой час. Непрымірымы вораг самаўладства і прыгонніцтва, ён дзейнічаў на рубяжы дзвюх эпох — феадалізму і капіталізму, рэвалюцыйнасці шляхецкай і рэвалюцыйнасці дэмакратычнай. Узнімаючы свой народ на паўстанне, ён імкнуўся спалучыць рух нацыянальны і рух сацыяльны. Яго не разумелі, асабліва ў стане «белых». Але за Каліноўскім была будучыня. Яго ідэі «мужыцкі народ» рэалізаваў толькі год праз сорак-пяцьдзесят — у час рэвалюцый 1905 і 1917 гг. Ці ведаў ён, заклікаючы паўстанцаў узяць у рукі стрэльбы і косы, што ўсё скончыцца паражэннем, вісельняй і катаргай? Мабыць, адчуваў, прадчуваў сваім сэрцам. І тым не меней — клікаў. Каб кінутае ў зямлю зерне прарасло ў наступных пакаленнях.

А Уладзімір Караткевіч? Ён таксама быў прадвеснікам новай эпохі, адметнасць і значнасць якой мы, відаць, яшчэ ўсё яшчэ недастаткова ўсведамляем, таму што самі ў ёй жывём. Гісторыкі будучыні знойдуць больш дакладныя вызначэнні і для сталінска-брэжнеўскіх часоў, і для часоў рэвалюцыйнай перабудовы. Аднак і сёння бачна, што Уладзімір Караткевіч, жывучы ў першых, тварыў, змагаўся, каб наблізіць другія. Праўда, пасеў ад ураджаю тут не быў такі аддалены, як у Скарыны і Каліноўскага. Але на тое ёсць тлумачэнне: хада гісторыі з кожным стагоддзем усё больш паскараецца. Дзесяцігоддзі спрэсоўваюцца ў гады.

«Людзей прадвесня» аб'ядноўвае «тытанізм» і шматграннасць іх працы. Яны спяшаюцца рабіць сваю справу, разумеючы, наколькі яна важная для сучаснікаў і нашчадкаў. Яны бяруцца за ўсё, усведамляючы, як мала сіл.

Мяркуйце самі. Францішак Скарына — пачынальнік усходнеславянскага кнігадрукавання. Ён жа як перакладчык Свяшчэннага пісання найболей за дзесяць год здзейсніў справу, на якую ў прадстаўнікоў іншых народаў не хапала ўсяго жыцця, дзеля гэтага ён павінен быў акрамя роднай ведаць мовы стараславянскую і стараяўрэйскую, грэчаскую і

латынь, польскую і чэшскую. Ён жа і мысліцель, які выклаў свае погляды ў прадмовах і пасляслоўях да выдадзеных кніг. Ён жа і найпершы наш паэт, аўтар і перакладчык канонаў і акафістаў у «Малой падарожнай кніжцы». Ён жа медык, батанік, астраном (што відаць з «Пасхаліі») і, магчыма, гравёр.

А Кастусь Каліноўскі? Стратэг і практык паўстання, больш разважлівы і дальнабачны, чым усе іншыя члены беларуска-літоўскага «ронда». Палымяны публіцыст, які ў «Мужыцкай праўдзе» выявіў глыбокае веданне эканомікі, права, гісторыі, філасофіі. Як відаць з верша «Марыська, чарнаброва галубка мая», таленавіты паэт. Жыццё Кастуся Каліноўскага абарвалася ў дваццаць шэсць год, а колькі ён паспеў здзейсніць і колькі здзейсніў бы пры даўжэйшым жыцці і іншых умовах?!

Тое ж стасуецца і да Уладзіміра Караткевіча. Пра самаахвярны тытанізм яго дзейнасці, пра незвычайную шматграннасць яго творчай індывідуальнасці ўжо сказана вышэй. Проста здзіўляешся, колькі паспеў ён зрабіць, — асабліва калі згадаць, колькі часу гублялася, — таму што былі неспрыяльныя абставіны, таму што часта апускаліся рукі.

І яшчэ адна супольная рыса — шырокі, гуманны погляд на жыццё і свет. Імкненне знаходзіць тое, што аб'ядноўвае людзей і народы. Францішак Скарына жыў у часы, калі паміж Руссю Літоўскай і Руссю Маскоўскай адбываліся частыя войны, калі ўзмацнялася варожасць паміж праваслаўем і каталіцтвам. Яму лёгка было паддацца эмоцыям, далучыцца да аднаго з варагуючых бакоў. А ён імкнуўся ўзняцца над дзяржаўнымі і канфесіянальнымі сваркамі, заклікаў да яднання. Такая ж цярпімасць і талерантнасць уласцівыя і для Кастуся Каліноўскага. Узнімаючы беларусаў, літоўцаў, палякаў на паўстанне супраць рускага самаўладства, ён ніколі не атаясамліваў яго з рускімі ўвогуле, марыў пра будучую федэрацыю вольных народаў. Што ж датычыцца Уладзіміра Караткевіча, то павага да іншых людзей і народаў былі ў яго, як кажуць, у крыві. У яго творчасці, у яго натуры арганічна

спалучалася тое, што мы, часам неразумна падзяляючы, называем патрыятычным і інтэрнацыянальным.

Дарэчы, Уладзімір Караткевіч свядома арыентаваўся і на Скарыну, і на Каліноўскага, адчуваў падабенства сваёй і іх місій. Таму і шукаў сляды Скарыны ў Вільнюсе і Полацку, Празе і Кракаве, таму і прысвяціў яму два цудоўныя эсэ. Што ж датычыцца легендарнага Кастуся, то гэта быў любімы герой Караткевіча, яго другое «я». Скарыну і Каліноўскага ён успрымаў як папярэднікаў, ад якіх пераняў гістарычную эстафету.

Сённяшнія паэты ахвотна параўноўваюць Уладзіміра Караткевіча з нябеснымі з’явамі, знаходзяць яму месца побач з Леанідамі. Адным ён уяўляецца вогненым метэарытам, яркай знічкай, што прамільгнула на цёмным небасхіле. Іншым — сонечным пратуберанцам, што вырываецца наперад, здзіўляючы і шакіруючы наваколле. Вунь і гераіні паэмы Міколы Купрэева «З сястрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне» здаецца, што пісьменнік гаворыць з ёю не са старонак кніг, «а аднекуль з вышыняў»... Мне ж найбольш адпаведным здаецца параўнанне, зробленае Алесем Асіпенкам, — з «блізкай зоркай». Метэарыт ці пратуберанец згарае, знікае. А зорка — застаецца. Уладзімір Караткевіч узнёсся на небасхіл айчыннага пісьменства і гарыць там зоркай першай велічыні. Як Ютрань, зорка Пярэдадня.

*Ракаў, 1987 — Палушы, 1988*

# Вечная дарога Уладзіміра Караткевіча

*Асоба пісьменніка-рамантыка Уладзіміра Караткевіча і праз дзесяцігоддзі (ды і праз стагоддзі!) па-ранейшаму, мо нават з большай увагай, чым пры жыцці, будзе выклікаць цікавасць усё новых і новых пакаленняў чытачоў.*

*Аўтар неўміручых раманаў «Зямля пад белымі крыламі», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Нельга забыць», пачынальнік жанру гістарычнага дэтэктыва ў беларускай прозе, паэт, яркі публіцыст, ён, як ніхто іншы, паставіў літаратуру на службу гісторыі, спалучыў, аб'яднаў дзве Музы...*

*Жыццё твораў легендарнага пісьменніка працягваецца. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачынае выданне 25-томнага Збору твораў У. Караткевіча. Выходзяць кнігі класіка айчыннай літаратуры ў іншых выдавецтвах. У перыядычных выданнях друкуюцца раней невядомыя мастацкія творы. 80-годдзе Уладзіміра Караткевіча падштурхнула шмат каго да напісання ўспамінаў пра легендарнага сучасніка. Усе гэтыя факты сведчаць пра рост увагі да творчай і жыццёвай біяграфіі Уладзіміра Сямёнавіча.*

*«Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» — кніга, якая ўпершыню прыйшла да чытача ў 1990 годзе. «Мастацкая літаратура» падаравала чытачу амаль што «па свежых слядах» напісаны твор. Адам Мальдзіс, сябра*

*пісьменніка, які пайшоў з жыцця ў 1984 годзе, напісаў сваю дакументальную і разам з тым лірычную, мастацкую сагу пра творцу і творчасць па матэрыялах сваіх ранейшых дзённікавых запісаў. Усяго хапае ў кнізе — і гумару таксама. Але чым найперш уражвае праца дасведчанага культуролага, гісторыка літаратуры? Так, улюбёнасцю ў Караткевіча. Але — і жаданнем выразна акрэсліць месца Караткевіча ў грамадскім і нацыянальным жыцці народа Беларусі. Следам за кнігай А. Мальдзіса пабачылі свет многія караткевічазнаўчыя працы. І гэта проста выдатна, што аўтар гістарычнай прозы і публіцыстыкі, паэт, які, падобна Міцкевічу — шукальніку Польшчы, шукаў Беларусь, выклікае няспынную ўвагу. Магчыма, будуць перавыдавацца і гэтыя сур'ёзныя караткевічазнаўчыя працы. Але напісанае А. Мальдзісам — з іншага шэрага. «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» — пякучы напамін пра месца і ролю мастацтва, пра яго вартасці ў засваенні народнага, гістарычнага вопыту беларусаў.*

*Як мне асабіста падаецца, кнігу-ўспамін можна ўкладваць у зборнікі прозы самога Караткевіча, яна павінна быць дадаткам нават да акадэмічнага збору твораў пісьменніка. А сёння, праз дваццаць гадоў з часу першага выдання, чытача чакае сустрэча не толькі з аповедам А. Мальдзіса, але і з самой постаццю Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. Са старонак кнігі «Жыццё і ўзнясенне...» ён сыходзіць бы жывы...*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

Літаратурна-мастацкае выданне

**МАЛЬДЗІС Адам Іосіфавіч**

**ЖЫЦЦЕ І ЎЗНЯСЕННЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**
**ПАРТРЭТ ПІСЬМЕННІКА І ЧАЛАВЕКА**
**Літаратуразнаўчае эсэ**

Рэдактар *М. Н. Мінзер*
Мастак *В. Г. Паўлавец*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверава*
Стыльрэдактар *В. А. Аляксеева*

Падпісана ў друк 11.11.2010. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,92.
Ул.-выд. арк.10,62. Тыраж 1500 экз. Заказ

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.